В. М. ЧЭКМАН

# ГІСТОРЫЯ ПРОЦІПАСТАЎЛЕННЯЎ ПА ЦВЁРДАСЦІ-МЯККАСЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1970

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

В. М. ЧЭКМАН

# ГІСТОРЫЯ ПРОЦІПАСТАЎЛЕННЯЎ ПА ЦВЁРДАСЦІ-МЯККАСЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Дарагому Міхаілу Раманавічу
з глыбокай павагай
і ўдзячнасцю
аўтар.
16. VI. 70.

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
МІНСК 1970

Рэдактар
доктар філалагічных навук
М. В. БІРЫЛА

**Чэкман В. М.**

**4-97** Гісторыя проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў беларускай мове. Мн., «Навука і тэхніка», 1970.

152 с. (АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа). 1000 экз. 54 к.

У кнізе на вялікім фактычным матэрыяле разглядаецца зараджэнне і развіццё ў беларускай мове проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці — гэтай цэнтральнай кансанантнай падсістэмы, з гісторыяй якой звязаны шматлікія фанетычныя змяненні ў беларускай мове.

7-1-3 / 60-70 4Бел

На белорусском языке

**Чекман Валерий Николаевич**

**ИСТОРИЯ ПРОТИВОПОСТАВЛЕНИЙ ПО ТВЕРДОСТИ-МЯГКОСТИ В БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар Н. Царова. Вокладка Ю. Сергачова. Мастацкі рэдактар В. Саўчанка. Тэхнічны рэдактар Г. Максімава. Карэктары З. Авербах, І. Пархімовіч.

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР

АТ 03108. Здадзена ў набор 16/I-70 г. Падпісана да друку 5/V-70 г. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Фіз. друк. арк. 4,75. Умоўн. друк. арк. 7,98. Уч.-выд. арк. 8,6. Выдав. зак. 965. Друк. зак 120. Тыраж 1000 экз. Цана 54 к.

Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68.




## ПРАДМОВА

Асобныя пытанні станаўлення і развіцця проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў гісторыі беларускай мовы разглядаліся ў працах А. І. Сабалеўскага, А. А. Шахматава, Я. Ф. Карскага, М. М. Дурнаво, П. А. Растаргуева, О. Воўка-Левановіча. Спецыяльна гэтай тэме прысвечаны артыкул Л. Э. Калнынь «Катэгорыя цвёрдых-мяккіх зычных фанем у беларускай мове», у якім, аднак, засталіся нявысветленымі сутнасць і значэнне рада змяненняў у беларускай фанетыцы. Для распрацоўкі вызначанай праблемы вельмі каштоўнымі з'яўляюцца матэрыялы «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», на якіх заснаваны даследаванні М. В. Бірылы аб сучасным стане проціпастаўленняў цвёрдых-мяккіх зычных у беларускіх гаворках і некаторых сумежных пытаннях.

У нашай працы робіцца спроба прасачыць гісторыю ўсёй падсістэмы проціпастаўленняў цвёрдых-мяккіх зычных у беларускай мове. Тэарэтычнай асновай даследавання з'яўляецца ідэя аб існаванні двух відаў проціпастаўленняў цвёрдых-мяккіх зычных, а іменна тэмбравай карэляцыі «палаталізаваныя — непалаталізаваныя» і палатальнага рада, распрацаванай М. С. Трубяцкім. Выкарыстаўшы тыпалагічны матэрыял, мы канкрэтызавалі і развілі некаторыя яе палажэнні, што дало нам магчымасць абгрунтаваць гіпотэзу аб этапах разбурэння тэмбравай карэляцыі «палаталізаваныя — непалаталіза-

ваныя зычныя», якая правяраецца на матэрыяле балгарскай і польскай моў.

Асноўны раздзел даследавання прысвечаны вывучэнню гісторыі проціпастаўленняў цвёрдых-мяккіх зычных у беларускай мове. Асобая ўвага ўдзяляецца тут высвятленню прычын закранутых з'яў і з гэтай мэтай выкарыстоўваюцца некаторыя новыя матэрыялы і даныя лінгвістычнай тыпалогіі. Неабходна агаварыцца, што мы не закранулі рад цікавых пытанняў, звязаных з тэматыкай нашага даследавання. Напрыклад, засталася неразгледжанай сувязь паміж станам тэмбравай карэляцыі і асаблівасцямі ненаціскнога вакалізму, не высветлены прычыны зацвярдзення (*ш*), (*ж*), (*ч*); не разглядалася таксама эвалюцыя проціпастаўленняў цвёрдых-мяккіх у гаворках паўднёва-заходняй часткі Брэсцкай вобласці, дзе складанасць моўнай сітуацыі патрабуе асобнага даследавання. Да гэтых пытанняў мы спадзяёмся вярнуцца ў іншых працах.

# ТРАНСКРЫПЦЫЯ І СІМВОЛІКА

*C* — любы зычны (кансанант).
*V* — любы галосны (вакал).
*C’* — палаталізаваны зычны (напрыклад, *т’*, *д’*, *с’*).
*C°* — велярызаваны зычны (напрыклад, *т°*, *д°*, *с°*).
*Ć* — палатальны зычны (напрыклад, *т́*, *д́*, *с́*).
*C’’* — краепалатальны зычны (напрыклад, *ц’’*, *дз’’*).
*C—C’* — тэмбравая карэляцыя «палаталізаваныя—непалаталізаваныя зычныя» ці асобнае проціпастаўленне «палаталізаваны — непалаталізаваны».
*C—Ć* — палатальны рад ці асобнае проціпастаўленне «палатальны—непалатальны зычны».
*C—C°* — тэмбравая карэляцыя «велярызаваныя—невелярызаваныя зычныя» ці асобнае проціпастаўленне «велярызаваны — невелярызаваны зычны».

У дужкі ( ) бяруцца гукі.

У дужкі [ ] бяруцца фанемы.

Знак ~ азначае «рэалізуецца»; напрыклад, [*т’*] ~ (*ц’’*) чытаецца: палаталізаваная фанема [*т’*] рэалізуецца краепалатальным гукам (*ц’’*).

Прыклады з крыніц даюцца ў транскрыпцыі арыгінала.

Прыклады з беларускіх гаворак, запісаныя аўтарам, прыводзяцца ў транскрыпцыі ДАБМ з дабаўленнем наступных знакаў:

*ę* — ненаціскны гук пярэдняга рада сярэдне-ніжняга пад'ёму, па гучанню сярэдні паміж (*е*) і (*а*);

*е* — пасля цвёрдых невелярызаваных зычных (напрыклад, *те*, *де*, *ре*) азначае некалькі звужанае (*е*), больш пярэдняе ў параўнанні з (*э*);

*и* — сярэдні паміж (*і*) і (*ы*) гук пасля цвёрдых невелярызаваных зычных (напрыклад, *ти*, *ди*, *ри*).

## СКАРАЧЭННІ, ПРЫНЯТЫЯ Ў ЗАЎВАГАХ

БД — Българска диалектология. Проучвания и материали. София.

З-ПКФ — Запіскі Аддзялення гуманітарных навук. Працы класа філалогіі. Мінск.

ИИБЕ — Известия на Института за български език БАН. София.

ЕИ — Езиковедски изследования в чест на акад. Ст. Младенов.

ПІМ — Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Мінск.

СбНУ — Сборник за народни умотворения и народопис· София.

СМБД — Статьи и материалы по болгарской диалектологии СССР. Москва.

ТБД — Трудове по българска диалектология. София.

УЗИС — Ученые записки Института славяноведения АН БССР. Москва.

IJSL — Internationale Journal of Slavic Linguistics and Poetics.

RJ — «For Roman Jakobson». Hague, 1956.

# Частка І

## МЯККІЯ ЗЫЧНЫЯ — ПАЛАТАЛІЗАВАНЫЯ І ПАЛАТАЛЬНЫЯ І ІХ ФАНАЛАГІЧНАЯ ТРАКТОЎКА

У сучасным мовазнаўстве, калі зыходзіць з літаратурных даных, склалася больш-менш адзінае ўяўленне аб палаталізаваных зычных як аб губных, зубных ці заднепаднябенных па месцы ўтварэння гукаў, у час артыкуляцыі якіх сярэдняя спінка языка робіць дадатковы рух у напрамку да сярэдняга нёба [1]. Ротавы рэзанатар пры гэтым аказваецца зменшаным (у заднепаднябенных спераду да пункту фрыкацыі ці змычкі, у астатніх — ззаду) і расшыраецца фарынгальны праход. Апісаны комплекс артыкуляцыйных рухаў выклікае вядомы акустычны эфект — нязначнае павышэнне высокіх (2-й і 3-й) фармант у параўнанні з адпаведнымі цвёрдымі [2].

Неаднаразова адзначалася, што гэтыя «агульнапрынятыя ўяўленні аб артыкуляцыйнай і акустычнай сутнасці палаталізацыі з'яўляюцца памылковымі» [3], а паняцце «дадатковая артыкуляцыя» прадстаўляе сабою вынік «работы нашага моўнага ўсведамлення, а не сапраўднага становішча ў час артыкуляцыі» [4]. Аднак выкарыстанне паняцця «дадатковая артыкуляцыя» дае магчымасць вельмі трапна ахарактарызаваць палаталізаванасць як такое змяненне артыкуляцыі зубных, губных ці заднепаднябенных зычных, калі яны набываюць высокую тэмбравую афарбоўку, не змяняючы свайго месца ўтварэння. Не мае значэння, як гэта адбываецца, — ці праз агульнае прасоўванне языка ў напрамку да цвёрдага паднябення, ці з прычыны з'яўлення *ĭ*-падобнага пераходнага элемента, як у час артыкуляцыі мяккіх губных; істотна толькі, што зычныя, набываючы новую якасць, не змяняюць свайго месца ўтварэння.

Трактоўка мяккіх палатальных зычных у літаратуры больш аднастайная, калі не ўлічваць некаторай тэрмі-

налагічнай блытаніны. Частка вучоных называе палатальнымі (фр. les consonnes palatales, ням. die palatalen Konsonanten) не толькі мяккія, але і ўсе паднябенныя—какумінальныя і нават заднепаднябенныя — гукі [5]. Большасць славістаў, аднак, прытрымліваецца традыцыі, згодна з якой палатальнымі называюцца сярэднепаднябенныя — сярэднеязычныя м я к к і я гукі, у якіх гэта артыкуляцыя з'яўляецца асноўнай [6]. Пры іх утварэнні кончык языка або ляжыць ля ніжніх зубоў, або пасіўна падымаецца ўверх. У сувязі з гэтым павялічваецца аб'ём ротавага рэзанатара спераду да пункту змычкі ці фрыкацыі; задняя частка языка напружваецца, з прычыны чаго адбываецца скарачэнне пашчы. Спектры палатальных гукаў маюць агульную рысу — пасярэдняе палажэнне дамінантных фармант (кампактнасць) [7].

Такім чынам, розніца паміж дзвюма разнавіднасцямі мяккіх зычных гукаў цалкам выразная: палаталізаваныя (*C'*) належаць да розных лакальных радоў і маюць агульную адзнаку — высокі тэмбр — у адносінах да адпаведных цвёрдых; палатальныя ж (*Ć*) па месцы ўтварэння належаць да аднаго, палатальнага, рада.

Упершыню фаналагічную трактоўку палаталізаваных і палатальных гукаў даў М. С. Трубяцкой; яна ўключае наступныя палажэнні [8]:

а) палаталізаваныя ствараюць з адпаведнымі цвёрдымі карэляцыю — аднамерныя, прыватыўныя, сіметрычныя проціпастаўленні — па ўласнаму тэмбру;

б) палатальныя ствараюць лакальны рад побач з лабіяльным, дэнтальным, гутуральным і г. д.; гэта «самастойны» рад або рад, «які ўтварыўся ў выніку расшчаплення» апікальнага ці дэнтальнага» (пры наяўнасці пазіцыі нейтралізацыі для адпаведных проціпастаўленняў); члены палатальнага рада ствараюць (аднамерныя) эквіпалентныя (дыз'юнктныя) проціпастаўленні па месцы ўтварэння;

в) пры наяўнасці ў мове палатальных гукаў і фаналагічнай тэмбравай карэляцыі палатальныя зычныя ўваходзяць у сістэму проціпастаўленняў «п а л а т а л і з а в а н ы я — н е п а л а т а л і з а в а н ы я», маючы ў якасці агульнай рысы з імі ўласны высокі тон.

Трэцяе палажэнне М. С. Трубяцкой падрабязна не тлумачыць, таму што яно вынікае з самога размежаван-

ня прыватыўных і дыз'юнктных (эквіпалентных) апазіцый. Так, калі мы маем на ўвазе астатнія, то гэта азначае, што ўсе члены аднаго рада процірастаўляюцца членам другога (аднаго!) рада [9]. Выходзіць, што аб фаналагічным палатальным радзе можна гаварыць толькі ў тым выпадку, калі ўсе мяккія фанемы суадносяцца з прадстаўнікамі якога-небудзь аднаго лакальнага рада. У разгорнутым выглядзе гэта разважанне знаходзім у Р. Якабсона [10].

Вельмі рэдкі выпадак, па даных Э. Петравіча [11], зафіксаваны ў румынскіх гаворках, дзе ёсць (*ĺ*), (*ń*) і (*l'*), (*n'*). Гэтыя гукі не знаходзяцца ў дадатковым размеркаванні і адрозніваюць формы слоў. Такім чынам, можна гаварыць аб суіснаванні самастойнага палатальнага рада *l* — *ĺ*, *n* — *ń* і тэмбравай карэляцыі *l* — *l'*, *n* — *n'*, *p* — *p'*, *m* — *m'*, *v* — *v'*. Палажэнні Трубяцкога — Якабсона не супярэчаць гэтаму факту, паколькі яны адносяцца да выпадкаў, калі частка палаталізаваных фанем прадстаўлена палатальнымі гукамі, як гэта назіраецца, напрыклад, у польскай мове.

Палатальныя фанемы суадносяцца, як правіла, або з дэнтальнымі, або з гутуральнымі; яны не могуць суадносіцца з лабіяльнымі, паколькі немагчыма ўявіць сабе расшчапленне лабіяльнага рада ў тым сэнсе, у якім гэта гаворыцца аб расшчапленні дэнтальнага ці гутуральнага рада. З другога боку, немагчыма дапусціць наяўнасць мяккіх адпаведнікаў толькі ў губных фанем. Значыць, калі ў мове разам з іншымі мяккімі ёсць мяккія губныя, то ў ёй існуе тэмбравая карэляцыя. І наадварот, пры наяўнасці ў мове мяккіх зычных адной з (негатыўных) адзнак палатальнага рада можа быць адсутнасць у ёй мяккіх губных фанем.

Палажэнні Трубяцкога — Якабсона і вывады з іх служаць тэарэтычнай асновай шматлікіх прац. Напрыклад, аналізуючы кансанантызм польскай літаратурнай мовы, Г. Трэйджэр лічыў, што паколькі мяккія губныя (на яго думку) не маюць фаналагічнага статусу ў ёй, то няма падстаў гаварыць аб існаванні ў гэтай мове тэмбравай карэляцыі цвёрдых і мяккіх зычных [12]. Аналагічна разважаў Э. Станкевіч, разглядаючы процірастаўленні цвёрдых і мяккіх у польскіх гаворках: «Рад польскіх гаворак не мае апазіцыі палаталізаваны — непалаталізаваны лабіяльны... Размежаванне палаталіза-

ваных і непалаталізаваных зычных, такім чынам, увогуле ліквідавана на большай частцы паўночна-ўсходняй Польшчы»[13].

Разам з тым многія аўтары наогул не адрозніваюць двух відаў проціпастаўленняў цвёрдых і мяккіх. Таму неабходна высветліць, ці сапраўды істотным з'яўляецца размежаванне іх для аналізу фаналагічных сістэм. Больш канкрэтна пытанне ставіцца так: ці назіраюцца ў мовах з рознымі відамі проціпастаўленняў цвёрдых і мяккіх характэрныя толькі для іх (ці больш ярка адлюстраваныя ў іх) асаблівасці дыстрыбуцыі і будовы мяккіх і цвёрдых зычных гукаў — прадстаўнікоў адпаведных фанем.

Параўнаем асаблівасці дыстрыбуцыі і будовы фанем, якія нас цікавяць, у рускай мове[14], дзе існуе *С — С'*, і ў сербскай[15], дзе функцыяніруе палатальны рад *С—С́*.

Усе мяккія фанемы рускай мовы рэалізуюцца палаталізаванымі гукамі. Парнымі па цвёрдасці-мяккасці з'яўляюцца *п — п', б —б', в— в', м — м', т — т', д — д', с —с', з — з', р — р', н — н', л — л'* (плюс перыферыйныя пары *к — к', г — г', х — х'*), г. зн. большасць зычных фанем. Усе гэтыя проціпастаўленні нейтралізуюцца ў пазіцыі перад [*е*], дзе сустракаюцца толькі мяккія (*воз — на возе, гора — горе, на горе*). Цвёрдыя і мяккія губныя не адрозніваюцца перад зычнымі, дзе сустракаюцца толькі цвёрдыя губныя, а ўсе парныя зубныя нейтралізуюцца перад мяккімі зубнымі (у выніку гэтага ўзнікаюць мяккія гемінаты, параўн. *весенний, классический, раззява*). Мяккія зычныя ў рускай мове без істотных абмежаванняў сустракаюцца ў канцы слоў і перад зычнымі; звычайным з'яўляецца асімілятыўнае змякчэнне цвёрдых зубных наступным мяккім. У пазіцыі перад (*й*) (у межах марфем) усе зычныя змякчаюцца: *перье, колосья, зелье.* Цвёрдыя зычныя ў рускай мове, нарэшце, з'яўляюцца велярызаванымі, аб чым сведчыць гучанне (*і*) як (*ы*) пасля цвёрдых.

У сербскай мове парнымі з'яўляюцца *л — л́, н — н́, т — т́, д — д́*, г. зн. толькі частка фанем дэнтальнага рада. Усе мяккія фанемы рэалізуюцца палатальнымі гукамі (*л́*), (*н́*), (*т́*), (*д́*) (арф. *љ, њ, ћ, ђ*). Пералічаныя проціпастаўленні не нейтралізуюцца, мяккія зычныя сустра-

каюцца ў канцы слоў і перад зычнымі (толькі на стыку марфем!); у пазіцыі перад мяккімі цвёрдыя не змякчаюцца. У сербскай мове ёсць спалучэнні *С+й* (цвёрды зычны+йот); цвёрдыя зычныя ў ёй не з'яўляюцца велярызаванымі.

Супаставім характарыстыкі абодвух відаў проціпастаўленняў:

| *С—С'* | *С—Ć* |
|---|---|
| мяккія фанемы рэалізуюцца палаталізаванымі гукамі | мяккія фанемы рэалізуюцца палатальнымі гукамі |
| пары цвёрдых і мяккіх нейтралізуюцца | пары цвёрдых і мяккіх не нейтралізуюцца |
| дыстрыбуцыя мяккіх не абмежавана; дапускаюцца мяккія гемінаты | дыстрыбуцыя мяккіх абмежавана; мяккіх гемінат няма |
| няма спалучэнняў *С+й* (у межах марфемы) | спалучэнні *С+й* шырока прадстаўлены |
| цвёрдыя гукі з'яўляюцца велярызаванымі | цвёрдыя гукі не маюць велярызацыі |

Такім чынам, нельга не заўважыць розніцы не толькі ў арганізацыі *С — С'* і *С — Ć* (большая — меншая колькасць пар, якія ўваходзяць у гэтыя проціпастаўленні, наяўнасць — адсутнасць нейтралізацыі адпаведных пар), але і ў фанетычных, і дыстрыбуцыйных асаблівасцях гукаў, якія прадстаўляюць мяккія фанемы. Гэта дае нам падставу лічыць прапанаванае М. С. Трубяцкім размежаванне *С — С'* і *С — Ć* істотным і неабходным; відавочна, яно з'яўляецца не проста абстрактнай пабудовай, але адпавядае пэўнай моўнай рэальнасці. Яго эўрыстычная каштоўнасць будзе лічыцца даказанай, калі мы зможам, выходзячы з атрыманых характарыстык тэмбравай карэляцыі і палатальнага рада, прадказаць змяненні, якія разбураць тэмбравую карэляцыю і прывядуць да станаўлення палатальнага рада. А выходзячы з гэтых характарыстык, можна меркаваць, што тэмбравая карэляцыя разбурыцца, калі: а) зычныя ўсіх радоў, акрамя аднаго, страцяць мяккія адпаведнікі; палаталізаваныя губныя павінны або зацвярдзець, або расшчапіцца на *С+й*; зацвярдзее таксама частка палаталізаваных, таму што пры *С—Ć* не абавязкова ўсе прад-

стаўнікі аднаго рада павінны мець мяккія адпаведнікі; б) частка палаталізаваных гукаў павінна пераўтварыцца ў палатальныя; в) ліквідуецца пазіцыя нейтралізацыі для парных па цвёрдасці-мяккасці; г) абмяжуецца дыстрыбуцыя мяккіх; д) цвёрдыя зычныя страцяць велярызаванасць, што праявіцца як зліццё (*ы*) і (*і*) (калі гэтыя гукі існавалі ў дадзенай мове).

Увогуле ліквідацыю тэмбравай карэляцыі *C* — *C'* і пераўтварэнне яе ў палатальны рад павінна забяспечыць дэпалаталізацыя (у тым ліку і расшчапленне *C'* на *C*+*й*) адных зычных і з'яўленне палатальных зычных — палатацыя (ням. die Palatalisation у адрозненне ад палаталізацыі як працэсу з'яўлення палаталізаваных, ням. die Palatalisierung[16]). Паколькі палатацыя сведчыць аб працэсе разбурэння тэмбравай карэляцыі, мы лічым яе таксама дэпалаталізацыйным працэсам.

Кожная з тэмбравых карэляцый *C*—*C'* славянскіх (і некаторых неславянскіх; табл. 1) моў мае тыя ці іншыя рысы, якія набліжаюць яе да палатальнага рада. Напрыклад, у рускай мове абмежавана дыстрыбуцыя мяккіх губных (яны не сустракаюцца перад зычнымі); ва ўкраінскай мяккія губныя не сустракаюцца ў канцы слоў і перад галоснымі пярэдняга рада; у польскай проціпастаўленні *C* — *C'* не нейтралізуюцца, частка палаталізаваных фанем прадстаўлена палатальнымі гукамі і ў выніку зацвярдзення (*r'*) зменшылася колькасць парных па цвёрдасці-мяккасці. Усё гэта дазваляе гаварыць аб неаднолькавай устойлівасці тэмбравай карэляцыі ў розных мовах. Відавочна, што калі параўноўваць даныя, змешчаныя у табл. 1, яна больш устойлівая ў рускай, менш — ва ўкраінскай, яшчэ менш — у польскай мовах і г. д. Бліжэй за ўсё да палатальнага рада тэмбравая карэляцыя латышскай мовы: усе чатыры мяккія фанемы рэалізуюцца ў ёй палатальнымі гукамі, якія вельмі рэдка сустракаюцца ў канцы слоў і некалькі часцей — перад зычнымі (але толькі на стыку марфем!); у ёй сустракаюцца спалучэнні *C*+*й*, і цвёрдыя зычныя фактычна не маюць велярызацыі. Як бачым, гэта тэмбравая карэляцыя мае ўсе адзнакі палатальнага рада, і таму можна сцвярджаць, што латышскі стан з'яўляецца апошняй ступенню няўстойлівасці тэмбравай карэляцыі *C* — *C'*.

Падобным чынам можна параўноўваць розныя станы палатальнага рада (табл. 1). Напрыклад, калі ў мове некаторыя палатальныя фанемы рэалізуюцца палаталізаванымі гукамі (як [л́] ~ (л')) у македонскай мове), то такі палатальны рад трэба лічыць менш устойлівым у параўнанні з тым, у якім усе фанемы [С́] рэалізуюцца палатальнымі гукамі; палатальны рад, у якім парныя нейтралізуюцца, будзе менш устойлівым у параўнанні з «самастойным» і г. д. Самы няўстойлівы палатальны рад функцыяніруе, відавочна, у мардоўскіх літаратурных мовах, дзе ўсе процістаўленні *С — С́* нейтралізуюцца і палатальныя фанемы рэалізуюцца палаталізаванымі гукамі, г. зн. *С — С́* мае тут усе галоўныя адзнакі тэмбравай карэляцыі.

Ці нельга дэградацыю ўстойлівасці процістаўленняў *С — С'*, як яна прадстаўлена на табл. 1, разглядаць у якасці прыблізнай мадэлі разбурэння тэмбравай карэляцыі ў гісторыі якой-небудзь мовы? Дапусцім, што мы station адказалі на гэта пытанне, і паспрабуем зрабіць некаторыя вывады аб узаемасувязі з'яў, якія прыводзяць да яе разбурэння.

Першымі сімптомамі аслаблення тэмбравай карэляцыі з'яўляюцца асобныя дэпалаталізацыі, якія прыводзяць да абмежавання дыстрыбуцыі мяккіх. Найменш устойлівымі аказваюцца мяккія губныя, схільныя да зацвярдзення перад зычнымі і ў канцы слоў.

Дэпалаталізацыя можа ахапіць значную частку зычных у некаторых пазіцыях, як гэта відаць з украінскай, балгарскай і іншых моў, але яна не суправаджаецца ніякімі іншымі зменамі, як, напрыклад, у балгарскай мове. Магчыма, дэпалаталізацыя зычных з'яўляецца не прычынай, а хутчэй вынікам якіх-небудзь змяненняў у будове *С — С'*.

З'яўленне палатальных зычных, як ужо адзначалася, таксама прадстаўляе сабою працэс дэпалаталізацыі. Нельга не заўважыць у сувязі з гэтым, што палатальныя гукі прадстаўляюць палаталізаваныя фанемы ў мовах, дзе процістаўленні цвёрдых і мяккіх не нейтралізуюцца, як у польскай і серба-лужыцкіх мовах, ці нейтралізуюцца, але не ў адной і той жа пазіцыі, як у латышскай. Ці выпадковая заўважаная сувязь, ці не?

Нарэшце, па даных табл. 1, добра прасочваецца тэндэнцыя да дэвелярызацыі цвёрдых, аб якой сведчыць

**Характарыстыка проціпастаўленняў па**

| | Мяккія фанемы | | | | Мяккія фанемы рэалізуюцца | | Агульная п.н. для ўсіх проціпастаўленняў | Наяў асобных для | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Л | Д | Г | Плт | Плтз | Плт | | Л | Д |
| Тыповая тэмбр. кар. $C—C'$ | + | + | + | | + | | + | (+) | (+) |
| Тыповы палатальны рад $C—\acute{C}$ | | | | + | | + | | | |
| Мовы | | | | | | | | | |
| руская | + | + | (+) | | + | | + | + | + |
| беларуская** | + | + | — | | +? | | — | + | + |
| украінская | + | + | — | | + | | *+ | + | + |
| літоўская | + | + | + | | + | | *+ | — | — |
| балгарская | + | + | + | | + | | *+ | — | — |
| румынская | + | + | + | | + | | + | — | — |
| верхнялужыцкая** | + | + | — | | + | + | — | + | + |
| польская | + | + | — | | + | + | — | + | + |
| латышская** | — | + | + | | — | + | — | | + |
| эрзянская | — | — | — | + | + | — | + | | |
| венгерская** | | | | + | — | + | + | | |
| сербахарвацкая | | | | + | | + | +? | | |
| славенская** | | | | + | | + | + | | |
| македонская** | | | | + | ± | + | — | | |
| чэшская | | | | + | | + | — | | |

Умоўныя абазначэнні: Л—лабіяльныя
Д—дэнтальныя
Г—гутуральныя

* + — цвёрды гук у якасці прадстаўніка згорнутай апазіцыі
**— больш падрабязна аб гэтых мовах гл. у «Дадатку»

**цвёрдасці-мяккасці ў некаторых мовах**

| насць п. н. фанем | | Мяккія гукі ў канцы слоў | | | | Мяккія гукі перад зычнымі | | | | Спалучэнні $C + й$ | | | | Наяўнасць (ы)—варыянта [i] |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Г | Плт | Л | Д | Г | Плт | Л | Д | Г | Плт | Л | Д | Г | Плт | |
| (+) | | + | + | + | | + | + | + | | — | — | — | | (+) |
| | (+) | | | | (+) | | | | (+) | + | + | ? | | — |
| | | +̲̅ | + | — | | — | + | — | | — | — | — | | + |
| | | — | + | | | — | + | — | | — | — | — | | + |
| | | — | + | | | — | + | — | | + | — | — | | + |
| — | | — | — | — | | — | — | — | | +̲̅ | — | — | | — |
| — | | — | — | — | | — | — | — | | — | — | — | | — |
| — | | — | — | — | | — | — | — | | — | — | — | | — |
| | | — | — | | +̲ | — | — | — | +̲ | + | — | — | | + |
| | | — | + | | + | — | — | — | + | + | — | — | | + |
| + | | — | — | | +̲̅ | — | — | — | +̲̅ | + | — | — | | + |
| | ? | ? | + | + | | ? | + | + | | ? | ? | ? | | — |
| | + | | | | + | | | | + | + | + | — | | — |
| | — | | | | + | | | | + | + | — | — | | — |
| | — | | | | + | | | | + | + | + | — | | — |
| | + | | | | +̲̅ | | | | +̲̅ | + | +̲ | — | | — |
| | — | | | | — | | | | + | + | + | — | | — |

Плт —палатальныя
Плтз —палаталізаваныя
п. н .—пазіцыя нейтралізацыі

+ — наяўнасць пэўнай з'явы
+̅ — нязначнае абмежаванне
+̲ — моцнае абмежаванне
+̲̅ — адзінкавыя выпадкі той ці іншай з'явы

зліццё (*і*) і (*ы*) у (*і*). У той жа час дэвелярызацыя не суправаджаецца якой-небудзь іншай з'явай, параўн. наяўнасць (*ы*) (арф. *у*) у польскай і супадзенне (*і*) і (*ы*) у балгарскай мовах. Ці выпадковай з'яўляецца тут адсутнасць якой-небудзь сувязі?

Як бачым, наша прыблізная мадэль дае магчымасць толькі паставіць пытанні, адказаць на якія немагчыма, зыходзячы з наяўных даных. Відаць, толькі аналіз «жывога» працэсу разбурэння тэмбравай карэляцыі даў бы магчымасць выявіць заканамернасці пераходу ад тэмбравай карэляцыі цвёрдых і мяккіх зычных да палатальнага рада. Такім чынам, галоўнай мэтай далейшых разважанняў з'яўляецца не вырашэнне канкрэтных праблем гісторыі проціпастаўленняў *С—С'* у той ці іншай мове, а ўдасканальванне прыёмаў дыяхранічнага аналізу, якія будуць выкарыстоўвацца пры вывучэнні гісторыі тэмбравай карэляцыі цвёрдых і мяккіх зычных у беларускай мове.

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ПА ЦВЁРДАСЦІ-МЯККАСЦІ Ў ГАВОРКАХ БАЛГАРСКАЙ МОВЫ

З разгледжаных тэмбравых карэляцый, якія функцыяніруюць у гаворках балгарскай мовы, найбольш устойлівай аказалася тэмбравая карэляцыя гаворкі в. Нова Надзежда, Хаскоўска [17]; яна мае наступныя характарыстыкі:

парнымі па цвёрдасці-мяккасці з'яўляюцца фанемы *п — п', б — б', ш — ш', ф — ф', м — м', т — т', д — д', с — с', з — з', л — л', н — н', р — р', к — к', г — г'.* Не маюць пар [*ж*], [*ч*], [*ш*], якія прадстаўлены фанетычна мяккімі гукамі, [*ц*]~(*ц*) цвёрдым ва ўсіх пазіцыях і [*х*]~(*х*) (перад галоснымі пярэдняга рада (*х'*));

усе мяккія зычныя, якія прадстаўляюць парныя па цвёрдасці-мяккасці фанемы, рэалізуюцца палаталізаванымі гукамі; перад галоснымі [*и*], [*е*] усе проціпастаўленні *С—С'* нейтралізуюцца — у гэтых пазіцыях сустракаюцца толькі мяккія зычныя;

усе мяккія зычныя сустракаюцца ў канцы слоў і перад цвёрдымі зычнымі. Усе цвёрдыя, акрамя (*т*) перад (*р'*), асімілююцца з наступнымі мяккімі; спарадычна цвёрдасць перад мяккімі захоўваюць (*п*), (*ш*) і (*к*). Фактычна ж пазіцыя перад мяккім зычным з'яўляецца

пазіцыяй нейтралізацыі для ўсіх проціпастаўленняў (акрамя пазіцыі перад (*р'*) для *т* — *т'*). У гаворцы сустракаюцца, хоць і вельмі рэдка, мяккія гемінаты (у выніку *д'н'*>*н'н'*);

цвёрдыя зычныя не маюць велярызацыі (адсутнічае гук (*ы*) пасля цвёрдых); не сустракаюцца ў гаворцы спалучэнні *С*+*й* або *С'*+*й*.

Падобныя характарыстыкі маюць тэмбравыя карэляцыі гаворак в. Крынічнае (Чэшма-Варуіта), якая прадстаўляе на тэрыторыі СССР гаворкі Калараўградшчыны [18], і ў радопскіх — ціхамірскай [19] і мамчылаўскай.

Аднак у першай з іх (крынічнінскай) толькі мяккія зубныя сустракаюцца ў канцы слоў (выключна ў назоўніках) і перад цвёрдымі зычнымі. Асіміляцыя зычных наступным мяккім назіраецца ў нешматлікіх выпадках: (*н*) змякчаецца перад (*н'*), (*т'*), (*з'*), (*г'*), (*к'*); (*л*) — перад (*н'*), (*д'*), (*т'*), (*л'*) і перад астатнімі мяккімі непаслядоўна. Такім чынам, дыстрыбуцыя мяккіх тут значна абмежавана. На падставе гэтага мы лічым, што тэмбравая карэляцыя ў гаворцы в. Крынічнае менш устойлівая, чым у гаворцы в. Нова Надзежда.

Ціхамірская гаворка мае дзве асаблівасці, якіх няма ў гаворцы в. Нова Надзежда. Па-першае, у ёй гук (*ы*) выступае ў якасці варыянта фанемы [*и*] пасля цвёрдых, што сведчыць аб наяўнасці ў іх велярызацыі; па-другое, тут сустракаюцца мяккія гемінаты (пры ўтварэнні множнага ліку назоўнікаў: *ав'е́с͡'е, бра́т͡'е* і інш). Аднак тэмбравая карэляцыя тут менш устойлівая, чым у гаворцы в. Нова Надзежда, паколькі:

гукі (*з'*), (*с'*), (*р'*) зацвердзяваюць перад (*ô*), з прычыны таго ў Ціхаміры распаўсюджаны дублеты тыпу *з'ôт'* і *зôт'*;

з парных мяккіх у канцы слоў сустракаюцца толькі (*т'*), (*л'*), (*н'*), (*ф'*); зубныя зацвердзяваюць у гэтай пазіцыі, аб чым сведчаць паралельныя формы *кон'/кон*, *сол'/сол* і інш.; (*ф'*) канцавое адзначана толькі ў назоўніках *вôрф'*, *кôрф'*, *чôрф'*;

перад цвёрдымі сустракаюцца (*т'*), (*л'*), (*н'*), а іх цвёрдыя адпаведнікі змякчаюцца перад наступнымі мяккімі, што не характэрна для іншых цвёрдых;

зычныя змякчаюцца перад галоснымі пярэдняга рада, аднак ступень іх змякчэння, па назіраннях Ст. Ка-

басанава, неаднолькавая ва ўсіх выпадках. Перад (*ê*) яна мацней, перад (*е*), (*и*) — значна слабей; зычныя (*к*), (*л*), (*н*), (*т*) перад (*и*), (*е*) змякчаюцца мацней за іншыя.

І, нарэшце, хоць у гаворцы і ёсць (*ы*) пасля цвёрдых, наяўнасць тэндэнцыі да яго ліквідацыі з'яўляецца відавочнай. У мове насельніцтва вельмі часта сустракаюцца формы тыпу *градына/градйна*, *галêмы/галêми* (мн. л. прыметніка *галêм*); нярэдка (*ы*), (*и*) ужываюцца няправільна з пункту погляду этымалогіі; параўн.: *слывы*, *тйквы*.

У гаворцы в. Мамчылаўцы, Смалянска[20] тэмбравая карэляцыя таксама менш устойлівая, чым у гаворцы в. Нова Надзежда. Зычныя тут звычайна вымаўляюцца цвёрда перад (*е*), зацвярдзела канцавое (*р'*), з мяккіх губных толькі (*ф'*) сустракаецца ў канцавой пазіцыі (некалькі выпадкаў), мяккія губныя не дапускаюцца перад зычнымі.

Разгледжаны матэрыял дае магчымасць зрабіць першыя абагульненні. Лічыцца агульнапрызнаным, што пасля падзення рэдуцыраваных ва ўсіх балгарскіх гаворках існаваў гук (*ы*). Можна меркаваць, што цвёрдыя зычныя балгарскіх гаворак былі велярызаванымі.

З цягам часу цвёрдыя страцілі велярызаванасць у большасці балгарскіх гаворак (і ў літаратурнай мове). У сучасны момант гэты працэс ажыццяўляецца ў ціхамірскай гаворцы, што, бясспрэчна, аслабляе тэмбравую карэляцыю, паколькі цвёрдыя і мяккія перастаюць проціпастаўляцца перад [*и*].

Калі меркаваць па гаворцы в. Нова Надзежда, то супадзенне (*ы*) з (*и*) не выклікае ўласна дэпалаталізацыйных з'яў; тэмбравая карэляцыя ў гэтай гаворцы, нягледзячы на ліквідацыю (*ы*), захоўвае галоўныя характарыстыкі «тыповай» і з'яўляецца ўстойлівай.

З другога боку, у Ціхаміры (*ы*) і (*и*) зліваюцца, калі зычныя зацвярдзелі ўжо ў шматлікіх выпадках. Таму можна меркаваць, што паміж дэвелярызацыяй цвёрдых і дэпалаталізацыяй мяккіх прамых сувязей не існуе, хоць гэтыя з'явы, аслабляючы тэмбравую карэляцыю, з'яўляюцца, відавочна, адлюстраваннем адзінай тэндэнцыі да разбурэння тэмбравай карэляцыі.

Як і меркавалася, з мяккіх найменш устойлівымі аказаліся губныя — яны зацвярдзелі ў канцы слоў і пе-

рад зычнымі амаль што ва ўсіх разгледжаных гаворках. Іншыя мяккія скарацілі сваю дыстрыбуцыю нязначна. Больш за ўсё яны «пацярпелі» (і «церпяць» цяпер) у гаворцы в. Ціхамір. Ні ў адной з разгледжаных гаворак не з'явіліся палатальныя зычныя, але, як паказваюць даныя странджанскай гаворкі, яшчэ нельга рабіць канчатковыя вывады наконт гэтага.

Тэмбравая карэляцыя странджанскай гаворкі[21] па свайму стану набліжаецца да апісаных вышэй. Яна менш устойлівая, чым у гаворцы в. Нова Надзежда, паколькі зычныя тут пачалі зацвердзяваць перад галоснымі пярэдняга рада (*и*), (*е*), а ў канцы слоў і перад зычнымі не дапускаюцца мяккія губныя і (*с'*), (*з'*), (*ц'*).

Разам з тым у гаворцы з'явіліся палатальныя зычныя; так, канцавыя *т'*, *д'*>*ќ*, *ѓ* (*пеќ*, *госпоќ*); перад канчаткамі множнага ліку назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду *-а*, *-е* з'явіліся палатальныя (*ќ*), (*ѓ*), (*н́*), (*л́*), якія прадстаўляюць у гэтых пазіцыях палаталізаваныя фанемы [*т'*], [*д'*], [*н'*], [*л'*]: *бра́ке, гро́зге, ко́ле, ка́мене.* Іншыя зычныя перад гэтымі фармантамі зацвярдзелі: *ло́зйето*, *сно́пйе*, *мра́вйе*, *чи́рйе.* Зацвярдзенне адных мяккіх і палатацыя другіх у адной і той жа пазіцыі вельмі характэрна. Улічваючы даныя странджанскай гаворкі, немагчыма, аднак, сцвярджаць, што зацвярдзенне зычных выклікае палатацыю, — перашкаджаюць недакладнасці назіранняў аўтара манаграфіі аб гаворцы, на падставе якіх цяжка зразумець, нейтралізуюцца проціпастаўленні *С—С'* перад [*и*], [*е*] ці не.

Па меры прасоўвання з паўднёвага ўсходу на захад (гл. карту-схему 1) тэмбравая карэляцыя ў балгарскіх гаворках робіцца ўсё менш устойлівай.

У гаворцы в. Твырдзіца, Слівенска[22] зычныя перад (*е*), (*и*) ужо «паўмяккія»; у канцы слоў і перад зычнымі мяккія, за выключэннем (*л'*), (*н'*), не сустракаюцца. Такім чынам, пазіцыя перад [*е*], [*и*] з'яўляецца пазіцыяй нейтралізацыі для ўсіх *С — С'*, а канец слова — для ўсіх пар, акрамя *л — л'*, *н — н'*. Характэрна, што ў якасці нейтральных у гэтай гаворцы выступаюць ужо цвёрдыя зычныя.

У белачэркаўскай гаворцы[23] перад (*и*) усе зычныя вымаўляюцца цвёрда, перад (*е*) — толькі губныя. У канцы слоў сустракаюцца мяккія (*л'*), (*н'*), (*т'*), (*к'*), (*р'*),

аднак словы, у якіх яны адзначаны, вельмі нешматлікія. Гэта не датычыцца (*р'*), якое, па «дзіўнаму капрызу» мовы, вымаўляецца ў гэтай пазіцыі вельмі паслядоўна.

Перад зычнымі з мяккіх могуць знаходзіцца толькі (*л'*) і (*н'*), і, такім чынам, у гэтай пазіцыі нейтралізуюцца ўсе проціпастаўленні, акрамя *л—л', н—н'*.

Не менш складаная сітуацыя ў цяцевенскай гаворцы[24], дзе ўсе зычныя перад (*и*) і ненаціскным (*е*) вымаўляюцца цвёрда, а перад націскным (*е*) — мякка; перад (*ê*) змякчаюцца толькі (*г*), (*к*), (*х*), астатнія зычныя ў гэтай пазіцыі заўсёды цвёрдыя. У канцы слоў тут сустракаюцца толькі цвёрдыя, таксама як і перад зычнымі; значыць, у гэтых пазіцыях нейтралізуюцца ўсе проціпастаўленні *С — С'*.

Нарэшце, у пірдопскай гаворцы[25] перад галоснымі пярэдняга рада, у канцы слоў і перад зычнымі дапускаюцца толькі цвёрдыя, і, значыць, ва ўсіх пазіцыях нейтралізацыі тут выступаюць цвёрдыя прадстаўнікі адпаведных проціпастаўленняў *С—С'*.

Такім чынам, тэмбравая карэляцыя ў гаворках вв. Твырдзіца і Бела-Чэрква, у цяцевенскай і пірдопскай менш устойлівая, чым у радопскіх і фракійскіх. Дыстрыбуцыя мяккіх у іх значна абмежавана — яны не сустракаюцца ў канцы слоў і перад зычнымі, назіраецца таксама паступовае зацвярдзенне зычных перад галоснымі пярэдняга рада. Агульная для ўсіх проціпастаўленняў *С — С'* пазіцыя нейтралізацыі ў гэтых гаворках захоўваецца, аднак у якасці нейтральнага выступае ўжо цвёрды гук.

Дэпалаталізацыйныя працэсы ў чатырох астатніх гаворках былі больш інтэнсіўнымі, чым у странджанскай, аднак яны не суправаджаліся палатацыяй, хоць у некаторых гаворках, як можна меркаваць, назіраюцца сімптомы тэндэнцыі да ўтварэння палатальных. Напрыклад, у гаворцы в. Твырдзіца гукі (*г*), (*к*), (*х*) перад (*и*) «маюць моцную ступень мяккасці» (?); у белачэркаўскай (*г*) і (*к*) «моцна змякчаюцца перад (*е*)» (?); у цяцевенскай таксама перад (*е*) гэтыя ж зычныя змякчаюцца «мацней» за іншыя. На падставе гэтых даных нельга сцвярджаць, што тут з'явіліся палатальныя зычныя. Наогул, нягледзячы на інтэнсіўныя дэпалаталізацыйныя працэсы, палатальныя зычныя не сталі ва ўсходнебалгарскіх

гаворках звычайнай з'явай. Становішча змяняецца, калі мы пераходзім у зону заходнебалгарскіх гаворак.

Аналізуючы стан проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў пераходнай (паміж заходнім і ўсходнім дыялектнымі масівамі) іхціманскай гаворцы[26], М. Младзенаў неаднаразова гаворыць аб існаванні ў ёй моцнай тэндэнцыі да зацвярдзення зычных (стар. 37—38, 54—55 і інш.). Дыстрыбуцыя мяккіх аказалася тут настолькі абмежаванай, што яны «пераўтварыліся ў перыферыйны, другарадны пласт фанемнай сістэмы» (стар. 55).




Карта-схема 1. Геаграфічнае размяшчэнне разгледжаных балгарскіх гаворак:

*1*—в. Нова Надзежда, Смалянска; *2*—в. Крынічнае (Чэшма-Варуіта), Калараўградска; *3*—в. Ціхамір; *4*—в. Мамчылаўцы; *5*—в. Твырдзіца, Слівенска; *6*—странджанская; *7*—в. Бела-Чэрква, Тырнаўска; *8*—цяцевенская; *9*—пірдопская; *10*—іхціманская; *11*—в. Гавядарцы, Самакоўска; *12*—в. Дабраслаўцы, Сафійска; *13*—разложская, Банска; *14*—в. Габарэ, Беласлацінска; *15*—кюстэндзілская; *16*—г. Лом

Младзенаў налічвае ў гаворцы 13 проціпастаўленняў *C—C'*: *б—б', в—в', м—м', т—т', д—д', с—с', з—з', л—л', н—н', р—р', ж—ж', к—к' г—г'*. Тое, што ў радзе звычайных для балгарскіх гаворак няпарных [*S*], [*Ц*], [*ч*], [*х*], [*ш*] аказваюцца [*п*], [*ф*] (пры наяўнасці *б—б', в—в', м—м'*!), адразу звяртае на сябе ўвагу.

Больш глыбокі аналіз матэрыялаў Младзенава паказвае, што з мяккіх толькі (*г'*), (*к'*), (*л'*), (*н'*) «шырока ўжываюцца і сустракаюцца перад заднімі галоснымі (*о*), (*и*) і ў большай колькасці слоў» (стар. 39). Іншыя мяккія «ўжываюцца больш абмежавана і толькі перад

галоснай (*а*)» (стар. 39); можна наогул прывесці толькі па некалькі прыкладаў такіх спалучэнняў:

*б'+а* — *габ'аше, употреб'авале*
*м'+а* — толькі *кукум'афка*
*д'+а* — *бад'ава, ръжд'асала*
*т'+а* — *брат'а, жит'ата*
*с'+а* — *с'ало, прос'ак, залес'авач*
*ж'+а* — *важ'ара, пърж'ак*
*в'+а* — сустракаецца некалькі часцей, параўн. *дръв'а, кръв'асала, нав'ак, поправ'але, став'ам* і інш.
*р'+а* — *бар'ак, вапир'асва, вечер'ам, гор'анин* і інш.

Акрамя гэтых прыкладаў, на іншых старонках манаграфіі Младзенава знаходзім *шудр'о* (стар. 63), *коз'о, крав'о* (стар. 53).

Гэтыя даныя ясна паказваюць, што ўжыванне мяккіх зычных тут значна больш абмежавана, чым у разгледжаных усходнебалгарскіх гаворках. Але гэта не датычыцца мяккіх (*н'*), (*л'*), (*к'*) (*г'*), якія сустракаюцца перад усімі галоснымі. Так, (*н'*) выступае ў назоўніках мужчынскага роду перад суфіксамі *-ак, -ар* (*бедн'ак, свин'ар*), у назоўніках жаночага роду (*бан'а, вишн'а*), у прыметніках перад суфіксам *-аф* (*болн'аф*), перад (*о*) (*есен'о, летн'о, син'о*), рэдка перад (*у*) (*пан'уга, син'утка*). Падобна гуку (*н'*), зычны (*л'*) сустракаецца ў шматлікіх формах: перад суфіксам *-ак*, у назоўніках жаночага роду, у прыметніках на *-аф*, у каранях шматлікіх слоў (*босил'ак, весел'ак, недел'а, петл'а, ал'аф, жул'аф, ил'ада, пол'ана*), перад (*о*), (*у*) ( *лел'о, петл'о, кл'уч, л'улк'а, пл'ува*). Але заўсёды цвёрдымі (*л*) і (*н*), як і іншыя гукі, з'яўляюцца перад *-а* ў 1-й асобе адзіночнага ліку і ў 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў цяперашняга часу (*кола-колат, сола-солат, вара-варат, ода-одат*; стар. 54).

Зычны (*к'*) сустракаецца ў суфіксе *-к'а*, у членнай форме слоў і часам перад (*а*), (*о*), (*у*) (*болк'а, зелк'а, л'улк'а, сенк'а; уйк'о, баштельк'о; бек'арин, к'ул, к'ошка*). Зычны (*г'*) адзначаецца некалькі радзей (*г'авол, дуг'ан, г'ол, г'убел, г'ум*).

Перад галоснымі (*и*), (*е*) у гаворцы змякчаюцца толькі (*к*) і (*г*). Ступень іх змякчэння такая ж, як і ў літаратурнай балгарскай мове, або некалькі мацней (стар. 37). Рэдка перад (*и*), (*е*) змякчаецца (*л*) (*босил'ек, зел'е, пл'емна, л'ивада, нал'ива, невол'и*); часцей

«у гэтай пазіцыі замест зычнага (*л'*) ужываецца (*л*), што сведчыць аб тым, што ў гэтай пазіцыі прыкмета «цвёрдасць-мяккасць» не з'яўляецца ўстойлівай» (стар. 38). Усе іншыя зычныя перад (*и*), (*е*) вымаўляюцца цвёрда: *госте, глисте, тръне, коле, коне, боре, маже, снопе, бране, млене.*

Мяккія зычныя ў гаворцы не сустракаюцца ў канцы слоў і перад іншымі зычнымі: *ден, гребен, кон, смърт, сол, зет, л'улк'а, желк'а, сенк'а* (стар. 44—45). Натуральна, у гаворцы няма мяккіх гемінат і гука (*ы*).

Такім чынам, паколькі ў дадзенай гаворцы (*л'*) і (*н'*) не могуць знаходзіцца ў канцы слоў і перад зычнымі, існуе магчымасць нейтралізацыі *л—л', н—н'*. Напрыклад, словы *недел'а кадел'а, бан'а* з суфіксам *-к'а* гучаць *неделк'а, каделк'а, банк'а.* Сістэматычна *н—н', л—л'* нейтралізуюцца пры ўтварэнні множнага ліку назоўнікаў на *-л'а, -н'а* (*недел'а—недели, бан'а—бани*), нячленнай формы назоўнікаў (*ден'а — ден, гребен'а — гребен, оган'а—оган*), пры словаўтварэнні (*кон'ар — кон, коне; кашл'а—кашлица*). Ва ўсіх пералічаных выпадках нейтральнай з'яўляецца цвёрдая фанема.

Інакш «паводзяць сябе» *к—к', г—г'*, якія нейтралізуюцца перад [*е*], [*и*], маючы мяккую фанему ў якасці нейтральнай: *кавга—кавги, даска—даски, булки, гаски.*

Што датычыцца іншых проціпастаўленняў *С—С'*, пералічаных М. Младзенавым, то яны карэляцыямі з'яўляюцца толькі намінальна, паколькі нейтралізуюцца спарадычна: *вечар'ам — вечар, брат'а — брат.*

Адзначым яшчэ адну важную з'яву, якую закрануў Младзенаў — *л'- н'*-эпентэзы ва ўсіх, акрамя *к'а, г'а,* складах *С'а.* У гаворцы вымаўляюць *Демн'ан, земн'а, темн'ан, пръжл'ак, зл'апам, пурл'ак, габерл'ак, просл'ак, лежл'ак.* На стар. 36 аўтар у ліку іншых дае такія прыклады на *С'а: бад'ава, коз'ак, огриз'ак, мочур'ак* і інш., а на стар. 60 знаходзім *бадл'ава, козл'ак, огризл'ак, мочурл'ак* і інш. Наяўнасць гэтай эпентэзы сведчыць, безумоўна, аб працэсе дэпалаталізацыі зычных перад (*а*), паколькі ў выніку эпентэзавання мяккія зычныя фактычна зацвярдзяваюць, а таксама аб тэндэнцыі да расшчаплення мяккіх перад (*а*) на спалучэнні $C+й$, паколькі (*л'*), (*н'*) пасля зычных могуць з'явіцца толькі ў тым выпадку, калі замест *б'а, в'а, п'а, з'а* вымаўляюцца *бйа, вйа* ці *б'йа, в'йа.* У такім выпадку эпентэзу трэба разумець як

вольнае чаргаванне (*й*) і мяккіх (*л*), (*н*), але тады можна гаварыць яшчэ аб адной з'яве. Сапраўды, (*й*) і мяккія (*л*), (*н*) будуць лёгка чаргавацца, калі яны зблізяцца па месцы ўтварэння, г. зн. калі (*л*) і (*н*) мяккія стануць палатальнымі. Такім чынам, існаванне эпентэз можа сведчыць аб палатацыі палаталізаваных *л', н'*>*л́, н́*. Калі ўлічыць, што ў іхціманскай гаворцы заўважаны сляды палатацыі *к', г'*>*ќ, ѓ*, то верагоднасць нашага дапушчэння павялічваецца. М. Младзенаў прыводзіць *бра́ка* (і *брат'а*; стар. 36), *ќе, нерасќанче, пайќа, рисќанин, треќата, пеѓа, ѓавол*, якія часцей сустракаюцца іменна ў тых вёсках, дзе эпентэзаванне больш паслядоўнае.

Як бачым, у іхціманскай гаворцы працэс разбурэння тэмбравай карэляцыі зайшоў вельмі далёка, аб чым сведчыць страта мяккіх адпаведнікаў фанем (*п*), (*ф*), разбурэнне агульнай для ўсіх проціпастаўленняў *С—С'* пазіцыі нейтралізацыі, расшчапленне мяккіх (акрамя (*л'*), (*н'*), (*г'*), (*к'*)) на *С+й* перад (*а*) і *л-*, *н*-эпентэза, палатацыя мяккіх (*л'*), (*н'*), (*к'*), (*г'*) (ці тэндэнцыя да іх палатацыі). Усе пералічаныя змяненні наблізілі дадзеную тэмбравую карэляцыю да самай няўстойлівай (латышскага тыпу).

Гаворка в. Гаведарцы[27] (і навакольных вёсак) належыць да самакоўскай групы гаворак, якія з захаду прымыкаюць да іхціманскай. Па назіраннях дыялектолагаў, тут проціпастаўляюцца *п—п', б—б', в—в', м—м', т—т', д—д', с—с', з—з', л—л', н—н', р—р', к—к' х—х', г—г', ж—ж', ч—ч'* пры няпарных (ц), (*S*), (*ш*). Можа здацца, што тэмбравая карэляцыя тут больш устойлівая, чым у іхціманскай гаворцы, але гэта не так.

Мяккія зычныя (за выключэннем (*л́*), (*н́*), (*ќ*) (*ѓ*)) сустракаюцца ў дадзенай гаворцы перад (*а*) значна радзей, чым у іхціманскай (літаральна ў адзінкавых выпадках): *бад'ава, гут'аф, лоп'ак, стап'ам, нав'ак, удр'авам, ув'аждам, прос'ак, с'агна, важ'а, з'ан, з'апало, газ'а, пам'алник, брач'а*; некалькі больш слоў з (*р'*): *бур'ан, мир'асвам, укор'асвам, пур'ак*. Нельга таксама лічыць фанемай (*х'*), які ўжываецца толькі ў форме 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў прошлага часу абсалютна паралельна з (*х*) (*давах'а, доех'а, насех'а* і *носеха, носеа, плетеха, плетеа* і пад., стар. 282—283). Іншыя мяккія праяўляюць «схільнасць» да раздзельнага вымаўлення,

як аб гэтым сведчаць прыклады тыпу *навл'ак — нав'ак, мом'аче—момл'аче, дочув'ам—дочувл'ам* (стар. 268—269), *земн'а* (стар. 261).

Мяккія (*л*), (*н*), (*к*), (*г*) з'яўляюцца «зусім мяккімі (чыста палатальнымі)» (стар. 260). Яны сустракаюцца перад усімі галоснымі задняга рада (стар. 261—262).

Перад (*е*) палаталізаваныя сустракаюцца ў адзінкавых выпадках (*креват'е, труп'е, маж'е* і інш.), а перад (*и*) увогуле не адзначаны. Палатальныя перад (*и*), (*е*) зафіксаваны ў асобных марфалагічных катэгорыях. Так, (*л́*) знаходзім перад суфіксам прыметнікаў *-иф* (*базл́иф, бодл́иф*), перад канчаткам множнага ліку некаторых назоўнікаў (*родител́е, угл́еве*), у дзеяслоўных формах тыпу *бел́и, гал́им, гонил́е* (дарэчы заўважым, што ва ўсіх гэтых катэгорыях у іхціманскай гаворцы (*л*) цвёрдае!). У іншых выпадках (*л*) перад (*и*), (*е*) «вельмі цвёрдае» (*глис, лис, малини, неволи, пелин, леф, теле, плескам*).

Зычны (*н́*) перад (*и*), (*е*) сустракаецца ў суфіксе аддзеяслоўных назоўнікаў (*ален́е, беган́е, горен́е, дран́е*), у формах множнага ліку (*гердан́е, кон́е, камен́е, пръстен́е, видн́и, накован́и*), у дзеяслоўных формах (*бран́и, изгон́и, пен́и, ран́и*; у іхціманскай гаворцы ў аналагічных формах толькі (*н*)!).

Зычныя (*к*) і (*г*) перад (*и*), (*е*) заўсёды змякчаюцца: *ќинем, ќитка, ѓинем, киниѓи*. Зацвярдзенне адных зычных і палатацыя другіх назіраецца пры ўтварэнні множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду. Перажытачнымі з'яўляюцца формы *маж'е, труп'е, уров'е, касавет'е, маказ'е, перваз'е, шумар'е* побач са звычайнымі формамі з цвёрдай асновай: *другаре, далапе, крълеже, толузе*. Адначасова пры ўтварэнні гэтых форм *т', д'>ќ, ѓ: праќе, адвокаќе, л'уѓе, грозѓе*. Паралельна з формамі, дзе ёсць палатальныя (*л́*), (*н́*), у гэтай катэгорыі адзначаны *фетиле, буеле, тегеле*, а адносна (*н́*) гаворыцца: «У мове маладых... гэтыя словы (формы множнага ліку.— *В. Ч.*) сустракаюцца і з цвёрдым (*н*) пад уплывам літаратурнай нормы (*одене, сирене, коне*)» (стар. 261).

У канцы слоў з мяккіх ужываюцца толькі (*л́*) і (*н́*) (*сол́, крал́. мал́, прийател́, ден́, кон́, корен́*, але: *кръф, смрът* і пад.); існуе тэндэнцыя да зацвярдзення канца-

вых (*л́*) і (*н́*), параўн. *сол, учител, букол, дикел, ден, кон, песен.* Перад зычнымі адзначаны зноў жа толькі (*л́*) і (*н́*) (*лулка, лулки, наполка, наполки, болка, болки*, таксама *мелница, пресилване, пулпас*); (*н́*) перад (*к*) адзначана толькі ў двух словах (*сенка, гранка*).

Прыведзеныя факты сведчаць, што *л—л'* рэгулярна нейтралізуюцца толькі перад *-ка*; канец слова з'яўляецца патэнцыяльнай пазіцыяй нейтралізацыі для гэтай пары. Іншыя проціпастаўленні, у тым ліку і *н—н'*, наогул не нейтралізуюцца. Гэта не датычыцца *к—к', г—г'*, якія не адрозніваюцца перад [*е*], [*и*], параўн. *даска — даски, балка — балки, вашка — вашки, книга — книги.* Сістэматычна чаргуюцца таксама *т—к, д—г*: *прат—праке, цвет—цвеке, білет—білеке*, аднак аб проціпастаўленнях *т—к, д—г* гаварыць пакуль што рана. Асноўнымі проціпастаўленнямі па цвёрдасці-мяккасці з'яўляюцца *л—л', н—н', к—к', г—г'*, у якіх палаталізаваныя фанемы рэалізуюцца палатальнымі гукамі (*л́*), (*н́*), (*ќ*), (*ѓ*). Тэмбравая карэляцыя і па іншых адзнаках набліжаецца тут да «самай няўстойлівай».

Гаворка в. Дабраслаўцы, Сафійска (16 км на поўнач ад Сафіі) належыць, па даных Л. Гылыбава [28], да масіву пераходных паміж усходнімі і заходнімі дыялектамі.

Мяккія зычныя (*б'*), (*в'*), (*п'*), (*з'*), (*р'*), (*ж'*), (*ч'*), (*ш'*) перад (*а*) і (*е*) сустракаюцца ў гэтай гаворцы толькі ў нешматлікіх словах (*роб'е, об'аждам, об'аснилосе, крав'е, дрв'а, йав'авам, нав'ак, сноп'е, лоз'е, лоз'а, бож'а, мир'асвам* і інш.). Зафіксаваныя формы *сабйа—сабла, момлаче* (стар. 18—19), *земна* (стар. 11) сведчаць аб тэндэнцыі да расшчаплення мяккіх на *С+й*. Гылыбаў не схільны лічыць фанематычнымі проціпастаўленні *б—б', в—в', п—п', з—з', ж—ж', ч—ч', ш—ш'*, паколькі мяккія адпаведнікі ён адзначае толькі для [*л*], [*н*], [*к*], [*г*] і называе іх проста «мяккімі». Але, на нашу думку, аб палатальным характары гэтых гукаў сведчаць наступныя з'явы:

пераход *л́>й*: *йейа, йулка, йуска, йуто*;

наяўнасць *ќ, ѓ,<т', д'*;

чаргаванне *й—л́, н́* (эпентэза) у пералічаных вышэй словах.

Палатальныя шырока прадстаўлены перад галоснымі задняга рада, параўн. *блувам, жлока, лела; мурушлак, открошлак; горнак, каменак; видна, главна, дуна; болнаф, гунаф, слунаф; коно, тривоно, бугулка, буалка; гол, гавол, гувеч.*

Перад галоснымі (*и*), (*е*) мяккія (*л*) і (*н*) сустракаюцца: у назоўніках множнага ліку (*родителе, учителе, камне, коне; дуни, гримни*); (*л*)—у прыметніках на *-иф* (*божлиф, горделиф*); (*н*) — у аддзеяслоўных назоўніках тыпу *бегане, бране*. Перад галоснымі пярэдняга рада, за выключэннем некаторых адзінкавых выпадкаў, выступаюць звычайна цвёрдыя (*л*), (*н*). У процілегласць ім цвёрдыя (*г*) і (*к*) не могуць знаходзіцца ў гэтай пазіцыі.

З ліку палатальных толькі (*н*) сустракаецца перад зычнымі (*бабунка, сънка, возбунвам се, застунвам се*). У канцы слоў дапускаюцца (*л*) і (*н*) (нешматлікія выпадкі): *брчкул, бодил, жужел, затискол, бурен, дрмон, кон*, але: *осен, огин, радос, зем, път.*

Л. Гылыбаў адзначае, што асабліва ў мове старэйшага пакалення назіраецца «некаторае змякчэнне» «амаль што ўсіх зычных перад пярэднімі галоснымі» (стар. 9). Гэты факт, а таксама мяккасць (*л*), (*н*) перад (*и*), (*е*) у радзе выпадкаў, пазіцыйная мяккасць (*г*) і (*к*) перад (*и*), (*е*), «праяўленне» мяккасці канцавых у выпадку тыпу *ден — денам* (стар. 78) — усё гэта пераканаўча сведчыць аб існаванні ў мінулым больш устойлівай тэмбравай карэляцыі. Аднак з цягам часу большасць зычных зацвярдзела; другая частка мяккіх перажыла палатацыю. У выніку гэтых змен у гаворцы ўзнікла вельмі няўстойлівая тэмбравая карэляцыя *л—л', н—н', к—к', г—г'*, у якой проціпастаўленні не нейтралізуюцца, а мяккія фанемы прадстаўлены палатальнымі гукамі.

Гаворка в. Габарэ, Беласлацінска належыць да заходніх (паўночна-заходніх) гаворак. К. Папоў[29] адзначае ў ёй і паўночна-ўсходнія рысы, аднак яны не датычацца цвёрдасці-мяккасці.

У гаворцы чатыры мяккія зычныя — (*л*), (*н*), (*к*), (*г*), аб якіх гаворыцца, што «ў вядомых пазіцыях» яны моцна змякчаюцца» (стар. 22). Можна меркаваць, што гутарка ідзе пра палатальныя гукі. Сапраўды, паводле

назіранняў аўтара манаграфіі, (*л*) мяккае вымаўляецца ў гаворцы як нешта сярэдняе паміж (*й*) і (*л'*) (стар. 124: *йуто, йусна, йулка, лейа невойа*); пераход *т', д'>ќ, ѓ* (у некаторых пазіцыях) тут ужо закончыўся.

Перад галоснай пярэдняга рада (*ń*) сустракаецца толькі ў аддзеяслоўных назоўніках (*бране, вадене, даване, земане*), ва ўсіх іншых выпадках перад (*и*), (*е*) дапускаюцца толькі цвёрдыя (*л*) і (*н*) (*даскале, прийателе*). Заўважым, дарэчы, што множны лік ад *недейа* будзе *недели*.

Зычныя (*к*) і (*г*) перад (*и*), (*е*) не палатальныя, але «слаба памякчаныя» (*к'*), (*г'*): *мек'і, лек'і, к'еф, рак'и.* Перад (*е*) знаходзім цвёрды (*к*): *туке, таке, такей, такофке.* У канцы слоў і перад зычнымі мяккія наогул не адзначаны: *кон, огън, ден, зет, път, цар, учител.* З упэўненасцю можна гаварыць аб існаванні ў гаворцы спалучэнняў *С+й*. Яны з'явіліся галоўным чынам у выніку пераходу *л>й: кйува, възгйаве, огрйе;* зычныя перад (*й*) не змякчаюцца. У слоўніку манаграфіі Папова знаходзім словы *б'увам, дроп'а, исфир'асам, мрз'ановец, П'ушт̥ъ, тем'анка.* На іншых старонках працы сустракаем *Пйушт* (стар. 126), *бйувам* (стар. 124), а дзе-нідзе аўтар дае паралельныя формы тыпу *пл'осна са—п'осна са* «падна неочаквано» (стар. 164), і таму не прыходзіцца сумнявацца ў значэнні (') пасля зычных у слове *б'увам* і пад.— гэтым знакам аўтар адзначыў спалучэнні *С+й*.

Кансанантызм гаворкі (па даных К. Папова) аналізаваў Г. Л. Клагстад[30]. Ён прыйшоў да вываду аб існаванні ў гаворцы шасці палатальных фанем [*ć*], [*ʒ̆*], [*ć*], [*ʒ́*], [*ń*], [*ĺ*]. Гэта рашэнне цяжка зразумець. Гукі (*ч*), ( џ), як і ўсе шыпячыя, Папоў адносіць да ліку цвёрдых фанем, і таму лічыць іх палатальнымі нельга.

Бясспрэчна, [*н*] і [*ń*] складаюць карэлятыўную пару з пазіцыяй нейтралізацыі ў канцы слова: *кана—кон, огъна—огън, денъ—ден, пънъ—пен, корене—корен* і пад.).

Зычныя (*л*) і (*ĺ*), выходзячы з прыведзеных даных, не ствараюць апазіцыі, паколькі (*ĺ*) з'яўляецца факультатыўным варыянтам [*й*]. Больш правільна гаварыць, відаць, аб проціпастаўленні *л—й* (параўн. *котел—котейа, прийател—прийатейа—прийателе*), якое не мае пазіцыі нейтралізацыі.

Пытанне аб пазіцыі нейтралізацыі цвёрдых і мяккіх заднепаднябенных у гаворцы досыць складанае. «Э ... аказвае слабы палатальны ўплыў толькі на заднепаднябенныя *к, г*»,— адзначае Папоў і падае прыклады *к'ебе, к'еремида, к'еф, бък'ен, г'ердан, г'ерак, г'ерек'ина.* Застаецца незразумелым, ці маюць мяккія (*к*) і (*г*) такую ж ці большую ступень мяккасці ў выпадках *пръќе, лиске, цвеке, луѓе* і інш., дзе перад (*е*) мяккія *ќ* і *ѓ* < < *т', д'*.

Аб (*и*) Папоў гаворыць, што яно «аказвае вядомы (?) палатальны ўплыў на заднепаднябенныя *к, г*»: *йабълк'и, седенк'и, майк'и, глог'инки, друг'и, ног'и, подг'изна, заг'ина.* Такім чынам, ад слоў *майк'а, седенк'а* (стар. 124), дзе (*к*) мяккае з'яўляецца палатальным гукам, множны лік павінен быць *седенк'и, майк'и* (стар. 118), таксама, як ад *градинка, дъга—градинк'и, дъг'и.* Калі гэта так, то можна гаварыць аб нейтралізацыі проціпастаўленняў *к—к', г—г'* і існаванні тэмбравай карэляцыі *л—л'* ~ (*й*)!, *н—н', к—к', г—г'*.

Але, магчыма, мяккія (*к*), (*г*) перад (*и*) у словах *майк'и, градинк'и, дъг'и* (ад *майка, градинка, дъга*) адрозніваюцца ад (*к*), (*г*) мяккіх у *пръќе, луѓе* (ад *прът, луд*); іменна ў першым выпадку выступаюць слабапалаталізаваныя (*к'*) (*г'*), а ў другім—палатальныя (*ќ*), (*ѓ*). Тады немагчыма гаварыць аб нейтралізацыі *к—к' г—г'*; палатальныя ўвойдуць у сістэму чаргаванняў *учител — учитейа, корен — корена, прът — пръќе, луд — луѓе* і будуць прадстаўляць самастойныя палатальныя фанемы [*ќ*], [*ѓ*] побач з [*й*], [*ń*].

Стан проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці, вельмі падобны да апісанага вышэй, выявіўся пры аналізе даных кюстэндзілскай гаворкі [31], дзе (*к*) і (*г*) перад галоснымі пярэдняга рада вымаўляюцца не «мякка» ці «зусім мякка» (параўн. апісанне гаворкі в. Гавядарцы), а «памякчана», «паўмякка», «як у літаратурнай мове». Аднак з прычыны недакладнасцей у апісаннях І. Умленскага нельга з упэўненасцю сцвярджаць, што заднепаднябенныя не проціпастаўляюцца ў кюстэндзілскай гаворцы па цвёрдасці-мяккасці. Можна адзначыць толькі ўвогуле, што з'яўленне «паўмяккіх» (*к*) і (*г*) перад галоснымі пярэдняга рада побач з (*ќ*), (*ѓ*) палатальнымі (<*т', д'* і (*к'*), (*г'*) перад заднімі галоснымі) стварае

ўмовы для канчатковага разбурэння апазіцый *к—к'*, *г—г'* (у рамках вельмі няўстойлівай тэмбравай карэляцыі) і, такім чынам, падрыхтоўвае ліквідацыю тэмбравай карэляцыі *С—С'*.

Наша «падарожжа» па гаворках Балгарыі закончым аналізам цвёрдых-мяккіх зычных гаворкі г. Лом [32] (поўнач заходне-паўночнага дыялектнага масіву).

У гаворцы існуе чатыры мяккія палатальныя гукі — (*ќ*), (*ѓ*), (*л̂*), (*н́*). Як і ў папярэдніх гаворках, яны сустракаюцца ў пэўных граматычных катэгорыях: *праўла́к, мочурла́к, сабла́, земла́*; у коранях слоў: *бл́уда, бл́увам, пл́увам*; у клічнай форме: *гапл́о! апл́о! зъбл́о!; слушн́ак, збутн́ак, вършн́ак, кон́у!; главн́а, плевн́а.* Палатальны (*ќ*) часцей за ўсё знаходзіцца ў коранях слоў: *маќа, уќа, ќороф, ќорчо, ќопчо,* але: *лулќа, цедулќа, девоќа, сенќа.* Зычны (*ѓ*) сустракаецца радзей, чым іншыя мяккія, і пераважна ў коранях слоў: *ѓак, ѓавол.*

Перад (*и*), (*е*) мяккія (*л́*), (*н́*) сустракаюцца ў не-шматлікіх катэгорыях: *кон́е, клон́е; пол́е, зел́е, бран́е, даван́е; сфин́е, песн́и, сабл́и*; радзей у коранях слоў: *н́ему, н́его, н́им.* Мяккія (*ќ*), (*ѓ*) перад (*и*), (*е*) знаходзім у множным ліку назоўнікаў: *госќе, грозѓе, глисќе, цвеќе; треќе; маќи, войсќи;* у прыслоўях: *веќе, ръќе* і вельмі рэдка ў коранях слоў: *оѓин, ќитка.*

Ва ўсіх іншых выпадках перад (*и*), (*е*) назіраюцца толькі цвёрдыя (*л*), (*н*), (*к*), (*г*).

У гаворцы ёсць канцавыя мяккія (*л́*), (*н́*) (напрыклад, *кон́, штърбел́, гурун́, пън́*), але больш характэрнымі з'яўляюцца *ден, пет, девет, десет, памет, оѓин, осен, старос, сол.* Перад зычнымі сустракаем (адзінкавыя выпадкі!) толькі (*л́*) (*л́ул́ќа*, але і *л́улќа*).

У гаворцы сустракаюцца нешматлікія спалучэнні тыпу *С+й*: *управям, отправям*; усюды, дзе яны маглі з'явіцца, узнікла (*л́*) эпентэза: *заправл́ам, натоварл́ам, пивл́ам, бивл́ам* і нават *перл́а, лозл́а; земл́а* побач са *земн́а.*

Такім чынам, можна зрабіць наступныя вывады:

а) гукі (*л́*), (*н́*) (*ќ*) (*ѓ*) прадстаўляюць тут самастойныя фанемы;

б) паколькі (л́) і (л), (н́) і (н) сустракаюцца ў адных і тых жа пазіцыях, то проціпастаўленні *л—л́, н—н́* не нейтралізуюцца, г. зн. яны не з'яўляюцца карэляцыйнымі;

в) не нейтралізуюцца ў гаворцы і *к—ќ, г—ѓ*, параўн.: *ма́йка—маќи*, але: *длака—длаки*.

Такім чынам, у гаворцы г. Лом функцыяніруе самастойны палатальны рад [л́], [н́], [ќ], [ѓ], фанемы якога не ствараюць апазіцый ні з адным лакальным радам.

Пры аналізе проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў балгарскіх гаворках выявіліся найбольш устойлівыя тэмбравыя карэляцыі ў гаворках вв. Нова Надзежда і Крынічнае. У іншых гаворках, звычайна больш заходніх, функцыяніруюць менш устойлівыя *С—С'* (табл. 2). Зыходзячы з гэтага, мы робім вывад аб існаванні ў балгарскіх гаворках тэндэнцыі да разбурэння тэмбравай карэляцыі, якая больш інтэнсіўна праявілася ў заходніх гаворках; таму тэмбравую карэляцыю кожнай больш заходняй гаворкі (дакладней, кожную менш устойлівую тэмбравую карэляцыю) мы можам разглядаць як стадыю разбурэння *С—С'*, якая некалі існавала ў балгарскай мове. Часавы (дыяхранічны) працэс аказаўся быццам разгорнутым у прасторы.

Магчыма, правамернасць такога падыходу патрабуе сур'ёзнага абгрунтавання [33]. Аднак нам важна было прасачыць сувязі паміж з'явамі, якія прыводзяць да разбурэння тэмбравай карэляцыі, і выбраная методыка дазваляе, здаецца, зрабіць гэта.

У навуковай літаратуры агульнапрынятай з'яўляецца думка, што пасля падзення рэдуцыраваных ва ўсіх балгарскіх гаворках функцыяніравала тэмбравая карэляцыя, у склад якой уваходзілі цвёрдыя і мяккія прадстаўнікі зубных і губных; усе мяккія зычныя сустракаліся ў канцы слоў і перад іншымі зычнымі; пазіцыямі нейтралізацыі, агульнымі для ўсіх проціпастаўленняў, былі пазіцыі перад [е] і [ѣ], дзе выступалі толькі *С'*; гаворкам быў вядомы гук (*ы*), што сведчыла аб велярызаваным характары цвёрдых. Увогуле ў гаворках балгарскай мовы існавала некалькі ўстойлівая тэмбравая карэляцыя. Заўважым, што гэты стан можна было рэканструяваць, зыходзячы з даных сучасных гаворак, і іменна таму мы з упэўненасцю гаворым аб тэндэнцыі да разбурэння

Табліца 2

**Характарыстыка проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў балгарскіх гаворках**

| Гаворкі | Мяккія фанемы | | | | Мяккія фанемы рэалізуюцца | | Агульная п. н. для ўсіх проціпастаўленняў | Наяўнасць асобных п. н. для фанем | | | | Мяккія гукі ў канцы слоў | | | | Мяккія гукі перад зычнымі | | | | Спалучэнні $C + й$ | | | | Наяўнасць (ы)—варыянта [i] |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Л | Д | Г | Плт | Плтз | Плт | | Л | Д | Г | Плт | Л | Д | Г | Плт | Л | Д | Г | Плт | Л | Д | Г | Плт | |
| в. Нова Надзежда | + | + | + | | + | | + | — | — | — | | + | + | + | | + | + | + | | — | — | — | | — |
| в. Крынічнае (Чэшма-Варуіта) | + | + | + | | + | | + | + | — | + | | — | + | — | | — | + | — | | — | — | — | | — |
| в. Ціхамір | + | + | + | | + | | + | + | — | + | | (+) | ∓ | — | | — | + | — | | — | — | — | | + |
| в. Мамчылаўцы | + | + | + | | + | | + | + | — | + | | (+) | + | — | | — | + | — | | — | — | — | | — |
| в. Твырдзіца | + | + | + | | + | | + | — | — | — | | — | — | — | | — | ± | — | | — | — | — | | — |
| Странджанская | + | + | + | | + | ± | + | | | | | — | ± | — | | — | ± | — | | — | — | — | | — |
| в. Бела-Чэрква | + | + | + | | + | | +? | + | + | + | | — | ∓ | — | | — | ± | — | | — | — | — | | — |
| Цяцевенская | + | + | + | | + | | + | + | + | + | | — | — | — | | — | — | — | | — | — | — | | — |
| Пірдопская | + | + | + | | + | | + | ? | ? | ? | | — | — | — | | — | — | — | | — | — | — | | — |
| Іхціманская | ± | ± | + | | + | +? | — | | + | + | | — | — | — | | — | — | — | | + | + | — | | — |
| в. Гавядарцы | (+) | (+) | + | | (+) | + | — | | — | + | | — | — | — | (+) | — | — | — | | + | + | — | | — |
| в. Дабраслаўцы | (+) | (+) | + | | (+) | + | — | | (±) | + | | — | — | — | (+) | — | — | — | | + | + | — | | — |
| Разложская | — | + | + | | — | + | — | | — | + | | — | — | — | — | | — | — | | + | + | — | | — |
| в. Габарэ | — | (+) | + | | — | + | — | | ± | + | | — | — | — | + | — | — | (+) | | + | + | — | | — |
| Кюстэндзілская | — | (+) | + | | — | + | — | | — | + | | — | — | — | ± | — | — | (+) | | + | + | — | | — |
| г. Лом | | | | + | | + | — | | — | — | | — | — | — | ± | — | — | — | | + | + | — | | — |

*С—С'* у гісторыі балгарскай мовы, падрабязна разглядаючы даныя толькі сучасных гаворак (у якіх тэмбравая карэляцыя менш устойлівая).

У гаворцы в. Нова Надзежда няма гука (*ы*), які зліўся з (*и*), змякчаючы папярэдні зычны. Тэмбравая карэляцыя аслабілася, але яна захоўвае ўсе асаблівасці стану, які рэканструіруецца для старажытнага перыяду. Таму можна лічыць, што зліццё (*ы*) з (*и*) не выклікае іншых дэпалаталізацыйных працэсаў; магчыма, яно мае нейкія асобныя прычыны. Гэта стане відавочным, калі звярнуцца да ціхамірскай гаворкі, дзе прайшлі інтэнсіўныя дэпалаталізацыйныя працэсы (зацвярдзенне рада зычных у шматлікіх пазіцыях), але гук (*ы*) толькі цяпер зліваецца з (*и*), змякчаючы папярэдні зычны. Такім чынам, у працэсе разбурэння тэмбравай карэляцыі дэвелярызацыя цвёрдых і дэпалаталізацыя мяккіх суіснуюць, але не абумоўліваюць адна другую.

Зацвярдзенне часткі зычных (губных у першую чаргу!) у некаторых пазіцыях (канец слова, перад зычным) прыводзіць да ўтварэння пазіцый нейтралізацыі, асобных для парных губных ці зубных. Гэта, безумоўна, аслабляе функцыянальныя сувязі паміж групамі палаталізаваных фанем, якія рэалізуюцца рознымі па месцы ўтварэння гукамі, і падрыхтоўвае ўмовы для выхаду іх з ліку палаталізаваных. Аднак пры наяўнасці агульнай для ўсіх *С—С'* пазіцыі нейтралізацыі такі працэс з'яўляецца малаверагодным. Мы не гаворым немагчымым, таму што, з аднаго боку, у нашай дыспазіцыі ёсць даныя странджанскай гаворкі, дзе пры наяўнасці агульнай пазіцыі нейтралізацыі адбылася палатацыя часткі палаталізаваных. З другога боку, мы не схільны слепа давяраць даным, якія прыводзяцца ў апісаннях гэтай гаворкі, паколькі яны ў некаторай ступені супярэчаць фактам іншых моў і гаворак.

На тэрыторыі заходнебалгарскіх гаворак мы выявілі незвычайны для ўсходняй Балгарыі вельмі няўстойлівы тып тэмбравай карэляцыі. Ён характарызуецца наяўнасцю нешматлікіх проціпастаўленняў *С—С'*, якія маюць усе адзнакі палатальнага рада, а іменна: мяккія фанемы рэалізуюцца палатальнымі гукамі; дыстрыбуцыя мяккіх жорстка абмежавана, і парныя па цвёрдасці-мяккасці фанемы не маюць агульнай пазіцыі нейтралізацыі, прычым праяўляецца тэндэнцыя і да яе разбурэння (параўн.

даныя гаворкі в. Габарэ, кюстэндзілскай і г. Лом). Адначасова ў кожнай з гэтых гаворак можна прасачыць сляды існавання больш устойлівых тэмбравых карэляцый.

Гэтыя назіранні наводзяць на думку, што інтэнсіўнае разбурэнне тэмбравай карэляцыі ў заходнебалгарскіх гаворках абумоўлена адсутнасцю ў іх пазіцыі нейтралізацыі, агульнай для ўсіх проціпастаўленняў *С—С'*. Можна паказаць, што пазіцыі нейтралізацыі такога роду ліквідаваліся ў гэтай зоне ў выніку зліцця (ь) з (ъ) і (ѣ) з (*е*). Пасля гэтага разбурэнне *С—С'* робіцца непазбежным. Мяккія губныя пачынаюць або зацвердзяваць, або расшчапляцца на *С+й*; тое ж здараецца з зубнымі, частка якіх перажывае палатацыю, як і заднепаднябення; канчаткова разбураюцца астатнія пазіцыі нейтралізацыі. Усе гэтыя працэсы мы і назіралі ў заходнебалгарскіх гаворках.

У той жа час пакуль што немагчыма прадбачыць, у якой пазіцыі мяккія стануць палатальнымі, а ў якой яны дэпалаталізуюцца. Пакуль што невядома, напрыклад, чаму ў кюстэндзілскай гаворцы мяккія (*т*) і (*д*) у націскным складзе расшчапіліся на *С+й* (*адетйé, целатйé, канатйé, симидйé*), а ў ненаціскным сталі палатальнымі (*грóзѓе, лýѓе, аргáḱе, брéсḱе, арнаýḱе*), чаму ў адных гаворках канечныя зубныя зацвярдзелі, а ў іншых (часта суседніх) яны захавалі мяккасць.

Мы выявілі толькі ўвогуле, што дэпалаталізацыя і палатацыя сапраўды з'яўляюцца працэсамі, якія разбураюць проціпастаўленні *С—С'*; яны непазбежна адбываюцца ў мове, калі гэтыя проціпастаўленні не маюць агульнай пазіцыі нейтралізацыі. Дадзеная залежнасць не павінна здзівіць, калі ўлічваць, што тэмбравая карэляцыя з'яўляецца ф у н к ц ы я н а л ь н ы м  а д з і н с т в а м, паколькі ў рамках яе аб'ядноўваюцца прадстаўнікі розных лакальных радоў. Гэта функцыянальнае адзінства, каб існаваць і быць устойлівым, павінна праяўляцца і падтрымлівацца нейкім рэальным чынам. Інакш, каб стаць фактам мовы, іменна фактам фанетычнай сістэмы, яно павінна пацвярджацца сродкамі мовы. Нашы назіранні дазваляюць меркаваць, што такім сродкам для тэмбравай карэляцыі і з'яўляецца нейтралізацыя ўсіх яе апазіцый у адной і той жа пазіцыі, а наколькі гэта дакладна, павінен паказаць аналіз фактаў гісторыі польскай мовы, да якога мы пераходзім.

# ТЭМБРАВАЯ КАРЭЛЯЦЫЯ *С—С'* У ГІСТОРЫІ ПОЛЬСКАЙ МОВЫ

Канчатковае станаўленне тэмбравай карэляцыі цвёрдых і мяккіх зычных у польскай мове звязана з дэпалаталізацыямі галосных *ě* > *'a*, *ę* > *'ǫ* і *e* > *'o*[34].

Вядома, што пераход *ě* > *'a* пасля зычных у пазіцыі перад цвёрдымі зубнымі ахапіў усе польскія дыялекты, параўн. *biały*<**b'ělъi*, *biada*<**b'ěda*, *ciało*<**t'ělo*, *dziad*< < **d'ědъ*, *kwiat* < **k͡w'ětъ*, *lato* < **l'ěto*, *miara* < **m'ěra*, *siano* < **s'ěno*, *gniazdo* < **gn'ězdo*, *wiara* < **v'ěra*, *strzała*< < **str'ěla*, *ofiara* < **of'ěra* (запазычанне другой палавіны X ст.), але *krzepki*, *chleb*, *niemy*, *chlew*, *rzeka*, *bieg*, *miech*< **kr'ěpъkъ*, **xl'ěvъ*, **n'ěmъį*, **r'ěka*, **b'ěgъ* і інш.

У адным з самых старых помнікаў польскай мовы — Буле гнезненскай (1136 г.) — вынікі пераходу *ě* > *'a* ўжо адлюстраваліся, напрыклад, *Balounz*, *Balouezici*, *Balossa* (=*Białowąs*, *Białowiezycy*, *Białosza*); нават у хроніцы Цытмара (1015 г.) знаходзім *Diadosici* =*Diadoszanie*[35]. Дэпалаталізацыя (*ě*) адбылася ў кашубскіх і палабскіх гаворках, што дае падставу лічыць яе з'явай агульналяхіцкай.

У мазавецкіх гаворках *ě*>*'a* не пераходзіла ў цэлым радзе слоў у пазіцыі пасля губных. Па даных MAGP, вымаўленне (*e*) у *ofiera* сустракаецца толькі ў наваколлі Альштына (MAGP, т. II, карта № 90), некалькі шырэй распаўсюджана *wietrz* (карта № 84), фактычна ва ўсіх гаворках на поўнач ад Віслы — Сана вымаўляюць *wietrak* (карта № 85) і *opowiedać* (з варыянтамі, карта № 88). Ізаглоса адсутнасці *ě*>*'a*, якую выкрэсліў С. Урбанчык у сваёй дыялекталогіі[36] (Мальбарк—Добжын— па цячэнню Віслы да Варшавы — паўночней Брока — на поўнач ад Сувалак), з улікам даных MAGP павінна лічыцца вельмі грубым прыбліжэннем.

Адсутнасць *ě*>*'a* ва ўказаных выпадках Г. Канечна разглядала як з'яву другасную, аб чым, на яе думку, сведчаць старапольскія дублеты *obieta*/*obiata*, *niewiesta*/*niewiasta*[37]; іншыя вучоныя прызнаюць яе спрадвечнай[38]. Важна, што прыведзеныя дублеты сведчаць аб непаслядоўным змяненні (*ě*) пасля мяккіх губных у выпадках, якія не захаваліся ў сучасных гаворках, і, такім чынам, пасля ажыццяўлення пераходу *ě*>*'a* проціпастаўленні мяккіх і цвёрдых губных у некаторых гавор-

ках аказаліся менш устойлівымі, чым аналагічныя проціпастаўленні зубных.

Ёсць меркаванне, што прапольскае (ę) змянілася ў (’ǫ) пасля мяккіх перад цвёрдымі зубнымі таксама ў дагістарычную эпоху, як паказваюць наступныя формы, засведчаныя ў Буле гнезненскай: *Zuant* (=*Swią̊t*), *Zuantos* (=*Swią̊tosz*), *Boranto* (=*Borzą̊ta*), *Transouo* (=*Trzą̊sowo*), *Chanstobor* (=*Czą̊stobor*)[39]. Гэты пераход, безумоўна, меў значэнне для ўмацавання тэмбравай карэляцыі, аднак вынікі яго зацямніліся пазнейшымі *ę̄, ą̄*>*ą̄* і *ę̆, ą̆*>*ę̆* (XIV ст.) і далейшай эвалюцыяй (*ą̄*) і (*ę̄*) у польскіх гаворках. Таму мы будзем прымаць пад увагу толькі канечны этап развіцця (*ą̄*) і (*ę̄*).

Трэцяй вядомай перагаласоўкай у прапольскіх гаворках быў пераход *e*>*’o* ў той жа пазіцыі, што і ў двух папярэдніх выпадках: *biodro*<**b’edro*, *brzoza*<**br’eza*, *cios*<**t’es*, *czoło*<**čelo*, *jezioro*<**jez’ero*, *miod*<**m’edъ*, *miotła*<**m’etla*, *plon*<**pl’en*, *pioro*<**p’ero*, *siostra*<**s’estra* і інш.

Тут таксама «адзначыліся» мяккія губныя: пасля іх у малапольскіх і заходнемазавецкіх гаворках *e*>*’o* не пераходзіла ў шматлікіх выпадках, параўн. сучасныя дыялектныя формы *b’edro*, *v’esna*, *p’erûn*, *m’etła*[40]. З другога боку, у паўночнай Польшчы сустракаем *v’ołna*, *m’ołł*, *m’ołty*, *p’ołł* замест *wełna*, *mełł*, *mełty*, *pełł*[41].

У выніку пералічаных перагаласовак у польскіх гаворках з’явіліся мяккія зычныя, якасць якіх не была абумоўлена пазіцыяй (перад заднімі галоснымі), г. зн. з’явіліся мяккія фанемы.

Мы нанеслі на карту ізаглосы слоў, у якіх (*ě*) у (*a*) і (*e*) у (*o*) пераходзілі пасля мяккіх губных непаслядоўна (гл. карту-схему 2). Аказваецца ў зоне непаслядоўнага пераходу *ě*>*’a* больш інтэнсіўна змянялася *e*>*’o*. Такім чынам, пасля гэтых перагаласовак у абсалютнай большасці польскіх гаворак побач з мяккімі зубнымі з’явіліся мяккія губныя фанемы, і парнымі па цвёрдасці-мяккасці сталі *p—p’, b—b’, v—v’, m—m’, f—f’, t—t’, d—d’, s—s’, z—z’, n—n’, l—l’, r—r’*. Няпарнымі былі мяккія, відаць, палатальныя [*š*], [*ž*], [*č*], палаталізаваны [*c’*] і заднепаднябенныя [*k*], [*g*], [*x*].



Карта-схема 2. Умоўныя абазначэнні:

тэрыторыя *ě>'a* (паводле С. Урбанчыка)

*ofiera* (карта № 90 MAGP)

*wietrz* (карта № 84 MAGP)

*wiedro* (карта № 86 MAGP)

*zawiesy* (карта № 87 MAGP)

*wietrak* (карта № 85 MAGP)

зона адсутнасці *e>'o* (паводле С. Урбанчыка)

паўднёвая мяжа распаўсюджання *m'oll, v'ollna* (паводле С. Урбанчыка).

Пасля ўтварэння складоў *C'a*, *C'o* гук (*y*) = (*ы*) прадстаўляе ўжо не самастойную фанему, але робіцца варыянтам фанемы [*i*] пасля цвёрдых зычных; параўн.: **b'it'i* — **byt'i*, **myt'i* — **nogam'i*, **l'asy* — **s'ila*, **p'it'i* — **pył*, дзе зычныя перад (*i*), (*y*) прадстаўляюць асобныя фанемы [*b*] *i* [*b'*], [*m*] *i* [*m'*] і г. д.

Перад (*ь*) усе зычныя былі мяккімі, як паказвае адсутнасць перагаласовак у наступных прыкладах: *biedny* < **b'ědьnъ* (*biada*), *gwiezdny* < **gw'ězdьnъ* (*gwiezda*), *kwietni* < **kv'ětьnъ* (*kwiat*), *miernik* < **m'ěrьnikъ* (*miara*), *bierny* < **b'erьnъ* (*biorę*), *sienny* < **s'ěnьnъ* (*siano*), *sielski* < **s'elьskъ* (*sioło*). Пазіцыя перад (*ь*) можа лічыцца пасіўнай пазіцыяй нейтралізацыі для парных па цвёрдасці-мяккасці (паколькі самой нейтралізацыі, г. зн. чаргаванняў *C* — *C'* з прычыны з'яўлення *C* перад (*ь*), не адбывалася). Аналагічна мяккія і цвёрдыя былі размеркаваны адносна *'ę* < ѧ: зычныя ў гэтай пазіцыі заўсёды былі мяккія, але нейтралізацыі *C* — *C'* не адбывалася; параўн.: **im'ę*, **pl'em'ę* — **im'en'e*, **pl'em'en'e*, усюды па мяккай аснове.

Усе зычныя былі мяккімі перад (*e*) і (*ě*). У адрозненне ад двух папярэдніх выпадкаў пры словазмяненні і словаўтварэнні часта адбывалася чаргаванне *C* — *C'*, якое выклікалася з'яўленнем перад *C* гукаў (*e*) і (*ě*); параўн. назоўны склон адзіночнага ліку **rodъ*, **vozъ*, **rabъ* — месны склон **rod'ě*, **voz'ě*, **rab'ě*; клічная форма **rod'e*, **voz'e*, **rab'e*; месны склон множнага ліку **rod'ěx*, **voz'ěx*, **rab'ěx*; пры скланенні назоўнікаў жаночага роду: **voda*, **robota*, **glova* — давальны і месны склоны адзіночнага ліку **vod'ě*, **robot'ě*, **glov'ě*; аналагічныя чаргаванні адбываліся ў цэлым радзе выпадкаў. На падставе гэтага можна лічыць, што пазіцыя перад (*e*), (*ě*) была (актыўнай) пазіцыяй нейтралізацыі для ўсіх пар цвёрдых і мяккіх.

Вялікае значэнне для лёсу тэмбравай карэляцыі *C*—*C'* у польскай мове мела падзенне ераў. У гэтай з'яве трэба адрозніваць два моманты: збліжэнне тэмбраў (*ь*) і (*ъ*) да супадзення ў адным гуку; уласна падзенне слабых і праясненне моцных ераў. Некаторыя даследчыкі дапускаюць, што ў гаворках рэфлекс (*ъ*) быў лабіялізаваным, як сведчаць напісанні *Lokna* (1153 г.), *Lukna* (XIII в.) побач з *Lekna* (1136 г.); *sciremusine* (1146 г.) — сучасн. *Trzemeszno* < **čermъšьno*[42]. Аднак гэта праблема не распрацавана ў польскім моваазнаўстве, і таму мы не будзем закранаць яе.

Падзенне слабога (*ь*) абумовіла з'яўленне мяккіх у канцы слоў і перад цвёрдымі, параўн.: **kost'* < **kostь* (сучасн. *kość*), **s'ěn'* < **sěnь* (сучасн. *sień*), **sol'* < **solь* (сучасн. *sól*), **t'ma* < **tьma* (сучасн. *ćma*). Не зусім ясна, ці захоўвалася мяккасць губных у пазіцыі перад зычнымі: у сучасных гаворках не знаходзім якіх-небудзь слядоў іх старой мяккасці, параўн.: *pńa* < **pьn'a*, *mrę* < **mьrę*, *wczoraj* < **vьčera*, *psa* < **pьsa*, *wsi* < **vьsi* (*wieś*), *brać* < **bьrat'*, *kupćie* < **kupьt'e*, *grzebcie* < **gr'ebьt'e*.

Канцавыя мяккія губныя ў польскай мове існавалі. Напісанні *dróṕ*, *dróḃ*, *gołąḃ*, *kuṕ*, *grzeḃ* сустракаліся яшчэ ў XIX ст., але ў народных гаворках яны зніклі значна раней, да XVII ст.[43] На іх існаванне ўказваюць формы *karpś*, *karṕx*, *gou̯ompś*, *gou̯omṕx*, *gou̯omṕ* у сучасных гаворках Вармії і Мазур[44].

Ёсць падставы меркаваць, што ўсе зубныя захоўвалі мяккасць пасля знікнення перад імі слабога (*ь*): **we d'n'e* < **we dьn'e*, **t'nq*, **d'rq*, **pis'mo*, **os'ła*, **koz'ła*.

Пасля праяснення (*ь*) у польскіх гаворках функцыяніравалі (*e*) з *(*e*), *(*ě*) і *(*ь*), напрыклад, у словах **d'en'* < **dьnь*, **w l'es'e* < **wъ lěsě*, **na br'ez'e* < **na brezě*, дзе зычныя перад (*e*) былі мяккімі. Але існавала яшчэ (*e*) з *(*ъ*), перад якім зычныя былі заўсёды цвёрдымі: *sen* < **sъnъ*, *we* < **wъ*, *domek* < **domъkъ*, *wozek* < **wozъkъ*, *bez* < **bъzъ*, *mech* < **mъxъ*, *deszcz* < **dъždь*. Гэта, на думку А. Фурдаля, быццам умацавала тэмбравую карэляцыю, паколькі «зрабіла ўплыў на павелічэнне незалежнасці мяккіх і цвёрдых зычных ад суседніх галосных»[45]. Аднак з'яўленне *Ce* побач з *C'e* азначала таксама ліквідацыю агульнай для ўсіх проціпастаўленняў *C—C'* пазіцыі нейтралізацыі—пазіцыі перад [*e*]. Сапраўды, пры наяўнасці слоў тыпу **bez*, **sen*, **desk*, **dąbek* чаргаванні **rod* — **rod'ě*, **n'esą* — **n'es'eš*, **dąb* — **dęb'e* і інш. не могуць лічыцца пазіцыйнымі, але павінны разглядацца як чаргаванне асноў **rod-* — **rod'-*, **n'es-* — **n'es'-*.

Як вядома, у дагістарычны перыяд у польскіх гаворках існавала *ē* < *ě*, *ě*, перад якім усе зычныя былі мяккімі: **nar'ēkat'*, **p'ēr'e*, **w'ēst'*, **n'ēst'*, **b'ēg*, **chl'ēw*, **sw'ēca*, **b'ēlmo*. Некаторы час пазіцыя перад [*ē*] магла быць пазіцыяй нейтралізацыі для ўсіх *C — C'*. Але ў эпоху падзення рэдуцыраваных адбылося сцягванне ў канчатках *-oje*, *-eje*, *-yje*, *-aje*, і новае (*ē*), якое ўзнікла ў выніку яго, не

змякчала папярэдні зычны: *istē ziemie* (Kgn), *ludziem dobrē wole* (Kgn), *we złē chustki* (Kśw), *bolesci smiertelnē* (Pfl), *człowieka grzecznēgo* (Kśw), *nagłēgo padnienia* (Pfl)[46] (знак даўжыні ў гэтых прыкладах пастаўлены намі—В. Ч.).

Такім чынам, пасля падзення рэдуцыраваных і сцягвання канчаткаў у польскіх гаворках з'явіліся цвёрдыя зычныя перад [e], [ē], што азначала ліквідацыю ўсіх пазіцый нейтралізацыі, агульных для проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці. Абапіраючыся на вопыт аналізу даных балгарскіх гаворак, можна чакаць, што ў гэтай сітуацыі пачнецца разбурэнне тэмбравай карэляцыі і мы зможам назіраць працэсы, аналагічныя тым, якія назіралі ў заходнебалгарскіх гаворках. Праверым гэтыя прагнозы.

Як вядома, у польскіх гаворках не захавалася якіхнебудзь слядоў мяккасці губных перад зычным: *brać< <*bьrati, pńa<*pьn'a* (параўн. сучасн. *pień*), *kupcie< <*kupьt'e;* відаць, яны вельмі рана яе страцілі. У выніку гэтай дэпалаталізацыі пазіцыя перад зычнай стала пазіцыяй нейтралізацыі для *p—p', b—b', m—m', v—v'*. Нейтралізацыя адбывалася пры чаргаваннях тыпу *pień— pńa, wieś—wsi,* пры спражэнні шматлікіх дзеясловаў з асновай на мяккі губны тыпу *kupić—kupcie.*

Пасля падзення рэдуцыраваных усе мяккія губныя сустракаліся ў канцы слоў. Іх мяккасць абазначалася ў помніках XVI ст.: *rób', jedwab', wab', skub', krew', modrew', hayw', kotew'*. «Пра тое, што напісанне адпавядала вымаўленню, сведчыць хоць бы заўвага Стаеньскага аб тым, што «*b* cum sibilo quodam effertur» у пералічаных вышэй словах ... Аб мяккасці губных і губна-зубных піша ў сваім трактаце аб арфаграфіі Янушэўскі. Цяжка выявіць, калі мяккія губныя і губна-зубныя зніклі з вымаўлення адукаваных палякаў», але ёсць падставы лічыць, што працэс зацвярдзення закончыўся ўжо ў XIV— XV стст.[47]

У сучасны момант канцавыя мяккія губныя сустракаюцца ў некаторых словах у мазавецкіх дыялектах на поўнач ад Варшавы паміж рр. Бугам і Вкрой (паўднёвае Курп'е і паўднёва-заходняя частка далёкага Мазоўша), дзе адзначаны, напрыклад, *karp', gouomp'*[48]. У астатніх дыялектах — на Мазурах, у Варміі, на паўночным Кацэўі, у мальборска-грудзянска-любаўскіх гаворках — існуе вымаўленне *kurpx́, karpx́, i̯edvåpx́, gouompx́, głępx́,*

а часам нават *påx́, ołux́, påf̂x́, ołůfx́*[49]. На паўночным Мазоўшы, на Мазурах і Варміі пасля (*p*) можа гучаць (*ś*): *kurpś, karpś*[50]. Палатальныя гукі (*x́*), (*ṡ*) прадстаўляюць сабою ў гэтых выпадках «адасобленую» мяккасць канцавых губных. Побач з «асінхронным» вымаўленнем мяккіх губных усюды ў разглядаемых дыялектах — і гэта вельмі характэрна! — назіраюцца таксама цвёрдыя губныя (без наступнага палатальнага); параўн.: *kup, zrůp, můf, kref, marx́ef, xorąǵef*[51].

Польскія мовазнаўцы вельмі дакладна апісалі артыкуляцыйны механізм «адасаблення мяккасці» ў губных, іх дэкампазіцыі. Напрыклад, Г. Фрыдрых лічыў, што гэта адбываецца з прычыны «прасоўвання цэнтра артыкуляцыйнага намагання з губнога элемента на палатальны»[52]. А. Фурдаль падкрэсліваў ролю асінхроннасці руху губ і языка пры дэкампазіцыі; ён прапанаваў і іншыя тлумачэнні[53]. Аднак прычыну развіцця асінхроннага вымаўлення мовазнаўцы звычайна бачаць у «тэндэнцыі да моцнай палаталізацыі», якая быццам бы існуе ў паўночных польскіх гаворках[54].

Але такому разуменню дэкампазіцыі не адпавядае яе канчатковы вынік, а іменна зацвярдзенне мяккіх зычных (параўн. *p'>px́, pś, pj*). І як растлумачыць даныя Г. Здуньскай, што побач з распаўсюджанымі *karpx́, karpś* у абследаваных ёю гаворках сустракаюцца *zrub, zbaw, łam*; што ў адных і тых жа пунктах суіснуюць як *gouomp, karpx́*, так і *gouompx́, karp*?[55].

Як паказвае само суіснаванне розных рэфлексаў старых мяккіх губных, зацвярдзенне іх і дэкампазіцыя з'яўляюцца ў гэтым выпадку раўнапраўнымі дэпалаталізацыйнымі працэсамі. На выбар аднаго ці другога віду дэпалаталізацыі ўплываюць як фанетычныя, так і марфалагічныя фактары (параўн. заўвагу К. Ніча аб значэнні аналогіі для зацвярдзення губных у 2-й асобе адзіночнага ліку загаднага ладу). Існаванне ж двух відаў дэпалаталізацыі мяккіх губных абумоўлена, відаць, іх фанетычнай прыродай. Сапраўды, добра вядома і цалкам зразумела, што губная і палатальная артыкуляцыі дрэнна сумяшчаюцца, і мяккія губныя з прычыны гэтага ўвогуле лёгка губляюць сваю мяккасць. У польскіх гаворках, аднак, узнікла тэндэнцыя да моцнай палаталізацыі, г. зн. да палатацыі мяккіх губных. Але палатальная

артыкуляцыя не можа стаць адзнакай роду ў губных, таму адбываецца дэкампазіцыя мяккіх як свайго роду кампраміснае рашэнне. У далейшым палатальнасць спалучэнняў *Cx́, Cś, Cj* можа аказацца больш важнай, і тады губная артыкуляцыя ў іх пачынае аслабяваць да поўнага знікнення; параўн.: *karś*<*karpś*<*karp'*.

Дэпалаталізацыя мяккіх канцавых губных не толькі абмежавала іх дыстрыбуцыю; вынікам яе было таксама ўтварэнне яшчэ адной пазіцыі нейтралізацыі толькі пар *p—p', b—b', m—m', v—v', f—f'*, што садзейнічала далейшаму адасабленню іх ад парных па цвёрдасці-мяккасці зубных.

Па даных MAGP (т. V, карта № 213; т. VIII, карты № 351—353), ва ўсёй паўночнай Польшчы назіраецца асінхроннае вымаўленне мяккіх губных у групах *C'V*. Інакш кажучы, на гэтай тэрыторыі замест старых мяккіх *(b'), (p'), (v'), (m') (f')* выступаюць спалучэнні «цвёрды губны+палатальны зычны». Якасць гэтага палатальнага значна вар'іруецца на паўночным усходзе, дзе сустракаем *px́, bγ́, pś, bź, pš́, bž́,* калі-нікалі $px^{ś}$ і нават *pš* (у некаторых населеных пунктах). Дзе-нідзе адзначана мяккасць губнога перад палатальным спірантам — *p'x́*. Для паўночна-заходняй Польшчы больш характэрнымі з'яўляюцца *pj, bj* ці *p'j, b'j* (карта № 351 MAGP). Гэтыя ж спалучэнні адзначаны ў 15 населеных пунктах усходняй і паўночна-заходняй Польшчы. Больш аднастайнымі на адзначаных тэрыторыях з'яўляюцца рэфлексы *(m')* і *(w')*. Стары мяккі *(m')* звычайна дае *mń*, у адным пункце адзначана *m'ń*; *(v')* звычайна расшчапляецца на *vj*, часам на *v'j*. Прыблізна супадаюць ізаглосы адпадзення *(v)* і *(m)* у групах *C*+палатальны, г. зн. *mń, vγ́, vż, vž́* (<*m', v'*)>*ń*, ,*γ́ ż, ž́*, якія ахопліваюць Вармію, Мазуры і паўночна-ўсходняе Мазоўша.

Разглядаючы геаграфію рэфлексаў *ě*>*'a*, мы адзначылі, што колькасць перагаласовак *ě*>*'a* змяншаецца з прасоўваннем на поўнач, а пераход *e*>*'o* пасля губных слабей закрануў усходнія і паўднёва-ўсходнія дыялекты. Пазней выявілася, што дэкампазіцыя мяккіх губных найбольш інтэнсіўна адбылася ў паўночнай Польшчы і што іменна ў паўднёвых і паўднёва-ўсходніх дыялектах адзначана шмат выпадкаў асінхроннага вымаўлення *(p')*

і (*b'*). Гэта супадзенне вельмі добра ілюструе сутнасць дэкампазіцыі як дэпалаталізацыйнага працэсу: зусім заканамерна ён праходзіў больш інтэнсіўна ў тых гаворках, дзе проціпастаўленні цвёрдых і мяккіх губных былі менш устойлівымі.

Мяккія губныя з прычыны дэкампазіцыі ва ўсіх групах *C'V* перасталі сустракацца перад галоснымі, а ў тых гаворках, дзе адзначаны *p'x́, b'γ́, m'ń, v'j*, яны сталі пазіцыйнымі варыянтамі адпаведных цвёрдых фанем. У выніку цвёрдыя губныя ў радзе гаворак згубілі мяккія адпаведнікі. Парнымі па цвёрдасці-мяккасці засталіся толькі дэнтальныя [*t*], [*d*], [*s*], [*z*], [*n*], [*l*], і, такім чынам, мяккія фанемы ў іх ствараюць палатальны рад, як гэта прызнаў Э. Станкевіч: «Рад польскіх дыялектаў не мае апазіцыі палаталізаваны—непалаталізаваны лабіяльны. Адрозненне палаталізаваных і непалаталізаваных зычных ... не існуе на большай частцы паўночна-ўсходняй Польшчы»[56]. Гэта, аднак, не датычыцца тых паўночных, а таксама велікапольскіх, шлёнскіх і малапольскіх гаворак, у якіх узніклі фанемы [*к'*], [*g'*], [*x'*].

Тэндэнцыя да асінхроннага вымаўлення мяккіх губных у той ці іншай ступені назіраецца ва ўсіх гаворках польскай мовы і ў польскай літаратурнай мове. «У польскай мове мы маем наогул высокую ступень мяккасці,— пісаў О. Брок,— у губных «*i*-тавую», нават ступень вузкага *i*; таму перад (*e*) (напрыклад, *wiejski, wspięcie*) звычайна гучыць *w͡ⁱe, p͡ⁱe*»[57]. Адзначалі гэта Я. Развадоўскі, К. Ніч, А. Фурдаль[58], а таксама З. Фаляеўскі: «Што датычыцца прынцыпаў вымаўлення, то трэба заўважыць, што існуе больш ці менш агульная тэндэнцыя ў сучаснай польскай мове да ідэнтыфікацыі груп *bj, pj, mj, fj* з *b', p', m', v', f'*; адрозненне *b'—bj, p'—pj* і г. д., аднак, яшчэ існуе»[59]. Вельмі рашуча выказаўся ў свой час Г. Л. Трэйджэр: «Мы сцвярджаем, што не існуе ніякай розніцы паміж шобераўскімі *p', b', m', f', v'* і групамі *pj, bj, mj, fj, vj*: у абодвух выпадках вымаўляецца адно і тое ж, а іменна палаталізаваны зычны, за якім ідзе выразны йот, як у выпадках *objad, objasnić, wjazd, wiezie*»[60]. Ён не ўлічыў, аднак, што разгледжаная тэндэнцыя закранае мяккія губныя ва ўсіх групах *C'V*, акрамя пазіцыі перад (*i*), дзе стабільна вымаўляюцца *b'ić, p'ić, m'iły, w'ino*, і, нягледзячы на тэндэнцыю да асінхроннага вымаўлення,

губныя ў літаратурнай мове ўсё роўна проціпастаўляюцца перад [*i*]; параўн.: *b'ić—być, m'iły—mydło.*

У радзе выпадкаў мяккія губныя ў польскіх гаворках наогул згубілі мяккасць перад галоснымі. Найбольш распаўсюджана зацвярдзенне ў канчатку творнага склону множнага ліку, якое назіраецца на ўсёй тэрыторыі Польшчы (за выключэннем часткі шлёнскіх і велікапольскіх гаворак), у давальным склоне адзіночнага ліку энклізікі *m'i*, у займенніку *m'ę* (він. скл. адз. л.; гл. карту-схему 3). «Дэпалаталізацыя ст.-польск. (*w'*) у групе *św'* слова *świńa* распаўсюджана на вялізнай тэрыторыі, якая ахоплівае Мазоўша з сумежнымі раёнамі, значную частку Памор'я і паўночную частку Малапольшчы да Мелец, Дэмбіцэ і Калбушова...» (MAGP, t. VII, cz. 2, стар. 25).

Пяройдзем зараз да разгляду лёсу мяккіх зубных палаталізаваных у гісторыі польскай мовы і яе дыялектаў.

Ёсць доказы таго, што пасля падзення рэдуцыраваных мяккія (*t*) і (*d*) былі палаталізаванымі зычнымі. Мяркуючы па напісаннях *Spitimir, Godes, Vrotis,* яны былі ўласцівы аўтару Булы гнезненскай, але ўжо ў Трэбніцкім прывілеі 1204 г. сустракаюцца *Braces, Cessata, Cehost, Cih* (=сучасн. *Braciesz, Cieczęta, Ciechost, Cich*). «Паступова павялічваецца ў дакументах колькасць прыкладаў на напісанні *c, dz* для абазначэння, безумоўна, ужо наяўных у XIII ст. афрыкат *ć, dź* на месцы раннегістарычных (*t'*), (*d'*)»[61]. Спасылкі на графіку заўсёды можна аспрэчваць. Больш пераканаўчымі з'яўляюцца, на наш погляд, разважанні А. Фурдаля, які заўважыў, што своеасаблівае развіццё праславянскіх *š, *ž, *dž, *č, якія ўзніклі ў выніку першай палаталізацыі, іменна іх зліццё са свісцячымі на большай частцы польскай тэрыторыі (мазужэнне) і захоўванне імі шыпячага характару ў рэшце гаворак, сведчыць аб палатальным характары гэтых гукаў. Новыя польскія *ć, dź*<*t', d'* таксама з'яўляюцца палатальнымі. Калі б і тыя і другія суіснавалі аднычасова, то зліццё іх было б непазбежным, але гэтага не адбылося ні ў адной польскай гаворцы. Таму палатацыю *t', d'*>*ć, dź* нельга лічыць з'явай дагістарычнай[62].

Аналагічна можна меркаваць і аб палатацыі *s', z'*>*ś, ź*: яна адбылася ў хуткім часе пасля падзення рэдуцыраваных. Датаваць гэту з'яву цяжка, паколькі

якасць мяккіх сібілянтаў не абазначалася ў старапольскіх помніках якім-небудзь спецыяльным знакам, але можна дапусціць, што палатацыя *s'*, *z'*>*ś*, *ź* адбывалася паралельна з *t'*, *d'*>*ć*, *dź*.

У польскай літаратурнай мове і некаторых сярэднепольскіх гаворках характар мяккага (*n*) даследаваўся інструментальнымі метадамі, і назіранні даследчыкаў паказалі, што мяккі насавы набліжаецца да палатальнага (г. зн. сярэднеязычнага — сярэднепаднябеннага гука) [63]. Аб'ектыўным доказам гэтага можа лічыцца яго здольнасць выступаць у якасці эпентэзы пасля *m*<*m'*, параўн.: *mńasto*, *ńasto* і інш.

Агульнапрынятай з'яўляецца думка аб тым, што пераход **r'*>*ř*>*ž* (*š*), які ахапіў большую частку польскай тэрыторыі, адбыўся ў выніку «ўзмоцненай мяккасці» (*r'*): «Праславянскае *r'* з-за перавагі палатальнага элемента, сутнасць якога была ў тым, што пярэдняя частка языка падымалася да цвёрдага нёба, пераўтварылася з дрыжачага сананта ў дрыжачы-фрыкатыўны...; відавочна, яно было вельмі мяккім» [64]. Цікава адзначыць наяўнасць у некаторых польскіх гаворках Львоўшчыны і Тарнопальшчыны *rž* і *rš* рэфлексаў старапольскага **r'* [65].

З ліку ўсіх мяккіх зубных польскай мовы толькі (*l'*) не пераўтварылася ў палатальны гук. Сучаснае мяккае (*l*) літаратурнай мовы набліжаецца да «сярэднееўрапейскага» (*l*), асабліва перад галоснымі задняга рада. У гаворках яно мае даволі моцную ступень мяккасці перад галоснымі пярэдняга рада, г. зн. з'яўляецца палаталізаваным (*l'*) [66]. Мы лічым, што аб'ектыўным доказам непалатальнага характару (*l*) мяккага служыць тое, што яно нідзе ў польскіх гаворках не выступае ў якасці эпентэтычнага гука пры асінхронным вымаўленні мяккіх губных.

Як бачым, палатацыя палаталізаваных з'яўляецца відавочным фактам гісторыі польскай мовы. Паўстае пытанне аб яе агульных прычынах.

Згодна з гіпотэзай А. Фурдаля, такой прычынай была тэндэнцыя да ўмацавання тэмбравай карэляцыі *C* — *C'*, паколькі ў выніку палатацыі павялічвалася «фанетычная адлегласць» паміж (*t*), (*d*), (*s*), (*z*) і адпаведнымі мяккімі (*ć*), (*dź*), (*ś*), (*ź*) [67].

Але паралельна з палатацыяй зубных у польскіх гаворках развівалася асінхроннае вымаўленне губных, што ні ў якім разе не ўмацоўвала тэмбравую карэляцыю. Акрамя таго, у радзе выпадкаў зацвярдзелі і палаталізаваныя дэнтальныя. Так, (*t'), (*d') згубілі мяккасць у пазіцыі перад мяккімі і цвёрдымі (r), (n), (s): *dre* < **dьrą*, *drze* < **dьretъ*, *we dnie* < **vъ dъně*, *tręз* < **tьrą*, *trze* < **tьretъ*, *tne* < **tьnetъ*, *bracki* < **bratьskъ*, *sąsiedzki* < **sąsedьskъ*. У польскай мове існуюць таксама *obywatel*, *smertelny*, *skazitelny*, *wierzytelny* (пры *zbawiciel*, *odkupiciel*, *przyjacielski*); (*t*) замест (*ć*) тлумачаць у дадзеных прыкладах чэшскім уплывам[68], але, відавочна, тут можна дапусціць і самастойнае развіццё. Старапольскае (*r'*) зацвярдзела перад (ł), (*l*), (*c*), (*s*): *orła* < **orьła*, *w orle* < **orьlě*, *orli* < **orьlьiь*, *starca* < **starьca* і інш. Дваяка развівалася (*r') у пазіцыі перад (*ń*), (*n*). У сучаснай польскай мове маем *wierny* < **věrьnъiь*, *piernik* < **pьrьnikъ*, але ў старапольскай існавалі *srzebrzne*, *knabrzny*, *knabrznie*, як і ў сучаснай *powietrzny*, *wietrznie*, *Jaworzno*[69]. Цікавай з'яўляецца таксама рэфлексацыя (*r') у групе *sr'*: «Амаль што ва ўсёй Польшчы самым частым з'яўляецца тып *środa* (калі-нікалі *siroda*), *śrebło*, *źródło*, якія ў паўночнай Малапольшчы перастаўляюцца (*rśoda* і інш.)»[70]. Адначасова ў частцы польскіх дыялектаў назіраюцца формы *šoda*, *šodek*, *šedni*, дзе *š* < **sž* < **sr'*. Агульнапольскім з'яўляецца зацвярдзенне (*n'*) перад (*n*), (*n'*): *konny*, *konnica*, *ranny*[71]. Па даных Г. Здуньскай, у некаторых з абследаваных ёю вёсак вымаўляюць *Gdajsk*, *ko$^{i}$ński*, *kujski*, *pa$^{i}$ńscizna*, *paj$^{ń}$ski*, *pa$^{i}$ństwo*. Гэтыя варыянты мяккага (*n*), безумоўна, сведчаць аб яго палатальным характары. У іншых вёсках словы тыпу *Gdanska*, *konski*, *panski*, *sfinski*, *słonce* вымаўляюцца з зацвярдзелым (*n*)[72].

У паўночна-ўсходняй Польшчы — на поўнач ад Вепжа, па яго цячэнню на захад, захопліваючы Остраў Мазавецкі, на поўнач да Альштына — (*n'*) зацвярдзела ў словах *tanie*, *tańszy* (гл. карту № 219 MAGP); у заходняй частцы шлёнскіх гаворак, у заходняй Велікапольшчы і ў паўночна-заходніх гаворках, уключаючы Тухольшчыну і заходнюю Хельміншчыну ў гэтых жа словах *n'* > *jn*: *tāinsz-*, *to$^{u}$insz-*, *tainsz-* (гл. карту № 220 MAGP). Дваяка дэпалаталізавала-

ся (*n'*) у слове *słońce*: яно або проста зацвярдзела (*słonc-*), або выдзеліла перад сабой (*j*) — *słojnc-*. Першы рэфлекс назіраецца ва ўсходняй Польшчы, другі — у заходняй, у тым ліку і ў заходнешлёнскіх гаворках (гл. карту № 324 MAGP), дзе *n'* > *jn* ці *n'* > *n* таксама ў слове *bańka* (гл. карту № 325 MAGP).

В. Дабжынскі прыводзіць факты зацвярдзення (*n'*) у адной з шлёнскіх гаворак, якія не заўважыў К. Ніч: *ʒyń*, *xinski*, *i̯ei̯śyń*, *ne*, *nex*, *nei̯ś* і інш.[73] Прыклады на зацвярдзенне (*n'*) можна знайсці ў вялікай колькасці і ў працах аб іншых шлёнскіх гаворках.

Менш за іншыя зубныя «пацярпелі» (*s'), (*z'), якія зацвярдзелі ў нешматлікіх выпадках перад зычнымі: *pismo* < **pisьmo*, *osła* < **osьła*, *kozła* > **kozьla*. У шлёнскіх гаворках нярэдка *s', *z' > *i̯s*, *i̯z*: *ptai̯stfo*, *xrobai̯stfo*[74]. У словах *wesoły*, *wesełу* яны зацвярдзелі таксама перад (*e*)[75]. На большай частцы польскай тэрыторыі (*z*) у групе *źr* слова *źrebię* гучыць мякка, аднак на поўначы Мазоўша, у суседніх гаворках Варміі і Мазур і хелмінска-добжынскай тэрыторыі вымаўляюць *zr-* або *zdr-*, г. зн. з зацвярдзелым (*z') (гл. карту № 4 MAGP). У слове *ziarnko* (*z*) зацвярдзела ў паўднёва-заходніх гаворках на поўдзень ад лініі Аполе — Рыбнік — Мышляніцэ прыблізна да Новага Тарга (гл. карты № 157, 158 MAGP). Тэндэнцыю да зацвярдзення зычных неаднаразова адзначаў пры апісанні паўночнапольскіх дыялектаў К. Ніч[76].

Мы не мелі намеру сістэматызаваць такія прыклады, але і прыведзеных дастаткова, каб узяць пад сумненне гіпотэзу А. Фурдаля аб існаванні ў польскіх гаворках тэндэнцыі да ўмацавання тэмбравай карэляцыі. Наадварот, і палатацыя, і асобныя дэпалаталізацыі, і дэкампазіцыя мяккіх губных — усё гэта сведчыць хутчэй аб аслабленні тэмбравай карэляцыі.

Дваістая рэфлексацыя зубных палаталізаваных абумоўлена іх фанетычнай прыродай: па свайму асноўнаму артыкуляцыйнаму руху яны з'яўляюцца пярэднеязычнымі зубнымі, аднак вялікую ролю пры іх утварэнні адыгрывае прасоўванне сярэдняй спінкі языка (або ўсёй яго масы) уперад-уверх, у напрамку да цвёрдага паднябення. Калі ствараюцца ўмовы для разбурэння тэмбравай карэляцыі, мяккія зубныя «выбіраюць» дэнтальны або палатальны рад.

У польскіх гаворках мяккія зубныя, як правіла, «выбралі» палатацыю; узнікненне (*ś*), (*ź*), (*ć*), (*dź*) лічыцца адной з самых характэрных ляшскіх з'яў, а зацвярдзенне зычных — зусім неарыгінальная з'ява ў славянскім свеце. Таксама ж, як даследчыкі балгарскіх гаворак не звязваюць уласна дэпалаталізацыйныя працэсы і палатацыю, так і зацвярдзенне мяккіх зубных (і губных) у польскіх гаворках разглядаюць асобна ад палатацыі. Але мы змаглі прадказаць увогуле працэсы як аднаго, так і другога роду; гэта, відавочна, азначае, што сувязь паміж імі не выпадковая.

Цяпер засталося коратка разгледзець гісторыю заднепаднябенных у польскай мове. Як ужо адзначалася вышэй, пасля падзення рэдуцыраваных, заднепаднябенныя былі няпарнымі па цвёрдасці-мяккасці. Пераход **gy*, **ky*>*g'i*, *k'i* абумовіў з'яўленне мяккіх варыянтаў фанем [*g*], [*k*] у пазіцыі перад (*i*); змяненне *ke*, *ge* (<**kъ*, **gъ*)>*k'e*, *g'e*, якое адбылося ў XV ст., таксама не прывяло да ўзнікнення мяккіх заднепаднябенных фанем.

У частцы мазавецкіх гаворак і суседніх з імі кацэўскіх, добжынскіх і любаўскіх (*k*) і (*g*) ва ўсіх пазіцыях вымаўляюцца цвёрда: *ręke, noge, bokem, takem*[77]. У гэтых жа гаворках назіраецца і адваротная з'ява, а іменна заднепаднябенныя любога паходжання вымаўляюцца мякка: *ręk'e, nog'e, bok'em rog'em, tak'em*. Значыць, у абодвух выпадках паднябенныя не проціпастаўляюцца па цвёрдасці-мяккасці.

У вялікапольскіх, шлёнскіх і малапольскіх гаворках (*k'*) і (*g'*) могуць зрабіцца самастойнымі фанемамі. Спалучэнні *ke', g'e* ў гэтых гаворках існуюць (параўн.: *bok'em, tak'em*), а ў сувязі з тэндэнцыяй да «аднасавення» (*ę*) у канцы слоў з'явіліся таксама *ke*, *ge*: *ręke*<*ręką*, *noge*<*nogą*. Такім чынам, *k* — *k'*, *g* — *g'* стварылі ў гэтых гаворках пары па цвёрдасці-мяккасці *k* — *k'*, *g* — *g'*; яны не нейтралізуюцца і наогул адносяцца да перыферыйнага слою фанем. Нешта падобнае назіраецца ў польскай літаратурнай мове, дзе [*x*] у сувязі з распаўсюджаннем (пачынаючы з XIX ст.) форм тыпу *wysłuchiwać, podkochiwać* можа набыць пару [*x'*], паколькі *x* — *x'* пачынаюць проціпастаўляцца перад [*i*], параўн.: *chytry*, *chyży*.

Цікава эвалюцыяніравалі заднепаднябенныя ва ўсходнемазурскіх гаворках, дзе яны пераўтварыліся ў палатальныя не толькі перад галоснымі пярэдняга рада (*ḱeta*, *Foǵel*, *x́eux́i*, *syroḱe*, *dųuǵe*, *sux́e*; 1-я асоба адз. л. *px́eḱe*, *moǵe*; він. скл. адз. л. *ryŋḱe*, *noǵe*; а таксама *oǵyń*, *ǵymba*, *cųoγeḱem*, *ńex́ym*, *x̌iba*, *mux́i*, *dax́i*, *sux́i*), але і перад (*a*), якое гучыць пры гэтым як (*ä*) (гук пярэдняга рада ніжняга пад'ёму) ці як (*a*) на ўсходніх межах акрэсленай тэрыторыі: *ryŋǩa*, *ḱavåų*, *noǵa*, *noǵani*, *mux́a*[78]. У гэтых гаворках (*ḱ*), (*ǵ*), (*x́*) прадстаўляюць самастойныя фанемы, парныя з [*k*], [*g*], [*x*]. На жаль, матэрыялы К. Ніча, якімі мы карысталіся, не даюць магчымасці высветліць, у якіх умовах адбываецца нейтралізацыя *k* — *k'*, *g* — *g'*, *x* — *x'* і іншыя асаблівасці іх функцыяніравання.

І, нарэшце, некалькі слоў аб гісторыі гука (*y*) у польскіх гаворках.

На існаванне сувязі паміж наяўнасцю-адсутнасцю ў мове (*y*) (рус. (*ы*)) у якасці варыянта фанемы [*i*] пасля цвёрдых зычных і відам проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ўпершыню ўказаў А. Фурдаль[79]. На думку даследчыка, (*y*) захоўваецца ў тых славянскіх мовах, якія маюць тэмбравую карэляцыю *C* — *C'*. Заўважым, што адваротнае сцвярджэнне з'яўляецца няправільным, паколькі існуюць мовы з гэтай тэмбравай карэляцыяй, але без (*y*), напрыклад балгарская, літоўская, латышская.

Наяўнасць у мове гука (*y*) у якасці варыянта [*i*] пасля цвёрдых зычных сведчыць, безумоўна, аб велярызаваным характары апошніх. У мове з тэмбравай карэляцыяй велярызаванасць з'яўляецца карыснай ў тым сэнсе, што яна садзейнічае лепшаму размежаванню цвёрдых і мяккіх гукаў, павялічвае іх кантраснасць. У мовах з палатальным радам, па нашых даных, (*y*) у якасці варыянта [*i*] не сустракаецца. Такім чынам, пры разбурэнні тэмбравай карэляцыі *C* — *C'* гук (*y*) павінен знікнуць з мовы; яго знікненне адлюструе страту велярызаванасці цвёрдымі зычнымі.

Адносна старапольскай мовы можна з упэўненасцю сцвярджаць, што пасля падзення рэдуцыраваных ва ўсіх польскіх гаворках існаваў гук *y* < праслав.**ū*. Такое становішча захавалася ў польскай літаратурнай мове, параўн.:

ryba, syn, mysz, podarty, ślepy і інш., але ў большасці гаворак яно істотна змянілася. На большай частцы паўночнай, заслянскай Польшчы (па цячэнню Віслы — Вепжа) (y) і (i) не адрозніваюцца. Ва ўсіх выпадках на месцы старога (y) гучыць (i), якое не змякчае папярэдні зычны: riba, sin, miš, zui, ślepi; толькі на самым паўночным усходзе гэтай тэрыторыі адрозніваюцца b'ić — być, śito — syć[80]. Хелмінска-добжынскія гаворкі з'яўляюцца ў гэтым сэнсе пераходнымі: «У адной і той жа вёсцы тут можна пачуць syn, ryby і sin, ribi, а таксама rob'$^{i}$y, śeʒ́y»[81]. Пераходнымі па гэтай адзнацы могуць лічыцца і тыя велікапольскія дыялекты, дзе (y) вымаўляецца як гук, сярэдні паміж (i) і (y), роўны $(y^{i})$ ці ($\overset{i}{y}$): ry$^{i}$ba, $\overset{i}{r}$yba, zły$^{i}$, ślepy$^{i}$, mysy$^{i}$, my$^{i}$, le$\overset{i}{ž}$y[82].

У гаворках Шлёнска, на большай частцы Малапольшчы і ў паўднёва-ўсходняй Польшчы старапольскае ė (< ē, ě) перайшло ў (y): śńyk, śḿyx, xl'yp, v'yřba і інш. Паколькі ў гэтых гаворках (y) выступае таксама і пасля цвёрдых (ryby, myšy, dyšč), то ён прадстаўляе самастойную фанему [y][83]. Галосны (y) пасля мяккіх з фанетычнага пункту погляду, відаць, адрозніваецца ад (y) у ролі варыянта фанемы [i] пасля цвёрдых, але аб гэтым можна толькі здагадвацца — у сучасны момант мы не маем дакладных апісанняў гэтага гука. Падобнае становішча назіраецца ў некаторых паўночных, сумежных з кашубскімі, гаворках, напрыклад у гаворцы в. Своргенацэ, дзе вымаўляюць ʒyfka, ʒȳl, srybro і gńyvac sa, xl'yf, ml'ykoe. Пасля мяккіх губных (y) не сустракаецца ў сувязі з асінхронным вымаўленнем апошніх: sp'jyvac, sv'i̯ycac, sv'i̯yži, zab'$^{i}$yvac, b'i̯yda[84].

На самым поўдні Польшчы, у Падгаллі, пасля s, z, c < s, z, c, š, ž, č вымаўляюцца заўсёды (i): sić, zito, cisty, vłosi, kozi, nazivać, аднак пасля губных спрадвечнае (y) захоўваецца: być, myć[85]. Нарэшце, у частцы малапольскіх дыялектаў (y) змяняецца ў напрамку да (e), як аб гэтым сведчыць яго гучанне $(y^{e})$.

Як бачым, у большасці польскіх гаворак гук (y) перастаў быць варыянтам фанемы (i) пасля цвёрдых зычных; ён або зліўся з (i), або ператварыўся ў самастойную фанему [y]. У частцы гаворак назіраюцца прамежкавыя стадыі яго знікнення $(y^{i})$ ці $(y^{e})$, якія сведчаць

аб тэндэнцыі да зліцця яго з (*i*) ці адпаведна з (*e*). Не выпадкова, на нашу думку, што поўнае зліццё (*y*) з (*i*) адбылося іменна ў гаворках з разбуранай тэмбравай карэляцыяй.

На падставе назіранняў над эвалюцыяй тэмбравай карэляцыі *C — C'* у польскай мове можна зрабіць наступныя вывады. Канцавыя мяккія губныя зацвярдзелі ва ўсіх польскіх гаворках. Яны ці проста згубілі мяккасць, ці расшчапіліся на *C+й* (або іншы палатальны гук); у пазіцыі перад зычным мяккасць губных знікла бясследна.

У паўночных польскіх дыялектах мяккія губныя расшчапіліся перад усімі галоснымі, вынікам чаго была ліквідацыя ў гэтых гаворках проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці у губных. Парнымі тут засталіся *t — ć, d — dź, z — ź, n — ń, l — ĺ*, г. зн. фанемы толькі аднаго (зубнога) рада. Гэтыя проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці стварылі палатальны рад, мяккія фанемы якога рэалізуюцца палатальнымі (*ć*), (*dź*), (*ś*), (*ź*), (*ń*) і палаталізаваным (ці сярэднееўрапейскім) (*l'*). Заднеязычныя дзе-нідзе ў гэтай зоне маюць пазіцыйныя варыянты (*k'*), (*g'*) ці (*ḱ*), (*ǵ*); гук (*y*) зліўся з (*i*), які не змякчае папярэдняга зычнага.

Ва ўсходнемазурскіх гаворках з прычыны *x, k, g*>*x́, ḱ, ǵ* перад (*e*), (*i*), (*y*), (*a*) з'явіліся пары *k — k', g — g', x — x'* побач з *t — t', d — d', s — s', z — z', n — n', l — l'*. Такім чынам, у гэтых гаворках існуе вельмі няўстойлівая тэмбравая карэляцыя, у якой усе мяккія фанемы прадстаўляюцца палатальнымі гукамі.

У астатніх польскіх гаворках функцыяніруе тэмбравая карэляцыя *p → p', b — b', v — v', m — m', f — f', t—t', d—d', s—s', n—n', l—l'*; існуе тэндэнцыя да ўключэння ў лік парных па цвёрдасці-мяккасці *k — k', g — g'*, паколькі ў гэтых гаворках з'явіліся спалучэнні *ke, ge* паралельна з *k'e, g'e*. Мяккія губныя фактычна ва ўсіх гаворках з тэмбравай карэляцыяй схільны да дэкампазіцыі перад галоснымі задняга ряда; моцна яны проціпастаўляюцца толькі перад [i]. Безумоўна, апазіцыі цвёрдых і мяккіх губных з'яўляюцца самым слабым звяном (не ўлічваючы *k—k', g—g'*) у тэмбравай карэляцыі, тым больш што існуе тэндэнцыя да зліцця (*y*) з (*i*). Зубныя палаталізаваныя ў разгледжанай пазіцыі *C — C'* прадстаўляюцца палатальнымі гукамі (*ć*), (*dź*),




Карта-схема 3

*I*—тэмбравая карэляцыя *C—C'* на тэрыторыі Польшчы; *II*—палатальны рад; *III*—вельмі няўстойлівая тэмбравая карэляцыя

(*ś*), (*ń*), (*ź*) і палаталізаваным (*l'*). Паколькі ўсё шырэй распаўсюджваецца вымаўленне (*l*) як (*u̯*), палаталізаванае (*l'*) пастунова зацвердзявае, праходзячы стадыю «сярэднееўрапейскага» (*l*). Парныя па цвёрдасці-мяккасці губныя маюць пазіцыю нейтралізацыі ў канцы слоў і перад зычнымі, дзе выступаюць толькі цвёрдыя. У парных па цвёрдасці-мяккасці зубных няма агульнай для ўсіх пар пазіцыі нейтралізацыі, але *s* — *s'*, *z* — *z'* нейтралізуюцца перад [*t'*], [*d'*]; *t*—*t'*, *d*—*d'* не адрозніваюцца перад [*n*], [*r*], [*l*], дзе выступаюць толькі [*t*] і [*d*] адпаведна; *n* — *n'* не адрозніваюцца перад [*n*] і [*n'*], дзе дапускаецца толькі [*n*].

Калі параўноўваць апісаную тэмбравую карэляцыю сучасных польскіх гаворак з той, якая існавала ў польскай мове пасля падзення рэдуцыраваных, нельга не заўважыць, што сучасная па сваіх характарыстыках значна менш устойлівая ў параўнанні са старой. Сапраўды, дыстрыбуцыя мяккіх у сучаснай *C* — *C'* значна абмежавана; вельмі аслабелі процімастаўленні цвёрдых і мяккіх губных; яны, як і *C* — *C'* зубных маюць свае асобныя пазіцыі нейтралізацыі. З'яўленне палатальных зычных, якія выступаюць у якасці палаталізаваных фанем, падрыхтавала глебу для ўстанаўлення палатальнага рада, які ўжо стаў рэальнасцю ў паўночнапольскіх гаворках (гл. карту-схему 3). З'яўленне яго азначае завяршэнне дзейнасці тэндэнцыі да разбурэння тэмбравай карэляцыі, якая склалася ў польскіх гаворках пасля падзення рэдуцыраваных.

Ажыццяўленне гэтай тэндэнцыі мы прадбачылі ўвогуле, зыходзячы з факту няўстойлівасці тэмбравай карэляцыі, якая стварылася ў польскай мове пасля падзення рэдуцыраваных. Няўстойлівасць *C* — *C'*, як вядома, была абумоўлена ліквідацыяй агульнай для ўсіх процімастаўленняў пазіцыі нейтралізацыі. Тое, што нашы меркаванні апраўдаліся, мы лічым адным з галоўных доказаў гіпотэзы аб існаванні жорсткай сувязі паміж наяўнасцю-адсутнасцю такой пазіцыі нейтралізацыі і агульнай устойлівасцю тэмбравай карэляцыі.

Аказалася таксама, што паміж дэвелярызацыяй, з аднаго боку, і палатацыяй, з другога, прамой сувязі не існуе. Гэтыя з'явы абавязкова ажыццяўляюцца ў працэсе разбурэння тэмбравай карэляцыі, але парадак іх рэалізацыі будзе розным у розных выпадках. Сапраўды,

у польскіх гаворках з тэмбравай карэляцыяй (*у*) толькі мае тэндэнцыю да зліцця з (*і*), у той час як ўсе палаталізаваныя фанемы рэалізуюцца ўжо палатальнымі гукамі. Ва ўсходнебалгарскіх жа гаворках, як мы бачылі, (*ы*) з (*і*) зліўся даўно, але палатальныя яшчэ не з'явіліся.

Такім чынам, мы высветлілі асноўныя заканамернасці будовы і развіцця тэмбравых карэляцый цвёрдых і мяккіх зычных. Ёсць падставы меркаваць, што іх можна адпаведным чынам распаўсюдзіць і на іншыя тэмбравыя карэляцыі, але зараз мы не ставім перад сабой гэтай задачы. Выкарыстоўваючы атрыманыя вывады, мы паспрабуем раскрыць узаемасувязь і дынаміку змяненняў, якія ў той ці іншай меры ўплывалі на стан тэмбравай карэляцыі цвёрдых і мяккіх зычных у гісторыі беларускай мовы.

# Частка II

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЕРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Шматлікія даследчыкі схіляюцца да думкі, што ўжо ў дапісьмовы (дагістарычны) перыяд мова ўсходніх славян не была адзінай. «Інакш кажучы, яна падзялялася на некалькі гаворак. Цікава, што падзел старажытнарускай мовы на гаворкі, як мы бачым па дайшоўшых да нас помніках, у некаторай ступені супадае з тым падзелам рускага народа на плямёны, аб якім гаворыцца ў Нестаравым летапісу» [86]. Некаторыя адрозненні паміж старажытнымі дыялектамі досыць выразна адлюстроўваюцца ў помніках XI—XII стст. [87]

Усходнеславянскія гаворкі XII—XIII стст., якія ляглі ў аснову сучасных беларускіх, мы называем старажытнабеларускімі. Зразумела, па даных помнікаў і сучасных дыялектаў, аднавіць можна толькі іх асноўныя асаблівасці. Так, можна паказаць, што пасля падзення рэдуцыраваных у старажытнабеларускіх гаворках існавалі мяккія зычныя (*п'*), (*б'*), (*в'*), (*м'*), (*д'*), (*с'*), (*з'*), (*н'*), (*л'*), (*р'*), (*ц*), (*ч*), (*ж*), (*ш*). Іменна пасля іх (*е*) (<*е*, *ь*) пераходзіла ў (*о*), прычым зычныя перад *о*<*е*, за выключэннем пазней зацвярдзелых (*ш*), (*ж*), (*ч*), (*ц*) і (*р*), захоўваюць мяккасць і цяпер: *м'од*<*м'ед* (параўн. укр. *мед*), *ав'ос*<*ов'ес* (укр. *овес*), *п'ок*<*п'ек*, *в'оз*<*в'ез* (укр. *везли*), *пам'орла*<*пам'ерла* (укр. *вмерла*), *ц'опла*<*т'епло* (укр. *тепло*), *с'олы*<*с'елы* (укр. *села*), *з'орны*<*з'ерны* (укр. *зерна*), *н'ос*<*н'ес* (укр. *несу*), *л'он*<*л'ен*, *жонка*<*женка* (ст.-рус. *жена*), *бычок*< <*бычек*, *пушок*<*пушек*, *трох*<*тр'ох*<*тр'ех* (параўн. *трэці*), *арол*<*ор'ел* (укр. *орел*) і інш.

Перад галоснымі пярэдняга рада (*і*), (*е*), (*ѣ*) усе зычныя, за выключэннем (*г*), (*к*), (*х*), якія не сустракаліся ў гэтай пазіцыі, «былі мяккімі... ужо ў эпоху велікарускага і беларускага адзінства» [88]. Аб гэтым свед-

чыць адсутнасць *е>'о* перад складамі *Сі, Се, Сѣ*: сучасн. бел. *лебедзь, ремень, бераг, брэдзень', верасень, вяселле, селіш* з адпаведных *лебѣдь, ремѣнь, берег, бредень, вересень, веселйе* (але *вясёлы<весёлый!), селишь* (але *сёлы<селы!*).

Беручы пад увагу адсутнасць *е>'о* ў словах тыпу *сельскі, меншы, дзеравенскі, журавель, пляцень, дзень, увесь, лесць,* можна сцвярджаць, што мяккія зычныя сустракаліся перад іншымі зычнымі — цвёрдымі і мяккімі, а таксама ў канцы слоў. У большасці з прыведзеных прыкладаў мяккасць зычнага перад зычным была абумоўлена страчаным (ь), як, напрыклад, і ў слове *л'на* (але *л'он<льнъ*); таму ўвогуле можна меркаваць, што пасля падзення рэдуцыраваных усе зычныя перад страчаным (ь) вымаўляліся мякка: **д'н'а, *кон'ца, *кор'н'а, *с'ел'ез'н'а, *пл'етн'а;* перад суфіксамі *-н-<-ьн-: *крас'ный, *род'ный, *лѣт'н'ий, *бол'ез'ный, *в'ѣр'ный, *б'ѣд'ный; -ск-<-ьск-: *жен'скый, *двор'скый, *с'ел'скый, *д'ѣт'скый, *л'удскый; -ств-<-ьств-: *богат'ство, *душегуб'ство; -ц-<-ьц-: *пал'ца, *сал'ца, *птен'ца* і ў радзе іншых выпадкаў.

Цвёрдыя зычныя, якія пасля падзення (ъ) аказаліся перад мяккімі, змякчаліся. На думку А. І. Сабалеўскага, аб гэтым сведчыць адсутнасць *е>'о* ў рус. *решетчатый<рѣшетьчатый* (але *решотка<рѣшетъка*), *легче<<легьче, умершый<умерьший* [89]. Аналагічныя прыклады маем і ў беларускай мове: *шэпчаш* (але *шопат*), *л'ес'ц'*. Зубныя сібілянты ва ўсіх выпадках змякчаліся перад наступнымі мяккімі зубнымі, параўн. сучасн. бел.: *кос'ц', пес'н'а, с'ц'ана, с'нег,* (дыялект.) *жыз'н'* або *жыс'*.

Досыць раннім з'яўляецца зацвярдзенне зубных перад *-н-*, параўн.: рус. *красный,* бел. дыялект. *красны;* таксама *родны<род'ный, верны<вер'ный.* У іншых выпадках зычныя зацвердзявалі некалькі пазней, ужо ў асобных усходнеславянскіх мовах (параўн.: рус. *д'н'а, лет'ний,* бел. *дн'а, летні,* укр. *дн'а, літній;* рус. *женский,* бел і рус. (дыялект.) *жен'скі(-й),* рус. і бел. *пал'ца, сал'ца,* бел. дыялект. *палца, салца*).

У вялікай групе слоў на тэрыторыі паўночна-ўсходняга беларускага дыялекту *е>'о* не пераходзіла перад спалучэннем «*р+зычны*»: *чац'вер, верх, першы, перс'цін', с'мерц', вербы, жэрдз', мерзнуц',* дыялект. *зеркала, чэрпац',* хоць *дз'орскі, б'орда, чорны, м'орзлы, ц'орты* [90];

рус. літ. *вер'х', четвер'г, смер'т'* паказваюць, што пераходу *е>'о* перашкаджала мяккасць (*р*).

Асобна трэба разгледзець лёс мяккіх губных у канцы слоў і перад зычнымі. Як вядома, ва ўсіх сучасных беларускіх гаворках мяккія губныя ў гэтых пазіцыях не сустракаюцца, а вынікі пераходу *е>'о* даюць магчымасць заўважыць наступнае.

На большай частцы Беларусі распаўсюджаны формы *кан'ом, кавал'ом, нажом, ключом,* дзе *-ом<-ем<-ьмь* (параўн. укр.: *конем, ковалем*), а таксама *ц'омны<т'емный<тьмьн-, ц'оплы<т'еплый<тьпьл-.* Формы на *-ем* і словы *цемны, цеплы* сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі ў зоне з нерэгулярным пераходам *е>'о*, і таму яны не з'яўляюцца бясспрэчным доказам існавання канцавых мяккіх губных. З другога боку, фактычна ва ўсіх беларускіх гаворках знаходзім *сем<сем'* (параўн.: рус. *сем',* ст.-слав. *седмь*) пры *с'омы.* Аб мяккасці губных перад зычнымі пераканаўча сведчаць прыклады тыпу *шэпчаш<шеп'чешь* пры *шопат, душэўшы<душевный, судзебны<судеб'ный, царэўна<царев'на, земскі<зем'скый,* дзе мяккасць губных пасля (*е*) была абумоўлена або страчаным (*ь*), або наступным мяккім.

У каранёвых марфемах губныя перад зычнымі зацвярдзелі вельмі рана, параўн. напісанні *праўда* у Ізб. Св. 1073 г. (ст.-слав. *правьда*); у рукапісу Чудаўскага манастыра № 12 (слова Іпаліта) XI—XII стст., дзе мяккасць зычных перад зычнымі адзначаецца вельмі паслядоўна, сустракаем *всѣ, мнѣ, мнѣти, много, птица* (ст.-слав. *вьсѣ, мьнѣ, мьнѣти, мьногъ, пьтицѧ*)[91]; агульнаўсходнеславянскім з'яўляецца зацвярдзенне губных у дзеясловах *брати* (ст.-слав. *бьрати*), *мроу* (ст.-слав. *мьроу*), *мноу* (ст.-слав. *мьноу*) і інш.

Такім чынам, разгледжаныя факты не даюць падстаў для катэгарычных вывадаў аб дыстрыбуцыі мяккіх губных адносна канца слова і пазіцыі перад зычнымі. Можна меркаваць, што ў час пераходу *е>'о* яны яшчэ сустракаліся ў гэтых пазіцыях (*сем!*), але толькі ў тых выпадках, калі іх мяккасць падтрымлівалася граматычнай аналогіяй[92].

У пазіцыі перад шыпячымі (*ж*), (*ч*), (*ш*) і (*ц*), дзе б яны ні знаходзіліся — перад зычным, галосным ці ў канцы слова, — *е>'о* не пераходзіла: *клешч, печ, калечка, н'асеш, в'адзеш, с'цешка, канец, купец, купецкі, ма-*

*ладзецкі, плечы, межы.* Адначасова пасля гэтых зычных *е*>'*о* змянялася ва ўсіх беларускіх гаворках. Таму мы лічым, што шыпячыя і (*ц*) былі заўсёды мяккімі. Іх знаходзім ва ўсіх магчымых пазіцыях, у тым ліку і перад заднімі галоснымі (*а*), (*у*) (*хачу, жук, айцу*<*от'ц'у*). Іншыя мяккія, за выключэннем губных, таксама сустракаліся перад (*а*), (*у*) (параўн. сучасн. бел.: *л'удзі, л'убл'у, кан'у, кн'аз'у, ус'у, з'амл'у, п'ац' м'ац', в'ануц'*); мяккія ж губныя не адзначаны перад (*у*), але проціпастаўленні *п — п', б — б', в — в', м — м'* не нейтралізаваліся ў гэтай пазіцыі.

У помніках старажытнабеларускай пісьменнасці (да сярэдзіны XIV ст.) адлюстроўваецца ў пэўнай ступені рэканструяваная намі дыстрыбуцыя мяккіх зычных [93].

Аналіз арфаграфіі помнікаў паказвае, што пасля шыпячых і *ц* не пісаліся літары *ы, оу, у, ъ*, а толькі *и, ю, ь, е*. Так, у грамаце 1229 г. налічваецца пяць напісанняў з *жи* (*живый*, (4)), адзінаццаць з *чи* (*оучинили* (23)), два з *ши* (*векиш* (157)), чатыры з *ци* (*коупци* (205) і інш.), сем з *жю* (*промьжю* (11) і інш.), тры — з *цю* (*немчицю* (52)); знаходзім таксама *моужь* (203), *посоулишь* (181), *лоучьшего* (7) пры поўнай адсутнасці спалучэнняў «шыпячы або *ц* + *ы, оу, у, ъ*». Таму можна лічыць, што і іншыя літары перад *ю, е, и, ь* і ѩ, ѧ (параўн.: *горожѩне* (3), *горожѧнь* (1) у грамаце каля 1300 г., *два платежѧ* (40) у грамаце 1229 г.) абазначалі мяккія гукі: *сѧ*, *оутвьрдѧть* (3), *кнѧзь* (5), *дворѧнинъ* (13), *любо* (26), *пѧть* (34), *оузѧти* (40), *оучинѧть* (40), *кнѧзю* (54, 109), *свѧжеть* (87), *татѧ* (133), *вълѧ* (133) побач з *промьжю* (11, 24, 75), *немчицю* (52) (усе з граматы 1229 г.) і інш.

Паколькі пасля шыпячых і *ц* пісаўся толькі *ь*, а не *ъ*, то можна меркаваць, што і ў іншых выпадках зычныя перад *ь* былі мяккімі. У грамаце 1229 г. літары *ь, е,* ѣ змешваюцца; усе яны, відаць, абазначаюць мяккасць канцавых зычных у выпадках *сѧ дѣѥть* (1), *боудѣте... оубитъ* (27 — 28), а *боудѣте синь* (37), *кто ... гостить* (16). Усяго ў грамаце сустракаецца 76 форм 3-й асобы адзіночнага ліку, з іх у 54 пасля *т* пішацца *ь*, у 15 — *е*, у чатырох — ѣ. У двух выпадках мяккасць не абазначаецца (*даст* (151) і *продаст* (155) пры *дасть* (158)), аднак у іншым выданні гэтага помніка на месцы *даст, продаст* знаходзім *дасть, продасть* [94]. У 3-й асобе множнага ліку (18 форм) у 17 выпадках пішацца *ь* (*оутвьрдѧть* (3), *оучинѧть*

(40) і інш.) і ў адным — *е* (*оурѧдѧтесѧ*). Прыклады мяккіх канцавых у іншых выпадках: *ѯздоумалъ князѣ* (=княз') (5), *оу роусе* (=роус') *гостить* (16), *синь* (37) (грамата 1229 г.), *рать* (8, 9), *конь* (92, 94, 96) (грамата каля 1300 г.) і інш.

Мяккасць канцавога *-м* у формах творнага склону назоўнікаў, творнага і меснага склонаў прыметнікаў абазначаецца ў разгледжаных помніках вельмі паслядоўна. Напрыклад, у грамаце 1229 г. знаходзім 44 формы такога тыпу: *послъмь* (9), *готскимь берьгомь* (11—12), *на гочкъмь березѣ* (56), *с латинескымь ѩзыкомь* (21). Але, нягледзячы на гэту аднастайнасць, няма поўнай упэўненасці ў тым, што напісанне сапраўды адлюстроўвае мяккасць (*м*), паколькі ў пяці з шаснаццаці форм давальнага склону множнага ліку ў гэтай жа грамаце пішацца *ь*, а не «законны» (этымалагічны) *ъ*: *всемь темь* (19), *смолнѧнъмь* (95) пры *всемъ вълъчанъмъ* (103). У грамаце кн. Гярдзеня (1264 г.) таксама сустракаем *всеᵐ темь* (1) побач з *в томь городе* (18). У грамаце рыжан каля 1300 г. знаходзім 15 «правільных» напісанняў з *-мь* пры *идѧ путемъ* (11), *с темъ члвкомъ* (72), *всем срдчмь* (138).

Мяккасць зычных перад зычнымі ў помніках адзначаецца непаслядоўна (параўн.: *болше* (179) *людми* (142) у грамаце 1229 г.), аднак у шматлікіх выпадках яна ўсё ж адлюстроўваецца. Так, у грамаце 1229 г. слова *Смоленск* і ўтварэнні ад яго (19 напісанняў) пасля *н* маюць *ь*, *ѣ* ці *е*, якія часта прапускаюцца. Таму можна меркаваць, што гэтыя літары з'яўляюцца сродкам для абазначэння мяккасці *н* у гэтым слове: *смольнескыи* (6), *оу смольнѣскь* (30), *оу смольньскь* (36), але *оу смольнске* (48), *оу смольнᶜкѣ* (142). Тое ж можна сказаць і пра напісанні асновы *латинск-*: звычайна пішацца *латинеск-* (37 разоў), хоць адзін раз — *латинскими* (205). Параўн. таксама: *доконечано боудьть* (136) пры *дъкончано* (140); *ризѣскими* (189) пры *ризкими*. У некаторых выпадках у грамаце 1229 г. мяккасць губных адзначана перад зычнымі: *мьстиславъ* (6), *оумьна моужа* (7), *оу витьбеского* (184), *коупьче* (190), *пьреже* (80), але: *оумнии* (191), *коупчи* (191). Прыклады мяккіх зычных перад зычнымі з іншых грамат: *рижьᶜкыми* (15), *лотыгольска* (7), *руськаѧ* (13) — грамата 1264 г.; *смоленьскыми, немьцомъ, смьдесѧть* (калі гэта не апіска) — грамата 1284 г.; *литовьскаѩ* (8), *витебьскомоу* (2),

*берковьскы* (16), *оу смоленьще* (49), *клетьныи* (70), *с коньми* (96) — грамата рыжан каля 1300 г.

Пасля *г, к, х* звычайна пішуцца літары *ы, ъ, о, а, оу,* напрыклад, *смольнескыи* (5—6), *гочкыи* (9), *ригы* (11) — грамата 1229 г., хоць адносна *ы* гэта правіла не заўсёды вытрымліваецца. Так, у грамаце 1229 г. на 13 напісанняў *гы, кы, хы* прыходзіцца 11 *ги, ки, хи: ризкий* (5), *кнѧгини* (47), *лихии* (203) і інш. Такім чынам, ужо гэты помнік адлюстроўвае наяўнасць мяккіх варыянтаў заднепаднябенных [*г*], [*к*], [*х*] у пазіцыі перад (*і*).

Напісанні тыпу *мьчемь* (72), *твьрдъ* (17), *лоучьшего* (7) (з граматы 1229 г.) сведчаць аб адсутнасці, па меншай меры ў літаратурным вымаўленні таго часу, пераходу *е*>*'о*.

Такім чынам, рэканструяваная дыстрыбуцыя мяккіх гукаў старажытнабеларускіх гаворак паказвае, што мяккасць зычных у канцы слоў, перад зычнымі і перад галоснымі задняга рада не была абумоўлена пазіцыяй. Таму можна лічыць, што гукі (*п'*), (*б'*), (*в'*), (*м'*), (*т'*), (*д'*), (*с'*), (*з'*), (*л'*), (*р'*), (*ш*), (*ж*), (*ч*), (*ц*) прадстаўлялі адпаведныя фанемы [п'], [б'], [в'], [м']... [ц]. З іх парнымі па цвёрдасці-мяккасці былі *п — п', б — б', в — в', м — м', т — т', д — д', с — с', з — з', л — л', н — н', р — р'*. Гэтыя проціпастаўленні ствараюць тэмбравую карэляцыю «палаталізаваныя — непалаталізаваныя зычныя», паколькі парнымі з'яўляюцца прадстаўнікі двух лакальных радоў — лабіяльнага і дэнтальнага. У пазіцыі перад галоснымі пярэдняга рада [*ѣ*], [*е*] ўсе проціпастаўленні *С — С'* нейтралізаваліся — тут маглі знаходзіцца толькі мяккія; параўн.: **йама — *в йам'ѣ, *борода — *на бород'ѣ, *в'едут — *в'ед'еш, *н'есу — *н'ес'еш, *б'ерý — *б'ер'еш, *тобойу — *т'еб'ѣ, *мнойу — *мн'ѣ*. Асобых пазіцый нейтралізацыі для розных груп проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці не існавала.

Паколькі мяккасць зычных была фанематычнай адзнакай, гук (*ы*) выступаў у якасці варыянта фанемы [*і*] і парныя па цвёрдасці-мяккасці адрозніваліся ў пазіцыі перад [*і*]: **быт'і — *б'іт'і, *п'іт'і — *глупый, *рыба — *отвор'і, *носы — *нос'і, *возы — *воз'і.* Мяккія зычныя не адзначаны перад (*о*), а мяккія губныя — таксама і перад (*у*). Няпарнымі па цвёрдасці-мяккасці былі фанемы [ц], [ш], [ж], [ч] і [г], [к], [х]; заднепаднябенныя ў пазіцыі перад (*і*) мелі мяккія варыянты.

Апісаная тэмбравая карэляцыя *С — С'* падобна да тэмбравых карэляцый рускай літаратурнай мовы і ўсходнебалгарскіх гаворак (гл. табл. I). Ад астатніх яна адрозніваецца меншай устойлівасцю, паколькі дыстрыбуцыя мяккіх у старажытнабеларускай мове была абмежавана адносна задніх зычных. Аслабленню яе ўстойлівасці садзейнічала ранняе зацвярдзенне мяккіх губных у канцы слоў і перад зычнымі і ўтварэнне ў сувязі з гэтым асобнай пазіцыі нейтралізацыі для парных па цвёрдасці-мяккасці губных. Вопыт аналізу аналагічных сітуацый у іншых мовах падказвае, што далейшыя змяненні ў сістэме проціпастаўленняў *С — С'* у старажытнабеларускіх гаворках будуць звязаны з існаваннем гэтых «слабых звенняў».

З'яўляецца відавочным таксама, што ў якім бы напрамку ні развіваліся проціпастаўленні *С — С'*, павінна існаваць сувязь паміж ступенню ўстойлівасці тэмбравай карэляцыі *С — С'* і ўстойлівасцю проціпастаўленняў цвёрдых і мяккіх губных. Сапраўды, у склад *С — С'* уваходзяць прадстаўнікі толькі двух лакальных радоў — зубнога і губнога, прычым, як паказваюць даныя польскіх і балгарскіх гаворак, *С — С'* у губных увогуле схільны да ліквідацыі.

Характарыстыка рэканструяванай тэмбравай карэляцыі будзе няпоўнай, калі не ўказаць, якімі гукамі — палаталізаванымі ці палатальнымі — рэалізаваліся мяккія фанемы старажытнабеларускіх гаворак. Мяккія губныя, зразумела, былі палаталізаванымі — іншымі яны і быць не могуць па сваёй прыродзе. Няма падстаў таксама гаварыць пра асінхроннае вымаўленне мяккіх губных у старажытнабеларускіх гаворках. Што ж датычыцца якасці мяккіх зубных, то погляды вучоных наконт гэтага пытання разыходзяцца. Яно мае прынцыпова важнае значэнне для гісторыі беларускага кансанантызму і таму патрабуе асобай увагі.

## ФАНЕТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ МЯККІХ ДЭНТАЛЬНЫХ У СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Паспрабуем спачатку высветліць характар гукаў, няпарных па цвёрдасці-мяккасці. Па свайму паходжанню ст.-бел. (*ш*), (*ж*) і (*ч*) былі кантынуантамі палатальных праслав. *$\acute{\check{s}}$, *$\acute{\check{z}}$, *$\acute{\check{c}}$ < *$k$, *$g$, *$x$ па першай палаталізацыі і з пра-

слав. спалучэнняў *tj, *dj, *sj, напрыклад: *жити* < *gīti, *часъ* < *kēsъ, *свеча* < *svētja*[95]. Ці можна дапусціць, што (*ш*), (*ж*) і (*ч*) былі яшчэ палатальнымі гукамі ва ўсходнеславянскіх дыялектах пасля падзення рэдуцыраваных?

На гэта пытанне дапамагае адказаць адно вельмі каштоўнае назіранне А. А. Шахматава. «У пазіцыі пасля старажытных, атрыманых з агульнаславянскай мовы змякчаных зычных,— пісаў ён,— а таксама пасля *j*, гук *ö* змяніўся ў *о* раней, чым пасля новых змякчаных зычных, якія ўзніклі ўжо ў агульнарускай мове: пераход *ö* ў *о* ў першым выпадку адбыўся ў агульнарускай мове (параўн.: малар. *жона*, паўночн.-велікарус. *жона*, паўдн.-велікарус. і бел. *жана*), у той час як *е* новага паходжання пасля новых змякчаных зычных змянялася ў *о* ўжо пасля аддзялення маларускага дыялекту ад велікарускага і беларускага» [96]. Гэту гіпотэзу вучоны абараняў у радзе сваіх прац.

Відаць, недастаткова абгрунтаванай з'яўляецца трактоўка А. А. Шахматавым пераходу *е*>'*о* пасля шыпячых і (*й*) як агульнаўсходнеславянскай («агульнарускай» у яго тэрміналогіі) з'явы. Больш дакладным будзе сцвярджэнне, што (*е*) пераходзіла ў (*о*) пасля шыпячых і (*й*) раней, чым у іншых пазіцыях. Аб гэтым пераканаўча сведчаць факты ўкраінскай мовы, дзе пераход *е*>'*о* ў гэтых пазіцыях адбыўся вельмі паслядоўна (*жона*<**жена*, *чоловік*<**человѣк*, *мачоха*<**мачеха*, *чотири*<**четыре*, *пшоно*<**пшено*, *його*<**його*), у той час як пасля іншых мяккіх — толькі ў адзінкавых выпадках (*л'он*, *пасл'он*, *сл'оза*, *л'одовий*).

Пачынаючы з XII ст., у помніках сустракаем *съкажомъ*, *моужомъ*, *блажонъ* (Слова Іпаліта XII ст.), *имоущомоу* (Хрысцінапольскі Апостал XII ст.), *оумьршомоу* (Растоўскае жыціе Ніфанта 1219 г.). Але і гэта не найбольш раннія прыклады, паколькі ў Ізборніку 1073 г. чытаем *чоловѣка*. Шахматаў ведаў толькі гэты прыклад і таму лічыў яго ненадзейным [97], аднак А. Крымскі знаўшоў яшчэ *жона* ў Ізборніку 1076 г. і *ничосо* ў слове Грыгорыя Багаслова XI ст. [98] Гэтыя прыклады не з'яўляюцца апіскамі, паколькі ў пералічаных помніках XI ст. сустракаем яшчэ рад украінізмаў: цвёрдае (*р*) (*цару* і *царю* ў Ізб. 1073 г.), непаслядоўнае ўжыванне (*в*) і (*у*) (*на урѣды* Ізб. 1073 г., *еже уписалъ есмь*,

*въписахъ* у слове Грыгорыя Багаслова) і некаторыя іншыя рысы [99].

«Разгледжаная асаблівасць старажытнарускай мовы перайшла ў гаворкі, якія склалі аснову беларускай мовы, і ў заходнерускіх помніках, пачынаючы з самых старажытных грамат, сустракаюцца напісанні са складамі *жо, шо, чо, що, цо...: вашомоу, нашомоу* (1284), *цоловати* (1399), *их жо правом* (1432), *мьстичовъ* (1432)...»[100]. Да гэтага можна дадаць, што ўжо ў грамаце рыжан каля 1300 г. паслядоўна пішацца *княжо* (усяго 23 зваротныя формы, усе з *-о, жо* (48, 79)), хоць і *же* (49), *оу чомь* (58), калі гэта не аналагічнае ўтварэнне *к томь*, і бясспрэчныя выпадкі адлюстравання *е>'о: емъшо* (13), *шолъ* (36, 72), *пришодъ* (76), *пришолъ* (78), *пошолъ* (77), *хочомь* (144). Пасля іншых мяккіх слядоў *е>'о* не назіраецца (*твердо* (141)). Увогуле даследчыкі аднадушна адзначаюць, што *е>'о* пасля шыпячых у старажытнабеларускіх помніках адлюстравалася вельмі рана і досыць ярка, у той час як пасля іншых мяккіх *'о<е* сустракаецца значна пазней [101]. Таму гіпотэзу Шахматава аб двух этапах пераходу *е>'о* — спачатку пасля шыпячых і (*й*), потым пасля іншых мяккіх — мы лічым увогуле правільнай і прымаем яе [102].

У выпадку, калі пераход *е>'о* пасля шыпячых і (*й*) нават толькі пачаўся раней, то шыпячыя к пачатку *е>'о* чымсьці адрозніваліся (па якасці) ад іншых мяккіх, а таксама ўздзейнічалі на наступныя (*е*) перад цвёрдымі зычным, як і (*й*).

Гэтыя факты будуць зразумелымі, калі дапусціць, што шыпячыя ў адрозненне ад іншых мяккіх былі палатальнымі (г. зн. аднаго месца ўтварэння з (й)) мяккімі гукамі.

Для гісторыі шыпячых у рускіх гаворках вельмі каштоўнымі, на нашу думку, з'яўляюцца назіранні В. І. Лыткіна. Даследуючы сродкі перадачы рускіх запазычанняў у самых ранніх надпісах на комі-зыранскай мове, ён заўважыў, што рускія (*ш*), (*ж*) перадаваліся комі-гукамі (*ś*), (*ź*) (палатальнымі «шапялявымі» сібілянтамі), у той час як у комі-зыранскай мове ёсць і цвёрдыя (*š*), (*ž*). «Бясспрэчна, што складальнік старажытназыранскай азбукі разглядаў зыранскае *ś* як разнавіднасць *š*». Усё гэта будзе зразумелым, робіць ён вывад, пры дапушчэнні, што да XIV ст. «старажытнарускія

(*ж*), (*ш*) былі блізкімі комі-зыранскім палатальным *ś*, *ź*»[103].

У сучасных паўднёва-заходніх беларускіх дыялектах адлюстраваны вынікі вельмі паслядоўнага пераходу *е*>*'о* пасля (*й*) і шыпячых (у націскных і ненаціскных складах). Пасля іншых мяккіх гэта змяненне не ажыццявілася ў радзе выпадкаў і таму можна меркаваць, што ў эпоху пераходу *е*>*'о* мяккія шыпячыя адрозніваліся па якасці ад іншых мяккіх. Шыпячыя ў беларускай мове пазней, чым у рускай (параўн.: рус. *идёшь,* бел. *ідзеш*), страцілі мяккасць. Магчыма, гэта звязана з больш позняй стратай беларускімі гукамі іх палатальнага характару. Урэшце, у беларускіх гаворках назіраецца змяненне *ш, ж*>*й* перад (*с*): *Лагойск*<*Логожьскъ, Прапойск*<*Пропошьскъ*[104]; Сабалеўскі прыводзіць яшчэ *бѣиство*<*бѣжьство* са старажытнабеларускіх помнікаў XII—XIII стст.[105] Яно будзе цалкам зразумелым, калі дапусціць палатальны характар старажытных (*ш*), (*ж*)[106], параўн. аналагічны пераход у польск — *rajca*< *radźca* і інш.

Побач з (*ш*), (*ж*) у старажытнабеларускіх гаворках існавалі мяккія (*с*) і (*з*), якія з'явіліся ў выніку другой і трэцяй праславянскіх палаталізацый: *вcѣ*<**vьxoi, кнѧзь*<*кнѧгъ*<герм. *kuningas* і інш.; гэтыя мяккія (*с*) і (*з*) не адрозніваліся ад мяккіх (*с*) і (*з*) перад галоснымі пярэдняга рада (**с'іла, *з'ел'еныі*). Калі мяккія (*ш*), (*ж*) лічыць палатальнымі гукамі, то мяккія (*с*) і (*з*) рознага паходжання павінны былі быць толькі палаталізаванымі, паколькі немагчыма дапусціць наяўнасць у мове дзвюх разнавіднасцей мяккіх палатальных сібілянтаў.

Не маглі быць палатальнымі таксама прадстаўнікі старажытнабеларускіх фанем [*т'*] і [*д'*], паколькі (*т*) палатальнае змяшалася б тады з (*ч*) палатальным (або з (*к*)). Пасля «спрадвечна мяккіх» (*н*) і (*л*) (<**nj, *lj*) пераход *е*>*'о* адбыўся пазней, чым пасля (*й*) і шыпячых, параўн. укр.: *небо, поле.* Можна меркаваць, што ў час гэтага пераходу (*л*) і (*н*)<**lj, *nj* не адрозніваліся ад (*л*), (*н*) мяккіх іншага паходжання і былі палаталізаванымі гукамі. Нарэшце, палаталізаваны характар мяккага (*р*') не выклікае сумнення.

Як бачым, прадстаўнікі старажытнабеларускіх мяккіх зубных фанем былі хутчэй за ўсё палаталізаванымі

гукамі, што поўнасцю адпавядае такому стану тэмбравай карэляцыі, калі ўсе *С — С’* маюць агульную пазіцыю нейтралізацыі. Гэты вывад, нягледзячы на яго трывіяльнасць, адкрывае магчымасць для некаторых заключэнняў пра адносную храналогію беларускага цекання-дзекання і развіцця «шапялявых» (*с”*), (*з”*).

Упершыню думку аб дагістарычным характары гэтых з’яў выказаў Я. Будэ. «У сучасны момант... — пісаў ён,— неабходна прызнаць для прарускай мовы гукі $з^{ж'}$ ці $ж^{з'}$ пры *з’*, *ж’*, гукі $с^{ш'}$ ці $ш^{с'}$ пры *с’* і *ш’*, гукі $ц^{ч'}$ ці $ч^{ц'}$ пры *ц’* і *ч’*... Мы лічым, што правільна з пункту погляду мовы-народа падзяліць гаворкі на шапеляватыя (г. зн. гаворкі з сярэднімі гукамі — самыя старажытныя), паўшапялявыя (якія маюць толькі гукі, сярэднія $ц^{ч}$ і $ч^{ц}$, г. зн. дзе ёсць цоканне — чоканне) і гаворкі нешапялявыя (г. зн. гаворкі, якія не маюць «сярэдніх гукаў»)»[107]. Гэта думка імпанавала А. А. Шахматаву, паколькі яна не пярэчыла яго гіпотэзе аб старажытнасці цекання-дзекання і «шапялявых» *с”*, *з”*, аднак цалкам яе ён не прыняў.

Да аналагічных вывадаў прыйшоў незалежна ад Будэ і О. Воўк-Левановіч, які думаў, што «шапеляватае, г. зн. па сутнасці «ірацыянальнае», неакрэсленай укладкі вымаўленне зубных $з^{ж}$, $дз^{'ж}$, $с^{ш}$ і $ц^{ч}$ магло мець месца вельмі рана, яшчэ ў дагістарычную эпоху»[108]. Зыходзячы з некаторых агульных прадпасылак, гэту гіпотэзу падтрымаў нядаўна В. У. Мартынаў[109].

Будэ і Воўк-Левановіч вельмі добра разумелі, што мяккія «шапеляватыя» гукі — гэта палатальныя гукі. Будэ, напрыклад, прама называў іх «пярэднепаднябеннымі»[110] (не зубнымі!), а Воўк-Левановіч даў вельмі дакладнае апісанне іх як тыповых пярэднепалатальных гукаў. Калі прыняць гіпотэзу гэтых даследчыкаў аб паходжанні разглядаемых гукаў, то трэба прызнаць, што не толькі ў старажытнабеларускіх, але і ў агульнаўсходнеславянскіх (і нават у праславянскіх) суіснавалі два рады палатальных фрыкатыўных гукаў — (*с”*), (*з”*) і (*ш́*), (*ж́*), а таксама (*ц”*) (<*г’*) і (*ч́*). Змяшэнне гэтых гукаў у вымаўленні было б непазбежным, і яно павінна было б адлюстравацца ў большасці славянскіх і ў прыватнасці ўсходнеславянскіх гаворак.

Між тым М. Малэцкі пераканаўча паказаў, што «соканне» ў сербахарвацкіх гаворках вельмі позняга пахо-

джання і адлюстроўвае ўплыў венецыянскай (італьянскай) мовы на мову жыхароў мястэчак [111]. Польскае мазужэнне таксама больш позняга паходжання і прадстаўляе сабою змяненне старажытных палатальных *ś́, *ź́, *ć́ у s, z, c, а не змяшэнне мяккіх *ś́, *ź́, *ć́ і *ś, *ź, *ć. Такім чынам, даныя славянскіх гаворак наўрад ці даюць падставу гаварыць аб існаванні ў праславянскай мове двух радоў палатальных сібілянтаў.

Усходнім жа славянам з самай старажытнай пары вядома толькі неадрозненне (*ц*) (<*к па другой і трэцяй палаталізацыях) і (*ч*) (<*к па першай палаталізацыі і *tj); змяшэння ж *ш/с'*, *ж/з'* у гаворках украінскіх, беларускіх і рускіх не назіраецца. У помніках сустракаюцца адзінкавыя прыклады тыпу *помысляи* (=*помышляи*), *помысляе^с^и, ск^р^усьна* (=*скрушьна*=*сокрушена*), *раздизаеться* (=*раздижаеться*) з павучэння Яфрэма Сірына XIII ст.[112], аднак яны сведчаць аб блізкасці (*ш*) да (*с*) мяккага, г. з. зноў жа аб палатальным характары (*ш*). Але мы не знойдзем ніводнага прыкладу, дзе *ш* пісалася б на месцы (*с*').

Бясспрэчныя выпадкі змяшэння на пісьме знакаў *ш* і *с*, *ж* і *з* адносяцца да XV—XVI ст. (Летапіс Аўрамкі, Супрасльскі зб. 1520 г.). Іменна на гэтыя помнікі спасылаюцца Я. Будэ, А. І. Сабалеўскі, А. А. Шахматаў і О. Воўк-Левановіч, даказваючы старажытнасць цекання-дзекання і шапялявых (*с''*), (*з''*) у беларускай фанетыцы: *кнѧзити*, *кнѧзившоу*, *кнѧзивъ* (летапіс Аўрамкі), *прослависѧ*, *вопросѧхоуть*, *погроузѧти*, *помозе*; *слоучиша*, *оскверниша*, *крестисѧша*, *кнжѧ* (Супр. зб.)[113]. Але спасылкі на помнікі XVI ст. наўрад ці даказваюць дагістарычны характар гэтых з'яў. Вядома, што к XVI ст. (*ш*), (*ж*) і (*ч*) у беларускай мове ўжо, безумоўна, зацвярдзелі, і мена *с* на *ш*, *з* на *ж* у прыведзеных прыкладах сведчыць аб з'яўленні «шапялявых» (*с''*), (*з''*). Увогуле беларускае цеканне-дзеканне і шапялявыя (*с''*), (*з''*) маглі з'явіцца толькі пасля страты мяккімі (*ш*), (*ж*) іх палатальнага характару, г. зн. толькі пасля завяршэння першага этапа змянення *е*>*'о*.

Аднак Воўк-Левановіч дапускаў, што сляды гіпатэтычнай мены мяккіх (*с*) і (*ш*), (*з*) і (*ж*) захоўваюцца ў беларускіх гаворках. Паколькі яна адбывалася, на думку даследчыка, да зацвярдзення (дакладней да дэпалаталізацыі) (*ш*) і (*ж*), то на месцы старых мяккіх (*с*') і (*з*') у гаворках павінны сустракацца цвёрдыя (*ш*), (*ж*), а на

месцы цяперашніх (*ш*) і (*ж*) — мяккія (*с'*), (*з'*). У падтрымку сваёй гіпотэзы О. Воўк-Левановіч прыводзіў наступныя факты.

Е. Раманаў у запісах з вёсак Гродзенскай губерні [114] прыводзіць *хоросенько, насым, прысоў, в бэрэжа, у хранцужа, жа одэзу, жа мезу, жвяжут, ожміетэ, слузыш, шпісалі, сказыте* і інш., усяго каля 150 слоў (мы пералічылі галоўным чынам прыклады, якія сустракаюцца ў працах Воўка-Левановіча)[115]. Такое вымаўленне Раманаў назіраў у вв. Гарадзіск і Вялікая Чорна Бельскага павета (цяпер ПНР), у вёсках са змешаным польска-беларускім насельніцтвам. У тэкстах Раманава знаходзім таксама прыклады, з якіх ясна відаць мена цвёрдага (*с*) на (*ш*), параўн.: *шама, напішаў, на нэбэшах, штарая, крашна, вышлухалі, шлузбу*; сустракаюцца дублеты тыпу *напішаў—шпісалі, шлузбу—слузыш*. Зразумела, што і гэтыя і пералічаныя вышэй прыклады адлюстроўваюць не старажытную мену (*с*) і (*ш*), (*з*) і (*ж*) мяккіх, а толькі ўплыў польскага «мажузонцага» вымаўлення на беларускую гаворку, як гэта адзначыў у свой час І. Поліўка[116].

У Воўка-Левановіча сустракаюцца таксама іншыя прыклады, якія быццам даказваюць існаванне рэліктавага «мазужэння» ў беларускіх гаворках. Разгледзім паасобку кожны з іх.

Бел. *скура*. Ва ўсходнеславянскіх помніках да XV ст. сустракаецца толькі *скора; скура* з'яўляецца пасля XVI ст., а *шкура*—толькі ў XVII ст. Побач з рус. *сквара* і *шквара, скалить зубы* і *шкалить зубы* (курск., варонеж.), *скала, скалка* і *шкалик, скляный и шкляный, скнара* (*заходн.*) і *шкнара* (варонеж., тамбоўск.), *скаред* і *шкаред, скурат* і *шкурат*, укр. *скелет* і *шкелет, шкоблити, шкода* (параўн. рус. *скоблить*), бел. *шкаредзь, шкло, шкляначка, шкура-скура* не адлюстроўваюць старажытную мену *с/ш, з/ж*, а з'яўляюцца познімі ўтварэннямі [117].

Бел. дыялект. *снурок*, як і рус. *шнурок*, — запазычанне з нямецкай мовы [118]. Увогуле мена *с/ш* пры запазычаннях такога роду нярэдкая: укр. *смакувати, смак* — ням. *schmecken*; укр. *стельмах* — ням. *Stellmacher*, рус., бел., укр. *стул* — ням. *Stuhl*. Да гэтай жа катэгорыі слоў належаць: бел., укр. *дошка* пры рус., укр. *доска* (балг. *дъска*, схрв. *даска*, чэш. *ďeska*, герм. *disc*<лат. *discus*) і бел. *шацін* (<ням. *satin*, фр. *satin*, араб. *zaitūnî*); па-

раўн.: рус. *сатин*, укр. *сатин;* бел. *смалец* (<ням. *Schmalc*) і ўтварэнні ад яго.

Бел. *зэмчуг* і *жэмчуг* (усходн.) пры укр. *жэмчуг, жэнчуг*, рус. *жемчуг*, дыялект. *земчуг*, ст.-рус. *женчугь*. Вельмі позняе запазычанне з цюрк.; лічыцца, што (*з*) з'явілася тут нефанетычным шляхам.

Познім запазычаннем з венгерскай мовы з'яўляюцца ст.-рус. *сабля*, балг. *сабя*, схрв. *сабља*, славен. *sȃblja*, чэш. *šavle*, славац. *šabl'a*, польск. *szabla* і бел., укр. *шабля*.

Як бачым, пералічаныя запазычанні наўрад ці могуць выкарыстоўвацца для доказу гіпотэзы аб рэштках «рэліктавага мазужэння» ў беларускай мове.

Бел. *дражніць*, рус. *дразнить*, укр. *дразнити*; у балг. таксама (*з*) пры польск. *draźnić*, н.-луж. *draźniś*, ст.-чэш. *drážniti*. Ці не з'явілася (*ж*) у гэтых прыкладах марфалагічным шляхам па аналогіі да *(раз)дражать*, якое ёсць ва ўсіх славянскіх мовах? Выклікае, аднак, падазрэнне арэал форм з (*ж*) (заходнеславянскія + беларускія гаворкі). Калі меркаваць па літоўск. *dróžti*, то (*з*) у славянскіх формах спрадвечнае.

Не зусім незразумелым з'яўляюцца:

бел. *залоза*, рус. дыялект. *залоза* і *зелезы*, укр. *залоза*, польск. *zołza*, пры рус. *железа* і формах з (*ž*) ва ўсіх іншых славянскіх мовах;

бел. *збан, збанок*, укр. *джбан* і *збан*, рус. *жбан*, зах.-балг. *джибан, джубан*, схрв. *джбан*, чэш. *čban, žban*, славац. *džban*, польск. *dzban, zban*; літоўск. *kìbiras* ўказвае на спрадвечнасць (*с*) у славянскіх мовах;

бел. *залеза*, укр. *жалізо* і *залізо*, рус. *железо* (дыялект. *зелеза*), балг. *железо*, схрв. *железо*, славенск. *železo*, чэш. *železo*, польск. *zelazo*, луж. *železo;* параўнанне з літоўск. *geležìs* гаворыць аб спрадвечнасці (**ž*);

бел. *золч*, укр. *жовч*, рус. *жёлчь*. ст.-слав. *злъчь* і *жлъчь*; ва ўсіх іншых славянскіх мовах (*ž*); Фасмер лічыць (*з*) спрадвечным (параўн. літоўск. *žalias*) ці больш старажытным, чым (*ж*), якое з'явілася пад уплывам кораня *желт-*;

бел. *шэры*, рус. *серый*, укр. *сірий*, балг. *сер*, славенск. *ser*, але ст.-чэш. *šěrý*, чэш., славац. *šery*, польск. *szary*, в.-луж. *šěry*, н.-луж. *šery*; як і ў выпадку *дражніць — дразніць, шэры* з'яўляецца арэальным заходнеславянска-беларускім утварэннем [119].

У сучасны момант мы не можам пераканаўча растлумачыць гэтыя прыклады. Магчыма, для назіраемай мены шыпячых і свісцячых маглі існаваць таксама аб'ектыўныя абставіны, іменна — наяўнасць праславянскіх палатальных *ź, *ć, *ś вядомага паходжання (першая палаталізацыя), якія зацвердзявалі ў пэўных пазіцыях. Незразумелымі тады будуць толькі *шэры—серый, дражніць—дразнить*, дзе назіраем *s', *z'>š, ž, а не наадварот, як у астатніх прыкладах.

Важна, аднак, звярнуць увагу на другое. Адзначаная мена шыпячых і свісцячых не з'яўляецца беларускім ці беларуска-польскім новаўтварэннем, але назіраецца ў мовах, дзе няма іншых «ляшскіх» рыс (у чэшскай, славацкай, украінскай). Таму наўрад ці правільна будзе выкарыстоўваць разгледжаны матэрыял для тлумачэння генезісу асаблівасцей уласна беларускага кансанантызму, як гэта рабіў Воўк-Левановіч. Не даказваюць яго гіпотэзы і наступныя прыклады:

бел. *сморгаць*, укр. *шморгати*, рус. *сморгать* (дыялект. *шморгаць*); літоўск. *smùrglas, smurglìs* указвае на спрадвечнасць (*с*), так што новаўтварэннем з'яўляецца, відаць, украінская, а не беларуская форма, як меркаваў О. Воўк-Левановіч;

бел. *сіпець, шыпець* указваюць не на мену *с/ш*, а з'яўляюцца рознымі ўтварэннямі; параўн.: ст.-слав. *осипнѫти*, чэш. *sipeti*, польск. *sipkość*—рус. *шипеть*, укр. *шипіти*, балг. *шипя*;

бел. (дыялект.) *калышка* пры коранях *kolys-* у іншых славянскіх мовах; відавочна, тут мена *с/ш* падобна на выпадак *сморгаць — шморгати* [119];

бел. *калодзіш* пры рус. *колодезь*; хутчэй за ўсё (*ш*) (<*ж*) у беларускім слове з'явілася ў выніку дыстактнай дысіміляцыі.

Такім чынам, разгледжаныя факты не даюць падстаў гаварыць аб існаванні рэштак дагістарычнага «мазужэння» ў беларускіх гаворках; у большасці сваёй яны ўвогуле не маюць ніякіх адносін да гісторыі цекання-дзекання і «шапялявых» (*с*''), (*з*'').

На думку А. А. Шахматава, зафіксаванае ўжо ў ранніх (XI ст.) наўгародскіх і полацкіх (XII ст.) помніках цоканне-чоканне сведчыць аб старажытным характары «ляшскіх» рыс ва ўсходнеславянскай фанетыцы, якія з'явіліся ў выніку змяшэння рускіх плямёнаў з польскімі.

«Так, знаходзім у Смаленскай вобласці змяшэнне *ч* і *ц* у помніках XIII ст. Укажу, напрыклад, на грамату каля 1270 г.: *соуличами, немьчиць, коуноемьчи* дав., *романовиці* месн. і інш... Полацкія помнікі таксама ведаюць змяшэнне *ч* і *ц*, параўн. у грамаце 1265 г.: *полочькаѫ*, *немечькомоу*; у рыжскіх помніках XIII—XIV стст. мена *ч* і *ц* з'яўляецца досыць звычайнай: можна думаць, што ў Рызе пісалі мовай Полацка ці Пскова»[120]. Воўк-Левановіч таксама лічыў «ірацыянальнае» вымаўленне $ч^{ч}$ ці $ц^{ч}$ дагістарычнай з'явай.

Мы ўжо адзначалі, што [*ч*] і [*ц*] ва ўсходнеславянскіх гаворках былі няпарнымі па цвёрдасці-мяккасці фанемамі. Іх зліццё ў адным (крае)палатальным гуку магло сведчыць аб тым, што рэфлекс праслав. **к* у выніку другой і трэцяй палаталізацый у гаворках, якія ведаюць цоканне, адрозніваўся ад яго рэфлексаў у іншых усходнеславянскіх гаворках; іменна **к* дало тут (крае)палатальны гук (*ц*''), які заканамерна зліўся з (*ч*). Паколькі старажытнае (*ц*), мяккае ў большасці гаворак, змянілася у (*ц*), то можна дапусціць таксама, што яно было палаталізаваным гукам. Тады зліццё (*ц*) і (*ч*) у (*ц*'') азначае палатацыю *ц*'>*ц*'', якая будзе зразумелай пры дапушчэнні палатальнага характару (*ч*) мяккага. Такім чынам, у любым выпадку ўзнікненне цокання з'яўляецца доказам таго, што ва ўсходнеславянскіх гаворках старажытнай пары існаваў адзін палатальны гук: (*ч́*), (*ч*'') або (*ц*'').

Вернемся цяпер да гіпотэзы Воўка-Левановіча аб паходжанні беларускага цекання-дзекання. Яна ўключае такія палажэнні:

а) цеканне-дзеканне, таксама як і мяккае цоканне, узнікла вельмі даўно, яшчэ ў дагістарычны перыяд;

б) першапачаткова *ц*'<*т*', *дз*'<*д*' былі «шапялявымі» гукамі, як у ляхаў (г. зн. палатальнымі); потым шапялявасць была паступова страчана пад уплывам рускіх гаворак, для якіх яна ўвогуле не характэрна[121] (але параўн. назіранні Я. Будэ!).

Калі прыняць гэту гіпотэзу, то трэба згадзіцца з тым, што не толькі ў старажытнабеларускіх, але і ў дагістарычных усходнеславянскіх гаворках існавалі

*ц̌* або *ц*''<*т*' (**ц*''*ѣло*<*тѣло*)

*ц̌* або *ц*''<*ч́* (<**к*, **ц*''*истый*<*чисты*)

*ц* або *ц*"<**к* па другой і трэцяй палаталізацыях (*ц"ѣлы*<*цѣлы*, **овьц"а*<*овьца* і інш.).

Зразумела, што вынікам такога стану павінна быць супадзенне (*т'*) любога паходжання і рэфлексаў **к* па другой і трэцяй палаталізацыях. Яго знаходзяць у некаторых помніках: *рекути, отчитѧ, полотяне, псковити, вискотивъ, чернетьства, хотячъ, кестоучи, приимець, чтучь, чьсцю* і інш. (Супр. зб. 1520 г.); аналагічныя прыклады ёсць у запісках Ю. Крыжаніча XVII ст.[122] Гэтыя прыклады сапраўды могуць сведчыць аб тым, што гукі (*т'*), (*ч*) і (*ц*) не адрозніваліся ў вымаўленні пісца. Тое ж назіраецца, напрыклад, у паўднёвапскоўскіх гаворках, дзе суіснуюць цеканне-дзеканне і цоканне, а таксама ў сумежных з імі беларускіх гаворак. Але ў большасці беларускіх гаворак (з цвёрдым (*ц*)) ніколі не сустракаецца ні чоканне, ні тым больш цвёрдае (*ц*) на месцы *ц*", *дз*"<*т', д'*, што было б непазбежным у выпадку дагістарычнага характару цекання-дзекання.

Як бачым, гіпотэза Воўка-Левановіча супярэчыць вядомым фактам, і мы не змаглі знайсці якіх-небудзь аргументаў у яе падтрымку. Усе нашы доказы супраць яе будуюцца, аднак, на дапушчэнні пра існаванне ў старажытных усходнеславянскіх гаворках палатальных гукаў (*ч́*), (*ш́*), (*ж́*), што ў сваю чаргу з'яўляецца праблематычным. Таму, не прымаючы «дагістарычнай» гіпотэзы, мы не лічым вычарпальнай і аргументацыю супраць яе.

## ПРЫЧЫНЫ ПЕРАХОДУ *е*>*'о* І ЯГО ЗНАЧЭННЕ ДЛЯ ТЭМБРАВАЙ КАРЭЛЯЦЫІ *С—С'*

Па выніках пераходу *е*>*'о* мы паспрабавалі выявіць колькасць, якасць і асаблівасць дыстрыбуцыі мяккіх зычных у старажытнабеларускіх гаворках. Дапускалася, што ўмовы *е*>*'о* нам добра вядомы.

Па традыцыі, пачатак якой паклаў А. А. Шахматаў, пазіцыя перад цвёрдымі пасля шыпячых і (*й*) у першы перыяд і пазіцыя пад націскам пасля ўсіх мяккіх перад цвёрдымі ў другі перыяд лічацца неабходнымі і дастатковымі ўмовамі для ажыццяўлення *е*>*'о*. Паколькі (*е*) пераходзіла ў (*'о*) перад цвёрдымі зычнымі, меркаваў Шахматаў, то іменна пад іх уплывам (*е*) лабіялізавалася, а каб лабіялізацыя магла ажыццявіцца, цвёрдыя са-

мі павінны былі быць лабіявелярызаванымі гукамі [123]. Так нарадзілася гіпотэза аб існаванні лабіявелярызаваных зычных ва ўсходнеславянскіх дыялектах пасля падзення рэдуцыраваных. У далейшым мы павінны будзем згадзіцца з ёй, аднак на пераход *е*>*'о* лабіявелярызаваныя зычныя не мелі, здаецца, рашучага ўплыву.

Сапраўды, гіпотэза Шахматава выклікае рад заўваг. Дзіўна, напрыклад, што лабіявелярызаваныя ўплывалі чамусьці на галосны пярэдняга рада.

Можна лічыць таксама бясспрэчным фактам наяўнасць у рускай мове значнай велярызацыі ў зычных (*ш*) і (*ж*). Між тым у паўднёварускіх гаворках сустракаем вымаўленне *ст'ешка, д'ешка* і інш. Таксама ў беларускай мове лабіявелярызаваныя (*ж*), (*ш*) не змяняюць *е*>*'о* (*ідзеш, сцежка*).

Звычайна пераход *е*>*'о* ў канцы слоў не лічыцца фанетычным працэсам (адкуль жа возьмецца лабіялізацыя?). Так, бел. *кассё, жыццё* разглядаюцца як утварэнні па аналогіі да *акно, сяло*; у займенніках *усё, маё, чыё* (*о*) з'явілася быццам пад уплывам *яно, само*; (*о*) у прыслоўі *ўжо* — пад уплывам *даўно* [124]. Але ў беларускай мове ёсць формы дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку тыпу *ідзяцё, несяцё, берыцё*, дзе (*о*) не магло з'явіцца па аналогіі. Чаму ж яно з'явілася?

На пералічаныя «чаму» немагчыма адказаць, калі лічыць *е*>*'о* толькі пазіцыйным пераходам. На нашу думку, прычыны яго ляжаць значна глыбей, і выявіць іх дапамагае тыпалагічнае супастаўленне аднародных пераходаў у іншых мовах, а таксама тыпалогія ўмоў, пры якіх гэтыя пераходы ажыццяўляюцца.

Польская лінгвістычная традыцыя разглядае пераход (*е*) ў (*'о*) як «дэпалаталізацыю (*е*)». Станем на гэты пункт погляду і ў адрозненне ад дэпалаталізацыі (зацвярдзення) зычных, змяненні тыпу *е*>*'о* назавём *V*-дэпалаталізацыямі (г. зн. пераход пярэдніх галосных у заднія пры захаванні мяккасці папярэдняга зычнага). Тады можна прадбачыць існаванне такіх *V*-дэпалаталізацый:

1. *C'i*>*C'u*
2. *C'e*>*C'o*
3. *C'ę*>*C'a* (*ę*=*е* шырокаму).

Прыклады: змяненні тыпу *ж'иф*>*ж'уф, ч'иф*>*ч'уф, ш'ирок*>*ш'урок, кол'иби*>*кол'уби, п'ипеч*>*п'упеч, с'ирмаф*>*с'урмаф, л'ивада*>*л'увада, кол'иво*>*кол'уво* ва

ўсходнебалгарскіх гаворках[125]. *C'ę > C'a* адбылося ў польскай і балгарскай мовах: *lato < lěto* (балг. *лято*) і ў некаторых літоўскіх гаворках (*metas > m'atas* і інш.).

Адваротнымі *V*-дэпалаталізацыйным працэсам з'яўляюцца, відавочна, *V*-палаталізацыі, г. зн. пераход задніх галосных у пярэднія перад мяккімі зычнымі і зацвярдзенне астатніх:

4. *Ci < C'i < C'u*
5. *Ce < C'e < C'o*
6. *Cę < C'ę < C'a*

Напрыклад, *i < 'u*, *e < 'a* ў гісторыі чэшскай мовы: *lid < l'ud*, *zemi < zem'u*, *piši < pišu*, *ovcě < ovc'a*, *země < zem'a*, *koně < kon'a*.

Аналагічнымі *V*-дэпалаталізацыям будуць *V*-дэвелярызацыйныя працэсы, іменна пераход задніх галосных у пярэднія без змякчэння зычных:

7. *Cü < Cu*
   *Ci < Cu*
   *Ci < Cы*
8. *Cö < Co*
   *Ce < Co*
9. *Cę < Ca*

Яны адбыліся ў старажытнафранцузскай мове (*ü < u*, *ö < o*, *ε < a*; гл. ніжэй); *y*$^{ε}$ *< ô < o* ў ніжнялужыцкіх гаворках (пасля губных і заднепаднябенных)[126]; $^{\breve{u}}e$ *< o* ў выпадках $^{\breve{u}}efca$, $^{\breve{u}}ev'es$, $^{\breve{u}}ek^{\breve{u}}e$, $m'ys^{\breve{u}}e$ (*=mięso*), $p^{\breve{u}}et$ у польскіх гаворках[127].

Адваротным працэсам 7 — 9 з'яўляюцца *V*-велярызацыі тыпу:

10. *Ci > Cü*
    *Cы > Cu*
11. *Ce > Co*
12. *Cę > Ca*

Некаторыя з гэтых з'яў вядомы паўднёвабеларускім (*вы, мы, бык, кобыла > ву, му, бук, кобула*) і паўднёвалітоўскім гаворкам, дзе *a < ę* пасля цвёрдага (*l*).

Зычныя і галосныя пры пералічаных працэсах «паводзяцца» такім чынам, быццам тэмбравая адзнака (палаталізаванасць ці велярызаванасць) пераразмяркоўваецца ў межах складу і пераходзіць да зычнага або галоснага. Сапраўды, пры *V*-дэпалаталізацыях галосны

высокага тэмбру як бы «адмаўляецца» ад яго ў карысць зычнага, а ў выпадках 4—6 дыезнасць «бярэ на сябе». галосны[128]. Дадзенае назіранне дае падставу меркаваць, што працэсы 1—6 пэўным чынам павінны быць звязаны з развіццём проціпастаўленняў цвёрдых і мяккіх. Разглядаючы гэта пытанне, а таксама ўмовы ажыццяўлення працэсаў 5—12, мы звяртаемся да матэрыялу неславянскіх моў, што ў некаторай ступені ўскладняе нашы разважанні, але надае атрыманым вывадам больш аб'ектыўны характар.

У румынскай мове *V*-дэпалаталізацыя *e*>*'a* і *V*-дэвелярызацыя °*a*<*o* адбыліся пасля знікнення канцавых (*i*), (*u*) (не перад спалучэннямі «галосны + *r*, *l*»). Згублены (*i*) абумовіў мяккасць канцавых зычных: *pomi* (=*pom'*), *ieri* (=*ier'*), *lupi* (=*lup'*), *pari* (=*par'*). Пасля гэтага змянення цвёрдыя і мяккія ў канцы слоў пачалі прадстаўляць самастойныя фанемы *m* — *m'*, *r* — *r'*, *p* — *p'*, *b* — *b'*, *t* — *t'*, *d* — *d'*, *s* — *s'* і г. д. Магчыма, таму ў групах *C'e*, *C'i* пачаліся *V*-дэпалаталізацыі, а ў групах *Co*, *Ca* — *V*-дэвелярызацыі: у абодвух выпадках мы назіраем працэсы перадачы тэмбру галоснымі зычнымі[129]; параўн.: прарум. **cera*, **sera*, **negra*, **seka*, **petra*, **mesa*, **feta*, **vede*, **sella*> >сучасн. рум. *ceară*, *seară*, *neagră*, *seacă*, *piatră*, *masă* (<*measa*), *fată* (<*feata*), *vadă* і прарум. **sole*, **flore*, **porta*, **code*, **nokte*>сучасн. рум. *soare*, *floare*, *poartă*, *coadă*, *noaptă*. Пры гэтым аказваецца, што *V*-дэпалаталізацыі не адбываюцца перад складамі *C'i* (перашкаджае наступны мяккі!) і перад *Cu*, *Co* (?). Дэвелярызацыя °*a*<*o* не ажыццяўляецца перад *Cu*, *Co*, што зразумела, і перад *Ci*[130], што зразумець цяжэй.

У больш ранні перыяд (да знікнення канцавых (*i*), (*u*)) у румынскай мове існаваў, магчыма, палатальны рад; ён утварыўся пасля змянення адных зычных перад (*j*), а (*t*), (*d*) і заднепаднябенных — перад галоснымі пярэдняга рада. Цікава адзначыць, што ў гэты перыяд адбылася *V*-палаталізацыя (*a*) у групах «палатальны зычны+*a*», параўн.: прарум. **folia*, **vinea*, **linea*, **clave*, **taliamus*>сучасн. *foaie, vie, ie, chiei, talemu*[131].

Пачынаючы з V ст., у раманскіх дыялектах Галіі адбываліся працэсы, якія былі выкліканы станаўленнем дынамічнага націску і аслабленнем ненаціскных складоў. Ненаціскныя галосныя ў адных выпадках знікаюць (калі гэта не ($\breve{a}$)), а ў другіх даюць *e*-«нямое»=(*ə*).

Канцавыя ненацiскныя (*ā*) i (*ă*) змянiлiся ў (ə); неканцавыя (*ĭ*), (*ŭ*), (*ĕ*) толькi ў пэўных выпадках далi *e-muet* (закон А. Дармстэтара)[132].

Адносна *e-muet* вядома, што ўжо ў старажытнафранцузскай мове гэта быў гук неакрэсленага тэмбру, «няпоўнага ўтварэння», сказалi б славiсты. Першыя сiмптомы яго знiкнення адзначаны ўжо ў XIII ст. Французскiя граматыкi XVI ст. характарызуюць *e-muet* як некалькi лабiялiзаваны гук; гэту асаблiвасць ён захаваў, вiдаць, з часу свайго паходжання, паколькi ў «Sermentes du Strasbourg» (842 г.) ён абазначаўся лiтарамi *e* i *o*; параўн.: *poblo, nostro; Karlo* i *Karle, fradra* i *fradre, sandra* (<*sendre*)[133]. На падставе гэтых фактаў можна меркаваць, што *e-muet* старажытных помнiкаў i французскай мовы ўвогуле з'яўляецца не самастойным гукам, але абазначае л а б i я л i з а в а н ы х а р а к т а р з ы ч н ы х. Можна паказаць таксама, што лабiявелярызаваныя зычныя маюць статус фанем i ствараюць тэмбравую карэляцыю «нелабiялiзаваныя—лабiялiзаваныя» *C*—*C*°. Параўн. наступныя пары старажытнафранцузскiх слоў[134]:

*pert* (< *perdō*) — *porte* (< *porta*)
*grand* (< *grande*)— *malade* (< *male habitu*)
*ues* (< *opus*) — *fosse* (< *fossa*)
*lez* (< *latus*) — *onze* (< *undecim*)
*main* (<*manum*) — *aune* (< *alnu*)
*hier* (< *herī*) — *père* (< *patre*)
*sel* (< *sāl*) — *double* (< *duplu*)
*lonc* (< *longu*) — *chasque*
*iv* (< *ibī*) — *fève* (< *faba*)

Яны дэманструюць фанематычны характар процiпастаўленняў *t* — *t*°, *d* — *d*°, *s* — *s*°, *z* — *z*°, *n* — *n*°, *r* — *r*°, *l* — *l*°, *k* — *k*°, *v* — *v*°, *p* — *p*°. Некаторыя граматычныя формы адрознiвалiся толькi гэтымi фанемамi, напрыклад: *chant* (< *canto*, 1-я асоба адз. л.) — *chante* (< *cantās*, *cantat*, 2, 3-я асоба адз. л.). Перад зычнымi таксама адрознiвалiся ўказаныя пары фанем; параўн.: *cervell* < *cerebella*, *sembler* < *simulare*, *bonté* < *boni tate*, дзе перад зычнымi выступаюць (*r*), (*l*), (*n*), i *allemagne* < *alamania*, *ornement* < *ornamentu*, *Charles*<*Carolus*, дзе перад зычнымi знаходзiм (*l*°), (*n*°), (*r*°). Зараджэнне i развiццё тэмбравай карэляцыi *C* — *C*° выклiкала *V*-дэвелярызацыйныя працэсы, паколькi з пэў-

нага часу нізкі тэмбр у складах *Cu*, *Co*, *Ca* зрабіўся «уласнасцю» зычнага. Так, ε < *a* ажыццявіўся ў два этапы. Аб першым сведчыць так званая палаталізацыя (*k*), (*g*) перад (*a*) (VIII ст.). Ясна, што само (*a*) не магло палаталізаваць зычны. У складзе *Ca* павінна была адбыцца дэвелярызацыя *a* > ε, а пярэдні (ε) уже змякчыў (*k*), (*g*):

*cantare* > **c'εnter* > *chanter*

*gambe* > **g'εmbe* > *jambe*

Працягам гэтага працэсу быў пераход ε < *a* пасля іншых зычных: *mer* < *mare*, *frère* < *fratre*, *père* < *patre*, *fève* < *faba*, *nez* < *nasa*. Яму перашкаджаў назальны — зычны нізкай танальнасці: *main* < *manu*.

Змяненне *ü* < *u* ажыццяўлялася ў VIII — X стст.: *nu* < *nūdu*, *cuve* < *cūpa*, *jurer* < *jurare*, *purge* < *purga*. Яно вядома большасці французскіх дыялектаў, за выключэннем усходневалонскіх і дыялектаў верхняй і сярэдняй Роны, дзе вымаўляецца *pierdou*, *nou*.

Змяенне *u̯e* < *u̯o* < *o* таксама з'яўляецца *V*-дэвелярызацыяй:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| лат. | *bove* | ст.-фр. | *buef* | сучасн. фр. | *bœuf* |
| | *core* | | *cuer* | | *cœur* |
| | *nove* | | *nuef* | | *nœuf* |

Ужо к XII ст. новы дыфтонг *u̯o* < *ǫ* даў (*ö*) = арф. *œ*, таму ўвесь працэс *ö* < *o* можна лічыць дэвелярызацыяй (*o*).

Гіпотэза аб існаванні ў старажытнай французскай мове тэмбравай карэляцыі *C*—*C°* патрабуе сур'ёзнай распрацоўкі, аднак ужо цяпер ясна, што яна дае магчымасць растлумачыць шматлікія з'явы ў гісторыі французскай мовы, у тым ліку такія, як *l*(*l°!*) > *u*, *b* (*b°*) > *u*, *g°* > *u*. Аднак нас цікавіць перш за ўсё залежнасць *V*-дэвелярызацыі і станаўлення тэмбравай карэляцыі *C*—*C°*, *V*-дэпалаталізацыі — і развіццём тэмбравай карэляцыі *C*—*C'* (у румынскай мове). Гэты паралелізм, гэтыя залежнасці не з'яўляюцца выпадковымі. Хутчэй за ўсё мы маем справу з агульнай заканамернасцю, а іменна: страта тэмбру галоснымі абумоўлена тым, што пры ўзнікненні адпаведных тэмбравых карэляцый тэмбр спалучэння *CV* «забірае на сябе» зычны. Тады *V*-палатацыі і *V*-велярызацыі павінны абумоўлівацца стратай зычнымі тэмбру пры разбурэнні адпаведных тэмбравых карэляцый. Гэта меркаванне пацвярджаецца перш за ўсё фактамі

гісторыі чэшскай мовы. Як вядома, у старажытначэшскай мове існавала тэмбравая карэляцыя *C—C'*, якая з цягам часу распалася; вынікам распадзення яе было ўтварэнне палатальнага рада. Не выпадкова таму ў чэшскай мове адбыліся *V*-палатацыі, параўн.: *duši*<*dušu*, *moři*<*moru*, *cizi*<*cuzi*, *pět*< *p'at'*, *mořě*<*mor'a*, *dušě*<<*duša*.

Разглядаючы апісаныя працэсы, мы заўважылі факты ўплыву на іх працяканне наступных (пасля галосных) зычных. Так, *V*-дэвелярызацыі могуць перашкаджаць зычныя нізкай танальнасці, параўн. адсутнасць ε<*a* перад насавым у французскай мове, адсутнасць $y^{\varepsilon}$<*o* перад губнымі і заднеязычнымі ў ніжнелужыцкіх дыялектах (*skokaš*, *bog—sky*$^{\varepsilon}$ *cyć*, *by*$^{\varepsilon}$*žy*).

*V*-палаталізацыям у чэшскай мове перашкаджаюць наступныя цвёрдыя: *Jan, čas, Jěne, ččse*<*Jane, čase*, а таксама *dušě*<*duša*. У румынскай мове першапачаткова (*e*) дэпалаталізавалася ў (*a*) перад складамі *Ce* (**lege*, **sete*>ст.-рум. *leage*, *seate*), аднак (*'a*) не захавалася ў гэтай пазіцыі; параўн. сучасн. рум. *lege, sete*.

Абагульняючы гэтыя факты, прыходзім да вываду, што наступныя зычныя звычайна стрымліваюць ажыццяўленне таго ці іншага з разгледжаных працэсаў, прычым назіраецца пэўная ўзаемазалежнасць паміж відам працэсу і характарам зычных, якія негатыўна ўплываюць на яго. Сапраўды, *V*-дэвелярызацыі, г. зн. утварэнню пярэдняга галоснага з адпаведнага задняга, перашкаджаюць зычныя нізкай танальнасці; *V*-палатацыі — наступны цвёрды (у чэшскай мове), *V*-дэпалаталізацыі *e*>*'a* — галоўным чынам мяккія зычныя (напрыклад, у румынскай мове). Калі *e*>*'o* ва ўсходнеславянскіх мовах разглядаць таксама як *V*-дэпалаталізацыю, то цалкам заканамерным з гэтага пункту погляду з'яўляецца адсутнасць *e*>*'o* іменна перад мяккімі зычнымі. Наступныя ж цвёрдыя (як і нуль гука ў канцы слоў) не перашкаджалі ажыццяўленню гэтага працэсу.

Такім чынам, тыпалагічны аналіз з'яў, аналагічных *e*>*'o*, не пацвярджае агульнапрынятай гіпотэзы аб уплыве наступных (лабіявелярызаваных) зычных як прычыне пераходу *e* ў *'o*.

Калі *V*-дэпалаталізацыйныя пераходы абумоўлены станаўленнем тэмбравай карэляцыі *C—C'*, то сувязь

*e*>'*o* з падзеннем рэдуцыраваных з'яўляецца бяспрэчнай.

Пасля страты (ь) і (ъ) цвёрдыя і мяккія зычныя пачалі сустракацца ў канцы слоў і складоў: фаналагічная значнасць мяккага зычнага ў складзе *C'V* робіцца бяспрэчнай, і гэта абумоўлівае магчымасць *V*-дэпаталалізацый. У польскіх гаворках адбыўся пераход *ě*>'*a* і *e*>>'*o*; *e*>'*o* ахапіў лужыцкія гаворкі, ѧ>'*a* — чэшскія і славацкія, ва ўсходнебалгарскіх — *ѣ*>'*a* і *ѣ*, ѧ>'*ô* (у радопскіх). *V*-дэпалаталізацыямі, якія адбыліся ўжо ў асобных усходнеславянскіх мовах, былі *e*>'*o* і *e*>'*a*.

Сляды астатняга пераходу назіраюцца ў пскоўскіх помніках XIV—XV стст., напрыклад: *при посаднице при костромя, твоя божество, всемирноя слово, на покаяния, в пучиня, вь иревя* у Пераклітыцы 1369 г.[135] А. І. Сабалеўскі лічыў, што гэты пераход пачаўся «задоўга да XIV ст., у той час, калі яшчэ не развілося *о* з *е*, і ў XIV ст. ужо закончыўся», але гэта цяжка даказаць. Нельга не заўважыць, што *e*>'*a* пераходзіць галоўным чынам у канцы слоў, г. зн. у пазіцыі, дзе *e*>'*o* змянялася непаслядоўна. Значыць, *e*>'*a* магло пераходзіць і пасля заканчэння *e*>'*o* ў тых пазіцыях, дзе *e*>'*o* не пераходзіла. Такія суадносіны паміж гэтымі пераходамі існуюць ва ўкраінскай мове, дзе вынікі *e*>'*a* ў канцы слоў пасля (*й*) шырока прадстаўлены; параўн. сучасн. укр. *життя*<*житие, каміння*<*камінье, зілля*<*зільe, весілля*<*весільe*. Гэты пераход можна прасачыць ва ўкраінскіх помніках XII—XIII стст.: *умноженья, куръглашьнья* (Тыпагр. евангелле № 6, Галіцкае евангелле 1266 г.)[136].

І, нарэшце, у беларускіх, як і ў іншых усходнеславянскіх гаворках, ажыццявілася дэпалаталізацыя *e*>'*o* як звычайны дэпалаталізацыйны працэс у радзе з'яў, аб якіх гаварылася вышэй. Ён прадстаўляе адну з магчымых дэпалаталізацый, якія павінны былі адбыцца пасля з'яўлення канцавых мяккіх і канчатковым станаўленнем карэляцыі *C*—*C'*. Паколькі ва ўсходнеславянскіх гаворках не існавала складоў *C'o*, то не здзіўляе пераход (*e*) іменна ў (*o*), хоць сама па сабе адсутнасць складоў *C'o* не магла быць прычынай *e*>'*o*.

Вынікі пераходу *e*>'*o* ў сучасных беларускіх гаворках вывучаў М. В. Бірыла. Мы ж паспрабуем толькі пракаменціраваць даныя яго даследаванняў з гістарычнага пункту погляду.

Аналізуючы матэрыялы, сабраныя па праграме ДАБМ, Бірыла прыйшоў да наступных вывадаў:

а) «па выніках пераходу *е* ў *о* вылучаецца дзве групы гаворак, мяжой паміж якімі можа служыць традыцыйная мяжа паміж паўднёва-ўсходнімі і паўднёва-заходнімі беларускімі гаворкамі»;

б) «лік выпадкаў захавання галоснага (*е*), які павінен быў змяніцца ў (*о*), у паўднёва-заходніх гаворках усё павялічваецца з прасоўваннем на поўдзень»;

в) сярод паўднёва-заходніх гаворак «вылучаецца два пасы гаворак. Гаворкі з руска-беларускім тыпам змянення *е* ў *о* пры частым захаванні *е* і гаворкі з украінскім тыпам змянення *е* ў *о* пры захаванні элементаў руска-беларускага тыпу змянення *е* ў *о* (асабліва пасля *л*)» [137].

Паколькі ў гаворках з няпоўным аканнем не пад націскам захоўваецца канцавое (*о*) адкрытага склада, то пасля шыпячых ненаціскнога (неканцавога) склада ў гэтых гаворках можа быць толькі (*а*): *пчала, жанаты, жаўток, чатыры.* У гаворках з оканнем гэтыя словы вымаўляюцца як *пчола, жонаты, жоўток, чотыры.* Такім чынам, мяжа «ўкраінскага» пераходу *е*>'*о* не можа не супадаць з мяжой окання—няпоўнага акання. З прычыны гэтага нельга дакладна ўстанавіць паўночную мяжу вымаўлення *бол'шой, бол'шойу, старшого, чого, чому, хочом* і інш.[138] Як паказвае ізаглоса распаўсюджання *збожо, сучо, вялікайо, новайо,* якія сустракаюцца амаль што ва ўсіх гаворках заходняй Гродзеншчыны, «украінскі тып» *е*>'*о* ахапіў калісьці і больш паўночныя тэрыторыі. У карысць гэтай думкі сведчаць даныя гаворкі в. Забалацце Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці. Гэта гаворка з няпоўным аканнем і з «няпоўным» яканнем: неканцавое ненаціскное (*е*) вымаўляецца тут як (*ę*) адкрытае: *дз'а́ц'ęл, м'ęдз'в'е́ц', з'ęл'о́на.* Пасля шыпячых у ненаціскным становішчы вымаўляецца звычайна (*а*): *в'е́чар, ву́пустачак, чац'во́рты, чаты́ри, чалав'е́к.* Аналагічнае назіраецца ў помніках беларускай мовы, напісаных арабскай азбукай, паўднёвабеларускіх па свайму паходжанню (КУ-1144, ЛУ 863). У іх добра адлюстравалася еканне (*с'еми, девет'*), але пасля (*ч*) не пад націскам пішацца (*а*): *чати́ри, чати́рнацат'*[139]. Гэта асаблівасць, як і даныя в. Забалацце, будзе зразумелай, калі дапусціць што яшчэ да ўзнікнення акання (*е*) перайшло ў гэтай зоне ў (*о*) пасля шыпячых.

Прычыны ўтварэння ў паўднёвабеларускіх гаворках зоны з непаслядоўным пераходам *е*>'*о* яшчэ не цалкам зразумелыя; нашы меркаванні адносна гэтых пытанняў маюць толькі папярэдні характар.

Пераход *е*>'*о*, як было паказана, з'яўляецца *V*-дэпалаталізацыяй, якая абумоўлена падзеннем рэдуцыраваных і ўмацаваннем тэмбравай карэляцыі *С—С'*. Рэдуцыраваныя зніклі і ва ўкраінскіх гаворках, але, як вядома, *е*>'*о* перайшло ў іх толькі пасля шыпячых і (*й*), а *е*>>'*а*—пасля (*й*) у канцы слоў. Такім чынам, нягледзячы на існаванне адпаведных ўмоў, дэпалаталізацыя (*е*) пасля іншых мяккіх не адбылася. Больш таго, пачынаючы з пэўнага часу, ва ўкраінскай мове пачаліся змяненні, якія паказваюць, што высокі тэмбр спалучэнняў *C'V* стаў уласнасцю галоснага. Аб гэтым сведчыць, па-першае, зацвярдзенне зычных перад галоснымі (*і*), (*е*). Гэту з'яву можна трактаваць як працэс «перадавання» высокага тэмбру зычным галоснаму, уласна канцэнтрацыі высокага тэмбру спалучэння *C'V* на галосным (схематычна *C'і*>*С*('*і*)>*Сі*; *С'е*>*С*('*е*)>*Се*). Па-другое, пераход *ѣ*>*і*. У старажытных усходнеславянскіх гаворках (*ѣ*) быў закрытым вузкім гукам, відаць, дыфтангічнага характару тыпу літоўск. (*ie*) (*vienas, siena, pienas* і інш.). Калі ў спалучэннях *С'ѣ* высокі тэмбр належыць зычнаму, натуральнай з'яўляецца эвалюцыя $C'ie > C'\overset{i}{-}e >$ *С'е*, г. зн. кампанент ($\overset{i}{-}$) дыфтангоіда (*i͡e*) успрымаецца як прызнак мяккасці папярэдняга зычнага. Пераход *С'ѣ*>*С'е* з'яўляецца аналагічным *С'е*>*С'о*. Гэта беларускі шлях развіцця. Калі ж высокі тэмбр склада *С'ѣ* робіцца «ўласнасцю» галоснага, то трэба чакаць канцэнтрацыі дыезнасці на (*ѣ*), што выклікае далейшае звужэнне *ѣ*>*і* з магчымым зацвярдзеннем зычных перад гэтым (*і*). Захоўванне дыфтангічнага характару (*ѣ*) = (*i͡e*) у сучасных палескіх гаворках прадстаўляе сабою, на нашу думку, кампраміс паміж «украінскім» і «беларускім» шляхамі развіцця; але магчыма і тое, што сучаснае (*i͡e*) адпавядае патрабаванням «украінскай» тэндэнцыі, і тады трэба чакаць змяненняў *С'ie*>*Сie*. Забягаючы наперад, адзначым, што тэндэнцыя да такой рэалізацыі назіраецца ў паўднёвабеларускіх гаворках.

Можна меркаваць, што расшчапленне мяккіх губных перад галоснымі задняга рада ва ўкраінскіх і паўднёва-

беларускіх гаворках таксама было выклікана тэндэнцыяй да перацягвання высокага тэмбру з зычнага на галосны. На гэтай тэрыторыі яно ажыццявілася ва ўмовах існавання агульнай для ўсіх проціпастаўленняў *C—C'* пазіцыі нейтралізацыі, г. зн. ва ўмовах, калі гэта расшчапленне наўрад ці магло мець месца. Аднак спалучэнні «мяккі лабіяльны+галосны задняга рада» пры ажыццяўленні «ўкраінскага» шляху развіцця могуць даць або *Сä, Сö, Сü<С'а, С'о, С'и* (дзе *С'*=мяккаму губному), або, улічваючы асаблівасці рэалізацыі мяккасці ў губных і іх агульную няўстойлівасць, *Сіа, Сіо, Сіи*. Аб тым, што здольнасць гука лёгка змякчацца мае значэнне для ажыццяўлення разгледжаных працэсаў, сведчыць пераход *е>'о* ва ўкраінскіх гаворках пасля (*л'*), напрыклад: *сл'ози, сл'оза, л'он, пасл'он, л'одовий* (*у тр'ох* (*о*) з'явілася нефанетычным шляхам), у той час як іншыя зычныя ва ўсіх выпадках зацвярдзелі перад (*е*).

У паўднёвабеларускіх гаворках «больш шырока прадстаўлена змяненне *е* ў *о* пасля зычнага *л*, найбольш абмежавана змяненне *е* ў *'о* пасля губных»[140]. Спалучэнні «мяккі губны+*о*» (*м'од, ав'ос, пам'орла, зап'орла, б'орды, грэб'ом*) на поўдзень ад лініі Ліда — Баранавічы — Чырвонае возера — да Бярэзіны ў раёне Светлагорска — па Бярэзіне да Рэчыцы — і на ўсход да Гомеля сустракаюцца ўсё радзей і радзей.

З другога боку, калі супаставіць па картах ДАБМ распаўсюджанне цвёрдых перад (*е*) (гл. карты № 53, 55, 57), то можна заўважыць, што губныя перад (*е*) зацвярдзелі на значна большай тэрыторыі, чым іншыя зычныя. Аднак даныя ДАБМ не трэба лічыць канчатковымі. У некаторых абследаваных намі паўднёвабеларускіх гаворках назіраецца асобае вымаўленне губных перад (*е*) — з'ява, адзначаная ў свой час П. Бузуком: «Пачынаючы ж ад Лоева прыблізна (напр., у Крупейках, 5 в. ад Лоева) і да Рэчыцы (каля Рэчыцы запісы я рабіў у Броннам 8 в. на поўдзень ад Рэчыцы і ў Дзеражне, 7 в. на паўночны захад) калі-нікалі прабіваецца сярэдняе (г. зн. паўмяккае або паўцвёрдае) вымаўленне губных: *памираць, авэчкі, пэршi, бэруць* і інш. (з дапамогай *э* абазначана сярэдняе вымаўленне)»[141]. Сапраўды, у некаторых усходнепалескіх гаворках (*е*) пасля цвёрдых губных гучыць як (*ẹ*) звужанае пасля мяккіх у беларускай літаратурнай мове (*п'ẹн'*). Гэта не зусім звычайнае для ўсходняга

славянства вымаўленне цвёрдых зычных перад галоснымі пярэдняга рада, і нетрэніраванае вуха фіксуе ў дадзеным выпадку або мяккасць губных, або непаслядоўную цвёрдасць-мяккасць.

У в. Пухавічы Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці вымаўляюць: *овéчка, мет, пен', пéршиі, живé, вéчор, смéрц', умéрла, копéйка, ц'епéр, зовéцца, пéнс''ейа, верх, менé, мéл'н'ік, дз'еревéнск'і, повéзл'і, вéрн'еццa; хлопец, вес''óлэіе, берéз''іна, везôм, заведз'óнка, му пекôм, берé, мен'é, пéрве*, таксама *песóк, мешóк, ведрó, венóк, верóўка, бег'íц'*, дзе *е*<*ѣ* не пад націскам; калі-нікалі *ковэн'á, посвэцáйуц', мэдз'в'éц'*. У гаворцы в. Глушкавічы (№ 978 ДАБМ) адзначана *веснá, мешóк, песóк, ведрó, хлóпец, берéза, п'éвен', мéс''ац, мед, мéл'н'ік, вéчор*; у некаторых маладых носьбітаў гаворкі — *м'ед, в'еснá, м'ешóк, п'есóк.*

У в. Белая Сарока Ельскага раёна Гомельскай вобласці: *перв'íчка, авéчка, везôм, вез''é, берóза, метлá, ведрó, песóк, мешóк, мед, пен'*, хоць у моладзі — *ц'éм'ен', м'ешóк, п'есóк.*

Аналагічнае вымаўленне зафіксавана намі ў в. Губарэвічы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці (2 км на поўдзень ад Стрэлічава, № 1000 ДАБМ). У в. Цяруха Гомельскага раёна губныя зацвярдзелі толькі ў ненаціскным становішчы: *петá, веснá, песóк, мешóк* (пад націскам *ав'éчка, ав'éс, с''в'éкар* і інш.) [142]. Цікава, што ў самым Стрэлічаве дыялектолагі адзначылі *в'éзц'і, в'ерх, п'éршы*, але: *вэ́чар, пэ́кар* (ДАБМ, Каментарыі, стар. 466), у той час як у Губарэвічах выразна гучыць *перв'íчка, авéчка, п'éвен', вęз'é, бęгôм, вęзôм, мед, мéл'нік, вęдрó, пęсóк* і інш. Магчыма, што і «непаслядоўная» мяккасць губных у населеных пунктах 729, 732, 733, 737, 754, 758, 762, 764, 767, 801, 802, 803, 804, 806, 807, 809, 953, 972, 993, 994, 1012, 1020, 1027 ДАБМ, адзначаная дыялектолагамі, таксама сведчыць аб цвёрдым гучанні губнога перад звужаным (невелярызаваным) (*е*) [143].

Такім чынам, улічваючы заўвагі П. Бузука і нашы назіранні, а таксама ўскосныя даныя ДАБМ, можна меркаваць, што губныя перад (*е*) зацвярдзелі на значна большай тэрыторыі, чым гэта паказвае карта № 53 ДАБМ, а іменна на поўдзень ад прыблізнай лініі Пружаны — Чырвонае возера — Гомель — Цяруха (у не-

каторых гаворках толькі ў ненаціскным становішчы!). Калі супаставіць межы поўнай ці частковай адсутнасці *е>'о* пасля губных і межы больш-менш паслядоўнага зацвярдзення губных пасля (*е*), то добра відаць іх падабенства. Відавочна, што зона з нерэгулярным пераходам *е>'о* з'яўляецца зонай «змагання» тых тэндэнцый, якія больш яскрава праявіліся на поўнач і на поўдзень ад яе. На гэтай жа тэрыторыі тая ці іншая тэндэнцыя ажыццяўлялася ў найбольш «ёмкіх» для сябе фанетычных пазіцыях. Іменна «ўкраінская» тэндэнцыя ахапіла спалучэнні «мяккі губны+*е*», паколькі мяккія губныя — наогул няўстойлівыя гукі, а «беларуская» «прабілася» ў спалучэннях «мяккі зубны+*е*», таму што мяккія зубныя добра змякчаюцца. Вельмі паказальна, што межы такіх з'яў, як захаванне *i͡e<ѣ* ці пераход *ѣ>i*, праходзяць блізка ад межаў адсутнасці *е>'о* пасля губных у некаторых словах, параўн. распаўсюджанне слоў *пам'ерла* (гл. карту № 32 ДАБМ), *б'ерда* (гл. карту № 31 ДАБМ); *ав'ес* і *м'ед* займаюць значна меншую тэрыторыю, якую можна супаставіць з зонай зацвярдзення губных перад (*е*), але *авйос* і *мйод<ов'ес, м'ед* зайшлі далёка на поўнач. У сваю чаргу зона расшчаплення спалучэнняў «мяккі губны+*а, у*» на «цвёрды губны+*й*+*а, у*» амаль што поўнасцю супадае з зонай захавання *іе<ѣ*, (гл. карты № 50, 51 ДАБМ). Усё гэта, на нашу думку, сведчыць у карысць гіпотэзы аб унутранай сувязі з'яў «украінскай» тэндэнцыі, але пакуль не стануць зразумелымі прычыны яе ажыццяўлення, гэту гіпотэзу нельга лічыць канчаткова даказанай [144].

Усе разгледжаныя вышэй з'явы мелі вялікі ўплыў на лёс тэмбравай карэляцыі *С—С'* у беларускіх гаворках. Так, вынікам пераходу *е>'о* было значнае ўмацаванне *С—С'*, паколькі з'явіліся спалучэнні *С'о* і новыя чаргаванні тыпу **н'ос—*н'еслі', *в'оз—*в'езлі, *т'ор—т'ер'л'і, *с'ем—*с'омы, *л'он—*л'ну, *ов'ос—*овсы* павялічылі колькасць выпадкаў актыўнай нейтралізацыі проціпастаўленняў *С—С'*. Асабліва важнае значэнне пераход *е>'о* меў для проціпастаўленняў цвёрдых і мяккіх губных: мяккія губныя да гэтага сустракаліся толькі перад (*а*), цяпер жа з'явіліся спалучэнні *м'о, п'о, в'о, м'о*, і проціпастаўленні *п—п', б—б', в—в', м—м'* атрымалі яшчэ адну пазіцыю адрознівання.

У зоне з абмежаваным пераходам *е>'о* ўсе мяккія сустракаліся перад (*о*) значна радзей, чым у паўночна-ўсходніх гаворках, і, такім чынам, у гэтай пазіцыі яны горш проціпастаўляліся цвёрдым. Асабліва слаба перад (*о*) аказаліся проціпастаўленымі тут цвёрдыя і мяккія губныя.

Захоўванне *ê<ѣ* ў якасці асобнай фанемы станоўча ўплывала на ўстойлівасць тэмбравай карэляцыі, паколькі ўсе проціпастаўленні *С—С'* нейтралізаваліся перад [*ê*]. Вынікам жа зліцця *ѣ* і *е>е* ў паўночна-ўсходніх гаворках было разбурэнне такой пазіцыі, і, магчыма, некаторае аслабленне *С—С'*.

Негатыўна ўплывала на ўстойлівасць *С—С'* зацвярдзенне (расшчапленне) мяккіх губных перад (*а*). Пасля ажыццяўлення гэтай з'явы губныя ў паўднёва-заходніх гаворках проціпастаўляліся па цвёрдасці-мяккасці толькі перад [*і*]: **б'іт'—*быт', *п'іт'—*пыл', *м'іска—*мыт'* і інш. На поўнач ад зоны зацвярдзення губных перад (*е*), у межах распаўсюджання *пйа, бйа, мйа, вйа<п'а, б'а* і інш., сустракаюцца *бйорда, мйот, авйос* (ці *аўйос*). Відаць, раней тут адбыўся пераход *е>'о* пасля губных, і яны некаторы час проціпастаўляліся па цвёрдасці-мяккасці перад [*о*]. Але ў адных і тых жа гаворках наўрад ці доўга маглі суіснаваць спалучэнні тыпу *мйа, бйа* і *б'о, м'о, п'о, в'о*; лёс апошніх у гэтых умовах быў прадвызначаны — яны павінны былі знікнуць, расшчапіцца на *С+й+о*.

Зацвярдзенне мяккіх губных перад (*е*) прывяло да абмежавання іх дыстрыбуцыі ўвогуле і да ўтварэння асобнай пазіцыі нейтралізацыі для мяккіх і цвёрдых губных. Гэта садзейнічала адасабленню гэтых пар ад парных зубных, тым больш што цяпер у радзе гаворак перад (*е*) сустракаліся толькі мяккія зубныя і толькі цвёрдыя губныя.

Такім чынам, пасля пералічаных змяненняў тэмбравая карэляцыя ў паўднёва-заходніх гаворках увогуле, а проціпастаўленні цвёрдых і мяккіх зубных у прыватнасці аказаліся менш устойлівымі, чым адпаведныя падсістэмы ў паўночна-ўсходніх гаворках. Забягаючы наперад, скажам, што гэта адыграла вельмі важную ролю ў далейшай эвалюцыі тэмбравай карэляцыі *С—С'* у названых гаворках.

І, нарэшце, некалькі слоў адносна асаблівасцей нейтралізацыі проціпастаўленняў *С—С'*.

Нейтралізацыю *С—С'>С'* перад галоснымі пярэдняга рада [е], [ê] трэба лічыць, па класіфікацыі М. С. Трубяцкога, нейтралізацыяй «побач з маркіраваным членам падобнай (рус. родственной) апазіцыі з захаваннем фаналагічнай значнасці побач з немаркіраваным членам гэтай апазіцыі». У літаратуры ўжо звярталася ўвага на незвычайнасць такой нейтралізацыі (уласна — псеўданейтралізацыі [145]), калі ў якасці прадстаўніка згорнутай апазіцыі выступае м а р к і р а в а н ы член. У гэтым не было б нічога дзіўнага, калі побач з *С—С'>С'* адбывалася б нейтралізацыя *С—С'>С* са зняццем прызнака (як у выпадку *т—д* і інш., якія нейтралізуюцца *т—д>т* у канцы слоў і *т—д>д* перад звонкімі).

Пры наяўнасці ж толькі *С—С'>С'* выходзіць, што ў мове, дзе, бясспрэчна, існуе тэмбравая карэляцыя (з маркіраванымі *С'* фанемамі) у адзінай агульнай для ўсіх пазіцыі нейтралізацыі, мяккасць зычных з'яўляецца не фанематычным, а пазіцыйным прызнакам. Інакш кажучы, спосаб нейтралізацыі проціпастаўлення *С—С'* у беларускіх дыялектах быццам не пацвярджае фанематычнасці проціпастаўлення *С—С'*. Магчыма, што такі стан не з'яўляецца нармальным, і ў мове праявіцца тэндэнцыя да некаторых пераўтварэнняў, накіраваных на яго «нармалізацыю». Апрыёры такімі з'явамі могуць быць: а) утварэнне пазіцыі нейтралізацыі, дзе б усе проціпастаўленні *С—С'* згортваліся у *С*, як ва ўкраінскай і балгарскай мовах (у першай *С—С'>С* перад [е], у другой — перад [*е*] і ў канцы слоў); б) з'яўленне спалучэнняў *Се* побач з *С'е*; відавочна, гэта прывядзе да «вызвалення» мяккіх зычных у спалучэннях *С'е*. Апошні кірунак развіцця з'яўляецца небяспечным для ўстойлівасці тэмбравай карэляцыі, паколькі наяўнасць *Се, Сê* побач з *С'е, С'ê* будзе азначаць разбурэнне агульнай для ўсіх *С—С'* пазіцыі нейтралізацыі.

Такім чынам, далейшы лёс тэмбравай карэляцыі *С—С'* у беларускіх гаворках залежыць фактычна ад таго шляху, які «выбера» мова для вырашэння супярэчнасці паміж наяўнасцю маркіраваных мяккіх фанем *С'* і адсутнасцю сапраўднай (як зняцце прызнака) нейтралізацыі проціпастаўленняў *С—С'*.

## ЗАЦВЯРДЗЕННЕ МЯККІХ ГУБНЫХ У КАНЦЫ СЛОЎ І ПЕРАД ЗЫЧНЫМІ

Пасля падзення рэдуцыраваных мяккія губныя, як і іншыя зычныя, з'явіліся ў канцы слоў і перад зычнымі: **л'убов'*, **кров'*, **голуб'*, **вос'ем'*, **сем'*, **домом'*, **ко-н'ем'*, **вглуб'*, **постав'*, **постав'т'е*, **прав'да* і інш. У сучасны момант мяккія канцавыя губныя сустракаюцца толькі ў цэнтральнавелікарускіх гаворках (параўн.: *кроф', л'убоф', сем', вос'ьм'*; *пъстаф'*)[146]. Перад зычнымі яны як вынік асімілятыўнага змякчэння назіраюцца ў паўднёва-ўсходніх рускіх гаворках (*лап'к'и, д'еф'к'и, т'еп'к'и*) [147].

Сучасныя беларускія гаворкі не ведаюць мяккіх у канцы слоў і перад зычнымі, параўн. літ. дыялект.: *кроў, л'убоў, голуп, с'ем, вос'ім, домам, кан'ом, пастаў, пастаўц'е, дам.* Дакладна ўстанавіць храналогію гэтага зацвярдзення цяжка. Па назіраннях Я. Ф. Карскага, самыя раннія выпадкі тыпу *избавъ, нелюбовъ, ѥсмъ, сем* сустракаюцца ў помніках XV ст.[148] Можна меркаваць, што ў канчатках гэта адбылося раней: у грамаце 1229 г. на месцы *ъ* неаднаразова сустракаецца *ь* у форме давальнага склону множнага ліку, што сведчыць, магчыма, аб неадрозніванні пісцом цвёрдых і мяккіх губных у канцы слоў. Трэба згадзіцца з меркаваннем М. М. Дурнаво аб працягласці працэсу зацвярдзення губных у канцы слоў і аб неаднолькавай яго інтэнсіўнасці ў розных формах[149]. Захаванню мяккасці губных дапамагала граматычная аналогія, і таму ў формах імёнаў яны зацвердзявалі значна павольней. Няўстойлівымі аказаліся канцавыя мяккія губныя і ў іншых славянскіх мовах. Акрамя рускай, яны сустракаюцца яшчэ ў некаторых усходнебалгарскіх і цэнтральных польскіх гаворках (прычым толькі ў імёнах). Нідзе ў славян не зафіксавана (*м'*) у формах дзеясловаў, канчаткаў творнага склону адзіночнага ліку, параўн.: рус., бел., укр., балг. *дам*, в.-луж., н.-луж., польск. *dam*, але: ст.-слав. *дамь;* рус., бел. *кан'ом* (дыялект. *кан'ем*), укр. *конем,* польск. *panem*, *dębem*, ст.-слав. *градомь*, *конемь*. Такім чынам: а) у радзе моў (украінскай, беларускай, чэшскай) канцавыя мяккія губныя зацвярдзелі ва ўсіх выпадках; б) у некаторых рускіх гаворках яны захаваліся толькі ў імёнах; в) у польскіх гаворках іх сустракаем

толькі ў імёнах; некаторыя гаворкі ў імёнах і загадным ладзе маюць спалучэнні *рх́*, *рś*, якія сведчаць аб старой мяккасці губных; г) у балгарскіх гаворках (усходніх) канцавыя сустракаюцца толькі ў імёнах.

Як бачым, пры агульнай тэндэнцыі да знікнення канцавыя мяккія губныя «паводзяцца» вельмі непаслядоўна, напрыклад, у адных і тых жа гаворках яны захоўваюцца ў імёнах і знікаюць у іншых формах. Улічваючы гэта, можна меркаваць, што мяккія губныя ў канцы слоў і перад зычнымі зацвердзяваюць спантанна, самі па сабе, толькі таму, што яны аказаліся ў адзначаных пазіцыях. Спантаннае зацвярдзенне губных выклікаецца асаблівасцямі іх будовы. Яшчэ ў 1850 г. Г. Паўскі адзначаў «неахвотную» спалучальнасць губной і палатальнай артыкуляцый [150]. Зараз фанетычныя асаблівасці мяккіх губных грунтоўна даследаваны. Аказалася, што мяккасць іх рэалізуецца як пераходны элемент паміж губным і галосным (у складзе $C'V = C\overset{i}{\frown}V$, калі $C'$ — любы губны) [151]. Зразумела, што ў канцы слоў і перад зычнымі мяккі губны губляе апору для рэалізацыі мяккасці і развіваецца ў двух напрамках — або зацвердзявае (часцей), або «выдзяляе палатальнасць» (як у польскіх гаворках).

У выніку зацвярдзення губных у канцы слоў і перад зычнымі парныя па цвёрдасці-мяккасці губныя ў беларускіх гаворках пачалі нейтралізавацца ў гэтых пазіцыях (**крыв'і* — **кров*, **с'ем'і* — **сем*, **з'ем'ел'* — **з'ем-л'і*), што і назіраем у сучасных гаворках. Такім чынам, толькі пары *п — п'*, *б — б'*, *в — в'*, *м — м'* нейтралізаваліся ў канцы слоў; толькі ў іх прадстаўнікамі нейтралізаваных апазіцый заўсёды выступалі цвёрдыя зычныя.

Утварэнне «сапраўднай» пазіцыі нейтралізацыі з'яўляецца натуральным працэсам пры існаванні фаналагічных проціпастаўленняў $C — C'$. У той жа час узнікненне яе толькі для групы парных па цвёрдасці-мяккасці губных садзейнічала адасабленню гэтых проціпастаўленняў ад іншых апазіцый такога роду, што негатыўна ўплывала на агульную ўстойлівасць тэмбравай карэляцыі. Апошняе мела вялікае значэнне для паўднёва-заходніх гаворак, дзе тэмбравая карэляцыя аказалася аслабленай у выніку непаслядоўнага пераходу *е*>*'о* і іншых змяненняў, апісаных вышэй.

## ДЭВЕЛЯРЫЗАЦЫЯ І ЛАБІЯЛІЗАЦЫЯ (_ы_) У БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Пасля ѧ>'_а_ і падзення рэдуцыраваных гук (_ы_) ва ўсходнеславянскіх гаворках перастае быць самастойнай фанемай і робіцца варыянтам фанемы [і] пасля цвёрдых зычных. З гэтага часу склад _Сы_ прадстаўляе сабою спалучэнне $C^{o}+i$, г. зн. «велярызаваны зычны+галосны пярэдняга рада».

Велярызаваныя зычныя з'яўляюцца таксама ў канцы слоў і складоў пасля падзення слабога (ъ): *кот$^{o}$<котъ, *л'ед$^{o}$<льдъ, *сон$^{o}$<сънъ, *вор$^{o}$<воръ, *нос$^{o}$<носъ, *лоб$^{o}$<лъбъ, *дом$^{o}$<домъ, *ток$^{o}$<токъ. Ускосна існаванне велярызаваных адлюстравалася ва ўсходнеславянскіх помніках. «Літары ъ і ь ужо досыць рана служылі для адрозніваня цвёрдасці-мяккасці ў проціпастаўленнях зычных, якія развіваліся тады»[152]. Аб гэтым сведчыць этап «недыферэнцыраванай галоснасці» ў эвалюцыі слабых ъ і ь, калі пісцы шырока выкарыстоўвалі надрадковыя знакі[153]. Зразумела, што слабы (ь) абазначаў палаталізаванасць зычных, а (ъ) — велярызаванасць ($C^{o}$).

Вядома таксама, што праз некаторы час пасля падзення рэдуцыраваных як у новых, так і ў спрадвечных групах зычных пачалі развівацца «новыя глухія». Сам па сабе факт гэты парадаксальны. Цікава, што ў вядомых нам прыкладах у суседстве з заднепаднябеннымі і губнымі ўзнікае звычайна (ъ): рус., бел. _агонь_<*_огн'_, _угал'_<*_угл'_; рус. _волхов_<*_вълъхвъ_, дыялект. _мертов_<*_мьрьтвь_, *_молитов_<*_молитвъ_, _досок_ (бел. _дасок_)<*_дъскъ_; паміж зубнымі, як правіла, узнікае (ь): _помысел_<*_помыслъ_, _остёр_<*_остръ_, _хитёр_<*_хытръ_, _тесен_<*_тѣснъ_, _любезен_<*_любьзнъ_, _сестёр_ (бел. _сясцёр_)<*_сестръ_ таксама, як і перад мяккімі: _капель_<*_капль_, _земель_ (бел. _зямель_)<*_земль_ і інш.[154] Ці не адлюстроўвае гэта з'ява працэс «размеркавання» нейтральных цвёрдых (якія не мелі свайго ўласнага тэмбру) на палаталізаваныя і велярызаваныя? Губныя і заднепаднябенныя, як нізкія па прыродзе, рабіліся велярызаванымі, зубныя «вагаліся», але «выбіралі» пераважна палаталізаванасць. «Новыя глухія», такім чынам, прадстаўляюць сабою, магчыма, вакалізаваны другасны (набыты) тэмбр зычных.

Велярызаваныя зычныя з самага пачатку проціпастаўляліся палаталізаваным у канцы слоў і складоў, г. зн. у дыялектах скламіся фанетычныя апазіцыі *C'* — *C*°. Аднак на ўзроўні фанем велярызаванасць была нерэлевантнай; маркіраванай фанемай выступала *C'*, а ўласны тэмбр цвёрдых фанем не меў фанематычнага значэння. Перад (*а*) цвёрдыя не мелі ўласнага тэмбру (былі нейтральнымі), а ў складах *Со, Су* пазіцыйная ((лабія)велярызаванасць так і застаецца пазіцыйнай) [155].

Мы выявілі, што з'яўленне велярызаваных фанем у румынскай і французскай мовах выклікала *V*-дэвелярызацыйныя працэсы. У славянскіх жа мовах *C*° не сталі самастойнымі фанемамі, і таму *V*-дэвелярызацыі (*Со*>*С°о*>*Сэ*), (*Су*>*С°у*>*Сы*) наўрад ці маглі ахапіць шмат пазіцый і быць інтэнсіўнымі. Яны маглі адбыцца ў найбольш «ёмкіх» для сябе фанетычных пазіцыях, або спарадычна, у некаторых выпадках. Ці не з гэтага пункту погляду трэба трактаваць пераход *а, о*>*э* ў некаторых беларускіх дыялектных словах тыпу *сэплі*<*соплі, лэпаць*<*лапаць, вэнь*<*вон, бэгна*<*багна* (чэрвеньск.).

Ва ўсходнеславянскіх дыялектах заднепаднябенныя не мелі мяккіх адпаведнікаў і нават мяккіх варыянтаў. Пасля падзення рэдуцыраваных з'явіліся велярызаваныя (*к*°), (*г*°), (*х*°): **рук*°, **ног*°, **пух*°<*рукъ, ногъ, пухъ*. У сувязі з гэтым узнікае падсістэма апазіцый *к* — *к*°, *г* — *г*°, *х* — *х*°, якія нейтралізуюцца ў некаторых пазіцыях; параўн.: *рук*° — *рука, дух*° — *духа* і інш. Мы лічым, што вынікам яе існавання і была дэвелярызацыя (*ы*) пасля (*г*), (*к*), (*х*), г. зн. вядомы пераход *гы, кы, хы*>*гі, кі, хі,* тым больш што пры агульнай тэндэнцыі да перадачы тэмбру зычнаму заднепаднябенныя як гукі нізкай танальнасці лягчэй за іншыя маглі «забраць» велярызаванасць у (*ы*).

Так жа сама маглі паводзіць сябе і губныя, нізкатанальныя па прыродзе гукі. Ці не з гэтай прычыны ў паўднёвабеларускіх (цэнтральнапалескіх) гаворках ажыццявілася дэвелярызацыя *ы*>*і* пасля губных? Па даных ДАБМ, вымаўленне *м'і, в'і*<*мы, вы, баб'і*<*бабы; (пагра)б'і, (хл'а)в'і*<*(пагра)бы, (хл'а)вы; б'ік, (ка)б'іла*<*бык, (ка)была* адзначана ў шматлікіх населеных пунктах (гл. карты № 24, 37, 38, 39, 41; гэтыя гаворкі не складаюць адзінага масіву). Трэба адзначыць, што ў дыялекталагічных запісах не зафіксавана

цвёрдае вымаўленне губных перад (*і*), а між тым яно нярэдка сустракаецца ў гэтых гаворках. Напрыклад, у в. Рэчкі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці вымаўляюць *мі, ві, бабі, бік, кобіла, корові, бі* (часціца *бы*), *грібі* (=грыбы), *віпій, вібій* і інш. Студэнты, якія абследвалі гаворку па праграме ДАБМ, адзначылі тут і *в'і, (хл'а)в'і, м'і, в'і.* Па даных Дыялекталагічнага атласа, у гэтым пункце (№ 756) вымаўляюць толькі *(пагрэ)б'і, (хл'а)в'і, м'і, в'і.* У в. Глушкавічы (пункт № 978 ДАБМ) у канцы слоў пасля губных *ы*>*і* і перад ім губныя таксама цвёрдыя: *вóс"імі* (=восьмы), *с"óмі, корóві* (=каровы), *сл'епі, брáтові дз"éц"і, гýбі, зýбі.* Аналагічна губныя вымаўляюцца і перад спрадвечным (*і*) і (*і*)<*ѣ*: *від* (=ліцо), *на дз"éреві, на корóві.* У гаворцы в. Новая Рудня Ельскага раёна Гомельскай вобласці адзначана: *бічóк, дровічка, у копі кладóм, гýбі, зýбі, ві, мі, бабі, війэхал'і, йазúк допітáйэ, бістро, вісохнут, пісмó, кóрміт, за коровáмі.* У гаворцы в. Белая Сарока Ельскага раёна Гомельскай вобласці: *бік, мабіт так, вітйэ, гýбі, зýбі, пэ́рві, с"óмі, вóс"мі, попітáйэ, зробіл'і, бабі, вібірáйут, кабіла, брóві.*

Мяркуючы па непаслядоўнасці, з якой якасць губных абазначалі дыялектолагі ў запісах па праграме ДАБМ, (*і*) пасля цвёрдых губных сустракаецца і ў іншых гаворках. Так, у пункце № 722 адзначана *(пагра)б'і, (хл'а)в'і, в'і,* але: *мы*; у пункце № 968 — *(пагра)б'і, (хл'а)в'і,* але: *мы, вы;* у пункце № 1008 — *(пагра)б'і, (хл'а)в'і,* але толькі *мы, вы.*

Такім чынам, у пералічаных паўднёвабеларускіх гаворках назіраюцца вынікі дзвюх тэндэнцый: першай («беларускай», ці былой усходнеславянскай) — да «прысваення» тэмбру ў складзе *CV* галосным (*Сы*>*С°ы*> >*Сі*>*С'і*) і другой — уласна «ўкраінскай», звязанай з канцэнтрацыяй тэмбру на галосным. Вынікам апошняй з'яўляецца пераход *С'і*>*Сі,* г. зн. змяненне, аналагічнае *С'е*>*Се.* Магчыма, далейшыя даследаванні пакажуць, што зоны зацвярдзення губных перад (*е*), (*і*) супадаюць ці амаль што супадаюць.

Працэсам, процілеглым *ы*>*і,* была лабіялізацыя *ы*>*у* пасля губных, якая ажыццявілася ў кампактнай групе гаворак Гомельскай вобласці (гл. карты № 24, 37—39, 41 ДАБМ распаўсюджання *бабу, му, ву (пагра)бу, бук, (ка)була* і карту-схему 5 нашай працы). Гэту з'яву мож-

на лічыць праяўленнем тэндэнцыі да канцэнтрацыі тэмбру (нізкага ў дадзеным выпадку) на галосным, г. зн. «украінскай» тэндэнцыі. Незразумела толькі, чаму яна адбылася іменна ў гэтай зоне і чаму слядоў яе няма ва ўкраінскіх гаворках.

Пераход *л*>*ў* і *в*>*ў*, якія назіраецца ва ўкраінскіх, беларускіх і часткі велікарускіх гаворак, з'яўляецца, магчыма, вынікам існавання велярызаваных (*л*°), (*в*°) у старажытных усходнеславянскіх дыялектах. Надзейную паралель гэтым зменам прадстаўляюць аналагічныя пераходы ў лужыцкіх, славенскай, польскай і французскай мовах, дзе не толькі *l*°, *v*°>*u*, але нават і *b*°, *g*°>*u*. Канцавое (*л*°) дало (*ў*) у беларускай мове ў формах прошлага часу дзеясловаў і ў родным склоне множнага ліку; параўн. сучасн.: *гаварыў, даў, зразум'еў, моў, слоў,* але: *пол, вол, пыл, стол.* Адсутнасць *л*>*ў* у імёнах лічыцца вынікам аналогіі (параўн.: *стол — сталом, сталы; пол — полам, палы*). У дзеясловах таксама назіраем *пайшоў — пайшла, пайшл'і* і г. д., аднак уплыў марфалогіі слова ўвогуле на пераход (ці адсутнасць пераходу) *л*>*ў* не выклікае сумненняў. У славенскай мове таксама *l*>*u* ў канцы слоў, але ў некаторых катэгорыях (*l*) захавалася, так што правілы вымаўлення канцавога (*l*) ці (*u*) «задаюцца» ў гэтай мове спіскам.

Цікавай гіпотэзай для тлумачэння пераходу *в*>*ў* з'яўляецца меркаванне Я. Ф. Карскага аб білабіяльным характары старажытнабеларускага (*в*) = (*w*). Аднак трэба мець на ўвазе, што само (*w*) сучасных беларускіх гаворак (не толькі ў канцы слоў і складоў!) можа быць рэфлексам губна-зубнога, але велярызаванага (*в*°).

На наш погляд, цвёрдыя зычныя беларускай мовы з'яўляюцца велярызаванымі, таксама як і адпаведныя зычныя рускай літаратурнай мовы. У гэтым нас пераконвае перш за ўсё наяўнасць гука (*ы*) у якасці варыянта фанемы [*i*] пасля цвёрдых і (*э*) у гэтай пазіцыі (*гэты, сэрца, сэнс, пэўна, мэбл'і,* а не *геты, серца, пеўны;* параўн. гучанне (*e*) пасля зычных у ням. *sehr, mehr, nehmen, lesen*).

У паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках вымаўленне спрадвечна цвёрдых не адрозніваецца ад літаратурнага: *ты, л'асы, калы, сл'озы* і інш. Пасля зацвярдзелых (*ш*), (*ч*), (*ж*) і асабліва (*р*) у гэтых жа гаворках мож-

на пачуць «паўвялярнае» (*ы*) (= (*и*) у нашай транскрыпцыі), г. зн. гук, сярэдні паміж (*і*) і (*ы*). Такое гучанне (*ы*) = (*и*) сведчыць аб невелярызаванасці цвёрдых; мы адзначылі яго ў пунктах 9, 12, 16, 24, 29, 34, 69 карты-схемы 4 і некаторых іншых на тэрыторыі паўночнай часткі Мінскай, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, на паўночна-ўсходняй Гродзеншчыне: *дз''в'е́ри, з''в'ари́, три, чаты́ри, гро́ши, жиц''*. Паслядоўнасць вымаўлення (асабліва ў старэйшых жыхароў) не дае падстаў думаць аб уплыве рускай мовы (уласна ў выпадку (*ри*)). У в. Сосенка Вілейскага раёна адзначана *дз''ажі*, у в. Пятроўшчына Глыбоцкага раёна — *ма́л'чик*, у в. Цынаўка Полацкага раёна — *хло́пчик*, у в. Слабада Ашмянскага раёна — *ц''амн'е́йши, с''в'атл'е́йши*, у в. Стайкі Барысаўскага раёна — *чи́сты, гро́ши, жис''*, *жир* (ёсць магнітафонныя запісы). Нашы назіранні аказаліся ўрыўкавымі з той прычыны, што з самага пачатку гэтай з'яве не аддавалася належнай увагі (мы лічылі яе вынікам уплыву рускага вымаўлення). Аднак высветлілася, што ў літаратуры ўжо ёсць аналагічныя назіранні. Я. Ф. Карскі «паўцвёрдае» вымаўленне адзначыў на Гродзеншчыне [156]; П. Бузук — у гаворках Асіповіцкага раёна: «У Ст.-Слабадзе мы заўважылі значна менш цвёрдае *р* (паўцвёрдае) перад галоснымі пярэдняга рада, прычым замест наступнага *ы* вымаўляецца галосны больш пярэдняй артыкуляцыі (вызначым яго праз *и*): *ари, три, дварец*» [157]. Воўк-Левановіч, апісваючы гаворку в. Татаркавічы і навакольных вёсак Бабруйскага раёна, адзначыў, што «шыпячыя і *р* тут вельмі часта толькі напалавіну цвёрдыя» [158]. «Большасць гаворак раёна,— пісаў С. Некрашэвіч аб гаворках Парыцкага раёна,— мае цвёрдае *р*, некаторая частка мае паўмяккае *р* і частка — мяккае... Шыпячыя ў гаворках раёна цвёрдыя і паўмяккія. Паўмяккія мною канстатаваны ў *лежиць, чёрненькі, шие, шчипле, дождживк, жита, жий, награшила, чайночик, шнурочик*... Такім чынам, паўмяккае вымаўленне спатыкаецца ва ўсім раёне, за выключэннем шляхецкіх гаворак» [159]. Своеасабліва адзначыў гэту з'яву П. Растаргуеў, транскрыбіруючы *крыт', шыя*, як *крыіт, шія* ў запісах з в. Вялішкавічы Віцебскай вобласці [160].

Нам здаецца, што ўсе прыведзеныя даныя маюць вілавочнае значэнне для гісторыі велярызаваных зычных

у сучасных беларускай і рускай мовах. Гэта праблема рэдка закранаецца ў навуковай літаратуры. Р. І. Аванесаў у 1947 г. выказаў меркаванне, што велярызаванасць сучасных цвёрдых зычных рускай мовы адлюстроўвае іх старажытную лабіявелярызаванасць, аб якой пісаў А. А. Шахматаў [161]. Магчыма, гэта адзін з найлепшых аргументаў у абарону гіпотэзы Шахматава, аднак заўсёды можна адзначыць, што рускія (*ш*), (*ж*), якія зацвярдзелі ў XV—XVI стст., у сучасны момант таксама з'яўляюцца велярызаванымі. Выходзіць, цвёрдыя зычныя могуць набываць яе аўтаматычна пры наяўнасці тэмбравай карэляцыі *С — С'*.

Але, як бачым, беларускія даныя паказваюць існаванне невелярызаваных зычных (*ж*), (*ш*), (*ч*), (*ц*), (*р*) у гаворках, дзе спрадвечныя зычныя з'яўляюцца велярызаванымі, і гэта, бясспрэчна, добра пацвярджае як меркаванне Р. І. Аванесава, так і гіпотэзу А. А. Шахматава.

Якое значэнне мелі разгледжаныя з'явы для проціпастаўленняў *С — С'*?

Пераход *гы, кы, хы>гі, кі, хі>г'і, к'і, х'і* істотна не ўплываў на ўстойлівасць тэмбравай карэляцыі. Вынікам яго было толькі ўзнікненне мяккіх варыянтаў фанем [г], [к], [х].

Утварэнне велярызаваных цвёрдых умацавала проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці, паколькі павялічылася фанетычная розніца паміж цвёрдымі і мяккімі гукамі.

У выніку пераходу *л, в>ў* фаналагічныя проціпастаўленні *л — л', в — в'* не разбурыліся. Але трэба мець на ўвазе, што (*л'*) і (*в'*) пачалі кантрасціраваць на сінтагматычнай восі кожны з двума гукамі — (*л*) і (*ў*), (*в*) і (*ў*) адпаведна, што наўрад ці ўмацавала проціпастаўленні *л — л', в — в'*.

Што датычыцца *ы>і* і *ы>у* пасля губных, то гэта быў моцны ўдар па проціпастаўленнях цвёрдых і мяккіх губных: у выніку гэтых змен яны перасталі проціпастаўляцца перад фанемай [і]. У гаворках, дзе (*ы*) перайшоў у (*у*) і губныя не зацвярдзелі перад (*і*), (*е*), мяккія губныя зрабіліся варыянтамі адпаведных цвёрдых фанем; параўн.: *п'іц", б'іц", в'іно, м'ілы,* але: *снапу́, бабу́, му, ву, бук, кабу́ла.* У гаворках, дзе *ы>і*, губныя маглі б проціпастаўляцца перад [і]. Напрыклад, магчы-

ма дапусціць суіснаванне *п'іц", б'іц", в'іно, м'ілы — снопі, бабі, мі, ві* і інш. Але спрадвечна мяккія губныя ў гэтых гаворках вымаўляюцца або цвёрда (напр. у в. Рэчкі Івацэвіцкага р-на, у вв. Глушкавічы Лельчыцкага і Н. Рудня Ельскага р-наў), або губныя змякчыліся перад новым (*і*). Як у першым, так і ў другім выпадку мяккія губныя страцілі фанематычнае значэнне. Успомнім, што ўсе гаворкі, якія пераржылі змяненні *ы>і, ы>у*, ляжаць у зоне з абмежаваным пераходам *е>'о* і зацвярдзеннем мяккіх губных перад (*а*). Такім чынам, губныя ўвогуле перасталі праціпастаўляцца па цвёрдасці-мяккасці ў гаворках, дзе адбываліся пераходы *ы>і, ы>у* і расшчапленне губных перад (*а*).

## «ШАПЯЛЯВЫЯ» (*с"*), (*з"*) У БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ. ФАНЕТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА *ц", дз"<т', д'*

Першымі звесткамі пра асобае вымаўленне мяккіх (*с*) і (*з*) у беларускіх гаворках, якія зрабіліся вядомымі шырокаму колу вучоных, мы ўдзячны Я. Ф. Карскаму. «Адносна самога гука *с* заўважым, што беларус некалькі інакш вымаўляе яго, чым велікарус..,— пісаў ён у 1885 г.— З'яўляючыся мяккім, яно сапраўды некалькі набліжаецца да *ш'*: *м'иг'іл'айш'к'і* (могилёвский), дзе *ш'* з *сь*» [162]. Варта ўвагі тое, што *ш'<с'* ён лічыў асаблівасцю мовы ўсіх беларусаў. Некалькі пазней Карскі адзначаў: «Свісцячыя гукі, асабліва *С*, у беларускай мове гучаць некалькі інакш, чым у літаратурнай рускай мове. Гэту з'яву заўважыў ужо Каткоў, гаворачы, што беларускае *С* з'яўляецца сярэднім паміж *С* і *Ш*. Каткова мы павінны паправіць у тым сэнсе, што гэта датычыцца толькі мяккага *С*, якое ў шматлікіх мясцовасцях (падкрэслена намі.— *В. Ч.*) сапраўды па свайму гучанню набліжаецца да *Ш*: *м'ьг'ил'айш'к'і* (могилёвский)» [163]. Як бачым, у 1908 г. асаблівае гучанне мяккага (*с*) Карскі разглядае ўжо як рэгіянальную з'яву. І, нарэшце, у 1918 г. ён пісаў: «У некаторых гаворках (падкрэслена намі.— *В. Ч.*), з'яўляючыся ў вядомых выпадках (?) вельмі мяккімі, *С* набліжаецца да *Ш*: *муг'іл'айш'к'і* (могилёвский)» [164]. Здзіўляе таксама паслядоўнасць, з якой Карскі прыводзіць адзін і той жа прыклад.

Апошняе меркаванне аб распаўсюджанні (*с*''), а значыць, і (*з*'') — толькі ў некаторых гаворках і ў «вядомых» выпадках — склалася ў Карскага яўна пад уплывам прац Шахматава, які лічыў гэтыя з'явы рэліктавымі, абапіраючыся, магчыма, на даныя самога Карскага. Правільнасць гэтага меркавання можна было ўзяць пад сумненне пасля выхаду ў свет працы П. Бузука «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі». З'ява, аб якой ідзе размова, не картаграфавалася ў яго даследаванні, аднак у раздзеле, прысвечаным «дробным зменам», адзначалася, што вымаўленне тыпу *ус$^{ш}$ё, с$^{ш}$ьвітка, с$^{ш}$ем, с$^{ш}$яло, шес$^{ш}$ь* (=шэсць), *памыўс$^{ш}$я, с$^{ш}$ёлета, з$^{ш}$іма* сустракаецца ў тагачасных Смілавіцкім, Койданаўскім раёнах і Веліжскім павеце Мінскай вобласці, у Асіповіцкім і Свіслацкім раёнах Бабруйскай вобласці, у Слуцкай вобласці, на паўночнай Чарнігаўшчыне, часам на Мазыршчыне (у Тураўскім раёне) і Рэчыцкім павеце[165]. Тэрыторыя, якую акрэсліў Бузук, вельмі вялікая — фактычна ўвесь паўднёвы ўсход Беларусі.

У хуткім часе С. Некрашэвіч заўважыў наяўнасць (*с*''), (*з*'') яшчэ ў Парыцкім раёне (цяпер Гомельск. вобл.). Гэта з'ява характэрна для мовы ўсіх носьбітаў гаворкі, «аднак больш выразна яна адчуваецца ў вымаўленні старэйшага пакалення»: *пес$^{ш}$ьня, у Мінс$^{ш}$ьку, не с$^{ш}$ьмейу$^{ч}$ь, ус$^{ш}$як, ус$^{ш}$е, с$^{ш}$ькінуць*[166].

Як аб чымсьці добра вядомым гаворыць З. Шцібер аб існаванні (*с*'') і (*з*''), індэнтычных, на яго думку, польскім (*ś*), (*ź*) у беларускіх гаворках паміж Гродна і Слонімам[167]. Адзначыў іх таксама ў сваім артыкуле, прысвечаным гаворцы двара Казакоўшчына (Лідскі р-н Гродз. вобл.), О. Брок[168].

Такім чынам, тэрыторыя распаўсюджання (*с*''), (*з*''), калі зыходзіць з разгледжаных крыніц, не такая ўжо нязначная, а сама з'ява не вельмі рэдкая. Гэты факт прызнаў О. Воўк-Левановіч, калі пісаў, што «схільнасць да шапялявага вымаўлення наогул усіх зубных свісцячых... назіраецца спарадычна, у большай ці меншай ступені, на ўсёй тэрыторыі Беларусі»[169]. Цікава, аднак, што за выключэннем адзначаных прац, а таксама некаторых нататак І. А. Сербава і Е. Р. Раманава ў пераважнай большасці крыніц гэта з'ява не адзначалася. Больш таго былі спробы адмаўляць наяўнасць (*с*''), (*з*'') нават у тых раёнах, дзе яны адзначаліся раней[170].

У дыялекталагічных даследаваннях пасляваеннага часу аб існаванні (*с''*), (*з''*) або не гаворыцца наогул, або прама адмаўляецца іх наяўнасць. Не картаграфавалася гэта з'ява і ў «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы», паколькі з 1027 абследаваных населеных пунктаў толькі ў 10 адказы на пытанне 54 (56) праграмы аб наяўнасці «шапялявых» (*с''*), (*з''*) былі станоўчыя. Характэрна, што ні адзін з гэтых пунктаў не знаходзіцца на тэрыторыі пашырэння (*с''*) і (*з''*), якую акрэсліў П. Бузук. Тры з іх (№ 322, 537, 542) — гэта паўночны захад Магілёўскай вобласці, дзе адзначана: *з''імá, з''арнó, с''істрá, ус''ó, с''іла, с''ём, с''ц''інá* і інш. У запісах з 311 пункта ўказана: «У многіх чуюцца шапялявыя *с'', з'': с''вет, з''ал'óны, с''ін'і*», аднак рэгулярна гэта з'ява не адзначаецца [171].

На паўночным усходзе Віцебскай вобласці (*с''*), (*з''*) былі адзначаны ў вв. Стайкі (125), Задуброўе (128), Астрэйкава (129) Лёзненскага раёна; з іх толькі ў в. Задуброўе — паслядоўна.

На поўнач ад Мінска ў в. Хоўхлава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці ў 1950 г. паслядоўна запісвалася: *з''амл'á, аз''áбла, ус''ó, с''ц'інá* і інш. Праз пяць гадоў запісы былі праверанты і зроблены нататкі «*з'амл'á, ус'é, с'в'ет, вос'мы,* і толькі зрэдку ў гаворцы некаторых асоб *с''в'áта*».

Нарэшце, у в. Стральцы Гродзенскага раёна (358) спарадычна адзначана: *кос''іц', шэс''ц', с''ін'аго, с''н'агý, ус''іх, с''алó* і інш.

Аб пашыранасці (*с''*) і (*з''*) ва ўсходнебеларускіх гаворках ускосна сведчыць наяўнасць гэтых гукаў ва ўсіх сумежных з Беларуссю велікарускіх гаворак. «Што датычыцца чаргаванняў *с'—з'* і *с''—з''* або *ш'—ж'*, — піша В. Г. Арлова,— то па даных састаўленых ці састаўляемых атласаў гаворкі, дзе пашырана гэта з'ява, ахопліваюць значную тэрыторыю на захадзе Еўрапейскай часткі СССР, навокал Пскова і Вялікіх Лук. На поўдзень ад Заходняй Дзвіны тэрыторыя пашырэння дадзенай з'явы змяншаецца, і яна сустракаецца толькі ў вельмі вузкай паласе па мяжы з беларускай мовай уздоўж усёй гэтай мяжы» [172].

Такім чынам, аналіз даных аб «шапялявым» вымаўленні (*с''*), (*з''*) у беларускіх гаворках паказвае, што нашы веды ў гэтым пытанні далёка не дастатковыя для

таго, каб рабіць абгрунтаваныя вывады адносна тэрыторыі пашырэння з'явы, яе рэгулярнасці, а таксама адносна артыкуляцыйнай прыроды саміх гукаў. Далей будзе паказана, што і паняцце «шапялявы» недакладнае, яно не можа прэтэндаваць на статус тэрміна, і, значыць, спасылак на «шапялявасць» мала для таго, каб перадаць тое слыхавое ўражанне, якое выклікаецца вымаўленнем (*с''*) і (*з''*).

У 1966—1967 гг. мы абследавалі беларускія гаворкі па вузкай праграме, у аснову якой разам з некаторымі іншымі былі пакладзены пытанні 54 (56) і 58 (60) «Праграмы па вывучэнню беларускіх гаворак». Агульную колькасць слоў мы, натуральна, павялічылі. Апорнымі былі словы тыпу (у арфаграфічным запісу) *серп, парася, восень, косяць, песня, пісьмо, сляпы, светлы, звяры, свёкар, сцерці, сцяна, шэсць, расце, цесць* і інш., аналіз вымаўлення якіх даваў магчымасць высветліць характар мяккіх сібілянтаў (*с*) і (*з*) перад галоснымі рознага паходжання, у канцы слоў, перад губнымі і іншымі зычнымі.

Апытанне па праграме выконвалася ў 152 населеных пунктах, размешчаных больш ці менш раўнамерна па ўсёй тэрыторыі Беларусі, за выключэннем паўднёва-заходняй часткі Брэсцкай вобласці, якая не абследавалася (гл. карту-схему 4).

Вынікі абследавання пацвярджаюць правільнасць думкі аб тым, што «шапялявае» вымаўленне мяккіх сібілянтаў шырока распаўсюджана па ўсёй Беларусі, паколькі яно было адзначана ў кожным з 152 пунктаў. Больш таго, сабраны матэрыял дазваляе меркаваць, што (*с''*), (*з''*) — вымаўленне мяккіх (*с*) і (*з*) характэрна не для некаторых асоб, гаворак ці раёнаў, як аб гэтым часта гаварылася ў разгледжаных крыніцах, але з'яўляецца нормай для ўсіх беларускіх гаворак.

Сапраўды, не ўдалося выявіць ніводнай гаворкі, нават ніводнай вёскі, дзе б нормай было вымаўленне (*с'*), (*з'*). Рэдка яно сустракаецца ў мове асоб, якія доўга жылі сярод носьбітаў рускай мовы (служылі ў арміі, выязджалі на работу па кантрактах і інш.); трэба заўважыць, аднак, што вымаўленне (*с''*), (*з''*) знікае ў беларусаў вельмі павольна. Ва ўсіх абследаваных вёсках (*с''*), (*з''*) з'яўляюцца нормай для ўсіх асоб, якія размаўляюць на дадзенай гаворцы, а не характэрнай




Карта-схема 4. Спіс абследаваных пунктаў:

*1*—вв. Стралкі Верхнядзвінскага р-на, *2*—Клясціцы, *3*—Дварышча Расонскага р-на, *4*—Дражакі, *5*—Валадарка Гарадоцкага р-на, *6*—Заполле Суражскага р-на, *7*—Шапуры, *8*—Мазурына Віцебскага р-на, *9*—Казімірава, *10*—Цынаўка, *11*—Гута Полацкага р-на, *12*—Зялькі, *13*—Жукава, *14*—Чурылава Верхнядзвінскага р-на, *15*—Грыгароўшчына, *16*—Якубоўшчына Міёрскага р-на, *17*—Золта, *18*—Адамянянішкі, *19*—Ждэгелі Браслаўскага р-на, *20*—Н. Пагост Міёрскага р-на, *21*—Пятроўшчына, *22*—Пліса, *23*—Карасі Глыбоцкага р-на, *24*—Ксты Полацкага р-на, *25*—Ліпавец Ушацкага р-на, *26*—Фалевічы, *27*—Койры, *28*—Мацуры, *29*—Ласіца Пастаўскага р-на, *30*—Крыпулі, *31*—Атруба, *32*—Юхнаўка Докшыцкага р-на, *33*—Юркоўшчына Лепельскага р-на, *34*—Міхалава Чашніцкага р-на, *35*—Н. Сяло Сенненскага р-на, *36*—Замасточча, *37*—Якаўлевічы, *38*—Волеўка Аршанскага р-на Віцебскай вобл.; *39*—Шупені Круглянскага р-на, *40*—Горы Горацкага р-на, *41*—Цяхцін Бялыніцкага р-на, *42*—Сухары Магілёўскага р-на, *43*—Мазалава Мсціслаўскага р-на, *44*—Дзмітраўка Клічаўскага р-на, *45*—Следзюкі Быхаўскага р-на, *46*—Душаўка Чавускага р-на, *47*—Звянчатка, *48*—Высокае Клімавіцкага р-на, *49*—Б. Ліпаўка Хоцімскага р-на, *50*—Бароньві Касцюковіцкага р-на, *51*—Гур'я Краснапольскага р-на, *52*—Выжары Кіраўскага р-на, *53*—Ясень, *54*—Дрычын Асіповіцкага р-на, *55*—Калацічы Глускага р-на Магілёўскай вобл.; *56*—Куцькі, *57*—Сімоны, *58*—Брусы Мядзельскага р-на, *59*—Бубны, *60*—Даўгінава, *61*—Рэчкі, *62*—Сосенка Вілейскага р-на, *63*—Ліцвічы, *64*—Васількоўка, *65*—Слабада, *66*—Акцябр, *67*—Пятролі Лагойскага р-на, *68*—Майсееўшчына Барысаўскага р-на, *71*—Сычэвічы Маладзечанскага р-на, *72*—Ракаў, *73*—Пяршай, *74*—Сакоўшчына, *75*—Слайкоўшчына Валожынскага р-на, *76*—Пагост Бярэзінскага р-на, *77*—Грабёнка Чэрвеньскага р-на, *78*—Зацітава Слабада Мар'інагорскага р-на, *79*—Возера Дзяржынскага р-на, *80*—Рубяжэвічы Стаўбцоўскага р-на, *81* — Бабоўня Капыльскага р-на, *82* — Шышчыцы Слуцкага р-на, *83*—Сарогі Старадарожскага р-на, *84*—Кіевічы Капыльскага р-на, *85*—Вялікі Ражан, *86*—Яськавічы Салігорскага р-на, *87*—Рэдкавічы Любанскага р-на Мінскай вобл.; *88*—Лэлыці, *89*—Расна Смаргонскага р-на, *90*—Нарбуты, *91*—Слабада, *92*—Юршаны, *93*—Палянкі, *94*—Казлоўшчына, *95*—Доркішкі Ашмянскага р-на, *96*—Эгерды, *97*—Чычыноўшчына Іўеўскага р-на, *98*—Жырмуны Воранаўскага р-на, *99*—Ганчары Лідскага р-на, *100*—Шчорсы Навагрудскага р-на, 101—Гожа, *102*—Батароўка, *103*—Грынёўка, *104*—Казловічы, *105*—Шчычынава

рысай мовы некаторых асоб ці ўзроставых груп. І, нарэшце, назіранні над мовай сельскай і гарадской інтэлігенцыі паказваюць, што толькі некаторыя асобы замяняюць (*с''*), (*з''*) на (*с'*), (*з'*) яўна пад глыбокім уплывам рускага ці літаратурнага беларускага вымаўлення, дзе першае не з'яўляецца афіцыйнай нормай. Трэба адзначыць таксама, што ў часе шматлікіх падарожжаў па Беларусі нам, натуральна, давялося гаварыць з вялікай колькасцю людзей, мова якіх міжвольна рабілася аб'ектам назірання, і толькі на гэтай аснове можна зрабіць вывад, што «асаблівае» вымаўленне мяккіх (*с*), (*з*) з'яўляецца адной з найбольш яскравых рыс беларускай мовы.

Узнікаюць пытанні, чаму ж да гэтага часу не былі зроблены гэтыя вывады? Чаму (*с''*) і (*з''*) не адзначаліся рэгулярна шматлікімі даследчыкамі? Абгрунтаваць адказы на гэтыя і ім падобныя пытанні дапаможа, на нашу думку, высвятленне артыкуляцыйнай прыроды і акустычных асаблівасцей гэтых гукаў.

У лінгвістычнай літаратуры «шапялявымі» звычайна называюць сярэднеязычна-сярэднепаднябенныя, г. зн. палатальныя гукі, падобныя да польскіх (*ś*), (*ź*), (*ć*), (*dź*) [173], у адрозненне ад палаталізаваных, г. зн. пярэднеязычна-зубных па асноўнай артыкуляцыі, падобных да рус. (*с'*), (*з'*), укр. (*ц'*), літоўск. (*dz'*). Па слыхавому ўражанню гэтыя «шапялявыя» апісваюцца як «сярэднія паміж (*с*) і (*ш*) мяккімі» ці як «вельмі мяккія (*ш*), (*ж*)». Лёгка выявіць, што паказанні дыялектолагаў сведчаць аб нятоеснасці польскіх і беларускіх «шапялявых». Аб апошніх звычайна гавораць, што яны вымаўляюцца толькі з «шыпячым адценнем» [174], што іх гучанне толькі нагадвае сабой «польскае гучанне падобных гукаў» [175].

Гродзенскага р-на, *106*—Тапілішкі Шчучынскага р-на, *107*—Парэчча Дзятлаўскага р-на, *108*—М. Бераставіца, *109*—Дабраволя Свіслацкага р-на, *110*—Майсеевічы Ваўкавыскага р-на, *111*—Шундры, *112*—Азарычы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.; *113*—Харава, *114*—Зеляневічы, *115*—Медзяневічы, *116*—Колдычава Баранавіцкага р-на, *117*—Аляксейкі, *118*—Аўсто, *119*—Краі, *120*—Рэчкі, *121*—Рудня Івацэвіцкага р-на, *122*—Мядзведзічы Ляхавіцкага р-на, *123*—Малькавічы Ганцавіцкага р-на, *124*—Ставок Пінскага р-на, *125*—Лобча, *126*—Лунін Лунінецкага р-на, *128*—Беражное Столінскага р-на Брэсцкай вобл.; *129*—Леніна, *130*—Пухавічы Жыткавіцкага р-на, *131*—Азяраны Тураўскага р-на, *132*—Глушкавічы, *133*—Буйнавічы Лельчыцкага р-на, *134*—Конкавічы Петрыкаўскага р-на, *135*—Забалацце Акцябрскага р-на, *138*—Востраў, *139*—Гадзілавічы Рагачоўскага р-на, *140*—Ворнаўка Чачэрскага р-на, *141*—Стаўбун Веткаўскага р-на, *142*—Ліпа, *143*—Губічы Буда-Кашалёўскага р-на, *144*—Узнаж, *145*—Ровенская Слабада Рэчыцкага р-на, *146*—М. Аўцюкі Калінкавіцкага р-на, *147*—Н. Рудня Ельскага р-на, *148*—Губарэвічы, *149*—Белая Сарока Хойніцкага р-на, *150*—Мохава Лоеўскага р-на, *151*—Цяруха Гомельскага р-на, *152*—Карма Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

Асабліва цікавыя назіранні О. Брока. У апісанні гаворкі двара Казакоўшчына, аб якім гаварылася вышэй, ён сцвярджае, што беларускія (у яго транскрыпцыі) (ś) і (ž́) тоесныя польскім літаратурным (ś) і (ź) [176], аднак у жывой мове ён успрымае мяккія беларускія сібілянты то як (š́), то як (s'). Параўн., *praš́it͡sa, staruš́i͡e, raž́bita, v'ernúuš́a* і *v'ernúus'a, paras'á, koəs'c'*. Ці мог бы Брок так чуць сапраўдныя польскія (ś) і (ź)?!



Рыс. 1. Становішча языка пры вымаўленні: *а*) рускіх *с* (пункцір) і *с'*; *б*) польскага (*ś*); *в*) беларускага (*с''*) (пункцірам паказан назіраемы спераду жалабок)

Паводле нашых назіранняў, самі беларусы добра чуюць «шапялявəсць» польскіх гукаў, і не дзіўна, што ў параўнанні з (*ś*), (*ź*) беларускія (*с''*) і (*з''*) не здаюцца ім «шапялявымі». Нярэдка ўводзіць у зман прамое значэнне слова «шапялявы» і звязанае з ім штодзённае ўяўленне аб «шапялявых» як аб чымсьці «сярэднім паміж (*с*) і (*ш*)». Паколькі дыялектолаг не знаходзіць у гаворцы нічога падобнага, ён не бачыць патрэбы выдзяляць асобна (*с''*) і (*з''*), асабліва калі яны ўласцівы таксама і яго вымаўленню.

Па артыкуляцыі (*с''*), (*з''*) і (*ś*), (*ź*) падобны паміж сабою тым, што ўсе яны сярэднепаднябенныя гукі, а розніца паміж імі ў тым, што (*с''*), (*з''*) пярэдне-сярэднеязычныя — пярэдне-сярэднепаднябенныя ці краепалатальныя па вядомай класіфікацыі Брока; па аналогіі польскія гукі можна назваць цэнтральнапалатальнымі (ці проста палатальнымі).

Пры артыкуляцыі (*с''*), (*з''*) кончык языка свабодна ляжыць каля ніжніх зубоў; на пярэдне-сярэдняй частцы языка ўтвараецца жалабок, і яна артыкулюе (падымаецца) да адпаведнай часткі цвёрдага паднябення. Паветра, праходзячы па шчыліне, ударaецца не толькі ў верхнія, але і ў ніжнія зубы (рыс. 1). У выніку гэ-

тага комплексу артыкуляцыйных рухаў і ўзнікаюць «нярэзкія», без уласцівага рускім (*с'*), (*з'*) свісцячага адцення, але «аксамітныя», «з вельмі лёгкім адценнем вельмі мяккага (*ш'*)», беларускія (*с''*), (*з''*). Іх «асаблівае» гучанне абумоўлена агульным зрушэннем месца артыкуляцыі назад, у краепалатальную зону, і ў гэтым нашы назіранні цалкам адпавядаюць сцвярджэнням тых аўтараў, якія звязваюць «лёгкую шапялявасць» з павелічэннем «ступені мяккасці» адпаведных гукаў[177], паколькі «павялічаная мяккасць» узнікае якраз у выніку зрушэння месца артыкуляцыі ў зону цвёрдага паднябення. Трэба толькі мець на ўвазе, што гэта зрушэнне ў нашым выпадку прывяло да фарміравання краепалатальных гукаў, г. зн. гукаў, у якіх сярэднеязычная артыкуляцыя з'яўляецца асноўнай.

Неабходна адзначыць таксама агульную напружанасць пад'язычнай мышцы ў час вымаўлення (*с''*) і (*з''*), абумоўленую, відаць, спосабам іх артыкуляцыі; уся ніжняя сківіца выконвае пры гэтым нязначны рух уперад — уверх («стульваюцца зубы»), што не ўласціва ні рускім (*с'*), (*з'*), ні польскім (*ś*), (*ź*).

Што датычыцца розніцы ў гучанні паміж (*ś*), (*ź*) і (*с''*), (*з''*), то можна сказаць, што яна залежыць ад велічыні рэзанатара спераду ад месца фрыкацыі: ён большы пры артыкуляцыі (*ś*), (*ź*) і значна меншы пры ўтварэнні беларускіх (*с''*), (*з''*).

Зразумела, што (*с''*), (*з''*) будуць гучаць неаднолькава ва ўсіх інфарматараў. Яны атрымліваюць больш «шапялявае» адценне ў асоб з высокім цвёрдым паднябеннем, з няправільным прыкусам, г. зн. у тых, у якіх асаблівасці моўнага апарату будуць садзейнічаць утварэнню рэзанатара па аб'ёму большага, чым у іншых носьбітаў гаворкі. Відаць, таму дыялектолагі адзначаюць нярэдка «спарадычную ў некаторых асоб шапялявасць» там, дзе яна ўласціва ўсім.

Пазіцыя перад галосным задняга рада, перад заднеязычнымі, таксама будзе садзейнічаць павелічэнню рэзанатара пры вымаўленні (*с''*), (*з''*) з прычыны наяўнасці вядомай «апераджальнай артыкуляцыі» (г. зн. падрыхтоўкі органаў мовы для вымаўлення наступнага гука). У гэтым выпадку «шапялявасць» будзе больш прыкметнай (як у прыкладзе Карскага *м'іг'іл'оўш'к'і*), і дыялектолаг адзначыць «спарадычную шапялявасць».

Трэцяй прычынай меркаванняў аб спарадычным характары гэтай з'явы будзе тое, што, па нашых назіраннях, ступень «шапялявасці» ў (*с*''), (*з*'') ва ўсходняй Беларусі — у задзвінскай частцы Віцебшчыны, у задняпроўскай Магілёўшчыне і Гомельшчыне — наогул вышэй, чым у іншых раёнах. Іменна таму «шапялявыя» адзначаліся часцей у гэтай зоне. У Беларускім Палессі ступень «шапялявасці» крыху ніжэй, чым на астатняй частцы рэспублікі; асабліва слабая яна ў абследаваных намі раёнах на поўдзень ад Прыпяці.

Нарэшце, дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту вельмі часта «шапялявяць» значна мацней, чым дарослыя. Гэта адпавядае назіранням П. А. Растаргуева адносна розніцы ў вымаўленні (*с*''), (*з*'') у дзяцей і дарослых на Смаленшчыне [178]. Магчыма, з гэтай прычыны Воўк-Левановіч, апісваючы гаворку вв. Татаркавічы, Катоў і Кассё на Бабруйшчыне, адзначыў «шапялявасць» толькі ў сямігадовага хлопчыка [179].

Вывучаючы гэту з'яву непасрэдна ў гаворках, трэба памятаць, што адзінай агульнай рысай у гукаў (*с*''), (*з*'') на абследаванай намі тэрыторыі з'яўляецца апісаны спосаб іх артыкуляцыі, пры якім кончык языка застаецца пасіўным каля ніжніх зубоў, іменна гэта абумоўлівае іх «асаблівае» гучанне.

У лінгвістычнай літаратуры можна знайсці шматлікія заўвагі і назіранні, якія даюць магчымасць зрабіць некаторыя вывады аб фанетычнай прыродзе беларускіх мяккіх гукаў *ц, дз*<*т' д'*.

Паводле К. Апеля, гэтыя гукі прадстаўляюць сабою «нешта сярэдняе паміж польскімі *dz, c,* і *dź, ć*» [180]; такім чынам, Апель не атаясамліваў беларускія гукі ні з пярэднеязычнымі зубнымі, ні з палатальнымі (сярэднепаднябеннымі (*ć*), (*dź*)). Калі б ён дакладней адрозніў іх як ад (*ć*), (*dź*), так і ад пярэднеязычных палаталізаваных тыпу укр. (*ц'*), літоўск. (*dz'*), (*c'*), то можна было б рабіць вывад аб краепалатальным характары бел. (*ц*), (*дз*) мяккіх.

Назіранні, падобныя да тых, якія зрабіў Апель, знаходзім і ў іншых даследчыкаў. «Гэтыя два гукі,— пісаў Я. Ф. Карскі,— вымаўляюцца некалькі інакш, чым перадае іх агульнапрынятая транскрыпцыя: як паказвае вопыт, нячыстакроўны беларус не можа дакладна перадаць гэтай гукавой асаблівасці»; «гук *дз* адзначаецца

асаблівай мяккасцю, прычым абедзве яго часткі так зліваюцца паміж сабою, што ледзь-ледзь можна заўважыць яго састаў» [181].

П. Растаргуеў: «Моцная мяккасць *д* і *т* магла быць прычынай пераходнага змякчэння іх...» [182], г. зн. цекання-дзекання.

О. Воўк-Леванові́ч: «Афрыкаты *дз'*... і *ц'*... па сваёй фанетычнай прыродзе з'яўляюцца тымі ж гукамі *д'* і *т'*, але палаталізаванымі больш моцна, дакладней, гукамі, якія артыкулююцца больш працягла, з больш моцным прыцісканнем спінкі языка да альвеол верхніх зубоў, чым гэта бывае пры звычайным вымаўленні мяккіх *д'* і *т'* у гаворках, якія не дзекаюць і не цекаюць... Такім чынам, укладка языка пры цеканні-дзеканні больш пярэдняя, чым пры звычайным вымаўленні мяккіх *д* і *т*, прычым артыкуляцыя пры цеканні-дзеканні больш энергічная і больш працяглая» [183].

Фактычна Воўк-Левановіч сказаў усё: бел. (*ц*) і (*дз*) мяккія «больш палаталізаваныя», чым (*т'*), (*д'*), што абумоўлена, натуральна, большай актыўнасцю спінкі языка, якая артыкулюе ў напрамку да цвёрдага нёба; у выніку значнага прасоўвання языка ўперад — уверх, артыкуляцыйныя органы пры вымаўленні гэтых гукаў больш напружваюцца, чым пры (*т'*), (*д'*). Неабходна толькі зрабіць упор на тое, што іменна пярэдняя частка спінкі языка з'яўляецца галоўным органам пры артыкуляцыі мяккіх (*ц*) і (*дз*); кончык языка пры гэтым прыціскаецца да альвеол, ён не напружваецца. Гэтыя назіранні і даюць падставу лічыць бел. (*ц*) і (*дз*) мяккія краепалатальнымі гукамі (=*ц''*, *дз''*), па ўтварэнню аналагічнымі (*с''*), (*з''*).

Аб апошнім сведчыць «схільнасць» (*ц''*), (*дз''*) да «шапялявага» гучання, якую неаднаразова адзначалі дыялектолагі. Так, С. Некрашэвіч вымаўленне тыпу *дз$^{ж}$е, казац$^{ч}$ь, бац$^{ч}$ькавы* **адзначыў** у парыцкіх гаворках. О. Воўк-Левановіч, па ўласнаму прызнанню, на мінскіх кірмашах чуў вымаўленне *кап ц$^{ч}$ябе воўк!, ц$^{ч}$япер, ц$^{ч}$іха* і інш. [184] П. Бузук ва ўсіх гаворках, дзе ён чуў (*с''*), (*з''*), адзначае таксама *дз$^{ж}$якуй, дз$^{ж}$ьверы, хоц$^{ч}$ь, выц$^{ч}$ьпс$^{ш}$ькі* і інш. [185] Асабліва каштоўнымі ў дадзеным выпадку з'яўляюцца назіранні О. Брока. Беларускія (*ц''*), (*дз''*) ён атаясамлівае з польск. (*ć*), (*dź*) (як і бел. (*с''*), (*з''*) з (*ś*), (*ź*)). Але калі ён запісвае

слова *быць* у жывым вымаўленні (*byc'* яго транскрыпцыяй), то лічыць неабходным заўважыць: «Ці *być*? Часта прыходзіцца сумнявацца, ці не лепш замест *ʒ́* паставіць моцна палаталізаванае (*ʒ'*). Канцавое *c'* можа набліжацца таксама да *t'* з некалькі больш моцным х́ — зычным глайдам, як у ясным маскоўскім вымаўленні» [186].

Аўтару гэтых радкоў у час назіранняў пастаянна хацелася адно і тое ж слова ў вымаўленні адной і той жа асобы запісаць два разы: як *п'ац'* і *п'ац''*, *дз'ерава* і *дз''ерава.* Мы мелі магчымасць назіраць вымаўленне (*ц''*), (*дз''*) (паралельна з *с''*, *з''*) больш чым у 130 населеных пунктах розных раёнаў Беларусі. На аснове назіранняў можна зрабіць наступныя вывады. Сапраўды, «шапялявасць» у (*ц''*), (*дз''*) праяўляецца звычайна не так ясна, як у (*с''*), (*з''*). Гэта вельмі добра чуваць пры вымаўленні носьбітамі гаворкі слоў тыпу *с''адз''іц''*, *дз''ес''ац''*, дзе побач знаходзяцца і (*с''*), (*з''*) і (*ц''*), (*дз''*). Не выклікае сумнення, аднак, і тое, што (*ц''*), (*дз''*) не проста палаталізаваныя зубныя афрыкаты (тыпу укр. *ц'*, літоўск. *c'*, *dz'*), а з'яўляюцца краепалатальнымі гукамі. Меншая ў параўнанні з (*с''*), (*з''*) ступень іх «шапялявасці» тлумачыцца тым, што пры іх утварэнні (пасіўна) удзельнічае кончык языка, падыманне якога ўверх змяншае аб'ём пярэдняга рэзанатара (у параўнанні з (*с''*), (*з''*)). Пасля размыкання пярэднепалатальнай змычкі струмень паветра павінен агінаць кончык языка, што абумоўлівае ўзнікненне свісцячага прыгуку. Іменна таму бел. (*ц''*), (*дз''*) здаюцца быццам «шапеляватымі», быццам свісцячымі, а часцей за ўсё — сярэднімі паміж тымі і другімі. Трэба заўважыць таксама, што ў паўночна-ўсходніх і асабліва ва ўсходніх беларускіх гаворках ступень «шапеляватасці» у (*ц''*), (*дз''*) значна большая, чым у астатніх гаворках. Зразумела, што як і ў выпадку з (*с''*), (*з''*), немагчыма размежаваць гаворкі па ступені «шапеляватасці» (*ц''*), (*дз''*).

Гіпотэза аб змяшчэнні месца ўтварэння (*т'*), (*д'*) у краепалатальную зону як аб артыкуляцыйнай сутнасці цекання-дзекання атрымала нечаканую, але вельмі моцную, на нашу думку, падтрымку.

У некаторых паўднёва-заходніх палескіх гаворках намі адзначана асаблівае вымаўленне мяккіх (*т*) і (*д*)

як (*т''*), (*д''*), дзе (*т''*), (*д''*) абазначаюць краепалатальныя гукі, якія ўтвараюцца без удзелу кончыка языка. Мы назіралі іх у гаворцы вв. Рэчкі і Рудня Івацэвіцкага раёна ў пазіцыі перад (*ê*), галоснымі задняга рада і ў канцы слоў: *д''ếўка, од''ếўса, нед''ếл'а, т''ếло, т''ếсто; д''а́т''ол, д''а́д''а, сед́''а́т, во́д''ат; мат'', де́вет'', де́сет'', медв'ếд''*. У гэтых жа пазіцыях, а таксама перад (*і*), (*е*), (*т''*), (*д''*) знаходзім у в. Новая Рудня Ельскага раёна Гомельскай вобласці: *с''ед''іт, стоі́т'', д''ếўка, отвеча́т'', т''о́лка, медв'ếд'', д''а́т''ел, д''і́к'ійэ, ба́т''ко, д''êд, т''о́шча, т''ếс''т'', д''ếт''і* і інш.

Па сваім гучанні (*т''*), (*д''*) нагадваюць заходнеўкраінскія (*ќ*), (*ѓ*) у *кі́сто, гі́йка*<*т'існо, д'ійка,* але *к, г*-прыгук у беларускіх гуках слабейшы. Можна спадзявацца, што ў ходзе далейшых даследаванняў (*т''*) і (*д''*) выявяцца і ў іншых паўднёвабеларускіх гаворках, што дасць магчымасць больш глыбока абгрунтаваць гіпотэзу аб іх паходжанні. У сучасны момант бясспрэчна тое, што гэтыя гукі з'явіліся, побач з бел. *ц'', дз''*<*т', д'*, у выніку рэалізацыі тэндэнцыі да прасоўвання месца ўтварэння палаталізаваных у краепалатальную зону.

## ЗАЦВЯРДЗЕННЕ *р'*>*р* І ПАЛАТАЛЬНЫЯ (*л́*), (*н́*) У БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Праніклівасці К. Апеля, які дапускаў магчымасць існавання ўнутранай сувязі паміж *т', д'*>*ц'', дз''* і зацвярдзеннем *р'*>*р* у беларускіх гаворках[187], айчынная лінгвістычная традыцыя ўдзячна таму, што пералічаныя з'явы заўсёды разглядаліся разам. Гіпотэзу, дакладней, меркаванне Апеля абгрунтаваў І. Нядзёшаў. На яго думку, *р'*>*р* «магло ўзнікнуць, калі мяккае *рь* зрабілася цяжкім для вымаўлення гукам. З гэтага пункту павінна было пачацца пераходнае змякчэнне *р*, але беларускія гаворкі захавалі вернасць усходняму тыпу гукаў. І менна ў гэтым зацвярдзенні беларускага *рь* заключаецца сувязь з пераходам *дь, ть* у *дз, ц*, паколькі *р* цвёрдае бліжэй да пераходназмякчаных гукаў, чым *р* мяккае»[188] (падкрэслена намі.— *В. Ч.*). Наступнае пакаленне лінгвістаў не зразумела каштоўнасці назіранняў Нядзёшава. Для А. А. Шахматава пераход

*р'>р* быў адной з «ляшскіх» рыс у беларускай фанетыцы (хоць сама па сабе магчымасць *р'>р* пад «ляшскім» уплывам з'яўляецца вельмі праблематычнай) і толькі таму разглядаўся з *с', з', т', д'>с", з", ц", дз"*. Я. Ф. Карскі і П. А. Растаргуеў, выказваючы гіпотэзу аб аўтахтоннасці пералічаных з'яў, не змаглі знайсці пераканаўчых лінгвістычных аргументаў у карысць сваіх меркаванняў.

Між тым гіпотэза Нядзёшава, на нашу думку, вытрымала праверку часам.

Вышэй мы паказалі, што пераходы *с', з', т' д'>с", з", ц", дз"* прадстаўляюць сабою замену палаталізаваных краепалатальнымі гукамі (палатацыю). Паглядзім цяпер, як павінна змяняцца (*р'*), калі месца яго артыкуляцыі зменіцца падобным чынам.

Як вядома, *(р)*—дрыжачы зубны апікальны гук; кончык языка пры яго артыкуляцыі, паднімаючыся да верхніх зубоў, за кароткі час робіць 3—4 змычкі, чым і стварaецца эфект «дрыжання».

Па даных сучасных даследаванняў, «палаталізаваныя *r'* з'яўляюцца пярэднеязычнымі асаблівага ўтварэння; іх артыкуляцыйны фокус размяшчаецца крыху глыбей асновы верхніх разцоў. Змыкаецца з участкам паднябення... не толькі верхняя паверхня кончыка языка, але і пярэдні ўчастак спінкі» [189]. Выходзячы з гэтых назіранняў, няцяжка ўявіць магчымыя змяненні (*р'*), звязаныя з прасоўваннем месца яго артыкуляцыі ў палатальную зону. У першую чаргу павялічыцца «дрыжачая» частка языка, што ўскладніць ажыццяўленне вібрацыі, параўн. гучанне палатальнага (*ř*) у чэшскай мове і пераход *ŕ>ž(š)* у гісторыі польскай мовы, які быў абумоўлены палатацыяй (*ŕ*). Калі ж захаваецца вібрацыя, то далейшымі змяненнямі (*р'*) мяккага могуць быць: *р'>рй*, як у заходнебалгарскіх гаворках, *р'>йр* (па тыпу в.-луж. *koń'>kojn*) ці *р'>р*. Такім чынам, паколькі «дрыжачая» і палатальная артыкуляцыі дрэнна сумяшчаюцца, то перамога адной з іх азначае аслабленне і ліквідацыю другой. Іменна ў гэтым сэнсе трэба разумець заўвагу Нядзёшава пра большую блізкасць да «пераходна-змякчаных» (г. зн. краепалатальных) цвёрдага (*р*), чым (*р'*) палаталізаванага.

Як бачым, паміж *р'>р*, з аднаго боку, і *с', з', т', д'>>с", з", ц", дз"*, з другога, сапраўды існуе ўнутраная сувязь: у абодвух выпадках мы назіраем вынікі прасоў-

вання месца артыкуляцыі зубных палаталізаваных у краепалатальную зону.

Сучасныя гаворкі Беларусі ў залежнасці ад наяўнасці-адсутнасці (*р'*) падзяляюцца на мяккаэрыя (паўночны ўсход Віцебшчыны і ўсход Магілёўскай вобласці, астраўкі ўздоўж паўднёвай мяжы з УССР і ўвесь паўднёвы захад Брэсцкай вобласці) і цвёрдаэрыя. Сярод першых асобную групу складаюць брэсцкія гаворкі. Толькі ў гомельскіх мяккаэрых гаворках (*р'*) і (*р*) з'яўляюцца проста варыянтамі адной фанемы [*р*]; змяшэнне (*р'*) і (*р*) назіраецца таксама на мяжы мяккаэрых і цвёрдаэрых масіваў [190].

Розніцу паміж палатальнымі тыпу латышскіх (*ĺ*) і (*ń*) (арф. *ļ*, ņ) і палаталізаванымі (*л'*), (*н'*) нават трэніраванае вуха адзначае не адразу, хоць яна відавочная; адрозніць жа на слых (*л'*), (*н'*) і краепалатальныя (*л''*), (*н''*) нам здаецца справай немагчымай.

Улічваючы сказанае аб *с', з', т', д', р'>с'', з'', ц'', дз''*, *р*, мы дапускаем, што ў большасці беларускіх гаворак месца артыкуляцыі палаталізаваных (*л'*), (*н'*) прасунута некалькі назад, у краепалатальную зону, хоць мы не маем прамых доказаў гэтага.

Аб *л'>л''*, магчыма, ускосна сведчыць *л'>й* і *й>л'* у нешматлікіх словах, напрыклад: *карабел'шчыкі* і *карабейшчыкі, йустэрка<л'устэрка, Гомель<Гомей, дал'бо<<дайбо(г)* [191], таксама *муравел'н'ік<муравейн'ік* [192], *Марыл'а<Марыйа* [193], вельмі характэрным з'яўляецца *вйушка>л'ушка* (праз *вл'ушка*?), якое сустракаецца на Віцебшчыне [194].

Можна паказаць, што палаталізаваныя гукі спалучаюцца з (*й*), напрыклад рус. *уменье, печенье, зелье.* Калі мяккія з'яўляюцца краепалатальнымі, то вельмі лёгка можа адбыцца асіміляцыя (*й*) папярэдняму гуку, г. зн. можна чакаць з'яў тыпу укр. **знан'йе>знан'а, *з'іл'йе>зіл'а,* бел. **нас'ен'йе>нас'ен'е, *вос'ен'йу>вос'ен'у, *з''ел'йе>з''ел'е.* На жаль, у беларускіх гаворках з «падоўжанымі мяккімі» (гемінатамі) *с'', з'', ц'', дз''* сустракаюцца *ш, ж, ч,* што ўскладняе пошук сувязей паміж утварэннем краепалатальных і гемінацыяй мяккіх [195].

Паказчыкам артыкуляцыйнага збліжэння (*н'*) і (*й*) трэба лічыць *н'*-эпентэзу пасля спрадвечна мяккіх губных. Сістэматычна яна сустракаецца толькі ў паўднёва-заходнім куце Брэсцкай вобласці. Слова *с''ёмн'а* мы за-

пісалі ў в. Забалацце Акцябрскага раёна; у вв. Рэчкі і Рудня Івацэвіцкага раёна суіснуюць *тéмна, урéмна, йімна, вімна* і *тéмйа, урéмйа, йімйэ, вімйэ; пул'емйóт* і *пул'емнóт* і інш. Удалося выявіць, што (*н*) мяккае ў гэтай гаворцы вымаўляецца без удзелу кончыка языка, які ляжыць пры гэтым ля ніжніх зубоў, г. зн. што яно з'яўляецца палатальным гукам (у пазіцыі перад заднімі галоснымі, (*ê*) і ў канцы слоў): *кон, кона́, на веснê, снêг*; (*л*) мяккае застаецца тут палаталізаваным гукам (і мы не назіраем нават спарадычнай *л*-эпентэзы пасля губных!).

Паводле папярэдніх назіранняў, у в. Рудня Ельскага раёна мяккія сананты (*л*) і (*н*) з'яўляюцца палатальнымі: *спэклі хлêб, ла́ла, лêто, маркáл, стол, болша, з''емла́, лўдi* і *кон, с''віна́, йагна́, п'éвен, женíўс''а, с''нêг* і інш. Зразумела, пытанне аб межах распаўсюджання палатальных (*л*) і (*н*) у палескіх гаворках застаецца адкрытым.

## УЛАСНА ДЭПАЛАТАЛІЗАЦЫЙНЫЯ З'ЯВЫ Ў БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

На матэрыяле польскіх і балгарскіх гаворак было паказана, што палатацыя і ўласна дэпалаталізацыя (зацвярдзенне) зычных працякаюць паралельна. Таму можна меркаваць, што ў выпадку, калі наша гіпотэза аб палатацыі мяккіх зубных у беларускіх гаворках правільная, то мы павінны назіраць таксама ўласна дэпалаталізацыйныя з'явы. У сувязі з гэтым цікава разгледзець наступныя факты.

Зацвярдзенне (*л'*) перад (*ц*) назіраецца на большай частцы Беларусі: *колца, палцы, маселцам* (Гарад. р-н), *палцам* (Арш. р-н), *ц'апелца* (Клім. р-н), *крылцо* (Чэрык. р-н), *палцы, малцы* (Сен., Чав., Магіл. р-ны); *л'*>*л* у гэтай пазіцыі адзначан таксама ў Слуцкім, Рэчыцкім, Мазырскім, Навагрудскім і нават у Беластоцкім раёнах; у літаратурнай мове даваеннага перыяду сустракаліся *відэлца, сілцох, крылца*[196].

Перад (*с*) у суфіксе *-ство* зацвярдзенне (*л'*) назіраецца на Мсціслаўшчыне, у Рагачоўскім раёне, на Случчыне і ў Ваўкавыскім раёне: *бабылства, началства, самахвалства.* Спарадычна ў гаворках (*л'*) зацвердзявае

перад (*н*): *волныя людзі, пілны, сілны*, таксама *даволный,: отделный, силный, веселныя песни* (транскрыпцыя крыніцы!); сустракаюцца *вучыцелка, прыяцелка* (Гарад., Віц., Леп. р-ны), *на пахмелкі* (Віц. р-н), *адзабылкі* (Крывіч, 7, 1924 г.), *каракулкі* (Насовіч), *ухмілка, зашпілка* [197]. Агульнабеларускім з'яўляецца *пыл*<*пыл'*; параўн. рус. *пыль*.

У большасці беларускіх гаворак — на поўнач ад лініі Брэст — Баранавічы — Бабруйск — Магілёў і далей па Дняпру да мяжы з РСФСР — (*н'*) зацвярдзела перад суфіксам *-ск-* у слове *мінскі*; на поўнач ад лініі Гродна — Радашковічы — Барысаў — Віцебск і далей па Дзвіне да мяжы з РСФСР (*н'*) зацвярдзела ў прыметніку *кóнскі*; «на поўдзень і ўсход ад адзначаных вышэй ліній у словах *кóнскі, мінскі* пераважаюць мяккія варыянты гукаў *н, с*» [198]: *Мін'ск, жэ́н'с'кі, кóн'с'кі.* У паўночна-ўсходніх гаворках распаўсюджана слова *ам'ін*; часта сустракаецца *я́блына* (*я́блынка*, гомельск. *я́блана*); на Бабруйшчыне адзначаны, акрамя таго, *я́сен, жы́тны, здзéшнаа* [199]; для чэрвеньскіх гаворак характэрна *блáзен* — «малакасос»; толькі тут адзначана *лiњ* пры агульнабеларускім *лін*, параўн. рус. *линь*, схрв. *лињ*. У гаворках Ваўкавыскага раёна вымаўляюць *плахéнкі, мáленка, міл'анкі, стáренкі, братавéнка, сiв'енкі* [200]; *ц''éм'ін, ц''éм'ен'* нам сустрэлася ў в. Пагост Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці.

Вялікаму масіву гаворак — на поўдзень ад лініі Пружаны — Слуцк — некалькі на поўдзень і захад ад Рагачова—Мазыр — і да мяжы з УССР—вядома дэпалаталізаванае (*с'*) у зваротнай часціцы *с'а*>*са, со, сэ: умы́ўса, адз''ёўса, абу́ўса; умы́ласо, абу́ласо*; пераход *с'а*>*са, со* ажыццявіўся таксама ў паўночна-заходнім вуглу Брэсцкай вобласці [201].

У гісторыі беларускіх гаворак (*т'*) і (*д'*) зацвярдзелі перад (*н*): *дз''ен'—дн'а*, чэрвеньск. *ц''ен'—тн'а.*

Канцавы (*т'*) дзеяслоўных форм зацвярдзеў ў адной з самых паўднёвых беларускіх гаворак в. Глушкавічы, дзе вымаўляюць *ідýт, несýт, везýт, кóс''ат; знóс''іт, кóс''іт*; *к'ідáт, воз''іт с''ёно*, а таксама ў лічэбніках *дз''éвйет, дз''éс''ет*, але: *пйац'', шэс''ц''.*

У 3-й асобе адзіночнага ліку *т'*>*т* у гаворцы вв. Рэчкі — Рудня Івацэвіцкага раёна: *седíт, курíт, бежíт, стрéл'іт, крічíт, вéріт*; у 3-й асобе множнага ліку ў Рэчках

таксама (т): *откáжут, ідýт, віпйут, кáут* (=кажуць), *гул'áйут, бéгайут, пáдайут*[202]; у Рудні гэтыя формы маюць (т"): *ідýт", віпйут"*.

Асобна трэба разглядаць «другаснае» зацвярдзенне *ц", дз"* (<*т', д'*)>*ц, дз*. Упершыню гэту з'яву адзначыў Л. Асоўскі ў гаворках вв. Малькавічы і Люсіна (цяпер Ганц. р-н Брэсц. вобл.): *жнуц, кóс"іц, вы́падзе, бýдзе дзен', пйац, шэсц, сцанá, дзáцол, дзáцко* і інш.[203] Аналагічнае назіраецца ў Тураве і навакольных гаворках (напрыклад, в. Запясочча): *п'íсáц, л'ежы́ц*; у в. Снедзін (№ 808 ДАБМ) і спарадычна — ў в. Лядзец Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: *огородзіц, уцóпл'ена*[204]. Прычыны гэтай з'явы і яе адносіны да разгледжаных вышэй дэпалаталізацый не зусім зразумелыя.

Толькі спарадычна зацвердзявае ў беларускіх гаворках (д'): *жанíдба, жалýд* (ці *жóлуд*)<*жолуд'*; параўн. рус., укр. *жолудь*, польск. *żołądź*. Больш інтэнсіўна, чым палаталізаваныя зубныя, зацвердзявалі ў гаворках мяккія губныя.

Агульнабеларускім працэсам, па папярэдніх даных, можна лічыць зацвярдзенне губных перад спрадвечным (й). Цвёрдасць-мяккасць губных у дзеясловах *пйу, бйу, пйе (-ц"), бйе (-ц")* вывучалася па праграме ДАБМ (пытанне 55 б). На аснове сабранага матэрыялу аказалася немагчымым зрабіць якія-небудзь адназначныя вывады. У шматлікіх выпадках пасля губных у гэтых формах студэнты-дыялектолагі пісалі апостраф (арфаграфічныя навыкі!), не адзначаючы цвёрдасці-мяккасці; таму ў многіх адказах мяккасць адзначана там, дзе яе няма (напрыклад, у гаворках Случчыны). Увогуле ж, па даных картатэкі ДАБМ, больш чым у 808 населеных пунктах (з 1027 абследаваных) зафіксаваны цвёрдыя губныя перад (й). Па нашых назіраннях, губныя ў пералічаных дзеясловах і іншых аналагічных пазіцыях усюды па Беларусі вымаўляюцца цвёрда.

Побач з расшчапленнем мяккіх губных на *С+й* у паўднёва-заходніх гаворках назіраецца і проста зацвярдзенне іх перад галоснымі задняга рада: *ц"вóрды, чац"вóрты* (Дрычын, Калацічы Глускага, Пухавічы Жыткавіцкага, Глушкавічы і Буйнавічы Лельчыцкага, Гара Калінкавіцкага, Конкавічы Петрыкаўскага р-наў, таксама на Случчыне)[205]. *С"вокрóўка, с"вóкар* мы чулі ў в. Рэчкі Івацэвіцкага раёна; *віма*<*вы́м'а* адзначана ў

вв. Шупені Круглянскага, Цяхцін Бялыніцкага і Дзмітраўка Клічаўскага раёнаў Магілёўскай вобласці.

Перад (*і*) у канчатку творнага склону множнага ліку прыметнікаў і назоўнікаў (*м*) зацвярдзела ў гаворках Браслаўскага, Пастаўскага, Ашмянскага, Валожынскага, Маладзечанскага і Навагрудскага раёнаў (гэтыя гаворкі не ствараюць адзінага масіву), а таксама ў гаворках паміж Чэрвенем, Магілёвам, Быхавам і Бабруйскам, паміж Барысавам і Бягомлем: *рука́мы, нага́мы, за дама́мы, сл'аза́мы*. Спарадычна канчатак *-мы* сустракаецца на Віцебшчыне і ўсходняй Магілёўшчыне (гл. карту № 104 ДАБМ).

Трэба адзначыць рэдкія, але вельмі цікавыя выпадкі «палатацыі» губных, калі яны знікаюць, перадаючы мяккасць свайму «наследчыку»: *ваз''н'і*<*ваз''м'і* (Дзмітраўка Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл.), *вийо́рка*<*вав'о́рка* (Ваўкав. р-н)[206], нават *йейу́рка* (Шундры Слонім. р-на), *с''у́кор*<*с''вйо́кар* (Буйнавічы Лельч. р-на).

Адзначаныя факты не вычарпальныя, аднак іх дастаткова, каб зразумець, што дэпалаталізацыйныя працэсы на тэрыторыі беларускіх гаворак былі значна менш інтэнсіўнымі, чым палатацыя. Яны ахапілі перш за ўсё ізаляваныя пазіцыі (напрыклад, часціцу *с'а*, канчатак *-м'і*), з'яўляючыся ў іншых выпадках спарадычнымі. Відаць, павінна існаваць нейкая прычына, якая абумовіла дыспрапорцыю ў інтэнсіўнасці разгледжаных з'яў.

## ПРЫЧЫНЫ І АДНОСНАЯ ХРАНАЛОГІЯ ПАЛАТАЦЫІ МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

У старажытных беларускіх гаворках усе проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці нейтралізаваліся перад [*ѣ*] і [*е*] (стар. 60). Пасля зліцця *ѣ, ь*>*е* ў частцы з іх такой пазіцыяй нейтралізацыі павінна была зрабіцца пазіцыя перад [*е*]. Аднак к таму часу ў гаворках, дзе не захавалася (*ѣ*), узніклі спалучэнні «цвёрды зычны+галосны пярэдняга рада (*е*)». Іх з'яўленне звязана з распаўсюджаннем канчаткаў *-эй* у некаторых формах прыметнікаў і займеннікаў.

У сучасны момант *-эй* у прыметніках мужчынскага роду назоўнага склону адзіночнага ліку (*мала́дэй, дур-*

*нэй, сл'апэй, крутэй, жывэй, крывэй, галубэй, злэй* і інш.) назіраецца ў гаворках паўднёва-ўсходняй Віцебшчыны (на ўсход ад лініі воз. Свіно—да Лепельскіх азёр — на паўднёвы захад да мяжы з Магілёўскай вобласцю — праз Оршу на ўсход да межаў з РСФСР (гл. карту-схему 5) і ўсходняй Магілёўшчыны (на ўсход ад лініі Мсціслаў—Чавусы—паміж Слаўгарадам і Быхавым на поўдзень, уключаючы ўсю паўночную частку Гомельскай вобл.— да мяжы з РСФСР). Гэты канчатак адзначаны таксама ў вв. Рудня Плешчаніцкага (пункты № 210 ДАБМ), Паплавы Бярэзінскага (пункт № 809 ДАБМ) і Земляніцы Клічаўскага раёнаў (пункт № 555 ДАБМ, гл. карту № 110 ДАБМ і карту-схему 5 нашай працы), якія знаходзяцца далёка на захад ад суцэльнай тэрыторыі з *-эй*.

У гаворках з *маладэй, хлóп'ьц* прыметнікі жаночага роду ў родным і давальным склонах адзіночнага ліку маюць націскны канчатак *-эй*: *маладэй, дурнэй, сл'апэй, дз'éўкі; к маладэй, дурнэй, сл'апэй дз'éўк'і* (гл. карты № 119, 121 ДАБМ). У межах паўднёва-ўсходняй Віцебшчыны ў 12 пунктах ДАБМ (№ 77, 97, 106, 121, 123, 124, 242, 277, 297, 305, 309, 314) у форме роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду адзначана ненаціскное *-эй*: (*нóвэй, хáты*; гл. карту № 120 ДАБМ); у 11 пунктах ДАБМ (№ 77, 106, 241, 262, 293, 300, 301, 309, 313, 314, 329) *-эй* ненаціскное сустрэлася ў форме давальнага склону жаночага роду. Характэрна, што толькі ў трох з пералічаных пунктаў (№ 77, 106 і 313) давальны і родны склоны маюць ненаціскное *-эй*; у астатніх *-эй* выступае толькі ў адной з гэтых форм.

Нарэшце, у разгледжаных гаворках *-эй* з'яўляецца канчаткам творнага склону адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду: *з маладэй дз'éўкай* (гл. карту № 125 ДАБМ) і прыметнікаў назоўнага склону множнага ліку: *маладэйа дз'áўк'і, хлóпцы* (гл. карту № 127 ДАБМ). Спарадычна на гэтай жа тэрыторыі сустракаецца ненаціскное *-эй* у прыметніках жаночага роду творнага склону (гл. карту № 126 ДАБМ).

Генезіс канчатка *-эй* пералічаных форм у сучасны момант яшчэ добра не высветлен. Шахматаў лічыў іх вынікам фанетычнага працэсу: (ъ) перад (*й*) змяніўся спачатку ў (*ö*), якое потым у адных гаворках дало *-ой*, а ў іншых *-эй* [207]. Гэта гіпотэза добра растлумачвае шыро-

кае распаўсюджанне *-эй* у беларускіх і велікарускіх гаворках, але апанентаў Шахматава бянтэжыла строгая граматыкалізаванасць магчымага фанетычнага змянення *ъй>ой>эй, ой*. Карскі і Ільінскі[208] ўслед за Апелем[209] развівалі гіпотэзу аб марфалагічнай прыродзе *-эй*. Паводле Карскага, напрыклад, *-эй* з'явілася ў некаторых склонах у выніку кантамінацыі канчаткаў *-ой* і *-эй>-оей;* пасля сцягвання *-оэй>-эй* новы канчатак *-эй* пашырыўся на іншыя формы. Гэта змяненне, меркаваў Карскі, на тэрыторыі Беларусі ажыццявілася пад уплывам рускіх гаворак[210].

Не прымаючы канчаткова ні «фанетычную», ні «марфалагічную» гіпотэзу, адзначым наступныя важныя для нас моманты. Формы прыметнікаў на *-эй* распаўсюджаны не ў аднолькавай ступені: на параўнальна вялікай тэрыторыі *-эй* сустракаецца ў назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду і ў творным склоне адзіночнага ліку жаночага роду; тэрыторыя распаўсюджання іншых форм з *-эй* значна меншая. Ненаціскное *-эй* выступае спарадычна, прычым у розных населеных пунктах гэты канчатак маюць розныя граматычныя формы. Ужо гэта дае падставу меркаваць, што тэрыторыя распаўсюджання *-эй* змяншаецца пад націскам заходніх гаворак (успомнім, што *-эй* у *маладэй хлóп'ьц* зафіксавана ў трох пунктах, размешчаных далёка на захад ад суцэльнага масіву гаворак з *-эй*!). Характэрна, што *маладэй хлóп'ьц* сустракаецца ўперамежку з *маладыи́ хлóп'ьц* пры больш заходнім *малады́*; родны склон адзіночнага ліку жаночага роду *маладэ́й дз'éўк'і* — у акружэнні *маладóй дз'éўкі* пры рэдкіх *маладыйа* (*-ый*) *дз'éўкі*; формы *к маладэ́й дз'éўкі* і *з маладэ́й дз'éўкай* на захадзе мяжуюць з формамі *к маладóй дз'éўкі*, а формы *маладэ́йа* (мн. л. наз. скл.) акружаны *маладыйа*. Можна меркаваць, улічваючы ўсё гэта, што фарманты з *-эй* выціскаюцца канчаткамі з *-о-* і з *-ы-*.

Аб больш шырокім распаўсюджанні канчатка *-эй* у мінулым можна меркаваць таксама па ўказальных займенніках *тэй* (адз. л. м. р.), *тэй, тэ́йа* (адз. л. ж. р.), якія сустракаюцца ва ўсіх гаворках на паўночны ўсход ад лініі, што ствараецца Дняпром—Бярэзінай—Свіслаччу і далей на Валожын і Ашмяны. Пры гэтым *тэй* (м. р.) ахоплівае суцэльны масіў гаворак на ўсход ад дугі Полацк — некалькі на ўсход ад Барысава, Чэрвеня — да

Бабруйска і далей праз Рагачоў, Гомель — да Добруша, а *тэй, тэйэ* (ж. р.) сустракаецца на Віцебшчыне, паўночнай частцы Мінскай вобласці, а таксама на тэрыторыі Смаргонскага і Ашмянскага раёнаў Гродзенскай вобласці [211].

Упершыню А. А. Шахматаў адзначыў магчымасць адлюстравання *-эй* у старажытных помніках пісьменнасці: *тѣи* (грам. 1392 г.), *новѣи* (Пск. псалтыр, 22), *велікѣи* (грам. 1392 г.), *гоцкѣи* (там жа), *новгородскѣи* (грам. 1317 г.), *немецкей* (Пск. лтп)[212]; Б. М. Ляпуноў гэтыя формы выявіў у наўгародскіх помніках: *неревьскеи, сьвискеи* [213]. Найбольшая колькасць іх знойдзена ў пскоўскіх помніках: *польскей, которей, силней* (Палея 1477 г.) *женскей* (Палея 1494 г.), *новей, коневей, немецкей, опоцкей, городоцкей* (Зб. Сінад. б-кі № 154), *красней, речней, велікей, другей, старей* (Пагодз. спіс Пскоўск. лтп.)[214]. Я. Ф. Карскі лічыў, што «ў старажытных заходнерускіх творах гэта з'ява не знаходзіць свайго адлюстравання: такія выпадкі, як *соуздальскѣи кнзь* (Лет. Аўр. XV ст.), *великѣи новгород* (там жа), сваім *-ѣи*, магчыма, перадаюць *-ий*» [215]. Але чамусьці толькі ў гэтых канчатках *ѣ* (ужо пасля зліцця (*ѣ*) і (*е*)) выкарыстоўвалася для перадачы (*и*).

Так ці інакш старажытнасць *-эй* у формах прыметнікаў не выклікае сумнення; у граматах і іншых помніках яно назіраецца з XIV ст., і, значыць, было шырока распаўсюджана ў гаворках яшчэ да гэтага перыяду.

З'яўленне (*е*) у канчатку *-эй* перад цвёрдымі зычнымі азначала, што з гэтага часу пазіцыя перад [*е*] не была ўжо пазіцыяй нейтралізацыі, агульнай для ўсіх проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці; параўн.: *маладэй — малодз'ен'к'і, маладз'ейшы* і інш. Як вядома, яшчэ да XV ст. (*ѣ*) канчаткова зліваецца з (*е*). Такім чынам, пачынаючы прыблізна з XV ст., у гаворках, якія ляглі ў аснову сучасных паўночна-ўсходніх, проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці не маюць агульнай пазіцыі нейтралізацыі. Аналагічная сітуацыя была, відаць, зыходнай для палатацыі палаталізаваных у гісторыі польскай мовы і заходнебалгарскіх гаворак. Таму можна меркаваць, што палатацыя *с', з', т', д'*>*с", з", ц", дз"*, а таксама *р'*>*р"*>*р* у беларускіх гаворках пачалася пасля разбурэння пазіцыі нейтралізацыі, агульнай для ўсіх проціпастаўленняў *С—С'*.

Колькасць спалучэнняў *Сэ* ў паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках павялічылася за кошт дэпалаталізацыі зычных перад (*е*) ў спрадвечных словах (*сэ́рца, вуздэ́чка, м'астэ́чка, стэп*). Пачынаючы з XVI ст., у беларускія гаворкі трапляе вялікая колькасць польскіх слоў, якія прыжываюцца ў спрадвечнай агаласоўцы; параўн. віцебск.: *ампэ́т, анэ́гды, аптэ́сам бавэ́лна, бэ́л'ка, басэ́тл'а, бэз, бутэ́л'ка, в'ідэ́л'ец, габэ́л'чык, гавэ́нда, дэс, дубэ́л'тка, дыйамэ́нт, зэ́длік, падэ́рва, падэ́шва, пэнд, сланэ́шн'ік, тандэ́тны, тэ́бел', тэ́рмін, лэ́дары, люстэ́рак, мізэ́рны, рандэ́лік, хванабэ́ры,* уласныя імёны *Адэ́л'а, Тэ́кл'а*[216]. На Чэрвеньшчыне, акрамя пералічаных, знаходзім *адпэ́ндзіць, вэ́длуг, вэ́дзгаць, пустэ́ча, пратэ́са, смяртэ́льны, статэ́чны, гарсэ́т, кватэ́рка, магнэ́с, мізэ́ра, нэ́ндза, шыдэ́лак* і інш.[217]

Мы прывялі прыклады распаўсюджаных запазычанняў з польскай мовы ва ўсходніх і цэнтральных гаворках; на захадзе Беларусі знойдзем значна большую колькасць слоў такога тыпу.

Некалькі пазней у беларускую мову трапляюць запазычанні з ідыша: *бэ́бухі, бэ́йбас, балдэ́с, саймэ́т, тэ́ртус, мэ́тлух, вэ́рхаль* і інш.

Далейшы лёс спалучэнняў *Сэ* звязаны з адзначанымі марфалагічнымі і лексічнымі крыніцамі. Ліквідацыя канчатка *-эй* у частцы гаворак не прывяла да аднаўлення старой пазіцыі нейтралізацыі перад [*е*], паколькі ў гэты перыяд *Сэ* існавалі ўжо ў шматлікіх запазычаннях. Акрамя таго, у большасці паўночна-ўсходніх гаворак захаваліся словы тыпу *тэй, тэ́йа, сэ́рца, вуздэ́чка, м'астэ́чка.*

У сучасны момант у паўночна-ўсходніх гаворках вылучаюцца дзве зоны: усходняя (паўночна-ўсходняя частка Віцебшчыны, усходняя Магілёўшчыны і паўночная частка Гомельскай вобл.), дзе *Сэ* сустракаюцца як у формах прыметнікаў, так і ў запазычаннях, і заходняя, дзе цвёрдыя зычныя перад (*е*) сустракаюцца толькі ў коранях слоў (*тэй, тэ́йа, сэ́рца, вуздэ́чка* і інш. плюс запазычанні). Аналагічны стан знаходзім у беларускай літаратурнай мове, дзе не дапускаюцца *тэй, тэ́йа,* але колькасць запазычанняў з *Сэ* вельмі вялікая.

Трэба адзначыць, што ва ўсіх гэтых гаворках, а таксама ў літаратурнай мове колькасць спалучэнняў *Сэ* ў параўнанні з *С'е* невялікая, прычым толькі ў гаворках,

дзе ёсць канчатак *-эй*, адна і тая ж аснова можа выступаць як з канцавым (асновы) *С'*, так і з *С*; параўн. *малад(эй)—маладз"(ейшы)*. У іншых гаворках *Сэ* сустракаюцца толькі ў коранях слоў. З другога боку, *С* і *С'*




Карта-схема 5. Умоўныя абазначэнні:

*1*—паўночная мяжа распаўсюджання (ê) (па карце № 34 ДАБМ); *2*—гаворкі, у якіх (ê) адзначана ў асобных пунктах; *3*—паўночная мяжа «расшчаплення» мяккіх губных перад галоснымі задняга рада (па картах № 50, 51 ДАБМ); *4*—гаворкі з *ы>у* пасля губных (па карце № 39 ДАБМ); *5*—гаворкі з *ы>і* пасля губных (па карце № 39 ДАБМ); *6*—зона распаўсюджання *-э* ў канчатках прыметнікаў (па картах №№ 110, 119—122, 125—127 ДАБМ); 7—тое ж у асобных пунктах; *8*—множны лік назоўнікаў з цвёрдай асновай тыпу *дубэ, баранэ* (па карце № 95 ДАБМ); *9*—паўночная мяжа распаўсюджання прыметнікаў ніякага роду тыпу *молодэ/йэ, новэ/йэ* (па картах № 114, 115 ДАБМ); *10*—зона адсутнасці мяккіх гемінат (па карце № 64 ДАБМ і карце № 8 «Нарысаў па беларускай дыялекталогіі», стар. 143); *11*—гаворкі, даныя якіх не разглядаліся ў нашай працы; *12*—мяккаэрыя гаворкі

сістэматычна чаргуюцца, калі *С* трапляе ў пазіцыю перад (*е*); параўн.: *дом—дом'е, горад—у горадз"е, в'ясна—в'ясн'е, стол—стал'е.* Здаецца, што гэтыя чаргаванні, дзякуючы іх рэгулярнасці, у некаторай ступені выконваюць ролю нейтралізацыі процістаўленняў *С—С'*, пастаянна ўказваючы на роднаснасць (*т*) і (*ц"*), (*д*) і (*дз"*),

(*с*) і (*с''*), (*з*) і (*з''*) і інш. Магчыма, гэта перасцерагае тэмбравую карэляцыю *С—С'* ад канчатковага разбурэння, г. зн. стрымлівае далейшую палатацыю *с''*>*ć*, *з''*>*ź*, якая была б непазбежнай у іншых умовах, не дапускае актыўнай дэпалаталізацыі губных (іх расшчаплення або зацвярдзення), а таксама разгортвання дэпалаталізацыі іншых зычных.

Гаворачы аб фанетычнай характарыстыцы і акустычных асаблівасцях бел. (*с''*), (*з''*), (*ц''*), (*дз''*), мы адзначылі большую ступень іх «шапялявасці» ва ўсходніх, а не заходніх гаворках, што не вельмі «прыемна» для «ляшскай» гіпотэзы. З нашага пункту погляду, гэта з'ява заканамерная: паколькі іменна ва ўсходніх гаворках раней, чым у іншых, разбурылася агульная пазіцыя нейтралізацыі, то і палатацыя тут пачалася раней і праходзіла інтэнсіўней.

Зацвярдзенне (*р'*) мы звязваем з прасоўваннем месца яго артыкуляцыі ў краепалатальную зону. Таму можна было б чакаць паслядоўнага пераходу *р'*>*р* ва ўсіх гаворках Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Аднак у сапраўднасці назіраецца процілеглае: большая частка гаворак, дзе адбылася параўнальна інтэнсіўная палатацыя, з'яўляюцца мяккаэрымі! (гл. карту-схему 5). Наўрад ці можна дапусціць другасны ўплыў велікарускіх гаворак. Хутчэй за ўсё мы сустрэлі своеасаблівы архаізм, як у латышскай мове, дзе існуе вельмі няўстойлівая тэмбравая карэляцыя, але гук (*r'*) да апошняга часу захоўвае мяккасць (стар. 136), або яшчэ ў верхнялужыцкай мове, дзе тэмбравая карэляцыя вельмі слабая, гук (*r'*) зацвярдзеў у канцы слоў, але захоўвае мяккасць у іншых пазіцыях (стар. 135). Разам з тым цікава праверыць з дапамогай палатаграфіравання, ці не адрозніваецца (*р'*) усходнебеларускіх гаворак «павялічанай мяккасцю», г. зн. ці не (*р''*) яно? Краепалатальнае (*р''*) на слых павінна быць менш раскацістым, чым (*р'*), а на яго палатаграмах мы павінны бачыць больш шырокую, чым у (*р'*), зону датыкання пярэдняй часткі языка да цвёрдага паднябення.

Інакш развівалася тэмбравая карэляцыя ў гаворках, дзе захоўвалася розніца паміж *е*<*е* і *ê*<*ѣ*. У паўночнай іх частцы з'яўленне спалучэнняў *Сэ* і *Сê* звязана з распаўсюджаннем асобнай формы множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на цвёрды: *дубэ́, бара-*

*нэ, абразэ́, арлэ́, бл'інэ́, штанэ́, братэ́, брусэ́, цыганэ́* ці *дубе̂́, баране̂́, абразе̂́, арле̂́* і інш. Па даных ДАБМ (карта № 95; т. II, стар. 528—532), націскныя (*е*), (*ê*) у гэтай форме сустракаюцца ў Гродзенскай (за выключэннем Ваўкавыскага і паўднёвай часткі Мастоўскага р-наў), у цэнтральнай частцы Мінскай (у паласе Стаўбцы — Мар'іна Горка) і ў Магілёўскай абласцях навокал Бабруйска. На самым усходзе — у міжрэччы Друці і Бярэзіны формы тыпу *дубэ́* зафіксаваны ў гаворках, дзе няма (*ê*).

Невядома, якая з гэтых форм (*дубэ́* ці *дубе̂́*) з'яўляецца больш старажытнай. Мы можам толькі канстатаваць, што там, дзе вымаўляюць *дубэ́, баранэ́*, пазіцыя перад [*е*] перастала быць пазіцыяй нейтралізацыі для проціпастаўленняў *С—С'*. У тых жа нешматлікіх населеных пунктах (№ 371, 399, 447, 451, 454, 456, 459, 482, 485, 747 і 783 ДАБМ), дзе адзначаны *дубе̂́, баране̂́*, проціпастаўленні цвёрдых і мяккіх не нейтралізуюцца ў пазіцыі перад [*ê*].

У гаворках заходняй часткі Гродзенскай вобласці — на поўнач ад лініі Ружаны—Слонім, на захад ад р. Шчары і лініі Шчучын—Астрына—(*ê*) адзначана толькі ў васьмі населеных пунктах (№ 343, 347, 348, 350, 358, 367, 370 і 384; гл. карту № 3 ДАБМ), а ва ўсіх іншых—толькі (*е*). На гэтай тэрыторыі распаўсюджаны формы *дубэ́, баранэ́*, і таму проціпастаўленні *С—С'* не нейтралізуюцца тут, як і ў паўночна-ўсходніх гаворках; тое ж можна сказаць аб гаворках, размешчаных на ўсход ад Бабруйска паміж Бярэзінай і Друццю.

У паўднёвай частцы гаворак з (*ê*) спалучэнні *Сэ* з'явіліся ў назоўніках адзіночнага ліку назоўнага склону ніякага роду: *(мала)дэ́, (мала)дэ́йэ, (нав)э́, (нав)э́йэ*; гл. карты № 114, 115 ДАБМ). Гэтыя формы распаўсюджаны на захад ад ніжняга цячэння Прыпяці, на поўначы яны даходзяць да лініі Слуцк—Слонім—Ружаны.

Як бачым, проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці ў гаворках, дзе захоўваецца (*ê*), маюць агульную пазіцыю нейтралізацыі. Гэта можа быць пазіцыя перад [*ê*] (у большасці гаворак) ці [*е*] (у гаворках, дзе зафіксаваны *дубе̂́, баране̂́*); у вузкай паласе — міжрэчча Прыпяці—Дняпра—Бярэзіны—на ўсход—да Парыч і Глуска на поўначы—да р. Случы на захадзе — проціпастаўленні *С—С'* нейтралізуюцца і перад [*ê*] і [*е*]. Прычым [*ê*] сус-

ракаецца толькі пад націскам, і, такім чынам, у пазіцыі перад [*ê*] *С—С'* нейтралізуюцца ў націскным складзе.

Ва ўмовах існавання пазіцый нейтралізацыі, агульных для ўсіх проціпастаўленняў *С—С'*, здавалася б, няма падстаў для ажыццяўлення палатацыі і дэпалаталізацыі, якія мы, тым не менш, назіраем у гэтых гаворках.

Успомнім, аднак, што ва ўсіх паўднёва-заходніх гаворках губныя расшчапіліся на *С+й* перад заднімі галоснымі; пасля ажыццяўлення *ы*> *і* і *ы*>*у* ў радзе гаворак гэтай зоны губныя перасталі проціпастаўляцца перад [*і*] і зрабіліся няпарнымі па цвёрдасці-мяккасці; мяккія адпаведнікі захаваліся толькі ў зубных. Пры наяўнасці ж мяккіх адпаведнікаў у прадстаўнікоў толькі аднаго лакальнага рада проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці ствараюць не тэмбравую карэляцыю *С—С'*, а палатальны рад. У нашым выпадку проціпастаўленні па раду (палатальныя — непалатальныя) стварылі *т—т́, д—д́, с—с́, з—з́, л—л́, н—н́, р—р́*. Палаталізаваныя гукі (*т'*), (*д'*), (*с'*), (*з'*), (*л'*), (*н'*), (*р'*) у гэтых умовах пачалі прадстаўляць адпаведныя палатальныя фанемы. Палатацыя зрабілася непазбежнай, і вынікам яе было ўтварэнне краепалатальных (*ц''*), (*дз''*) ці (*т''*), (*д''*), таксама (*с''*), (*з''*), (*л́*), (*н́*) і пераход *р'*>*р''*>*р*.

Такім чынам, падобна да таго, як у паўночна-ўсходніх гаворках ачагом палатацыі былі гаворкі, дзе проціпастаўленні *С—С'* страцілі агульную пазіцыю нейтралізацыі, у паўднёва-заходніх ачагом і эпіцэнтрам гэтай з'явы зрабіліся гаворкі з разбуранай тэмбравай карэляцыяй.

Нарэшце, умовы для палатацыі склаліся ў тых заходніх гаворках Гродзеншчыны, дзе зліліся (*ê*)>(*е*) і распаўсюдзіліся формы *дубэ́, баранэ́*, як і ў міжрэччы Бярэзіны—Друці на ўсходзе; проціпастаўленні *С—С'* страцілі тут агульную пазіцыю нейтралізацыі.

З пункту погляду гэтай гіпотэзы, нерастлумачанай застаецца наяўнасць (*с''*), (*з''*), (*ц''*), (*дз''*) у тых гаворках, дзе існуе тэмбравая карэляцыя (*п—п', б—б', в—в', м—м'* проціпастаўляюцца перад [*і*]) і захоўваецца агульная для ўсіх *С—С'* пазіцыя нейтралізацыі. Магчыма, пералічаныя краепалатальныя гукі з'явіліся тут у выніку міждыялектнага ўзаемадзеяння. Далейшыя даследаванні павінны паказаць якія-небудзь асаблівасці распаўсю-

джання дадзеных гукаў на гэтай тэрыторыі, што дасць магчымасць дакладней высветліць іх паходжанне.

Даныя помнікаў добра пацвярджаюць адносную храналогію разгледжаных з'яў, якую прадбачвае высунутая намі гіпотэза. Так, у паўночна-ўсходніх гаворках палатацыя магла пачацца толькі пасля зліцця *ѣ* і *е*>*е*; адзінкавыя выпадкі неадрознівання гэтых гукаў на пісьме зафіксаваны з XIII ст., але толькі ў XV ст. яно стала звычайным [218]. Канчатак *-эй* форм прыметнікаў, галоўны «пастаўшчык» спалучэнняў *Сэ*, з'яўленне якіх азначала разбурэнне агульнай пазіцыі нейтралізацыі ў *С—С'*, у гэты час быў шырока распаўсюджаны ў сумежных з беларускімі велікарускіх гаворках, што ўскосна сведчыць пра наяўнасць іх і ў саміх беларускіх.

Сведчаннем прасоўвання месца ўтварэння палаталізаваных у краепалатальную зону служыць *р'*>*р*; выпадкі неабазначэння мяккасці (*р'*) адносяцца к канцу XIV—пачатку XV ст.: *сентебра* (1385 г.), *терать* (1398 г.), *дрысы* (да 1399 г.), *дмитръ дворыковичь* (XIV ст.), *серебрыныи* (1405 г.), *генвара* (XV ст.) і інш.[219]

Бясспрэчныя сведчанні палатацыі (*с'*), (*з'*), (*т'*), іменна напісанні *ш, ж, ч* замест *с, з, т* мяккіх адносяцца да XVI ст. (стар. 66).

Расшчапленне мяккіх губных, якое адыграла вельмі важную ролю ў лёсе тэмбравай карэляцыі ў паўднёва-заходніх гаворках, адлюстравалася ў помніках вельмі слаба. Я. Ф. Карскі адзначае, напрыклад, *демъянъ* (Гродз. Акт. кніга XVI ст.)[220]. Ва ўкраінскіх помніках яно пачынае сустракацца з XV ст.[221] Тэрыторыя распаўсюджання гэтай з'явы ў сучасных украінскіх і беларускіх гаворках таксама сведчыць аб старажытным характары гэтай з'явы.

Малаверагодна, каб *ы*>*у* як з'ява досыць вузкалакальная адлюстравалася ў помніках. Але гістарычнай дыялекталогіі беларускай мовы пашанцавала ў тым сэнсе, што гэта з'ява зарэгістравана ў «кітабах»—помніках беларускай мовы, напісаных арабскім алфавітам. У двух з іх, самых старажытных (XIV ст.), пераход *ы*>*у* адлюстраваўся вельмі паслядоўна [222], так што старажытны характар гэтай з'явы не выклікае сумнення.

Абапіраючыся толькі на паказанні помнікаў, Карскі адносіў узнікненне «ляшскіх» рыс да XIV ст. («не пазней XIV ст.»)[223]. Умовы для іх зараджэння, г. зн. для пала-

тацыі палаталізаваных, паводле нашай гіпотэзы, у беларускіх гаворках склаліся дзесьці ў XIV—XV стст., так што даціроўку Карскага ўвогуле можна лічыць абгрунтаванай і часам іх узнікнення лічыць XIV—XV стст.

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЕРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У СУЧАСНЫХ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ

Ва ўсіх гаворках з тэмбравай карэляцыяй палаталізаваныя фанемы [*с*'], [*з*'], [*т*'], [*д*'] і, магчыма, [*л*'], [*н*'] прадстаўлены краепалатальнымі гукамі (*с*''), (*з*''), (*ц*''), (*дз*'') (а таксама (*л*''), (*н*'')?); па іншых характарыстыках тэмбравай карэляцыі гэтыя гаворкі дзеляцца на некалькі зон і падзон (гл. карту-схему 6).

І. 1—цэнтральная зона.

Падзона 1. *а*: па цвёрдасці-мяккасці тут процістаўляюцца *п—п', б—б', в—в', м—м', с—с', з—з', т—т', д—д', н—н', л—л'*;

мяккія і цвёрдыя губныя адрозніваюцца перад галоснымі задняга рада і [*і*];

усе процістаўленні па цвёрдасці-мяккасці нейтралізуюцца толькі перад [*ê*] (пункты № 401—417; 419—421; 424, 425, 393, 396, 436, 437, 440, 443, 445—448, 705, 706; 475, 512, 517, 519, 484, 568 ДАБМ, г. зн. гаворкі, дзе распаўсюджаны формы *дубэ́, баранэ́*), або перад [*е*], дзе адзначаны *дубе̂́, баране̂́*, або як перад [*е*], так і перад [*ê*] — уся ўсходняя частка гэтай падзоны, дзе множны лік назоўнікаў мужчынскага роду *дубы́, бараны́*.

Падзона 1.*б*: у адрозненне ад гаворак падзоны 1.*а* губныя тут па цвёрдасці-мяккасці адрозніваюцца толькі ў пазіцыі перад [*і*]; тыповымі для яе з'яўляюцца гаворкі Чырванаслабодскага раёна Мінскай вобласці [224].

Невялікую па тэрыторыі падзону 1.*в* утвараюць гаворкі, дзе цвёрдыя і мяккія губныя адрозніваюцца толькі перад [*і*], а ўсе процістаўленні *С—С'* нейтралізуюцца ў пазіцыі перад [*ê*]; яна ахоплівае раён распаўсюджання форм прыметнікаў ніякага роду адзіночнага ліку назоўнага склону тыпу *молодэ́, дурнэ́, новэ́*.

У зону І. 2 уваходзяць усе гаворкі, якія маюць тэмбравую карэляцыю, на поўнач і ўсход ад цэнтральнай. Губныя тут адрозніваюцца па цвёрдасці-мяккасці перад галоснымі задняга рада, як у падзоне І.1.*а*. У адрознен-

не ад гаворак цэнтральнай зоны проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці на ўсёй тэрыторыі зоны I.2 не маюць агульнай пазіцыі нейтралізацыі; тут можна выдзеліць гаворкі, дзе спалучэнні тыпу *Сэ* распаўсюджаны дзякуючы існаванню канчатка *-эй* прыметнікаў (плюс запазычанні), і гаворкі, дзе *Сэ* сустракаюцца толькі ў коранях слоў (спрадвечных тыпу *сэ́рца, вуздэ́чка, мястэ́чка* і запазычаных).

Ва ўсходняй подзоне I.2.*а* па цвёрдасці-мяккасці, акрамя *п—п', б—б', в—в', м—м', т—т', д—д', с—с', з—з', л—л', н—н'*, як і ў іншых гаворках з тэмбравай карэляцыяй, проціпастаўляюцца яшчэ і *р—р'*. Асобна трэба адзначыць таксама гаворкі, дзе (*р*) і (*р'*) з'яўляюцца варыянтамі адной фанемы; яны не складаюць суцэльнага масіву (паўночны ўсход Гомельшчыны, сумежжа цвёрдаэрых і мяккаэрых гаворак; гл. карту № 42 ДАБМ, Каментарыі).

Асобна выдзяляюцца гаворкі з зацвярдзелымі *ц*< <*ц''*<*т', дз*<*дз''*<*д'* — вв. Малькавічы і Люсіна Ганцавіцкага раёна і гаворка в. Лядзец Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, некаторыя вёскі вакол Турава; асноўная асаблівасць тэмбравай карэляцыі ў іх — моцнае абмежаванне дыстрыбуцыі мяккіх зычных. У Малькавічах і Люсіне (*ц''*), (*дз''*) не зацвярдзелі толькі ў некаторых словах перад (*у*), так што проціпастаўленні *т—т', д—д'* належаць тут да ліку другарадных, перыферыйных.

Зону I.3 паводле стану тэмбравай карэляцыі ўтвараюць гаворкі паўднёва-заходняй часткі Брэсцкай вобласці, дзе ўсе зычныя зацвярдзелі перад (*е*) і (*і*); мяккія губныя ў гэтых гаворках перад заднімі галоснымі не сустракаюцца — яны расшчапіліся на «*С*+*й*». У выніку *ѣ*> > *і* і *о*>*і* тут з'явіліся новыя спалучэнні *б'і, п'і, в'і, м'і* (па літаратурных даных), так што губныя аказаліся проціпастаўленымі па цвёрдасці-мяккасці перад [*і*]; параўн.: *б'ік* (<*бок*)—*бик* (<*бык*) і інш. Іншыя асаблівасці тэмбравай карэляцыі ў дадзеных гаворках у гэтай працы не разглядаюцца.

Такім чынам, толькі ў зоне I.1 (цэнтральнай) усе проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці маюць агульную (або агульныя) пазіцыю нейтралізацыі (не ўлічваючы зоны I.3). Тэмбравая карэляцыя ў гэтых гаворках з'яўляецца найбольш устойлівай з вядомых нам на тэрыторыі Беларусі.

Гаворкі зоны I.2, у якіх проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці не нейтралізуюцца ў адной пазіцыі, маюць менш устойлівую тэмбравую карэляцыю; іменна яны прадстаўляюць большасць беларускіх гаворак.

Гаворкі, у якіх мяккія і цвёрдыя фанемы проціпастаўляюцца па раду, у сваю чаргу падзяляюцца на некалькі груп. Першая з іх уключае тэрыторыю на ўсход ад р. Случы і на поўнач ад лініі Чырвонае возера — р. Пціч—Рэчыца. Характэрнай для гэтай групы з'яўляецца гаворка в. Забалацце Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці. Як і ў іншых гаворках з палатальным радам па тэрыторыі Беларусі, парнымі тут з'яўляюцца *т—т́, д—д́, с—с́, з—з́, л—л́, н—н́*. Мяккія палатальныя фанемы [т́], [д́], [с́], [з́] рэалізуюцца краепалатальнымі гукамі (*ц"*), (*дз"*), (*с"*), (*з"*): *ц"ал'ó, трэйц"áка; дз"áц"ел, м'едз"в'ếц", гус", с"в'ін'á, с"ерп, кóс"ац", з"імá, з"ац"*; адносна характарыстык мяккіх (*л*) і (*н*), як і ў іншых выпадках, цяжка сказаць нешта дакладнае.

Усе пералічаныя вышэй проціпастаўленні *С — С́* нейтралізуюцца перад (*е*) і (*ê*): *л'êс — у л'ếс"е, касá — на кас"ế, гн'ęздó — у гн'ęздз"ế, вôс — в'ęз"é, мну — мн'еш.*

Дыстрыбуцыя мяккіх зычных перад зычнымі абмежавана тут не мацней, чым у гаворках з тэмбравай карэляцыяй: *с"в'ін'á, п'іс"мó, с"в'éтлы, с"в'екрýха, бáц"ка, пус"ц"íў*, але: *дн'а, дн'е, пáлцы, м'éншні.*

Цвёрдыя зычныя (*ш*), (*ж*), (*ч*), (*ц*) і (*р*) (прадстаўнікі адпаведных няпарных па цвёрдасці-мяккасці фанем) велярызаваны нязначна; (*і*) пасля іх гучыць як (*и*) (сярэдні паміж (*ы*) і (*і*)) або як (*і*) : *жíто* (*жúто*), *чíсто, хлóпчік, в'éнчік, п'éрші, прівúốс, грібý* (=*грыбы*), *м'éнші, сварíласа, н'éмці* (ці *немци*). Пасля парных цвёрдых зубных заўсёды гучыць (*и*): *ти, с"удú, тудú, син, чатúри, вазú*, г. зн. дэвелярызацыя гэтых зычных яшчэ не закончылася.

*С*+*й* прадстаўлены ў гаворцы спалучэннямі «цвёрды губны+*й*»: *мйôт, памйốр, жеребйáтко, с"вйóкар, ўімйа* (=вымя), *імйá, пйáти, ц"вйóрди, пйац", дз"еўáйти, спйốкса, пл'емйáн'ік, мйáккайэ, мйáсо*, таксама *пйу, бйу, пйэ, бйэ.*

Пасля губных (*ы*) перайшоў у (*у*) ва ўсіх пазіцыях: *бук, кабýла, мýло, муй, мýйса, вýп'іў, вýгнаў, с"íшу,*

*шóс”муй, карóву, каравý, му, ву* і інш. Перад (*і*), (*е*), (*ê*) губныя заўсёды мяккія: *п’іво, в’інó, м’іска, п’êв’ен, в’ęсні́, б’ếлка, м’ęдз”в’ếц”, в’ęз”é, цв’êт, б’ęрóза, п’ęсок, м’ęшóк*. Паколькі мяккія губныя не сустракаюцца ў іншых пазіцыях, а цвёрдыя губныя — перад (*і*), (*е*), (*ê*), то гукі (*в*) і (*в’*), (*б*) і (*б’*), (*п*) і (*п’*), (*м*) і (*м’*) з’яўляюцца варыянтамі фанем [*в*], [*б*], [*п*] і [*м*].

Карта-схема 6. Тэмбравая карэляцыя (I) і палатальны рад (II) на тэрыторыі Беларусі

Тыповай для другой групы гаворак з палатальным радам з’яўляецца гаворка в. Пухавічы Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Як і ў Забалацці, тут парнымі па цвёрдасці-мяккасці фанемамі з’яўляюцца *т—т́*, *д—д́, с—ć, з—з́, л—л́, н—ń*; мяккія фанемы рэалізуюцца адпаведнымі краепалатальнымі (*ц”*), (*дз”*), (*с”*), (*з”*). Проціпастаўленні *С—Ć* нейтралізуюцца толькі перад [*ê*], паколькі ў гаворцы ёсць *С’е* і *Сэ*; параўн.: *с”ем, пол’е, мен’é, ц”епéрака, бýдз”е, з”éрн’а*, але: *молодэ́йэ, малэ́,*

*дурнэ́ (эй), спал'éнэ с''eлó, оннэ́* (=аднае), *безнóсэ, ц''верóзэйе*, таксама *Ладэ́чко* (=Уладзімір).

Губныя змякчаюцца перад (*i*), (*ê*): *в'iлк'i, восков'iк, роб'iл'i, заб'iл'i, м'iска, п'iл'iп, м'ếс''ац, п'ếвен', п'ếч, з''в'ếр, поб'ếх, б'ếлка.* Перад (*е*) губныя ва ўсіх выпадках зацвярдзелі, але не велярызаваліся: *овéчка, мет, пен', берé* (гл. прыклады на стар. 82).

Пасля губных (*ы*) пераходзіць у (*у*), як і ў папярэдняй гаворцы; зацвярдзелыя зычныя з'яўляюцца невелярызаванымі: *вéрчiк, жiвé, прiшóў, пропáшчiйэ, х'iтрi, хлóпцi, у комóрi, трi, одрíна.*

Дыстрыбуцыя мяккіх адносна зычных і канца слова такая ж, як і ў гаворцы в. Забалацце.

Дэвелярызацыя парных цвёрдых дэнтальных яшчэ не закончылася, аб чым сведчыць *ы*>*и* пасля іх: *син, синí, iс хáти, бедí, крэстí, сирíйэ, с''удí, тим, ти, кудí,* але выразнае *лы; гнилы́йэ* (або *глыни́йэ*). Цікава, што перад (*е*) зубныя велярызаваны больш моцна: *молодэ́, дурнэ́, малэ́.*

Трэцюю групу па стану палатальнага рада ўтвараюць гаворкі, у якіх (*ы*) пераходзіць у (*i*) пасля губных. Мы знаёміліся з некаторымі з іх, а абследавалі толькі адну гаворку вв. Рэчкі і Рудня Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Таму, разглядаючы яе характарыстыкі, мы не сцвярджаем, што яна з'яўляецца тыповай для трэцяй групы.

Пары па цвёрдасці-мяккасці тут утвараюць, як і ў іншых гаворках з палатальным радам, *т — т́, д — д́, с — с́, з — з́, л — л́, н — н́,* але фанемы [*т́*], [*д́*] і [*н́*] рэалізуюцца краепалатальнымі гукамі (*т''*), (*д''*), (*н''*); гукі (*с''*), (*з''*) прадстаўляюць фанемы [*с́*], [*з́*], і толькі фанема [*л́*] рэалізуецца палаталізаваным гукам, як і ў македонскай мове (стар. 138).

У пазіцыі перад [*е*], [*ê*] нейтралізуюцца ўсе проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці, прычым перад [*е*] ў якасці нейтральнай выступае цвёрдая фанема, а перад [*ê*] — мяккая: *с''ếў — сед''áт, д''ếўка — деўк'i, д''ếтi — детéй, с''нếг — у снегу́, ст''ếнi — стенá.* Мы зафіксавалі некалькі слоў з цвёрдымі зубнымі перад (*ê*): *песн*$^{i}$*é, мн*$^{i}$*é, iт*$^{i}$*é* (=ісці), *грепт*$^{i}$*é, пект*$^{i}$*é, тод*$^{i}$*é, уперед*$^{i}$*é, дóброго пут*$^{i}$*é*

(ˈ*é* = *ê*). Аб пераходзе канцавога (*i*) у (*ê*) гаварыць нельга, паколькі існуюць *ідí*, *садí*, *коровí*, хоць сустракаецца і *корчˈé*. Так ці інакш, наяўнасць нешматлікіх спалучэнняў *Cê* сведчыць аб існаванні тэндэнцыі да ліквідацыі пазіцыі нейтралізацыі проціпастаўлення *C* — *Ć* перад [*ê*].

У пазіцыі перад (*i*) выступаюць як цвёрдыя, так і мяккія зычныя: *с''íні, вóс''ім, ходíў, седíў, воз''íлі* (і ў іншых дзеясловах на *-іті*), *робíті, де́ті, садí, ті, тíхо, зімá, кóні, женíх*. Як бачым, *Ci* ў гаворцы паходзіць са спрадвечных *C'i* і *Сы* ў выніку дэвелярызацыі зычных.

Мяккія зычныя перад зычнымі сустракаюцца рэдка: звычайна вымаўляюцца *п'écна, песне́, св'êт, дв'ê, медв'е́д, шесц', шчáсц'а, двэ́сц'і, пу́стат, везл'í, мáтенка* (хоць і *зозул'éнка*), *скрíнка*. Толькі (*л'*) перад зычнымі ніколі не губляе мяккасць.

Усе цвёрдыя зычныя ў дадзенай гаворцы невелярызаваныя, аб чым сведчыць наяўнасць спалучэнняў *Ci*, *Ce*; *ті, тíхо, на граніцу, свáтаті, казáті, йêхаті, робíті, мáтері, женíх, мáті, солдáті, сватí, кóні, л'ýді, де́ті, садí* (=*сады*), *гóді* (=*гады*), *помідóрі, кýдрі, йадронíсті, колосíсті, чóрні брóві, зімá, ріба, ідé, мáтері, бýде, седáт, дóбре, ден, конéц, не пúу, поведéмо, с''удéйу, тудéйу, тел'á, найдéте; бáчіў, кажí, бежíм, машíна, грóші, четúрі, уже, тажелó, корчˈé,* на *межˈé,* у *дежˈé*. Пасля (*л*) пераход *ы*>*i* не закончыўся: побач з *вес''óлі, до вíсли* (=да Віслы), *у кóзлі* адзначана таксама *глыбóк'і, йáблычко, волы́*. З другога боку, (*л*) заўсёды мяккае перад (*i*), (*е*), (*ê*): *забрáл'і, л'íпа, л'íха, л'е́то, л'е́ві, найл'е́пші, без дóл'і*. Губныя перад (*е*) таксама невелярызаваныя: *овéчка, пéтл'і, тепéрак'і, вéчор, вéл'ен, верх, óз''меш, вéл'мі, зовéцца, сопé, голубé, двер, мед, пéрве, везýт, менé, прáве, вечéра, веснá, мешóк, песóк*.

Перад (*й*) губныя заўсёды цвёрдыя: *вíмйэ* (*вíмна*), *тéмйэ* (*тéмна*), *пйáна, рібйáта, овйóс, мйáсо, вйазáті*.

У пазіцыі перад (*i*) (з (*i*) і (*ы*)) губныя ў гаворцы таксама вымаўляюцца цвёрда: *свінá, оз''мí, віпíўші, двˈé, коровí, корóві* (дав., род. скл. адз. л.), *стáвіў, здорóві, робíті, мі, ві, вíсохне, бабí, бік, кобíла, міло*. Сту-

дэнты, якія абследавалі гаворку ў 1953 г., запісвалі: *вы́сохн'е, высóк'і, в'і*[225], г. зн. цвёрдыя губныя перад (*і*) яны ўспрымалі як (*вы*) або (*в'і*), а цвёрдыя зубныя перад (*і*) — заўсёды як *Сы*.

Як бачым, палатальны рад у вв. Забалацце, Пухавічы, Рэчкі і Рудня, а значыць, і ў тых групах гаворак, якія яны прадстаўляюць, не ў аднолькавай меры ўстойлівыя. У забалацкай гаворцы ён мае шмат характарыстык тэмбравай карэляцы, а іменна: проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці нейтралізуюцца тут перад [*е*] і [*ê*]; няпарныя па цвёрдасці-мяккасці губныя фанемы маюць мяккія пазіцыйныя варыянты перад галоснымі пярэдняга рада; дыстрыбуцыя мяккіх істотна не абмежавана, дэвелярызацыя парных цвёрдых толькі пачалася. У гаворцы в. Пухавічы пазіцыя перад [*е*] не з'яўляецца ўжо пазіцыяй нейтралізацыі для ўсіх проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці; губныя страцілі пазіцыйную мяккасць перад (*е*) і працэс дэвелярызацыі парных цвёрдых праходзіць вельмі інтэнсіўна. Палатальны рад у гаворцы вв. Рэчкі і Рудня значна больш устойлівы. Тут пачала разбурацца пазіцыя нейтралізацыі проціпастаўленняў *С—С́* перад [*ê*]; перад [*е*] выступаюць толькі цвёрдыя фанемы; губныя не маюць мяккіх варыянтаў; дыстрыбуцыя мяккіх перад зычнымі моцна абмежавана; працэс дэвелярызацыі цвёрдых закончыўся. І толькі (*л'*) палаталізаванае, хоць яно і прадстаўляе фанему [*л́*], захоўвае ўсе асаблівасці дыстрыбуцыі палаталізаваных гукаў (змякчаецца перад галоснымі пярэдняга рада, не зацвярдзела перад зычнымі), а (*л*) не «спяшаецца» з дэвелярызацыяй. Можна прадбачыць, што ў іншых гаворках з падобным станам проціпастаўленняў цвёрдых і мяккіх (*л'*) пачне зацвердзяваць, або «перасунецца» ў палатальную зону. Паводле папярэдніх даных апошняе назіраецца ў геаграфічна далёкай, але блізкай па ступені развіцця палатальнага рада гаворцы в. Рудня Ельскага раёна Гомельскай вобласці, дзе вымаўляюць *спекл́і, хл́êб* і інш. (стар. 108).

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Пасля падзення рэдуцыраваных у гаворках, якія склалі аснову беларускай мовы, функцыяніравала ўстойлівая тэмбравая карэляцыя *п — п', б — б', в — в', м — м', т — т', д — д', с — с', з — з', л — л', н — н', р — р'*; усе пералічаныя проціпастаўленні адрозніваліся перад [*і*], [*а*], [*у*] (перад апошнім галосным, акрамя губных) і нейтралізаваліся перад [*е*], [*ѣ*]; парныя мяккія фанемы рэалізаваліся палаталізаванымі гукамі ў адрозненне ад няпарных [*ш*], [*ж*], [*ч*], якія былі прадстаўлены, відавочна, палатальнымі гукамі. Мяккая фанема [*ц*] у адных гаворках была палатальным гукам (дзе адзначана мяккае цоканне), а ў другіх — палаталізаваным (стар. 55—71).

У выніку пераходу *е>'о,* які мы трактуем як *V*-дэпалаталізацыю, звязаную з пераразмеркаваннем «мяккасці» (дыезнасці) у складзе *C'V,* цвёрдыя і мяккія фанемы пачалі адрознівацца перад [*о*], што ўмацавала тэмбравую карэляцыю. У зоне з абмежаваным пераходам *е>'о* яны горш проціпастаўляліся перад [*о*], асабліва парныя па цвёрдасці-мяккасці губныя (стар. 71—84).

Працэсам, аналагічным *V*-дэпалаталізацыі *е>'о,* была *V*-дэвелярызацыя *ы>'і* пасля заднепаднябенных і губных (у некаторых палескіх гаворках). Як *V*-дэпалаталізацыя, да якой, акрамя *е>'о*, мы адносім *е>'а* ва ўкраінскіх і велікарускіх гаворках (Пскоўшчына), а таксама *іе(=ѣ)>'е* ў беларускіх і рускіх, так і *V*-дэвелярызацыя *ы>'і* прадстаўлялі сабою рэалізацыю тэндэнцыі да «перацягвання» тэмбру спалучэнняў *C'V* і *C°V* адпаведна на зычны, як сведчаць аб гэтым утварэнні не толькі палаталізаваных (*C'*), але і велярызаваных (*C°*) гукаў. Умоўна мы называем гэту тэндэнцыю «беларускай» у адрозненне ад «украінскай», калі тэмбр у *C'V* (і *C°V,*

відавочна) «пераходзіў» на галосны. Рэалізацыяй «украінскай» тэндэнцыі былі такія з'явы, як зацвярдзенне зычных перад (*і*), (*е*), пераход *іе* (=*ѣ*)>*і* (а таксама і захаванне *іе*=*ê* ў палескіх гаворках?), пераход *ы*>*у* пасля губных, расшчапленне мяккіх губных на *С*+*й*. Апошнія змены, а таксама *ы*>'*і* аказалі моцны негатыўны ўплыў на ўстойлівасць тэмбравай карэляцыі *С* — *С'*: пасля іх ажыццяўлення цвёрдыя і мяккія губныя адрозніваліся або толькі перад [*і*], або ўвогуле зрабіліся няпарнымі па цвёрдасці-мяккасці.

Зацвярдзенне мяккіх губных у канцы слоў і перад зычнымі азначала ўтварэнне асобных пазіцый нейтралізацыі для парных губных. Адначасова зубныя пачалі нейтралізавацца перад мяккімі губнымі і некаторымі зубнымі. Утварэнне асобных пазіцый нейтралізацыі для гэтых груп проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці аслабляе функцыянальныя сувязі паміж імі і адкрывае шлях для іх самастойнага развіцця (стар. 84—94).

У эпоху канчатковага зліцця (*е*) і (*ѣ*)>(*е*) у паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках распаўсюдзіўся канчатак *-эй* форм займеннікаў і прыметнікаў з асновай на цвёрды (*тэй*, *молодэй*); у заходняй Гродзеншчыне побач са зліццём (*е*) і (*ѣ*)>(*е*) распаўсюджваецца канчатак *-э* назоўнікаў множнага ліку мужчынскага роду з асновай на цвёрды (*дубэ́*, *баранэ́*). З'яўленне спалучэнняў тыпу *Сэ* ў гаворках, дзе не захавалася (*ѣ*), азначала ліквідацыю адзінай пазіцыі нейтралізацыі, агульнай для ўсіх проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці. Вынікам гэтага было ажыццяўленне палатацыі палаталізаваных (*т'*), (*д'*), (*с'*), (*з'*)>(*ц''*), (*дз''*), (*с''*), (*з''*); па той жа прычыне зацвярдзела (*р'*), якое перайшло ў (*р''*), а потым у (*р*), паколькі палатальная і «дрыжачая» артыкуляцыі дрэнна спалучаюцца (стар. 94—119).

У тых паўднёва-заходніх гаворках, дзе мяккія губныя расшчапіліся на *С*+*й*, а *ы*>*і* або *ы*>*у* пасля губных, губныя сталі ўвогуле няпарнымі па цвёрдасці-мяккасці. Парнымі па гэтай адзнацы тут засталіся толькі зубныя, што азначала ўзнікненне палатальнага рада. У гэтых умовах непазбежнай зрабілася палатацыя палаталізаваных, якія пачалі прадстаўляць палатальныя фанемы; па гэтай жа прычыне *р'*>*р* (дакладней *р'*>*р''*>*р*) (стар. 119—120).

Як бачым, у сучасны момант беларускія гаворкі адрозніваюцца па віду проціпастаўленняў цвёрдых і мяккіх фанем: у большай частцы іх, як і раней, функцыяніруе тэмбравая карэляцыя, а ў меншай — палатальны рад.

Гаворкі з тэмбравай карэляцыяй у залежнасці ад яе стану падзяляюцца на некалькі зон( паўночную, цэнтральную і паўднёва-заходнюю); не ў аднолькавай ступені ўстойлівым у розных гаворках з'яўляецца таксама і палатальны рад (стар. 121—127).

Калі параўноўваць тэмбравую карэляцыю старажытных беларускіх гаворак з сучаснымі, то нельга не адзначыць, што апошнія па сваіх характарыстыках значна менш устойлівыя, чым зыходныя. Сапраўды, цяпер мяккія фанемы [*т'*], [*д'*], [*с'*], [*з'*] усюды прадстаўлены краепалатальнымі гукамі, істотна абмежавана дыстрыбуцыя мяккіх зычных (асабліва губных), асобныя групы проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці маюць пазіцыі нейтралізацыі, а ў большасці беларускіх гаворак (паўночна-заходніх) адсутнічае пазіцыя нейтралізацыі, агульная для ўсіх проціпастаўленняў *С* — *С'*.

Такім чынам, гісторыя тэмбравай карэляцыі ў беларускай мове — гэта гісторыя яе аслаблення і паступовага разбурэння. На гэтай падставе мы сцвярджаем, што ў гісторыі беларускай мовы склалася тэндэнцыя да разбурэння тэмбравай карэляцыі, аб'ектыўным сведчаннем чаго з'яўляецца ліквідацыя яе ў частцы паўднёвабеларускіх (палескіх) гаворках, дзе ўзнік палатальны рад.

# ДАДАТАК

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЁРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ

Парнымі па цвёрдасці-мяккасці фанемамі ў беларускай літаратурнай мове з'яўляюцца *п — п', б — б', в — в', м — м', (ф — ф'), т — т', д — д', с — с', з — з', н — н', л — л';* няпарныя [*р*], [*ц*], [*ч*], [*ж*], [*ш*] прадстаўлены толькі цвёрдымі гукамі, а [*г*], [*к*], [*х*] маюць мяккія варыянты перад (*і*): *рук'і, страх'і, г'іра*[226]. Па літаратурных даных, усе мяккія фанемы прадстаўлены палаталізаванымі гукамі, хоць гэта, на нашу думку, адносна (*с'*), (*з'*) і (*ц'*), (*дз'*) не зусім дакладна (стар. 94—105 нашай працы).

Усе мяккія ў беларускай мове сустракаюцца перад галоснымі задняга рада: *б'аз', п'ац', м'ала, в'аз, баб'ор, пам'ор, с'абар, з'ац'* і інш.; мяккія губныя перад (*у*) знаходзім толькі ў запазычаннях: *б'ург'ер, м'урыд.* Цвёрдыя і мяккія адрозніваюцца таксама перад [*і*]: *б'іц' — быц', в'іц' — выц', мыц' — м'ір, п'іц' — пыл, сыр — с'івы* і інш. У шматлікіх словах перад (*е*) сустракаюцца цвёрдыя зычныя: *бэбах'і, бэз, бэл'ка, вэксал', вэндз'іц', нэндза, пэўны, пэцкац', сэрца, м'астэчка, вуздэчка, тэорыйа.* Як бачым, спалучэнні *Сэ* знаходзяцца толькі ў коранях слоў. У той жа час не ў коранях слоў магчымымі з'яўляюцца толькі *С'е* і пры словазмяненні адбываюцца сістэматычныя чаргаванні *С — С',* калі *С* трапляе ў пазіцыю перад (*е*): *вада — вадз'е, хата — хац'е, трава — трав'е, графа — граф'е, стол — на стал'е* і інш. Гэтыя чаргаванні сведчаць аб тым, што калісьці ў пазіцыі перад (*е*) нейтралізаваліся ўсе проціпастаўленні па цвёрдасці-мяккасці, аднак у сувязі з існаваннем *Сэ* дакладней гаварыць аб чаргаванні цвёрдых і мяккіх асноў пры словазмяненні, напрыклад: *вод- — водз'-, хат- — хац'-, трав- — трав'-.*

У канцы слоў і перад зычнымі мяккія губныя ў беларускай мове не сустракаюцца, і ў гэтых пазіцыях апазіцыі цвёрдых і мяккіх губных нейтралізуюцца: *глыб'і, глыб'ей, глыб'ам, глыб'ам'і, глыб'ах,* але *глыб;* гэта ж назіраецца пры скланенні назоўнікаў *в'ерф, л'убоў, кроў.* Аднак шматлікія назоўнікі гэтага тыпу змяняюцца па цвёрдаму скланенню (як *стэп, насып*), і таму апісаная нейтралізацыя ў парных губных адбываецца досыць рэдка. Аналагічнае можна сказаць і аб іх нейтралізацыі перад зычнымі: *л'уб'іц', л'уб'іш, л'уб'ім* і г. д. (аснова *л'уб'-*), але *л'убл'у*; таксама *куп'іц' — купл'у, граф'іц' — графл'у, з'ам'ел' — з'амл'у, караб'ел' — карабл'у.* Радзей гэтыя проціпастаўленні нейтралізуюцца перад іншымі зычнымі: *земснарад, зямны, п'ен' — пн'а.* Калі ж чаргаванні тыпу *л'уб'- — л'убл'-* разглядаць як чаргаванне асноў, колькасць выпадкаў нейтралізацыі цвёрдых і мяккіх губных перад зычнымі будзе вельмі нязначнай. Усё гэта сведчыць аб слабасці карэлятыўных сувязей у проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў губных.

Астатнія мяккія зычныя сустракаюцца ў канцы слоў і перад зычнымі, пры гэтым:

у пазіцыі перад усімі мяккімі губнымі і зубнымі [*д'*], [*т'*], [*з'*], [*л'*], [*н'*], [*к'*] нейтралізуюцца апазіцыі *с — с', з — з'* і ў якасці нейтральнай выступае мяккая фанема: *с'в'ітка, с'в'інка, з'в'ін'ец', з'дз'ірац', с'ц'ірка, с'л'іва, каз'л'ак'і, с'н'ег, куз'н'а;*

апазіцыя *н — н'* нейтралізуецца перад [*д'*], [*т'*], [*н'*], [*л'*] і ў якасці нейтральнага прадстаўніка яе выступае [*н'*]: *ас'ен'н'і, каман'дз'ір* (але *каманда*), *на фрон'ц'е* (але *фронт*); перад [*с'*], [з'] *н — н'* нейтралізуюцца таксама, але перад імі выступае [*н*]: *кон' — конск'і, дз'арэўн'а — дз'еравенск'і;*

перад зычнымі [*д*], [*т*], [*с*], [*з*], [*л*], [*н*] з мяккіх сустракаецца толькі [*л'*]: *вол'ны, пол'за;* нейтралізацыя апазіцый цвёрдых і мяккіх перад гэтымі зычнымі адбываецца вельмі рэдка: *дз'ен' — дн'ом.*

Усе зычныя, за выключэннем губных і [т], [д], змякчаюцца перад (*й*), параўн.: *з'йезд,* але: *адйезд; с'амйа, пйаўка, бйу, пйу, глыбйу.*

У беларускай мове назіраюцца мяккія гемінаты: *затрос'с'а, кас'с'о, палоз'з'е, свац'ц'а, нас'ен'н'е, кол'л'е.* Цвёрдыя гукі, калі ўлічыць наяўнасць (*ы*) у якасці ва-

рыянта фанемы [*i*] пасля іх, з'яўляюцца велярызаванымі; аб гэтым жа сведчыць характэрнае гучанне (*е*) пасля гэтых гукаў (у словах тыпу *сэрца, стэп*).

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЁРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У ВЕРХНЯЛУЖЫЦКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ

Усе мяккія зычныя верхнялужыцкай літаратурнай мовы — (*p'*), (*b'*), (*w'*), (*m'*), (*r'*), (*n'*), (*ć*), (*dź*), (*š*), (*ž*), (*č*) [227] — сустракаюцца перад галоснымі задняга рада: *pjata, bjakać, wjazać, mjaso, slubju, kupju, morjo, ćahnuć, ćopło, dźowćisko, dźak, šabla, šum, čorna, čapka* (*j* пасля зычных азначае мяккасць; *šabla, šum* трэба чытаць *š'abla, š'um*). Таму можна лічыць, што пералічаныя мяккія прадстаўляюць адпаведныя фанемы. Зычныя (*ch'*), (*h'*), (*k'*), (*f'*) знаходзім толькі перад галоснымі пярэдняга рада (*i*), (*e*), (*ě*), і таму яны з'яўляюцца варыянтамі фанем [*ch*], [*h*], [*k*], [*f*]. Астатнія зычныя перад галоснымі пярэдняга рада размеркаваны так:

Табліца 3

| | *y* | *e* | *ě* | | *i* | *e* | *ě* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *p* | + | ± | — | *p'* | + | + | + |
| *b* | + | ± | — | *b'* | + | + | + |
| *m* | + | ± | — | *m'* | + | + | + |
| *w* | + | ± | — | *w'* | + | + | + |
| *n* | + | ± | — | *n'* | + | + | + |
| *r* | + | ± | — | *r'* | + | + | + |
| *t* | + | ± | — | *ć* | + | + | + |
| *d* | + | ± | — | *dź* | + | + | + |
| *s* | + | + | — | *š'* | + | + | + |
| *z* | + | + | — | *ž'* | + | + | + |
| *c* | + | ± | — | *č'* | + | + | + |

З табліцы відаць, што ў в.-луж. мове цвёрдыя і мяккія адрозніваюцца таксама і перад фанемай [*i*], якая рэалізуецца як (*y*) пасля цвёрдых. Парнымі па цвёрдасці-мяккасці П. Воўчарк схільны лічыць *p — p', b — b'*,

*m — m', w — w', n — n', r — r', t — ć, d — dź, s — š, z — ž, c — č,* аднак К. К. Трафімовіч фанемы [*s*], [*z*], [*t*], [*d*], [*c*], а значыць, і [*š*], [*ž*], [*č*] адносіць да няпарных[228]. Якое ж рашэнне больш абгрунтаванае? Адказаць на гэта пытанне нам дазваляе больш глыбокі аналіз дыстрыбуцыі цвёрдых і мяккіх гукаў у гэтай мове.

Знакам ± у нашай табліцы адзначана моцная абмежаванасць спалучэнняў тыпу «цвёрды губны+*e*», а таксама *ne, re, ce,* якія знаходзім толькі ў запазычаных словах тыпу *Beno, meja, pedagog, regal, werb*. Некалькі часцей сустракаюцца *te, de*; акрамя запазычанняў, знаходзім іх у нешматлікіх спрадвечных словах, напрыклад: *tehdom, telko, tepić, tepot́, delni, derje*. Гукі (*s*) і (*z*) перад (*e*) заўсёды цвёрдыя. На падставе гэтых фактаў можна лічыць, што проціпастаўленні *p — p', b — b', m — m', w — w', n — n', r — r', t — ć, d — dź* не нейтралізуюцца ў пазіцыі перад [*e*]. Пары *s — š, z — ž, c — č* могуць нейтралізавацца перад [*e*], але мы не знойдзем выпадкаў чаргавання *s — š, z — ž, c — č,* абумоўленых тым, што перад цвёрдымі з'яўляецца (*e*), г. зн. фактычна нейтралізацыі *s — š, z — ž, c — č* у верхнялужыцкай мове не адбываецца.

У пазіцыі перад [*ě*] сустракаюцца толькі мяккія, але само [*ě*] знаходзім толькі ў коранях слоў. Гэта азначае, што перад [*ě*] зычныя не чаргуюцца па цвёрдасці-мяккасці (мы выявілі толькі адзін выпадак *dwaj — dwě*), і, значыць, адносна (*ê*) яны знаходзяцца ў адносінах дадатковай дыстрыбуцыі. У выніку прыходзім да вываду, што пералічаныя Воўчаркам пары цвёрдых і мяккіх не маюць агульнай пазіцыі нейтралізацыі.

Такая пазіцыя некалі існавала ў мове. Аб гэтым сведчыць наяўнасць сістэматычных чаргаванняў цвёрдых і мяккіх перад *e* (з **e, *ê*) пры словазмяненні і словаўтварэнні; параўн.: *zub — w zubje, dub — na dubje, dom — w domje, žona—žonje, kupa— kupje, hora— horje, trawa— trawje, bród— na brodźe, lud — w ludźe, skót — w skoće, wedu — wedźem, wuknu — wuknješ*. Як бачым, чаргуюцца толькі *p — p', b — b', w — w', r — r', n — n', t — ć, d — dź* і ніколі *s — š, z — ž', c — č*. Гэты факт сведчыць аб тым, што спрадвечна парнымі з'яўляюцца *p — p', b — b' ... d — dź*. Да іх належыць таксама проціпастаўленне *l — l'*. У сувязі з пераходамі *l > u̯* і *l' > l·* (=*l* «сярэднееўрапейскаму») гэта проціпастаўленне рэалізуецца як *u̯ — l·*, але чаргаванне *u̯ — l·*

і цяпер адбываецца іменна ў тых марфалагічных катэгорыях, дзе чаргуюцца *p — p', b — b'* і інш.

У пазіцыях перад зычнымі нейтралізуюцца *p — p', b — b', m — m', w — w', r — r'*. У канцы слоў сустракаюцца толькі мяккія (*ć*) (з *ć* і *dź*) і (*n'*), якое, аднак, схільна да зацвярдзення (напр. *dań,* па назіраннях Воўчарка, вымаўляецца як ням. *dein*). Значыць, канец слова можа служыць пазіцыяй нейтралізацыі для проціпастаўлення *n — n'*.

Такім чынам, ёсць падставы лічыць парнымі па цвёрдасці-мяккасці ў верхнялужыцкай мове фанемы *p — p', b — b', m — m', w — w', r — r', l — l', t — t', d — d'* і няпарнымі [*s*], [*z*], [*š*], [*ž*], [*c*], [*č*], [*ch*], [*h*], [*k*], [*f*]. Парныя ствараюць тэмбравую карэляцыю *C — C'*; адсутнасць агульнай пазіцыі нейтралізацыі вельмі аслабіла яе, але сістэматычныя чаргаванні цвёрдых і мяккіх пры словазмяненні ў пэўнай меры замяняюць пазіцыю нейтралізацыі.

Мяркуючы па літаратурных даных, верхнялужыцкія мяккія гукі (*p'*), (*b'*), (*w'*), (*m'*), (*r'*), (*n'*) не адрозніваюцца ад адпаведных палаталізаваных беларускай ці рускай моў. Гукі ж (*ć*) і (*dź*) даследчыкамі называюцца або дэнтальнымі (Воўчарк), або альвеалярнымі [229], але пры гэтым адзначаецца, што яны ўтвараюцца сярэдняй спінкай языка супраць цвёрдага паднябення і з'яўляюцца больш мяккімі, чым (*č*), (*dž*)[230]. Таму можна лічыць, што в.-луж. (*ć*), (*dź*) вельмі падобны да адпаведных польскіх гукаў, хоць у будышынскай гаворцы яны маюць, магчыма, больш яркае «шапялявае» адценне [231]. Асаблівасці гучання (*ć*), (*dź*) перашкаджаюць К. К. Трафімовічу проціпастаўленні *t — ć, d — dź* (фанемат. *t — t', d — d'*) ставіць у адзін рад з губнымі *p — p', b — b', m — m', w — w'* і зубнымі *r — r', n — n',* і таму ён лічыць [*t*] і [*d*] няпарнымі фанемамі. Але, як мы імкнуліся паказаць, для гэтага няма сур'ёзных падстаў.

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЁРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У ЛАТЫШСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ

Агульнавядома, што ў латышскай літаратурнай мове ёсць чатыры мяккія гукі — (*ļ*), (*ņ*), (*ḱ*), (*ǵ*). Менш вядома існаванне ў ёй яшчэ мяккага (*ŕ*), які да апошняга

часу прадстаўляў асобную фанему[232]. У мове сучасных латышоў (ŕ) з'яўляецца ўжо факультатыўным гукам, як аб гэтым сведчыць вымаўленне *stūra, stūri, stūru* побач *stūŕa, stūŕi, stūŕu*.

Зычныя (ņ), (ķ), (ģ) добра вывучаны з фанетычнага пункту погляду і звычайна прыводзяцца як прыклады тыповых палатальных гукаў. «Палатаграмы венгерскіх і латышскіх палатальных *t́, d́, ń* сведчаць аб больш шырокай зоне кантакта языка з паднябеннымі ў параўнанні з чэшскімі палатальнымі зычнымі... Лінгваграмы пацвярджаюць сярэднеязычны характар венгерскіх і латышскіх палатальных зычных»[233].

Перш чым даць фаналагічную інтэрпрэтацыю латышскім палатальным, разгледзім іх дыстрыбуцыю адносна галосных пярэдняга рада і некаторых іншых пазіцый, а таксама дыстрыбуцыю іх магчымых цвёрдых адпаведнікаў.

Табліца 4

| | *i* | *e* | *ie* | Перад галоснымі задняга рада | Перад мяккімі зычнымі | Перад цвёрдымі зычнымі | Канец слова |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *ļ* | + | ± | + | + | + | + | ± |
| *ņ* | + | ± | + | + | + | — | ± |
| *l* | + | + | + | + | — | + | — |
| *n* | + | + | + | + | — | + | — |
| *ķ* | + | + | + | + | — | ± | — |
| *ģ* | + | + | + | + | — | ± | — |
| *k* | + | ± | + | + | + | + | ± |
| *g* | + | ± | + | + | + | + | — |
| *t* | + | + | + | + | + | + | ± |
| *d* | + | + | + | + | + | + | — |

Гук (ļ) перад (*i*) сустракаецца ў нешматлікіх граматычных катэгорыях: у назоўным склоне множнага ліку «мяккіх» тыпаў скланення (*kumeļš — kumeļi, braļis — braļa, drebuļis — drebuļi*) і перад суфіксам прыметнікаў *-īgs* (*gliļīgs, iedziļīgs*). У каранях слоў не перад флексіяй (ļ) перад (*i*) знаходзім у двух словах: *ļipa, ļimt*. Ва ўсіх іншых выпадках перад (*i*) сустракаецца толькі (l˙) «сярэднееўрапейскае».

Перад (*e*) гук (*ļ*) адзначаны ў некалькіх словах: *ļengvas, ļeka, biļete* (запазычанне); ва ўсіх іншых выпадках перад (*e*) знаходзім толькі (*l'*). Такім чынам, адносна [*e*] гукі (*l'*) і (*ļ*) знаходзяцца фактычна ў дадатковай дыстрыбуцыі, але нейтралізацыі проціпастаўлення *l — ļ* не назіраецца, паколькі (*l*) і (*ļ*) не чаргуюцца ў гэтай пазіцыі.

Гук (*ņ*) адносна (*i*), (*e*) размяркоўваецца аналагічна (*ļ*): перад (*i*) знаходзім яго ў некалькіх каранях (*ņiprs, ņirbēt, ņirgt*) і ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў «мяккага» скланення (*kaimiņi, varoņi*); перад (*e*) ён сустракаецца толькі ў словах *ņemt, ņeva*, але ў гэтай пазіцыі, як і *l—ļ, n—ņ* не нейтралізуецца.

Гукі (*ķ*) і (*ģ*) «паводзяцца» перад (*i*), (*e*) зусім інакш. Толькі ў нешматлікіх запазычаннях знаходзім цвёрдыя (*k*) і (*g*) у гэтай пазіцыі: *kino, kiosk, kefirs, gids, gigants, geiša* і інш. Ва ўсіх жа спрадвечных словах, а таксама ў большасці запазычанняў перад (*i*), (*e*) адзначаны толькі (*ķ*), (*ģ*): *ģeķība, ģimis, ķepa, ķilis* і інш. Цікава параўнаць: *gens* (бел. *ген*) —*ģenētika*. На стыку марфем спалучэння *ki, gi* сустракаюцца часта (напр., *sargi, degi, aizmigi, garīgi*), а *ke, ge* не сустракаюцца зусім. Перад (*e*) назіраюцца частыя чаргаванні тыпу *zirgi — zirģeli, ruoka — ruoķele*, якія сведчаць аб былой нейтралізацыі *k — ķ, g — ģ* перад [*e*]. Проціпастаўленні *l — ļ, n — ņ* нейтралізуюцца ў сучаснай мове перад мяккімі зычнымі, як гэта відаць з наступных прыкладаў: *slinks — sļiņķi, vilkt — viļķies, runga — ruņģel, vilnis — viļņi, lelle — leļļu, stallis — staļļa*.

Такім чынам, нашы назіранні даюць магчымасць сцвярджаць, што ў латышскай мове проціпастаўляюцца *l — ļ, n — ņ;* мяккія [*ķ*] і [*ģ*] проціпастаўляюцца адпаведна [*k*] і [*g*], а не [*t'*], [*d'*], з якімі яны ніколі не чаргуюцца. Узнікае пытанне, ці лічыць проціпастаўленні *l — ļ, n — ņ, k — ķ, g — ģ* палатальным радам або тэмбравай карэляцыяй. Цікава, што ў свой час Р. Якабсон, гаворачы аб еўразійскім моўным саюзе не разглядаў даныя латышскай мовы [234].

Паколькі мы прынялі, услед за Трубяцкім, што галоўнай адзнакай тэмбравай карэляцыі з'яўляецца суадноснасць мяккіх з цвёрдымі фанемамі па крайняй меры двух лакальных радоў, то выяўленыя проціпастаўленні ла-

тышскай мовы трэба лічыць тэмбравай карэляцыяй. Сапраўды, [ļ] і [ņ] суадносяцца з зубнымі [l], і [n], а [ķ], [ğ] — з заднепаднябеннымі фанемамі [k] і [g]. Таму нягледзячы на тое, што ўсе мяккія латышскай мовы з'яўляюцца палатальнымі гукамі, проціпастаўленні цвёрдых і мяккіх у фанематычнай транскрыпцыі мы павінны запісаць як *n — n', l — l', k — k', g — g'*. Інакш кажучы, усе палаталізаваныя фанемы латышскай мовы рэалізуюцца палатальнымі гукамі. У сувязі з гэтым зразумелай робіцца жывучасць у ёй проціпастаўлення *r — r'*, якое, як ужо адзначалася, існавала да апошняга часу.

З іншых цікавых для нас асаблівасцей латышскай мовы трэба адзначыць наяўнасць спалучэнняў «цвёрды губны + *j*» (*gulbja, gulbji, kurmja, kurmju, cirvja, cirvju, upja, upju, upji*); здольнасць мяккіх выступаць перад зычнымі (толькі на стыку марфем пры словаўтварэнні, напр., *ceļgals, dzejoļkrājums, karaļdels, aizviņnakt, kuğlaiva*); наяўнасць гемінаты *ļ̄* (*leļļu, staļļi, staļļa, baļļa, eļļa*).

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЁРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У МАКЕДОНСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ

Палатальны характар мяккіх зычных (*ќ*), (*ѓ*), (*њ*) македонскай літаратурнай мовы не аспрэчваецца. Г. Лант адзначае наяўнасць варыянтаў у вымаўленні (*ќ*), (*ѓ*) — ад чыста выбухных да палатальных афрыкат тыпу (*ć*), (*dź*) [235]; у апошнім выпадку па гучанні яны набліжаюцца да мяккіх альвеалярных гукаў (*ч*), (*џ*).

Адносна фанетычных асаблівасцей мяккага (*л*) македонскай мовы ў літаратуры існуюць розныя меркаванні: Лант называе яго «*л* еўрапейскім», Б. Конескі — мяккім пярэднеязычным; згодна з апошнім аўтарам, У. Іліч-Світыч параўноўвае яго з (*л'*) рускай мовы [236]. Гэтыя сведчанні паказваюць, што гук (*л'*) не палатальны ў адрозненне ад (*ќ*), (*ѓ*), (*њ*). Яго дыстрыбуцыя таксама адрозніваецца ад дыстрыбуцыі іншых мяккіх: (*л'*) адзіны гук, які мае пазіцыйную мяккасць перад (*и*), (*е*), (*j*). Інакш кажучы, толькі проціпастаўленне *л — л'* нейтралізуецца перад фанемамі [*и*], [*е*] і [*j*].

Чаргаванні *т — ќ, д — ѓ, н — н́* адбываюцца пры ўтварэнні асноў адных і тых жа граматычных катэго-

рый; параўн.: *работа — рабоќе, ливада — ливаѓе, камен—камење* і *орел—орл'и.* Таму лічым, што фанемы [*ќ*], [*ѓ*], [*н́*], [*л́*] маюць агульную адзнаку, якая адрознівае іх ад цвёрдых [*т*], [*д*], [*н*], [*л*]. Такім чынам, парнымі па цвёрдасці-мяккасці ў македонскай мове з'яўляюцца *т — ќ, д — ѓ, н — н́, л — л́.* Паколькі ўсе мяккія суадносяцца тут з фанемамі аднаго лакальнага (зубнога) рада, то ад цвёрдых яны адрозніваюцца не па тэмбру, а па месцы ўтварэння, г. зн. фанемы [*ќ*], [*ѓ*], [*н́*], [*л́*] утвараюць палатальны рад. Палатальная фанема (*л́*) у гэтым радзе рэалізуецца, як мы бачылі, палаталізаваным гукам.

Дыстрыбуцыя мяккіх зычных ў македонскай мове моцна абмежавана. У канцы слоў яны сустракаюцца ў адзінкавых выпадках: *коњ, сињ* (і *син*), *пискуљ* (і *пискул*), *тељ* (побач з *тел*), *биљбиљ, водвиљ* (запазычанні). Канцавое (*ќ*) знаходзім у запазычаннях з турэцкай мовы (*спанаќ, мустаќ, бубаќ*) і ў адным спрадвечным слове — *ноќ* (бел. *ноч*). Увогуле канцавыя мяккія не характэрны для македонскай мовы.

У спрадвечных словах перад зычнымі мяккія сустракаюцца толькі на стыку марфем: *Иљко, пољка, пељте, коњче, коњски ноќта, моќта, свеќник;* вельмі рэдка мяккія знаходзяцца ў пазіцыі пасля зычных: толькі ў словах *молња, трње, пљашка, рубља, кљака, исарља.*

Усе цвёрдыя зычныя ў македонскай мове спалучаюцца з (*j*): *земја, грозје, пласје, песји, пурјак, приморје, сјал, божји, Подрачје, одличје.* Пры хуткім вымаўленні *лј* гучыць як (*л'*): *пол'ак, рол'а,* але ў звычайным вымаўленні добра чуваць (*л'ј*).

Мяккіх гемінат у македонскай мове няма, цвёрдыя зычныя невелярызаваныя.

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЁРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У СЛАВЕНСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ

У славенскай мове ёсць толькі два мяккія, тыпова палатальныя гукі — (*ĺ*) і (*ń*) (арф. *lj, nj*), якія прадстаўляюць фанемы [*ĺ*] і [*ń*][237]. Дыстрыбуцыя іх вельмі арыгінальная, як паказвае табл. 5:

Табліца 5

| | Перад галоснымі | У канцы слоў і складоў |
|---|---|---|
| *ĺ* | — | + |
| *ń* | — | + |
| *l* | + | + |
| *n* | + | + |

Паколькі (*ĺ*) і (*ń*) не могуць знаходзіцца перад галоснымі, процімастаўленні *l—ĺ, n—ń* у гэтай пазіцыі нейтралізуюцца: *bolj* (фанет. *bol̂*), *boljši* (фанет. *bol̂ši*), *dalj* (фанет. *dal̂*), *daljši* (фанет. *dal̂ši*), але: *daljava, valjati, želja, môlji, Ljubljana, kljun* (фанет. *daljava, valjati, želja* і інш.); таксама *ogenj, tanjši, manj, konj, konjski,* але: *konji, knjiga, srenja* (фанет. *knjiga*). Як бачым, у арфаграфіі чаргаванні *l — lj, n — nj* не адзначаюцца.

Цвёрдае (*l*), «сярэднееўрапейскае» па свайму характару, чаргуецца з (*u*) у канцы слоў, прычым правілы вымаўлення (*l*) і (*u͡*) у гэтай пазіцыі вельмі складаныя і звычайна проста пералічаюцца; наяўнасць (*l*) ці (*u͡*) залежыць толькі ад граматычнай катэгорыі, да якой належыць дадзенае слова (напр., у назоўніках заўсёды (*l*), у дзеясловах — (*u͡*) і г. д.).

Зычныя перад галоснымі пярэдняга рада ў славенскай мове пазіцыйнай мяккасці не набываюць, мяккіх гемінат няма, усе цвёрдыя, акрамя (*š*), (*ž*), (*č*), спалучаюцца з (*j*): *z vrvjo, s kravjo, pod brvjo, vejvje, lasje, pasje, brezje, kozji, grozdje, hrastje, cvetje, bratje, s pameťjo, storjeno.*

## ПРОЦІПАСТАЎЛЕННІ ЦВЁРДЫХ І МЯККІХ ЗЫЧНЫХ У ВЕНГЕРСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ

Згодна з традыцыяй, парнымі па цвёрдасці-мяккасці ў венгерскай літаратурнай мове лічацца *t — t́* (арф. *ty*), *d — d́* (арф. *dy*) і *n — ń* (арф. *ny*). Гэта тыповае проціпастаўленне цвёрдых і мяккіх па раду[238]. Зычныя (*t́*), (*d́*), (*ń*) з'яўляюцца палатальнымі па месцы і спосабе

ўтварэння (сярэднеязычна-сярэднепаднябенныя гукі), што даказана эксперыментальна [239].

Мяккія зычныя ў венгерскай мове сустракаюцца ў канцы слоў і перад зычнымі: *lany* 'дзяўчына', *kemény* 'цвёрды', *korty* 'глыток', *lotty* 'бурда'; *ágybetét* 'матрац', *ágyfej* 'узгалоўе', *ágynemü* 'прасціна', *irányvonal* 'лінія напрамку', *felogyni* 'пахудзець', *lehunyni* 'закрыць' і інш. Перад зычнымі мяккія знаходзім пераважна на стыку марфем і ў рэдкіх выпадках — у каранях слоў (напр.: *könyv 'кніга', lanyha* 'слабы', *malyva* 'мальва').

У пазіцыі перад мяккімі зычнымі не змякчаюцца, толькі *n*>*ń* перад (*d́*), (*t́*), напрыклад: *göndor* 'кучаравы' — *göngyöleg* (фанет. *gönd́öleg*) 'скрутак паперы' і інш. Такім чынам, проціпастаўленне *n—ń* нейтралізуецца перад (*t́*), (*d́*).

Цвёрдыя зычныя ў венгерскай мове спалучаюцца з (*j*): *lombja* 'яго ліст', *kalapja* 'яго капялюш', *karja* 'яго рука', *apja* 'яго дзед', *fürj* 'перапёлка', *közjo* 'агульнае' і інш. У гэтай пазіцыі не сустракаюцца толькі (*t́*), (*d́*), (*ń*), (*ĺ*), і можна паказаць, што проціпастаўленні *t—t́, d—d́, n—ń* нейтралізуюцца ў гэтым выпадку; параўн.: *kertem* 'мой сад' — *kertje* (фанет. *kerte*) 'яго сад'; *kardam* 'мой меч' — *kardja* (фанет. *kard́a*) 'яго меч'; *nene* 'старэйшая сястра'—*nénjük* (фанет. *néńük*) 'яго старэйшая сястра' і інш. Нейтралізацыя адбываецца перад шматлікімі суфіксамі з пачатковым (*j*): *küldeni* 'пасылаць' — *küldjek* 'каб я паслаў'; *pihenni* 'адпачываць'—*piheny* 'вольна'; *ért* 'ён разумее' — *értjük* 'мы разумеем'. Вельмі цікава, што (*l*) «паводзіцца» ў гэтых выпадках аналагічна (*t*), (*d*), (*n*), а іменна яно чаргуецца з палатальным гукам (*j*): *talal* — *talalya* (фанет. *talajja*) 'ён знаходзіць', *talaljuk* (фанет. *talajjuk*) 'мы знаходзім' і г. д. Гэта дае падставу гаварыць аб нейтралізацыі проціпастаўлення *l—j*, якое побач з *t—t́, d—d́, n—ń* уваходзіць у лік апазіцый «палатальныя—непалатальныя».

У венгерскай мове сустракаюцца мяккія гемінаты, што ўвогуле нехарактэрна для моў з палатальным радам; параўн.: *aggyon* 'дай', *attya* 'яго бацька', *annya* 'яго маці', *mennyen* 'няхай ідзе'.

# ЗАЎВАГІ

[1] О. Брок. Очерк физиологии славянской речи. СПб, 1910,
25, 40, 44; Н. С. Трубецкой. Основы фонологии. М., 1960,
152—153; Л. Г. Скалозуб. Палатограммы и рентгенограммы
сных фонем русского литературного языка. Изд. Киевского гос.
рситета, 1963, стр. 20, 27.
[2] Р. Якобсон, Г. М. Фант и М. Халле. Введение в ана-
ечи. «Новое в лингвистике», т. II. М., 1962, стр. 197.
Л. В. Бондарко. Некоторые замечания по поводу маркиро-
ти-немаркированности членов фонологических противопостав-
«Исследования по фонологии». М., 1966, стр. 394—395.
Л. В. Бондарко, цыт. праца, стар. 395.
Гл. A. Thomson. Über weichen Konsonanten. ZtslPh, VIII,
55; A. Rosetti. Sur les consonnes palatalisées et les conson-
illées. ЕИ, 1957, p. 488.
). Брок. Очерк физиологии славянской речи, стр. 26—27.
. Якобсон, Г. М. Фант и М. Халле. Введение в ана-
, стр. 190.
. С. Трубецкой. Основы фонологии, стр. 144, 146, 147—
151, 152—153.
С. Трубецкой, цыт. праца, стар. 82—83.
Jakobson. Über die phonologischen Sprachbünde. TCLP,
s. 236.
Petrovici. La distinction phonologique entre trois sortes
e L non diésés, diésés et palataux en Roumain et en Slave.
-II, 1959, p. 184—192.
. Trager. La systématique des phonemes du polonais. AL,
enhagen, 1939, p. 180—181.
tankiewicz. The phonemic patterns of Polish dialekts.
. Аванесов. Фонетика современного русского литера-
ка. МГУ, 1956, стр. 170—182; Грамматика русского языка,
, стр. 52, 62—68, 83—84.
илетич. Основи фонетике српског језика. Београд, 1960,
10 і наступныя.
ыню гэтыя з'явы выразна размежаваў В. Calleman
en haupttendenzen der urslawischen und altrussischen
ng. Uppsala, 1950, s. 50.
истов. Говорът на с. Нова Надежда, Хасковско.
6, стр. 177—253.
Журавлев. Говор с. Криничное (Чешма-Варуита).
1955, стр. 18—62; вып. 10, 1962, стр. 3—44.

...ов. Един старинен български говор. Ти...
...и говор. София, 1963.

[20] Ст. Кабасанов. Говорът на с. Момчиловци, Смол... ИИБЕ, 4, стр. 5—101.

[21] Г. Горов. Странджанският говор. БД, I, 1962, стр. 13... ступныя.

[22] Ст. Стойков. Говор с. Тvырдица (Сливенской окол... Болгарии) и с. Твардица (Молдавской ССР). СМБД, вып. 8, стр. 3—63; Н. Котова. Говор с. Твардица Молдавской ССР. У... т. I—II, М.—Л., 1950, стр. 270—310.

[23] Ал. Бурмов. Народни умотворени от с. Бела-Черква, ... новско. СбНУ, кн. XXXVIII, 1930, стр. 1—192—IX.

[24] Кр. С. Стойчев. Тетевенски говор. СбНУ, XXXI, 1915.

[25] Lj. Miletič. Das Ostbulgarische. Wien, 1903, s. 160—... Ст. Стойков. Българска диалектология. София, 1962, стр. 72.

[26] М. Младенов. Ихтиманският говор. ТБД, II, 1966.

[27] Ст. Стойков, К. Костов, П. Ванкова, Г. Георг... ев, Ж. Женев, А. Кирянов, Р. Новачкова и И. Пенче... Говорът на с. Говедарци, Самоковско. ИИБЕ, IV, 1956, стр. 255—33...

[28] Л. Гълъбов. Говорът на с. Доброславци, Софийско. Б... кн. II, 1965, стр. 5 і наступныя.

[29] К. Попов. Говорът на с. Габаре, Белослатинско. ИИБЕ, 4... стр. 103—176.

[30] H. L. Klagstad. A phonemic analysis of some bulgarien... dialects. «American contribution to the Fourth Internationale Congress of Slavists», 's — Gravenhage, 1958.

[31] И. Умленски. Кюстендилският говор. ТБД, I, 1965, стр. 5—282.

[32] Цв. Тодоров. Говорът на град Лом. СбНУ, XXXVIII, 1930.

[33] О. С. Широков. Индоевропейские диалекты и славяногерманские лингвистические связи. «Типология и взаимодействие славянских и германских языков», Минск, 1969, стр. 5.

[34] A. Furdal. O przyczynach zmian głosowych w języku polskim. Wrocław, 1964, str. 24.

[35] Z. Klemensiewicz, T. Lehr-Spławiński, S. Urbańczyk. Gramatyka historyczna języka polskiego. Warszawa, 1955, str. 81.

[36] S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej. Warszawa, 1953, str. 21 (і карта № 1).

[37] H. Koneczna. Charaktyrystyka fonetyczna języka polskiego. Warszawa, 1965, str. 53.

[38] H. Kotulska-Skulimowska. Brak przegłosu *e w wyrazach typu *wiesło, mietła*. JP, 37, 1957, № 5, str. 322—329.

[39] H. Koneczna. Charaktyrystyka fonetyczna języka polskiego, str. 55.

[40] S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej, str. 21—25, (і карта № 2 дадатка 3).

[41] S. Urbańczyk, цыт. праца, стар. 21—25.

[42] Z. Klemensiewicz, T. Lehr-Spławiński, S. Urbańczyk, цыт. праца, стар. 112.

[43] Там жа, стар. 120.

[44] ...

[45] A. Furdal. O przyczynach zmian głosowych w języku polskim, str. 43.
[46] Z. Klemensiewicz, T. Lehr-Spławiński, S. Urbańczyk, цыт. праца, стар. 85—86. Kgń=Kazania gnieźnienskie XIII ст.; Kśw=Kazania świętokrzyskie XIII ст.; Pfl=Psałterz floriański XIV ст.
[47] Z. Stieber. Historyczna i współczesna fonologia języka polskiego. Warszawa, 1964, str. 74—75.
[48] H. Zduńska. Studia nad fonetyką gwar mazowieckich, str. 25—26.
[49] K. Nitsch. Wybór pism polonistycznych. T. IV. Pisania dialektologiczne. Wrocław—Kraków, 1958, str. 43.
[50] H. Zduńska. Studia nad fonetyką gwar mazowieckich, str. 25—26.
[51] K. Nitsch. Wybór pism polonistycznych. T. IV, str. 43.
[52] H. Friedrich. Gwara kurpiowska. Warszawa, 1955, str. 81.
[53] A. Furdal. Mazowieckie dyspalatalizacje spółgłosek wargowych miękich. Wrocław, 1955, str. 7.
[54] A. Basara, J. Basara, J. Wójtowicz, H. Zduńska. Studia fonetyczne z Warmii i Mazur. I. Konsonantyzm. Wrocław, str. 16; H. Zduńska. Studia nad fonetyką gwar mazowieckich, str. 15.
[55] H. Zduńska. Studia nad fonetyką gwar mazowieckich, str. 25—26.
[56] E. Stankiewicz. The phonemic patterns of Polish dialekts, str. 522.
[57] О. Брок. Очерк физиологии славянской речи, стр. 153.
[58] J. Rozwadowski. Szkic wymowy (fonetyky) polskiej. MPKJ, I, 1904, str. 95—114; A. Furdal. Mazowieckie dyspalatalizacje spółgłosek wargowych miękich, str. 4.
[59] Z. Folejewski. The problem of polish phonemes. «Scando-Slavica Upsaliensia», I, 1960, p. 89.
[60] G. L. Trager. La systèmatique des phonemes du polonais, p. 180—181.
[61] Z. Stieber. Historyczna i współczesna fonologia języka polskiego, str. 26.
[62] A. Furdal. O przyczynach zmian głosowych w języku polskim, str. 26.
[63] T. Benni. Fonetyka opisowa języka polskiego. Z obrazami głosek polskich podług M. Abińskiego. Wrocław, 1956, str. 81; M. Szymczak. Gwara Domaniewki i wsi okolicznych w powiecie łęczyckim. Łodź, 1961 (рыс. 41).
[64] H. Koneczna. Charaktyrystyka fonetyczna języka polskiego, str. 143.
[65] Там жа.
[66] K. Nitsch. Wybór pism polonistycznych. T. IV, str. 46; H. Zduńska. Studia nad fonetyką gwar mazowieckich, str. 78.
[67] A. Furdal. O przycznach zmian głosowych w języku polskim, str. 25.
[68] Z. Klemensiewicz, T. Lehr-Spławiński, S. Urbańczyk. Gramatyka historyczna języka polskiego, str. 133.
[69] Там жа, стар. 149—150.
[70] K. Nitsch. Wybór pism polonistycznych. T. IV, str. 48—49.

[71] Там жа, стар. 48—49; S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej, str. 33.

[72] H. Zduńska. Studia nad fonetyką gwar mazowieckich, str. 78—79.

[73] W. Dobrzyński. Gwary powiatu niemodlińskiego. Cz. I. Fonetyka. Warszawa—Wrocław, 1963, str. 77.

[74] S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej, str. 35.

[75] J. Bubak. Chronologia i przyczyny dyspalatalizacji spółgłosek w wyrazach wesoły, wesely i pochodnych. ZN, Filologia, 8, 1961, str. 161—174; MAGP (карта № 216).

[76] K. Nitsch. Dyalekty polskie Prus Wschodnich. MPKJ PAU, 3, 1907, str. 428—429; яго ж. Dyalekty polskie Prus Zachodnich. MPKJ PAU, 3, str. 124.

[77] K. Nitsch. Wybór pism polonistycznych. T. IV, str. 47—48; S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej, str. 30.

[78] K. Nitsch. Dyalekty polskie Prus Wschodnich, str. 436.

[79] A. Furdal. O przyczynach zmian głosowych w języku polskim, str. 46—47.

[80] K. Nitsch. Wybór pism polonistycznych. T. IV, str. 29.

[81] S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej, str. 19—21.

[82] K. Nitsch. Wybór pism polonistycznych. T. IV, str. 29.

[83] Там жа.

[84] K. Nitsch. Dyalekty polskie Prus Zachodnich, str. 120.

[85] S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej, str. 20.

[86] А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка. Изд. 4-е, М., 1907, стр. 34.

[87] Ол. Шахматов, А. Кримський. Нариси з історії української мови та хрестоматия з памятників письменної староукраїнщини XI—XVIII вв., Київ, 1924, стор. 99, 100—106.

[88] А. А. Шахматов. К истории звуков русского языка. Ч. I. Смягченные согласные. СПб, 1898, стр. 23, 28; яго ж. Очерк древнейшего периода истории русского языка. Энциклопедия славянской филологии», II. I, Пг., 1915, стр. 184.

[89] А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка, стр. 66.

[90] М. В. Бірыла. Вынікі пераходу *е* (<*е*, *ь*) у *о* і з'явы, звязаныя з ім, у беларускай мове. PF, t. 18, cz. 2, 1964, стар. 322.

[91] В. С. Голышенко. Из истории русского языка XII века. Автореферат канд. дис. М., 1963, стр. 11.

[92] Н. Н. Дурново. Очерк истории русского языка. М.—Л., 1924, стр. 165—166.

[93] Аналізаваліся наступныя помнікі: Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г., Грамата князя Гердэня 1264 г., Грамата смаленскага князя Фёдара Расціслававіча аб дзвоне 1284 г., Грамата полацкага епіскапа Якава каля 1300 г., Грамата рыжан да віцебскага князя Міхаіла Канстанцінавіча каля 1300 г., Дагавор Полацка з Рыгай каля 1300 г. па «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы», ч. I. Мінск, 1961, стар. 34—47. Лічба ў дужках пасля прыкладаў у тэксце азначае радок помніка па «Хрэстаматыі».

[94] Смоленские грамоты XII—XIV веков. Под ред. Т. А. Сумниковой и В. В. Лопатина. М., 1963.

[95] R. Jakobson. Remarque sur l'évolution phonologique du russe comparée à celle des autres langes slaves. TCLP, 2, 1929, p. 45—

46; С. Б. Бернштейн. Очерк сравнительной грамматики славянских языков. М., 1961, стр. 167—201.

[96] А. А. Шахматов. К истории звуков русского языка, стр. 40; ён развівае ідэі І. В. Ягіча (параўн. И. В. Ягич. Критические заметки по истории русского языка. СПб, 1889).

[97] А. А. Шахматов. Очерк древнейшего периода истории русского языка, стр. 120.

[98] Ол. Шахматов, А. Кримський. Нариси з історії української мови..., стор. 99.

[99] Там жа.

[100] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1. М., 1955, стр. 171—173.

[101] Chr. Stang. Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polock. Oslo, 1939, s. 28; Л. В. Усачева. Язык смоленских грамот XIII—XIV веков (фонетика). Автореферат канд. дисс. М., 1954, стр. 12—15.

[102] Гл. таксама Н. Н. Дурново. Очерк истории русского языка, стр. 168—169.

[103] В. И. Лыткин. Древнерусские *š, ž* — зырянские *ś, ź*. «Доклады АН СССР», серия В, 1928, № 14, стр. 300—301.

[104] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 384—386.

[105] А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка, стр. 109.

[106] Л. Цвяткоў прыводзіць яшчэ (без спасылкі на крыніцу) *на рэйцы<на рэчцы* (гл.: Л. Цвяткоў. Некаторыя рысы іншамоўнай фанетыкі ў беларускай мове. З-ПКФ, т. I, 1928, стар. 77).

[107] Е. Будде. К истории великорусских говоров. Казань, 1896, стр. 282, 293.

[108] И. Волк-Левонович. Еще к вопросу о «ляшских» чертах в белорусской фонетике. Slavia, IX, seš. 3, 1930, стр. 116.

[109] В. В. Мартынов. Славянская и индоевропейская аккомодация. Минск, 1968, стр. 34—37.

[110] Е. Будде. К истории великорусских говоров, стр. 118.

[111] M. Małecki. Cakawizm z uwzględnieniem zjawisk podobnych. Kraków, 1929.

[112] А. А. Шахматов. К истории звуков русского языка, стр. 315.

[113] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 384—385. А. А. Шахматов. Очерк древнейшего периода истории русского языка, стр. 315; О. Воўк-Левановіч. Лекцыі па гісторыі беларускай мовы. Мінск, 1927, стар. 260.

[114] Е. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губернии. СПб, 1912; тэксты дадатка.

[115] И. Волк-Левонович. Еще к вопросу о «ляшских» чертах в белорусской фонетике, стр. 512.

[116] J. Polívka. Z maloruské dialektologie. «Časopis pro moderni filologii a literatury», roč. III, seš. 4—5, 1913, str. 306—307.

[117] А. С. Львов. Чепуха. Шкура. «Этимологические исследования по русскому языку», вып. III, МГУ, 1961, стр. 9.

[118] Н. Н. Огиенко. Иноземные элементы в русском языке. Киев, 1915, стр. 70.

[119] Этымалогіі слоў паводле M. Vasmer. Russisches etymologisches Wörterbuch. Heidelberg, 1953—1958, tt. I—III.

[120] А. А. Шахматов. Очерк древнейшего периода истории русского языка, стр. 318; Н. Каринский. Язык Пскова и его

области в XV веке. СПб, 1909, стар. 28—29; 34—35, 54—55, 70—71; Chr. Stang. Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polock, s. 18.

[121] И. Волк-Левонович. Еще к вопросу о «ляшских» чертах в белорусской фонетике, стр. 516.

[122] А. А. Шахматов. Очерк древнейшего периода истории русского языка, стр. 314.

[123] А. А. Шахматов. К истории звуков русского языка, стр. 32—33.

[124] М. В. Бірыла. Вынікі пераходу *е* (<*е*, *ь*) у *о* і з'явы, звязаныя з ім, у беларускай мове, стар. 326—329.

[125] Г. Горов. Странджанският говор, стр. 20; Ст. Стойков. Българска диалектология. София, 1962, стр. 66; Ст. Кабасанов. Говорът на с. Момчиловци, Смолянско, стр. 26.

[126] Л. Э. Калнынь. Типология звуковых диалектных различий в нижнелужицком языке. М., 1968, стр. 39—40.

[127] S. Urbańczyk. Zarys dialektologii polskiej, str. 24.

[128] Аб пераразмеркаванні адзнак дыезнасць-бемольнасць у складах *CV* гл.: В. К. Журавлев. Формирование группового сингармонизма в праславянском языке. ВЯ, 1965, 4, стр. 34—35.

[129] Е. Петрович. Явление сингармонизма в исторической фонетике румынского языка — следствие славянорумынской языковой интерференции. «Romanoslavica», II, 1958, стр. 22: пасля падзення канцавых *i*, *u* «согласные разных тембров эмансипировались от следующих гласных и из внефонологических вариантов стали самостоятельными фонемами... Различительная функция, осуществляемая до сих пор целой сингармонической группой, переходит к согласным, имеющим разные тембры, ставшими конечными. Во внутренних группах, где различительная функция также осуществлялась целыми сингармоническими группами, согласные с разными тембрами приобретают особое значение благодаря обстоятельству, что они стали фонемами с особым морфологическим положением. Два члена группы «согласный — гласный» диссоциировались, а основную роль стали играть согласные».

[130] М. В. Сергиевский. Введение в романское языкознание. М., 1954, стр. 232.

[131] Е. Петрович. Явление сингармонизма в исторической фонетике румынского языка..., стр. 12; М. В. Сергиевский. Введение в романское языкознание, стр. 234—235.

[132] А. Доза. История французского языка. М., 1956, стр. 33.

[133] M. Borodina. Phonètique historigue du français. Leningrad, 1961, p. 27.

[134] Прыклады з прац М. В. Сергіеўскага, А. Даза, М. Барадзіной.

[135] А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка, стр. 86; А. А. Шахматов. Очерк древнейшего периода истории русского языка, стр. 136—138.

[136] А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка, стр. 86.

[137] М. В. Бірыла. Вынікі пераходу *е* (<*е*, *ь*) у *о*... у беларускай мове, стар. 315—335.

[138] Там жа, стар. 334—335.

[139] А. К. Антонович. Белорусские тексты, писанные арабским письмом. Вильнюс, 1968, стр. 114—115.

[140] М. В. Бірыла. Вынікі пераходу *е* (<*е*, *ь*) у *о*... у беларускай мове, стар. 321.

[141] П. Бузук. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Ч. I. Вып. 1. Гаворкі цэнтральнай і ўсходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Велікарасіі ў першай чвэрці XX ст. Мінск, 1928, стар. 35.

[142] В. М. Чэкман. Нататкі аб проціпастаўленнях па цвёрдасці-мяккасці ў некаторых паўднёвабеларускіх гаворках. «Лінгвістычныя даследаванні». Мінск, 1968, стар. 3—14.

[143] Відавочна, гэту з'яву маюць на ўвазе даследчыкі, калі гавораць пра паўмяккае (ці паўцвёрдае) вымаўленне зычных перад галоснымі пярэдняга рада (гл., напрыклад: Т. В. Назарова. Украинско-белорусская языковая граница в районе нижней Припяти. «Вопросы диалектологии восточнославянских языков». М., 1964, стр. 131).

[144] У. К. Жураўлёў (Развитие группового сингармонизма в праславянском языке. Минск, 1965, рукапіс) з'явы «ўкраінскай» тэндэнцыі лічыў вынікам канчатковага разбурэння праславянскага групавога сінгарманізму, але гэта вельмі агульнае тлумачэнне.

[145] В. В. Мартынов. Праславянская и индоевропейская аккомодация, стр. 33 і наступныя.

[146] Русская диалектология. Под ред. Р. И. Аванесова и В. Г. Орловой. М., 1964, стр. 88.

[147] П. С. Кузнецов. Русская диалектология. М., 1960, стр. 88.

[148] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 325—327.

[149] Н. Н. Дурново. Очерк истории русского языка, стр. 155—156.

[150] Г. Павский. Филологические наблюдения над составом русского языка, стр. 119 (паводле Л. Г. Скалозуб. Палатограммы и рентгенограммы согласных фонем русского литературного языка, стр. 67).

[151] Л. В. Бондарко, Л. А. Вербицкая, Л. Р. Зиндер. Акустическая характеристика твёрдости-мягкости русских согласных, стр. 28—36; Л. В. Бондарко. Некоторые замечания по поводу маркированности-немаркированности членов фонологических противопоставлений, стр. 395—396.

[152] В. М. Марков. К истории редуцированных гласных в русском языке. Казань, 1964, стр. 97.

[153] В. В. Колесов. Изменения редуцированных гласных в древнерусском языке (рукапіс). Цыт. па кн.: В. М. Марков. К истории редуцированных гласных в русском языке, стр. 100.

[154] А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка, стр. 53.

[155] В. К. Журавлев. Развитие группового сингармонизма в праславянском языке, стр. 304.

[156] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 240.

[157] П. Бузук. Да характарыстыкі цэнтральнабеларускіх дыялектаў. Гутаркі Асіповіцкага раёна. З-ПКФ, т. II, кн. 9, 1929, стар. 251.

[158] Я. Воўк-Левановіч. Важнейшыя рысы ў кансанантызме в. Татаркавічы і гаворак ваколічных вёсак. З-ПКФ, т. 1, кн. 2, 1928, стар. 156.

[159] С. Некрашэвіч. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна. З-ПКФ, т. II, стар. 188—189.

[160] П. Растаргуеў. Да характарыстыкі беларускіх гаворак. З-ПКФ, т. I, стар. 212.

[161] Р. И. Аванесов. Из истории русского вокализма. Звуки *i* и *y*. «Вестник МГУ», № 1, 1947, стр. 41—57.

[162] Е. Ф. Карский. Обзор звуков и форм белорусской речи. М., 1885, стр. 24.

[163] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 43.

[164] Е. Ф. Карский. Белорусская речь. Очерк народного языка с историческим освещением. Пг., 1918, стр. 30.

[165] П. Бузук. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, стар. 58—59.

[166] С. Некрашэвіч. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна, стар. 190.

[167] Z. Stieber. Sposoby powstania słowiańskich gwar przejściowych. PKJ, 27, Kraków, 1938, str. 23.

[168] O. Broch. Über einen weißrussischen Dialekt aus der Gegend südlich von Vilna. ZtslPh, B. 26, H. 1, 1957, s. 20.

[169] И. Волк-Левонович. Еще к вопросу о «ляшских» чертах в белорусской фонетике, стр. 511.

[170] П. А. Бузук. Да характарыстыкі паўночнабеларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага і Веліжскага паветаў. Мінск, 1926. Рэц. Л. О. Кузьміна. «Изв. по РЯС», т. II, кн. 2, 1930, стар. 7.

[171] Даныя картатэкі сектара дыялекталогіі Ін-та мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.

[172] В. Г. Орлова. История аффрикат в русском языке в связи с образованием говоров русского языка. М., 1959, стр. 22; Русская диалектология, стр. 86; П. А. Расторгуев. Говоры на территории Смоленщины. М., 1960, стр. 75—76; С. М. Глускина. Морфонологические наблюдения над звуком (*ch*) в псковских говорах. «Псковские говоры», т. I, Псков, 1962, стр. 39.

[173] T. Benni. Fonetyka opisowa języka polskiego, str. 78.

[174] П. А. Расторгуев. Говоры на территории Смоленщины, стр. 76.

[175] С. Некрашэвіч. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна, стар. 190.

[176] O. Broch. Über einen weißrussischen Dialekt aus der Gegend südlich von Vilna, s. 20.

[177] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 43; Русская диалектология, стр. 86.

[178] П. А. Расторгуев. Говоры на территории Смоленщины, стр. 75—76.

[179] Я. Воўк-Левановіч. Важнейшыя рысы ў кансанантызме в. Татаркавічы і гаворак ваколічных вёсак, стар. 157.

[180] К. Аппель. О белорусском наречии. РФВ, т. 3, № 1—2, 1880, стр. 211.

[181] Е. Ф. Карский. Обзор звуков и форм белорусской речи, стр. 25.

[182] П. А. Расторгуев. К вопросу о ляшских чертах в белорусской фонетике. «Труды постоянной комиссии по диалектологии русского языка», 9, 1927, стр. 40.

[183] И. Волк-Левонович. Еще к вопросу о «ляшских» чертах в белорусской фонетике, стр. 506.

[184] Там жа.

[185] П. Бузук. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, стар. 58—59.
[186] O. Broch. Über einen weißrussischen Dialekt aus der Gegend südlich von Vilna, str. 5.
[187] К. Аппель. О белорусском наречии, стр. 212.
[188] И. Недешев. Исторический обзор важнейших звуковых и морфологических особенностей белорусских говоров. РФВ, т. XII, № 3—4, стр. 31.
[189] Л. Г. Скалозуб. Палатограммы и рентгенограммы согласных фонем русского литературного языка, стр. 48.
[190] Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мінск, 1964, 130; ДАБМ, карта № 42.
[191] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 303, 322.
[192] М. В. Бірыла. Гаворкі Чырванаслабодскага раёна Мінскай вобласці. ПІМ, 1960, вып. 7, стар. 139.
[193] М. І. Каспяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік. Матэрыялы. Віцебск, 1926.
[194] Там жа.
[195] ДАБМ, карта № 51.
[196] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. I, стр. 215—217.
[197] Там жа.
[198] ДАБМ, т. II, стар. 476.
[199] С. Некрашэвіч. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна, стар. 189.
[200] Т. Ф. Сцяшковіч. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР. Гродна, 1959, стар. 18, 36, 71.
[201] ДАБМ, карта № 164.
[202] Распаўсюджанне *т'*>*т* гл. па карце № 156 ДАБМ.
[203] L. Ossowski. Białoruskie gwarowe *ć, ź* (<*ť, d'*)>*c, z.* «Językoznawstwo», Uniwersytet Wrocławski im. B. Bieruta, Zeszyty naukowe, seria A, 5, 1957, str. 143—144.
[204] Паведаміў І. І. Лучыц-Федарэц.
[205] М. В. Бірыла. Вопыт апісання фанетычнай сістэмы адной гаворкі (па матэрыялах гаворак Чырванаслабодскага раёна). ПІМ, № 1, 1954, стар. 115.
[206] Т. Ф. Сцяшковіч. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР, стар. 39.
[207] А. А. Шахматов. Исследования в области русской фонетики. РФВ, т. XXXVIII, № 3—4, 1897, стр. 38—43; яго ж: Русский язык (у слоўніку Брокгауза і Эфрона, т. XXVIII).
[208] Г. Ільінскі. Аб канчатку *-эй* наз. скл. адз. л. мужч. роду. З-ПКФ, т. II, стар. 275.
[209] К. Аппель. О белорусском наречии, стр. 210.
[210] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 2—3, стр. 230, 235—236.
[211] ДАБМ, карта № 135.
[212] A. Schachmatov. Beiträge zur russische Grammatik. AslPH, I, 1904, s. 611.
[213] Б. М. Ляпунов. Исследование о языке синодального списка I-ой Новгородской летописи. СПб, 1899, стр. 143.
[214] Н. Каринский. Язык Пскова и его области в XV в., стр. 60.
[215] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 2-3, стр. 230.
[216] М. І. Каспяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік.
[217] М. В. Шатэрнік. Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Мінск, 1929.

[218] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 200—207.
[219] Там жа, стар. 306—310.
[220] Там жа, стар. 326—327.
[221] О. П. Беспалько, М. К. Бойко, М. А. Жовтобрюх, С. П. Самійленко, І. Й. Тараненко. Історична граматика української мови. Київ, 1957, стор. 126.
[222] А. К. Антонович. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, стр. 106—131.
[223] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вып. 1, стр. 345.
[224] М. В. Бірыла. Гаворкі Чырванаслабодскага раёна Мінскай вобласці, стар. 132—138.
[225] Па даных картатэкі ДАБМ, пункт № 759.
[226] Апісанне паводле наступных работ: М. В. Бірыла, М. Г. Булахаў, П. П. Шуба. Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1961, стар. 38—70; Ф. Янкоўскі. Беларускае літаратурнае вымаўленне. Мінск, 1966; А. І. Падлужны. Фаналагічная сістэма сучаснай беларускай мовы. Канд. дыс. Мінск, 1967, стар. 146—148; Граматыка беларускай мовы. Т. І. Мінск, 1962, стар. 81—83.
[227] P. Wowčerk. Kurzgefasste obersorbische Grammatik (Fonetik und Morphologie). 2 Auflage, Berlin, 1954, str. 21; яго ж. Přiručka za serbsku wučbu. Budyšin, 1962, str. 10. Прыклады з J. Kral. Serbsko-němski słownik hornołužiskeje rěče. Budyšin, 1931.
[228] К. К. Трофімовіч. Серболужицька мова. Львів, 1964, стор. 21, 26.
[229] F. Michałk. Fonetika. «Serbščina. Listowy studij za wučěrjow», t. I, Budyšin, 1955, str. 75—131.
[230] P. Wowčerk. Kurzgefasste obersorbische Grammatik, s. 21, 24.
[231] G. Pfuhl. Laut- und Formenlehre der oberlausitzisch — wendischen Sprache. 1897, s. 14.
[232] Mūsdienu latviešu literāras valodas gramatika. T. I, Rīgā, 1959, p. 32: «Фанема ŕ з'яўляецца адзінай палаталізаванай фанемай у латышскай мове і часткова яна ўжо знікла. Жывое вымаўленне ŕ яшчэ існуе ва ўсходнекурземскіх гаворках» (пераклад наш.— *В. Ч*).
[233] А. И. Кузнецова. Изменение гласных под влиянием соседних мягких согласных. М., 1965, стр. 69; гл. таксама: A. Laua. Mūsdienu latviešu valodas fonetikas jautājumi. Rīgā, 1961, p. 48—54.
[234] P. Jakobson. Prinzipen der historischen Phonologie. TCLP, IV, 1931, s. 236.
[235] H. Lunt. Grammar of the macedonien literary language. Skopje, 1957, p. 12.
[236] H. Lunt, цыт. праца, стар. 11; Б. Конески. Граматика на македонскиот литературен јазик. Дел І. Скопје, 1957, стр. 75; Македонско-русский словарь. Под ред. Н. И. Толстого.
[237] Апісанне паводле наступных работ: G. O. Svane. Grammatik der slowenischen Schriftsprache. Kopenhagen, 1958; M. Mahnič. Živa slovenščina. Ljubljana, 1959.
[238] Н. Трубецкой. Основы фонологии, стр. 147; R. Jakobson. Über die phonologischen Sprachbünde, s. 237.
[239] И. Балашша. Венгерский язык. Ч. І. М., 1955, стр. 47, 49; А. М. Кузнецова. Изменение гласных под влиянием соседних согласных, стр. 69.

## ЗМЕСТ